

Г. ГАРАВАЯ. Трывога (бронза, 1988).

# Маладосць

ОРГАН
ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА
ЛКСМБ
І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ
БЕЛАРУСІ

ШТОМЕСЯЧНЫ
ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ
ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСОПІС

Выдаецца з 1953 года

4 • 89

(434) КРАСАВІК

МІНСК
Выдавецтва ЦК КП Беларусі

# У нумары

## Паэзія · Проза



## Публіцыстыка





Вокладка **М. Анемпадзістава.**

На шмуцтытуле паэзіі і прозы — **А. Карпук. Прыпяць** (сангіна, 1985).

На шмуцтытуле публіцыстыкі — фота **С. Брушко.**





# Паэзія Проза



## *Алесь Жыгуноў*

■

Ружовенькіх святаў гурма
І будні прыспешваюць стому.
Вясна на дварэ ці зіма—
Збіраюся рупна дадому.

Віры я прайшоў і брады,
І молада дыхаюць грудзі.
Ды трэба вяртацца туды,
Адкуль ты выходзіў у людзі.

Дзе татаў грудок у траве,
У смолках, у скрушлівай мяце.
Дзе мама, матуля жыве
Былінкай у сцішанай хаце.

Запозна віна апячэ,
Як водгук залеташні грому.
Пакуль цябе помняць яшчэ,
Спяшайся вярнуцца дадому.

Пакуль цябе помняць дубы,
Якіх не спусцілі на дровы:
Пагоркаў пахмурых ілбы
Скусцілі зрадзелыя бровы.

Пакуль цябе помняць дзяды,
Вясковыя мудрыя суддзі,
Спяшайся вярнуцца туды,
Адкуль ты выходзіў у людзі.

■

Хачу жанчыне гэтай павініцца.
Бы ў ветлыя далёкія часы,
Перад усім народам пакланіцца
За вобраз яе чыстае красы.

Ды схамянешся: ці прыстойна гэта,
Душы парыў хмурына аднясе,
Бо пачуццё мужчыны і паэта
Мы незваротна страцілі усе.

■

Абкладалі цэглай хату,
Майстравалі магазін.
І за клопат гэты плату
Ведаў толькі я адзін.

Абкладалі цэглай хату,
Бы палонілі душу.
Што скажу назаўтра тату,
Даравання папрашу?

Што спатрэбіліся грошы
І пусціў жытло на скон.
Што я стаўся крышку горшым,
Чым калісь прарочыў ён?

Як надарыцца хвіліна
Вальгатнейшая калі,
Зноў іду да магазіна,
Дзе учора мы жылі.

Цыгарэт куплю і хлеба.
Дым пушчу вышэй страхі.
Папрашу зямлю і неба
Адпусціць мае грахі.

■

З возерам памёрлым размаўляю:
— Ты скажы, Кагальнае, скажы,
Колькі год за барвы небакраю
Несці мне самотныя крыжы?
Азярко, руплівіца-рачулка,
Рэдкія падлескі і лясы...
Можа быць, не знойдзецца прытулку
Для душы без вашае красы.
Адвітанне праспявалі птушкі.
Возера, усцешна мару я:
Сінява вачэй маёй дачушкі
Будзе даўгавечней, чым твая.

### КАНСТАНЦІНАВА

1

Ад вялікай любві нараджаюць жанчыны паэтаў.
Канстанцінава. Вецер. Руку саграваe рука.
Я забыўся зусім: ты на беразе тым, я—на гэтым.
І між намі павольна нясе сябе ў вечнасць Ака.
Я, магчыма, не першы, магчыма, далёка не першы
Берагі адмаўляю, даруй мой дзіцячы наіў.
Ды пачуй: пратэстуюць усе супраць ростані вершы.
Мой Ясенін, я знаю, цябе назаўжды паланіў.
Я табе прапаную руку і адданае сэрца,
І знаходак сваіх, і памылак бязлітасны груз.
Вунь жанчына з чарэшняй паўнюткае коціць вядзерца
І хусцінкай махае, вітае наш ціхі саюз.
Над вячэрняй ракой чайка смутная пракрычала,
І сарвала свой голас, і чайку глынуў небакрай.
Ды зялёная лодка ужо адышла ад прычала,
Я пазнюся крыху, ты за гэта мяне не карай.

2

Па зялёнай вадзе адплывае зялёная лодка.
Развітайся з прычалам на сёння, на заўтра—навек.
І адчуй: на душы і самотна, і светла, і лёгка.
І суцешся, што ты не благі чалавек.
І дзяўчына твая прычакае з табою збавення
Ад нуды-адзіноты. І можаш нанова пачаць
Ты жыццё, у якім будзе горыч і боль наталення,
Калі вусны маўчаць, а знямелыя сэрцы крычаць.
Можа, зладзіцца ў нас і захочацца рантам вярнуцца
Да прычала, дзе людзі, дзе грай малады не пагас.
І шчаслівыя дні нашы здоўжацца і не мінуцца:
Ад сябе не адпусціць ужо Канстанцінава нас.
Ад вялікай любві нараджаюць жанчыны паэтаў.
Вакаёмы Радзімы. Руку саграваe рука.
Так усцешна-спакойна з табою на беразе гэтым,
Дзе павольна і годна нясе сябе ў вечнасць Ака.





## *Рыгор Барадулін*

### МАЛІТВА НАСТУПНАСЦІ

Хай свеціцца імя Тваё,
Беларусь,
У стронцыі, цэзіі, ліціі!
Як і ва ўсе вякі,
Душу быць ласкавай змусь,
Дазволь слязам,
Ужо радыеактыўным,
Ліцца.

Хай свяціцца імя Тваё,
У палыновым вянку
Гаратніца.
Хай цвіце твой дзядоўнік
Калючы, таму што безабаронны.
У цябе на слыху перагукваюцца
Р а д ы я ц ы я  і  р а д а ў н і ц а.
Чакаючы ў гнёзды буслоў,
Дагніваюць на ліпах бароны.

Хай свяціцца імя Тваё,
Маці Сумная!
Хмару радыеактыўную
Хусцінай ад Бога
Ты на самыя вочы насунула —
Не чуеш, не бачыш
Нічога.

■

Тройка, сямёрка, туз
Вусаты
Дасюль над лёсам
Вісяць,
І пракураны вус
Кіруе гарыйскім носам,
Што нюхае,
Дзе яшчэ
Не пахне смажаным мясам
Людскім,
А густа цячэ
Кроў,
Што спрачалася з часам,
Дзе
Тройка, сямёрка, туз
Вусаты
Ўзыходзяць крывава,
Дзе пухне папераў стус,
А ў кожнай —
Данос, расправа...

### НАША МОВА

Думку нашчыш золкімі ўспамінамі,
Сэрца песняй жніўнаю надзеіш,
У вякоў пад цёмнымі ялінамі
Белаю бярэзінкай ніцееш.

### ?

Я сніў чужыя гарады
Ці я іх толькі бачыў?
Я сам губляў свае гады
Ці нехта іх растрачваў?

Я сам разменьваў дабрыню
Ці хто займаўся менай?
Я глух, нырнуўшы ў мітусню,
Ці хто ў глушы каменнай?

Мне колькі дадзена майго
Жыцця кумой маною?
Каго спытаць, сябе, таго,
Хто быў таксама мною?



### ВАЛУН КАРАТКЕВІЧА

Сізіфава табе вядома праца.
Ты, колькі жыў, варочаў валуны, —
Каб пачалі сыны
За розум брацца,
Каб апрытомнелі твае сыны.

Няўдзячнасці глухімі валунамі
Табе плацілі добрыя дзядзькі
За тыя, што даверліва луналі
За хмарамі вякоў,
Твае радкі.

І ён,
Валун знямелага ўтрапення
І плачу нашага,
На грудзі лёг
Тваёй магіле.
Сосны прарыпелі,
Жагнаючы зеленарука лёх.

Як возьме
Бог
Сваіх даўгоў папірус,
Згадае і аб нашай старане:
Там Беларусь,
Дзе Караткевіч вырас.
І адпачне
На гэтым валуне.

### ЛЁС

Лёс прынёс мяне на базар
І, як пеўня,
Трымае пад пахай.
Хоча збыць свой тавар
Гандляр,
Просіць:
— Ты языком не лахай,
Каб не спудзіліся купцы.
Толькі ўбыткі адны з табою.
Не прадам цябе —
І капцы,
У капцы зарасцеш травою.

— Лёсе мой,
Пацярпі, прашу:
Не збаўляй цану,
Патаргуйся.
Не мяне,
Дык маю душу,
Можа, ў вырай паклічуць гусі.
І мяне ў халадах нябёс
Пад крыло сваё
Возьмуць хмары.
Ні купцоў, ні цаны,
Мой лёс,
Нам не мець
На зямным базары...

■

Матчына хата ў змроку дрымотным.
Вокны распятыя.
Голыя сцены.
І правадоў учарнелыя вены
Поўняцца цішай, як токам грымотным.

Зеўраюць,
Быццам азонныя тыя,
Дзіркі,
Прагрызеныя пацукамі.
Шэжыцца памяць калюча цвікамі.
Сохнуць чмялі, як зярняты пустыя.

Як перад новым сусветным патопам, —
Боскага гневу апошняя дзея —
Горбіцца скруха.
Душа халадзее.
Пахне з гарода дзядоўнікам,
Кропам.

### БЕЗ ВАС

Мае стрыгнаткі, кнігаўкі, буслы,
Трыпутнікі, міжыпарніцы, цьмяны,
Алешыны, бярэзіны, ляшчыны,
Вугры, чырванапёркі, курмялі,
Мае сабакі, качары, валы,
Балацявіны, нерушы, паляны, —
Няма вас,
Адплылі, як аблачыны.
Дазвольце затрымацца на зямлі
Мне...

### НУМАР НЕЗАБУДКІ

Запахла ў лютым сакавіком.
Выходзіць юнак
З тэлефоннай будкі,
На далані
Шарыкавым алаўком
Запісвае нумар
Сваёй незабудкі.

### СПАДЗЯВАННЕ

Я выношу пакуты на ўласным гарбе
Ды, на помач паклікаўшы боскую сілу,

Спадзяюся,
Што ўрэшце спаткаю цябе
За сем кіламетраў ад небасхілу...

## ШАХТА КАХАННЯ

Першага позірку ўз'юшаны выкрык,
Золаку, зарыва, зор палыханне.
Вочы адводзіць ад кепікаў прыкрых
Блізкае рэха
шахты кахання.

Першага дотыку саманахабства,
Першай рашучасці самаваганне.
Вабіць спадманліва ў хітрае рабства
Гулкае рэха
шахты кахання.

Першага выдыху вечнага слова
Замілаванне і заклінанне.
Водзіць упоцемку хмельнагалова
Рэха прыглухлае
шахты кахання.

Першы лядок праціра завея
З возера крыўды і шкадавання.
Рэха блукае.
Глыбее, глыбее
Шахта кахання,
шахта кахання...

■

Туман як халодная воўна,
Што ноч настрыгае ваўку.
Паверыць жанчыне—ўсё роўна
Як дом збудаваць на пяску.

З той воўны б вязаць рукавіцы,
Дарыць залатому агню,
Каб полымем мог ён узвіцца
І дню апячы даланю.

Пясок у рачныя лашчыны
Знясе, і растане сцяна.
Ты будзеш чарговы ў жанчыны—
Як рэчка ў разводдзе яна,

Што кволы спакой твой змывае,
Мяняючы рэчышчы,—і
Наступны свой бераг прымае,
Дзе сохнуць па ёй салаўі.

## ДАРОЖНЫ МАТЫЎ

Калі атуліць сон
Вагона шумны табар,
На доўгі перагон
Ідзі ў самотны тамбур.

У цішыні начы
Заслухайся лагодна,
Як колы уцячы
Не могуць з-пад вагона;

Як за сабой гудок
Бяжыць з-за паварота,
А месяца лядок
Смяецца жаўтарота.

Самім сабой на міг
Пабудзь далей ад тлуму.
Тут можна падыміць
І ўсё што хочаш думаць.

І пальцы скразнякам
Прыціснуўшы дзвярыма,
Удалечы знікай,
Як ціхі выдых дыму...

■

Я выцісну цябе з сябе,
Як выціскаюць яд змяіны.
Не разбудзіўшы напаміны,
Ссівеўшы на глухой сяўбе,
Стрываю ўсе абразы, кпіны.
Я выцісну цябе з сябе,
Як выціскаюць яд змяіны.
У харашбе,
У варажбе
Усю святую
Да хвіліны
Я выцісну цябе з сябе,
Як выціскаюць яд змяіны.
Чаму мне злосці не стае,
Каб рэзаць там,
Дзе ўкус змяіны,
Каго вініць?
Усе правіны—
Яны мае, мае, мае!

## СУМ

Сум спачатку засяліў зямлю—
А пасля разбегліся дарогі.
Слова багавейнае л ю б л ю
Папрасіла ў неба дапамогі.

Адлучыў ад цемры светлыню,
Воды аддзяліў ад земнай цвердзі
Бог—
І ўзрадваўся,
І ўпершыню
Сум сябе запомніў сынам смерці.

Ходзіць сум за намі ўсе гады
Маладым апосталам адчаю,
Пазнае здалёк сляды бяды
І надзею хмура прывячае.

Бачыць неба наш дарэмны тлум,
Млечны Шлях зграбае па жарынцы.
Мы адыдзем—
Застанецца сум
На зямлі без нас
Па нас журыцца.

■

Душа, як ні прагнецца ёй,
Не можа вярнуцца ў паганства:
Лясы—апірышча і прытулак—
Павысечаны, пакарчаваны, патраляваны,
Рэкі—у іх бруд і пыл змываўся—
Павысушаны, павыпрастаны, павыпіты.
Як ацішэць, абымшэць, адтаць?
Куды ні кінься—параснікі, хмызнякі.
Як пераседзець бяду
З чарацінкай у роце,
З пластмасавай,
Кактэйльнай у водападобнасці,
Вясёлкавай ад мазуту,
Падступнай ад радыяцыі?
І непрытомная душа ў паганстве
Асланяе сябе крыжам,
Крыжам чарговай магілы...





*Упершыню ў „Маладосці"*

*Уладзімір Бельскі*

АПАВЯДАННІ

# АЎТАРЫТЭТ

Настрой у Івана Пятровіча быў някепскі. Нарада прайшла, калі не лічыць дробязей, спакойна, і ён, можна сказаць, выскачыў сухім з таго, што ўчыніў упраўляючы. Чорт яго ведае як, але хутчэй за ўсё па недагляду падраднай арганізацыі пераблыталі таварныя накладныя. Так што замест труб слыхавых, ці, як іх яшчэ называюць, выцяжных, ім прыйшлі трубы духавыя. Прамашка, адным словам, выйшла.

Дарэчы, тыя трубы патрэбны былі, як вада ў спякоту, а можа, і болей: канец квартала, здача дамоў, а за ёй — прэміі. Але ўсе намаганні з-за гэтага, як кажуць, пайшлі кату пад хвост. Кантэйнеры прыперлі на самую пляцоўку, спешна распакавалі. Потым гора не маглі абрацца. Рабочыя выцягвалі бліскучыя саксафоны, трамбоны, флейты, альты і пратрубілі, у пэўным сэнсе слова, амаль цэлы дзень. Ледзь-ледзь пазбіралі. Праўда, дзве флейты як пад вадой зніклі.

Вось з-за гэтага і распаляўся ўпраўляючы. Калі падлічылі страты, дык валасы дыбам сталі. Тут ужо было не да музыкі, і Сямён Афінагенавіч хацеў адыграцца на Іване Пятровічу.

— А вы! — крычаў ён на ўвесь кабінет, — а вы, Іван Пятровіч, куды глядзелі?!

— Я? — здзіўлена, як быццам нічога не разумеючы, наўмысна перапытаў Іван Пятровіч. — На подпіс глядзеў. Там жа ваш подпіс. Каб хто другі, хіба б я прапусціў? Самі ведаеце.

Іван Пятровіч прыдаў асаблівую значнасць сваім словам, каб падвысіць аўтарытэт Сямёна Афінагенавіча, і спецыяльна зрабіў на гэтым націск. Падзейнічала. Той нават аслупянеў, але па ўсім было відаць, што спадабалася.

— А калі б я падпісаў нарад на чэшскія ўмывальнікі ці ванны?

Усе ажно сцепануліся: хіба ж можна ў блочны дом такое? Дзе іх набярэшся? Ды і навошта гэткая раскоша?

— Як падпісалі б? — перапытаў Іван Пятровіч. У яго наогул такая звычка была, перапытваць. І за гэты час, калі субяседнік нешта гаворыць, — прыдумаць адказ.

— А вось так, — бліснуў акулярамі Сямён Афінагенавіч.

— Па-першае, — загнуў палец Іван Пятровіч, — у вас бы рука на такое не паднялася. Па-другое, я б насцярожыўся. Знак бы даў, маўляў, з якой нагоды такое? А тут ці духавыя, ці слыхавыя — амаль адно. Хто ж акрамя вас у іх разбіраецца?

Вось так адказаў Іван Пятровіч, і на гэтым напад на яго скончыўся. Трапна адказаў, маўляў, галава на плячах ёсць, не чапайце. Таму і прыйшоў дамоў прыемна ўзбуджаны.

Дома, праўда, настрой яму крыху сапсавала жонка. Але ж ён да гэтага прывык і звычайна стараўся не зважаць.

Распрануўся, асцярожна, як было і загадана, прабраўся па калідоры паўз сцяну — каб не запэцкаць новую дарожку — і ўлез у ванну. Імгненна прашмыгнуў па калідоры, нават самому спадабалася, як ён так спрытна па-маладому скочыў, толькі пяткі мільганулі. Р-раз — і ўжо ў ванне. Гэта яшчэ больш узбадзёрыла яго. Нават у люстэрка ўсміхнуўся: малайчына, Іван Пятровіч. Так трымаць!

— Ты ў Біруковых быў? — данёсся з кухні жончын голас. Марфа Ярмілаўна грымела посудам, ставіла вячэру.

Іван Пятровіч, зычна фыркнуўшы, выціраўся мяккім ручніком і хоць пачуў, але перапытаў. Трэба прызнаць, на гэты раз даволі недарэчна — сам ужо потым злаваў на сваю дурную звычку.

— Як гэта быў?

Жонка перастала грымець посудам. Зацішша Іван Пятровіч крыху пабойваўся: хто ведае, што можа жонка выкінуць. Не памыліўся і на гэты раз.

— Ты што, мяне за дурную лічыш? — спакойна пачулася з кухні, ад чаго настрой зноў сапсаваўся ў Івана Пятровіча. — Не чуе, бачыце, ён. Аглух, седзячы ў крэсле.

— Ну, я не тое меў на ўвазе. — Іван Пятровіч выйшаў з ванны. — Па-першае.

Але было позна ўжо.

— Па-першае, — перабіла яго Марфа Ярмілаўна, — у цябе галава ні аб чым не баліць. Вунь у Біруковых японскі званок на дзвярах стаіць.

— Які званок? — зноў перапытаў Іван Пятровіч, нічога пакуль не разумеючы. — Як гэта званок стаяць можа?

— А такі вось званок, японскі, — Марфа Ярмілаўна кінула на стол, нават не разварочваючы, каўбасу. — Камп'ютэр цэлы. І што ты заўсёды да слоў чапляешся?

— А ў нас што, няма званка? А чым той лепшы?

— То ж не званок, а лялька, — сказала жонка. — То ж... цуд свету.

Марфа Ярмілаўна ведала, чым узяць мужа, працягвала:

— У нас як званок працуе?

— Як і ва ўсіх, звычайна, — насцярожана адказаў Іван Пятровіч.

— У тым і справа, — загарэлася Марфа Ярмілаўна. — А ў Біруковых — не так.

— А як жа?

Мал. **Ю. Рыжыкава.**

— Ну вось ты, напрыклад, падышоў да дзвярэй, націснуў на кнопку, а там замест званка: «Хто там?»

— Так і пытае? — здзівіўся Іван Пятровіч.

— Так і пытае, — выдыхнула Марфа Ярмілаўна.

— Але, але... — забарабаніў па стале пальцамі Іван Пятровіч.

— «Хто вы?» — пытаецца званок, — Марфа Ярмілаўна загаварыла піскліва, падрабляючы, мабыць, голас пад званок ці пад камп'ютэр. — Табе патрэбна зноў адказаць. Тут той камп'ютэр узважвае, што адказаць: ёсць дома хто ці не. Адным словам, што і патрэбна.

— Гм-м, — здзівіўся Іван Пятровіч. — Як жа зразумець, калі па-японску гаворыць?

— Гэта дробязь. Яны ж прыстаўку зрабілі. Нейкі знаёмы інжынер зрабіў прыстаўку, дык адразу ўсё перакладае з японскай на беларускую. Хіба ў нас такое зробяць?

— Гм-м, — зноў неканкрэтна сказаў Іван Пятровіч, ведаючы, да чаго хіліла жонка. Ён павінен быў даць пэўны адказ. Але пакуль маўчаў.

— Я так і ведала, — узарвалася Марфа Ярмілаўна. — Я так і ведала, што ў цябе ніколі ні за што галава не баліць. Нагатуй, падай, пасцірай, прынясі. Светку ў школу збяры, адпраў — і ўсё я. А ён, бачыце, бы анёл. Нічога яму не патрэбна.

— Ну, не так каб ужо не балела, — адступіў назад Іван Пятровіч. — Баліць. У каго яна не баліць, хіба што ў дзятла.

— Таксама мне дзяцел знайшоўся, — успыхнула Марфа Ярмілаўна. — Верабей, канарэйка, варона белая. Патрэбна было выходзіць замуж за Цішку, вось той зараз — арол! Цімафей Гаўрылавіч — той бы ўсё зрабіў!

Апошняе ўжо было занадта балюча для Івана Пятровіча. Замах зроблены больш чым на аўтарытэт. І ён вымушаны зноў адступіць: што не зробіш, абы ціха.

— Ну, званок, ці як яго там, дастанем. Івану Іванавічу звякну, той з-пад зямлі знойдзе. І перакладчыка таксама, каб прыстаўку, гэта значыць... А пра дзятла ты дарэмна. Гэта афарызм такі. Мы з Сямёнам Афінагенавічам часцяком вось так, афарыстычна. І нічога, ніякіх крыўд.

Сямён Афінагенавіч для Марфы Ярмілаўны быў даволі высокім аўтарытэтам, і яна супакоілася.

— З Сямёнам Афінагенавічам вось так проста — пра дзятла?

— А што? — Іван Пятровіч адкусіў каўбасы і стаў хуценька жаваць: вельмі ж хацелася есці. — Вось хаця б сёння...

І ён расказаў пра сённяшні выпадак, як лаяўся на ўсіх Сямён Афінагенавіч і як ён з ім гаварыў. Разумна, талкова. Як той, акрамя хіба яго, усіх бэсціў.

— Чаму, крычаў ён, — Іван Пятровіч наравіў гаварыць пад Сямёна Афінагенавіча, — развялі тут абы-што? Чаму галава павінна балець у мяне аднаго?

Іван Пятровіч нават надзьмуўся, пачырванеў, вельмі ўжо ўвайшоў у ролю Сямёна Афінагенавіча.

— А я яму, — Іван Пятровіч праглынуў каўбасу, — і кажу, што вы, Сямён Афінагенавіч, не крычыце. Галава не баліць хіба што ў дзятла. А мы — калектыў, думаем, хвалюемся, робім, перабудоўваемся і гэтак далей.

— Так і сказаў? — здзівілася Марфа Ярмілаўна і падала на стол смачнае, з цыбуляй і падліўкай, смажанае мяса.



— Так і сказаў. Мы з ім, можна сказаць, на адной назе.

Іван Пятровіч і на гэты раз быў задаволены сабой. Як ні кажы, а ўсё-такі ён малайчына. Бач, і тут знайшоўся, а жонка ўжо з пантэры ўмомант авечкаю стала. Усё ішло проста выдатна, але зноў выйшла маленькая закавырка.

З суседняга пакоя выглянула дачка, пяцікласніца Святлана. Яна рабіла ўрокі, але, мабыць, і прыслухоўвалася да іх размовы. Іван Пятровіч для яе быў вялікім аўтарытэтам. Як якое пытанне ці задачка — ён раскажа, паможа. Вось як нядаўна. Падыходзіць і пытае, як, маўляў, рашыць прыклад з дробамі? І што такое дробы? На стале якраз стаяла бляшанка з гарохам. Ён высыпаў — на табе, гэта дробы. А калі ў бляшанцы — то ўжо цэлае. І гэтак далей. Але тут, бадай, Святланка застала знянацку:

— А чаму ў дзятла галава не баліць? Ён жа вунь дзяўбе, ажно трэскі сыплюцца. Я ў кніжцы чытала, паказаць?

Іван Пятровіч маўчаў, быццам не чуў. Не мужчынская, маўляў, гэта справа. Выйшаў у залу, пільна, аднак, прыслухоўваючыся да размовы на кухні. Святланка тым часам не адставала.

— Мам, ну чаму ў дзятла галава не баліць?

— Адстань, — зыкнула Марфа Ярмілаўна. — Верш вунь вучы. Ні слупка не ведаеш.

«А сапраўды, чаму ў дзятла галава не баліць?» — думаў з нейкім хваляваннем Іван Пятровіч. — Гэта ж падзяўбі ў елку. Тут і сатрасенне можа быць, не тое што балець».

Іван Пятровіч нават разы са два кіўнуў галавой, але ў шыі штосьці балюча хруснула, і ён ажно войкнуў.

— Ідзі лепш у таты запытай, — раптам данеслася з кухні. — Тата ўсё ведае.

Аўтарытэт Івана Пятровіча зноў мог пахіснуцца. Пакуль Святланка ішла, ліхаманкава прыкідваў, што б ёй адказаць. Прыкрыў твар газетай.

Але дачка запытала пра сваё.

— Як гэта не баліць? — перапытаў Іван Пятровіч, знарок уважліва ўглядаючыся ў газету.

— А ты ж сам казаў, — матляла касічкамі Святланка. — Я чула.

— Ну-у, — працягнуў Іван Пятровіч задумліва. Але нічога пэўнага ў галаву не лезла. — Ну-у, гэта птушка...

— Пэўна ж не сабака, — уставіла Марфа Ярмілаўна, якой таксама, мабыць, карцела ведаць, чаму ў дзятла не баліць галава. — Ты растлумач... Тата растлумачыць, — супакоіла яна дачку, — вось толькі газету дачытае.

Іван Пятровіч, бадай, як ніколі, здзівіўся жончынай кемлівасці. Марфа Ярмілаўна, пакруціўшы чамусьці пальцам ля скроні, выйшла са Святланкай, а ён адклаў газету. Тут ужо не да чытання.

Падцягнуў бліжэй да сябе тэлефон.

— Алё, Сяргей Апанасавіч, гэта я. Ты-ы, гэта, у Біруковых быў?

Пра Біруковых сказаў наўмысна гучна, каб жонка пачула. І тая зноў падышла да дзвярэй. Усміхнулася і ціхенька іх прычыніла.

— Быў, а што? — гуў у трубцы бас Сяргея Апанасавіча. — Ты, мабыць, пра той камп'ютэр? Я так і ведаў, хай бы ён у яго згарэў. Мая таксама шлунне перагрызла. Добра, гэта зробім.

Нейкі час гаварылі яшчэ пра ўсялякую драбязу, але Іван Пятровіч усё лічыў момант, каб уставіць самае галоўнае. І раптам:



— Ты якіх птушак ведаеш, Сяргей Апанасавіч?

Той з хвіліну пасоп у трубку, потым:

— Што, купіць захацеў?

— Не, проста так.

— Ну-у, вераб'я, варону... Навошта табе гэта? Прабач, можа, хапіў лішку?

— А дзятла? — не супакойваўся Іван Пятровіч. — Пра яго што-небудзь ведаеш?

— Гэта тая птушка, што дзяўбе? — з палёгкай уздыхнуў Сяргей Апанасавіч. — Чуў. Нават бачыў, — зарагатаў, — у энцыклапедыі.

Святланка ўжо некалькі разоў парывалася зайсці ў залу, але Марфа Ярмілаўна пакуль не пускала. Урэшце дачцы надакучыла, і яна ўклалася спаць. Пра дзятла не ведаў ні Фёдар Максімавіч, ні Ягор Уладзіміравіч, ні хто са знаёмых. Сапраўды, чаму не баліць галава ў дзятла? У самога ад тэлефонных размоў таксама ажно расколвалася. Папрасіў у жонкі трайчатку. Тая прынесла, адразу:

— Ну як, наконт японскага званка дамовіўся?

— Дамовіўся, — выціснуў Іван Пятровіч.

— То добра, — лагодна ўсміхнулася Марфа Ярмілаўна. — Ты ўжо ж дзіцяці растлумач пра дзятла. А то ўсёй школе разнясе, што бацька, як валёнак.

— Гэтага яшчэ не хапала, — выдыхнуў Іван Пятровіч. Але і сам ведаў, што аўтарытэт прыйдзецца неяк ратаваць.

Назаўтра раніцою задоўга да пачатку рабочага дня Іван Пятровіч ужо сядзеў у сваім кабінеце. Таму-сяму пазваніў. Але ніхто не мог адказаць на яго дзіўнае пытанне. Яўмен Сідаравіч дык параіў звярнуцца да ўрача. Нават спаслаўся на прыклад, што і ў яго нешта такое было — стаў раптам вывучаць кулінарыю ўсіх краін свету. Дайшоў да інкаў, пасля чаго адляжаў амаль два тыдні ў санаторыі. Дактары сказалі, што гэта бывае ад стрэсаў.

Іван Пятровіч у роспачы паклаў тэлефонную трубку. У галаву нічога не лезла, спраў было, хоць у мех завяжыся. Трэба ж было неяк разабрацца з будаўнікамі ды і трубы вярнуць у мясцовы Дом культуры. Раптам меладычна зазваніў тэлефон.

— Алё, Іван Пятровіч? Гэта я, Фёдар Максімавіч. Ты ўчора птушкамі цікавіўся, дык запісвай.

Іван Пятровіч схапіў ручку, паперу, прыціснуў моцна да вуха трубку.

— Канарэйка, — дыктаваў Фёдар Максімавіч, — птушка сямейства ўюрковых. Даўжыня 12—14 сантыметраў.

«Пры чым тут канарэйка?» — злаваў Іван Пятровіч. Але ж вельмі карцела даведацца як мага больш і пра птушку, якой абазвала жонка. Таму маўчаў і запісваў далей:

— Жыве на Канарскіх астравах, — гудзеў Фёдар Максімавіч. — У 16 стагоддзі завезена ў Еўропу і адамашнена. Вельмі добра спявае...

Параўнанне пэўна ж не з лепшых, і Іван Пятровіч успрыняў гэта блізка да сэрца, перапыніў Фёдара Максімавіча.

— Пра канарэйку хопіць. Мне б пра дзятла што.

Фёдар Максімавіч расказаў яшчэ пра варону шэрую, дубаноса, мухалоўку шэрую, пеначку бурую. Але вось пра дзятла — нічога не сказаў.

Крыху парадаваў Сяргей Апанасавіч. Той спачатку сказаў, што замовіў слова пра той японскі камп'ютэр і вечарам яго прыпруць на кватэру.

Іван Пятровіч нерваваўся. Ліха з імі, з камп'ютэрамі. З жонкай усё ж неяк дамовіўся б. Але Сяргей Апанасавіч раптам перайшоў на іншае:

— Ты ўчора нешта пытаў пра дзятла, — нарэшце сказаў той. — Дык запісвай. Цікава, хай яго пярун, з гэтым дзятлам, я і сам не ведаў. З раніцы энцыклапедыю гартаю. Сказаў сакратарцы, што вельмі заняты. — Ён дробненька зарагатаў. — Дык пішы.

Іван Пятровіч старанна запісваў.

— Дзятлавыя — сямейства птушак атрада дзятлападобных. Пашыраны ў трапічнай і ўмеранай зонах, апрача хіба Мадагаскара, Аўстраліі, Новай Гвінеі, Новай Зеландыі і Палінезіі. У сусветнай фауне 209 відаў, з іх у СССР — толькі 13.

— І ўсё? — каўтнуў сліну Іван Пятровіч.

— Усё, — Сяргей Апанасавіч на другім канцы проваду зашамацеў паперамі. — Пашукаю, можа, яшчэ што знайду.

Толькі паклаў трубку, як зноў забулькатаў тэлефон. Званіў Ягор Уладзіміравіч. Той расказаў, што на тэрыторыі Беларусі сустракаюцца дзятлы: беласпінны, вялікі, стракаты, трохпальцы, жаўна, круцігалоўка, сірыйскі. І больш нічога. Зусім збіў з панталыку Фёдар Максімавіч, які зноў пазваніў праз нейкі час.

— Слухай, стары, — зарагатаў той цяпер радасна. — Я вось тут у супрацоўнікаў штосьці распытаў. Дык, кажуць, лухта тое, што ў дзятла галава не баліць. Дзяцел трохпальцы, вунь, занесены ў Чырвоную кнігу рэспублікі. А чаму?

— Чаму? — перапытаў Іван Пятровіч.

— Таму, што сатрасенне атрымалі і вымерлі. Шымкоў казаў, што аднойчы сам бачыў, як яны віселі ўніз галовамі. Дзяўбуць, лупяць шышку, а потым — круць і вісяць. Дзіўныя птушкі. гэтыя дзятлы. Ну, пакуль. Што новага даведаюся — дзынкну.

Ужо была палова адзінаццатай, калі па «прамому» пазваніла сакратарка Сямёна Афінагенавіча. Сказала, каб тэрмінова зайшоў да начальства.

У даволі шыкоўным кабінеце ўпраўляючага было шмат людзей — усе загадчыкі аддзелаў і нейкі незнаёмы.

— Вось, таварышы, — пачаў лагодна Сямён Афінагенавіч. — Да нас прадстаўнік з Дома культуры прыехаў. Ноту, так сказаць, прывёз.

— Якую ноту? — недарэчна спытаў загадчык тэхаддзела Яўген Варывонавіч. — Мы ж не музыканты. — І шматзначна павёў па ўсіх вачыма: маўляў, як я яго? — Сі, а можа, ля?

— Папрашу не жартаваць, справа сур'ёзная, — занерваваўся Сямён Афінагенавіч і пагражальна бліснуў акулярамі. Было прыкметна, што ён ужо выведзены з раўнавагі. — Таварыш пытае, дзе дзеліся дзве флейты. Давайце вось і разбяромся.

Разбіраліся доўга. Іван Пятровіч спачатку слухаў, як нешта казалі загадчыкі аддзелаў: маўляў, знойдзем, выправім памылку і гэтак далей. Адным словам, нешта, як заўсёды, абяцалі.

Але Івана Пятровіча больш за ўсё хвалявалі дзятлы, і ён непрыкметна паглыбіўся ў свае думкі. Дык, аказваецца, не ўсё праўда пра іх. Цікава, як гэта яны: дзёўб, дзёўб і — уніз галавой. Цікава, мабыць, сапраўды ў галаве аж звініць. Такое напружанне, не дзіва, таму і куляюцца. Іван Пятровіч нават пачаў круціць рукамі, уяўляючы, як гэта дзятлы робяць. Але тут нехта штурхануў яго ў бок. Насупраць стаяў Сямён Афінагенавіч і нечага чакаў.

— Наконт галавы пытаецца, — шапнуў Яўген Варывонавіч. — Чаму, пытаецца, ні ў кога пра гэта галава не баліць...

Іван Пятровіч устаў.

— Як не баліць? — перапытаў Іван Пятровіч, абдумваючы, што сказаць далей. — Галава не баліць хіба што ў дзятла. А мы — калектыў. Хвалюемся, перабудоўваемся.

Іван Пятровіч так завярнуў, успамінаючы размову з жонкай, што гэта ўсім прысутным спадабалася і яны загулі, як пчолы ў вуллі.

Упраўляючы нічога не сказаў, запрасіўшы, аднак, Івана Пятровіча пасля застацца.

Сямёну Афінагенавічу Іван Пятровіч расказаў усё, як на споведзі. Той спачатку здзівіўся, слухаў уважліва, не перабіваў, раз-пораз хапаючыся за ручку.

— Гм-м, да-а. — Сямён Афінагенавіч нейкі час маўчаў, нешта абдумваючы. — Сапраўды, як гэта яны так дубасяць і хоць бы хны?

І ўжо да Івана Пятровіча:

— Ну, ідзіце да сябе. Калі што — я паклічу. Адпачніце крыху. А можа, дадому?

Іван Пятровіч дадому ісці адмовіўся. Пабрыў да сябе ў кабінет. Пасядзеў у цішыні не доўга: званіла жонка.

— Ну як з камп'ютэрам, абяцалі зрабіць?

— Будзе, — абыякава буркнуў Іван Пятровіч і хацеў на гэтым скончыць, але Марфа Ярмілаўна азадачыла яго навіной.

— Толькі што са мной па тэлефоне размаўляў дырэктар школы, — радасна шчабятала яна ў трубку. — Пытаўся пра цябе. Кажа, званіў, але ж не было. Выходзіў?

— Выходзіў.

— То, кажа, перадайце Івану Пятровічу, каб ён заўтра прыйшоў да нас у школу. Запрашаюць, адным словам. Святланка пахвалілася, што ты дужа ў птушках разбіраешся. Патрэбна ісці, Ваня.



У галаве быў нейкі тлум, і Іван Пятровіч ужо сапраўды памкнуўся ісці дамоў, але зазваніў «прамы».

— Дык, кажаце, нават у Чырвонай кнізе ўжо дзятлы?

— Ёсць, ну, — сказаў Іван Пятровіч.

— Гм-м, да-а, — прамармытаў Сямён Афінагенавіч незнаёмым голасам і паклаў трубку.

Нейкі час Іван Пятровіч зноў сядзеў у цішы кабінета, нічога ўжо зусім не разумеючы. Мо сапраўды ў бальніцу схадзіць, пракансультавацца. Пэўна ж нешта з галавою здарылася? Аднак зазваніў зноў «прамы», і пакуль Іван Пятровіч адказаў, трубка некалькі разоў нецярпліва «алёкнула».

— Ведаю, ведаю чаму, — галёкаў радасна Сямён Афінагенавіч. — У тых жа дзятлаў мазгоў мо з гарошыну, няма, адным словам, чаму балець. Заходзьце, паталкуем. — І трубка меладычна забомкала.

Нейкі час Іван Пятровіч тарапіўся ў сценку. Ад галавы раптам адкаціла тугая хваля, стала лягчэй, і ён з асалодай адчуваў, як яна пераставала балець...

# РЭГІСТРАЦЫЯ

## I

Старшыня сельсавета Павел Хведаравіч Майдан сядзеў у сваім утульным, цёплым пакойчыку і ляніва паглядаў у акно. Аднекуль здалёк, мабыць, з-за лесу, чулася тарахценне трактара. Насупраць, акурат пад акном, у пяску купаліся і весела чырыкалі вераб'і — відаць, на дождж. У цяжкіх малінавых фіранках надакучліва гудзела муха. Калі б не яна, то, мабыць, Павел Хведаравіч ужо і прыдрамаў бы, бо чамусьці круціла спіну, ногі, а вочы заплюшчваліся самі. Дождж мусіць, будзе, вырашыў Павел Хведаравіч і смачна пазяхнуў.

З-за лесу рэха трактара тым часам перакінулася за ваколіцу, потым папаўзло, адбілася дробненькім дзынканнем у шыбах, і ўжо праз нейкі час паўз сельсавет у клубах пылу прамчаў трактар і спыніўся праз дзве хаты. «Федзька прыехаў, — угледзеўся праз пыл Павел Хведаравіч і зыркаў на гадзіннік. Да абеду было яшчэ паўтары гадзіны. — От абэлтух, — вылаяўся старшыня. — Ноч з дзяўчатамі лётае, а ўдзень, у такі гарачы час, спіць. Трэба пазваніць старшыні калгаса».

Павел Хведаравіч хацеў узяць тэлефонную трубку, але перадумаў: лішнія турботы. Старшыні, пэўна, не будзе на месцы. Пакуль знойдзеш — паўдня страціш. Тры гады назад ён, Павел Хведаравіч, як кажуць, запраўляў калгаснымі справамі, таму ведае. Але ж спіхнулі: яго і брыгадзіра першай брыгады Ганну Кандратовіч, паўнагрудую маладую дзяўчыну, нехта запрыкмеціў у стозе сена. Вэрхал быў на ўвесь раён.

Калі ўжо сказаць па праўдзе, дык Павел Хведаравіч трохі і прывык да свайго новага крэсла. Ні за што не адказваеш — а начальнік. Вокны яго невялічкага кабінета якраз глядзелі ўздоўж вуліцы, таму жыццё вёскі Караліхі было як на далоні: усё ведаў, усё бачыў. О, з-за калодзежа паказалася



старая Кандраціха — цётка Настассея. Нядаўна яна прыходзіла да Паўла Хведаравіча выпісаць брыкету. Выпісаў, даў паперку, як належыць. А яна не выходзіць, стаіць. «Што яшчэ, Настассея Кірылаўна? — пацікавіўся тады Павел Хведаравіч. — Калі ласка, слухаю».

Павел Хведаравіч ажно ўзбадзёрыўся, успомніўшы, што потым сказала Кандраціха. О, шыбуе па вуліцы, мо зноў да яго. «Ты, — запытала тады яна, — галоўны прадстаўнік улады ў нас?» «Я, — адказаў здзіўлена. — А што?» «Калі ты, дык дазволь мне выгнаць самагонкі. Як жа я без яе той брыкет прывязу? Ніхто не хоча за грошы, а ў магазіне не дaступішся. Платы валяцца, жэрдак няма, сена таксама не прывезці, ні ўзараць, ні пабаранаваць. Дык як, старшынька?»

Кандраціха тым часам параўнялася з акном.

— Добры дзень, Настассея Кірылаўна, — адчыніўшы акно, ласкава павітаўся Павел Хведаравіч. — Што гэта гоніць вас, так сказаць, у белы свет? Ды і куды?

Кандраціха неяк паважна павярнула да яго галаву ў прыгожай, з яркімі ружамі, чорнай хустцы:

— У міліцыю, старшынька, у міліцыю.

— А што ж здарылася? — насцярожыўся Павел Хведаравіч і ад хвалявання аж глынуў сліну. Калі які крадзеж ці сварка — паляцяць паказчыкі па сельсавету, толькі пшыкнуць.

— Ат, куры прапалі, — абыякава кінула Настассея. — Пяцёра ажно, ляжаць у разоры, галовы адкінуўшы.

— Дык пры чым жа тут міліцыя, калі куры дохнуць? — адлягло ў



Паўла Хведаравіча. — Мо з'елі чаго? — а сам падумаў, што за гэта ён не адказвае.

— І я ж пра тое. Хай і даведаюцца, хто атруціў, — матлянула спадніцай Кандраціха і знікла за вуглом, скіраваўшыся, мабыць, на аўтобусны прыпынак.

Але ўсё ж паклікаў сакратарку.

— Таццяна Іванаўна!

Хутка тая ўвайшла. Крыху распаўнелая ад сядзячай работы, Таццяна Іванаўна нямала і падляноўвалася: то не надрукуе ў час, то забудзе або наогул якую паперку згубіць. Мабыць, і развітаўся б з ёй Павел Хведаравіч, калі б не адна акалічнасць: Таццяна Іванаўна ведала ўсё, што рабілася, што робіцца або што будзе рабіцца ў вёсцы.

— Вы хочаце спытаць, чаму Кандраціха ў міліцыю пакаціла? — спытала тая адразу Паўла Хведаравіча. — Дык не ведаю, — Таццяна Іванаўна разгублена развяла рукамі. — Упершыню такое, даруйце.

— І пра гэта, і пра другое, — не менш здзіўлены такому павароту справы, прагудзеў Павел Хведаравіч. — Ці праўда, што ў Кандраціхі куры падохлі?

— Не, няпраўда, — сказала сакратарка. — У яе семнаццаць курэй і адзінаццаць качак. Усе жывыя і здаровыя. Сёння якраз, як ішла на работу, па дарозе і пералічыла.

— Мда-а, — яшчэ больш здзіўлена прагудзеў Павел Хведаравіч. — Я так і ведаў. Ідзіце, — кіўнуў ён сакратарцы і зноў утаропіўся ў паперкі.

Там было як у аптэцы. Усе паказчыкі на вышыні. Справаздача аб поспехах у барацьбе з самагонаварэннем пайшла ўжо ў раён, а там — у вобласць і далей, адным словам, куды патрэбна. Калі крышку пратрымацца на такім узроўні, дык, як пераможцу, сельсавету выдадуць аўтамабіль «Масквіч». А то ўжо надакучыла выпрошваць у старшыні калгаса, каб куды пад'ехаць. Ён, праўда, не адмаўляў, але ж іншы раз мог і пад'ялдыкнуць:

— Табе, — рагатаў той і ляпаў па тоўстым пузе (калі паспеў адгадаваць?), — воз і каня магу падараваць. Катайся!

Жартачкі таксама, толькі і рагатаць. Ці лёгка было яму паказчыкі так лоўка падтасаваць? Пэўна ж не. Нават самае балючае пытанне па ўсім раёне — самагонаварэнне — нуль. Няма самагоншчыкаў. У таварыстве цвярозасці колькасць членаў большая, чым дарослых у сельсавеце, нават дзяцей, старых запісаў. Каго-каго, а каваля Пятра Дзям'янавіча сагітаваць нялёгка было, які амаль кожны дзень з чырвоным носам хадзіў. Прыйшлося з ім пляшку гарэлкі выпіць і паабяцаць, што ўзносы заплоціць ён, Павел Хведаравіч, толькі няхай заяву напіша. Колькі сіл, дыпламатыі трэба мець?! А тут на табе, Кандраціха. Дазволь, маўляў, выгнаць самагонкі. Смеху варта. І ўшчуваў Павел Хведаравіч яе, і пра вядомы указ прыпомніў, і пра тое, што яна ж, старэйшы жыхар Караліхі, таксама ў таварыстве цвярозасці. Які ж прыклад для маладых?

Адным словам, колькі з ёй ні біўся — аніякага толку. Наадварот нават атрымалася. Тыя, кажа, члены цвярозасці першыя ў чарзе па гарэлку стаяць. «Сам успомні, — гаворыць, — Паўлік, як са мной у лесе некалі гарэлку гнаў. І як з хлопцамі да мяне прыскокваў па чарачку. Забыўся? Я табе ніколі не адмаўляла, а ты вось так аддзячыў».

Дамовіліся, называецца.

З гэтымі словамі яна павярнулася і борздзенька выйшла, а Павел Хведаравіч доўга яшчэ сядзеў у задуменні. Калі па праўдзе сказаць, дык

ён таксама не супроць той чаркі. Іншы раз нават і нядрэнна. Якая праверка ці што — хіба ж можна насухую? Зайшоў нядаўна ўчастковы міліцыянер. Трэба, кажа, рэйд правесці па барацьбе з самагонаварэннем. Трэба, дык трэба — калі ласка. Той наровіў праводзіць рэйды кожны тыдзень і абавязкова ў пятніцу або суботу, перад выхадным, акрамя, хіба, калі дзяжурыў па аддзелу ў раёне. Правялі і гэты рэйд. Ды так, што два дні ў галаве звінела, акурат бы званы ў царкве, нават з пералівамі. Мабыць, нехта паганай цукроўкі падсунуў. Участковы ўсё пагражаў зрабіць паўторны, сапраўдны рэйд, але ж потым супакоіўся. Праўда, затое не выявілі ні аднаго выпадку самагонаварэння.

Або свежы прыклад. Прыязджае сярод тыдня адказны сакратар раённага таварыства барацьбы за цвярозасць Анатоль Сямёнавіч. Тоўсты, ружовы, як наліты памідор, — вось-вось пырсне. Паўгода назад, а можа, і меней, ён быў загадчыкам райзага, але ж папрасілі за тое, супроць чаго зараз і змагаецца. «Нелагічна, — кажа, — Павел Хведаравіч, атрымоўваецца. Самагонаварэння па сельсавету нуль? Няма, значыць. Свядома, значыць, грамадзяне адмовіліся ад згубнай звычкі, якая цягне наша перадавое грамадства назад. І правільна, — закручваў далей Анатоль Сямёнавіч, хоць Павел Хведаравіч пакуль не мог даўмецца, да чаго той хіліць. — А вось паказчык колькасці членаў таварыства цвярозасці, — працягваў той далей, — вельмі нізкі. Чаму? Там, — ён узняў мнагазначна палец угору, — незадаволены».

Пакуль Анатоль Сямёнавіч талмачыў свае прамовы, Павел Хведаравіч паслаў сакратарку ў магазін да Веркі. Той ён загадаў, каб у любы час у запасе ў яе была заўсёды гарэлка — мала каго прыпрэ. Сёй-той з начальства прыязджаў — Верка выратоўвала. Але ў апошні час і яно, начальства, не такое пераборлівае стала. Раней абы-якім каньяком не адмазаўся б, а зараз — і самагоначкай не грэбуюць. Адным словам, тады яны з сакратаром цвярозасці так намурзаліся, што таго прыйшлося выводзіць агародамі. Але ж тут таксама справа зроблена: паказчык па «ўцягненню» грамадзян у таварыства цвярозасці найвышэйшы ў раёне.

## II

Тым часам бабка Настасся ўжо сядзела ў дзяжурнага раённай міліцыі сяржанта Фрола Шчарбакова.

— Не паложана так, грамадзянка. Патрэбна, каб заяву пакінулі, а потым мы ўжо разбярэмся, — не здаваўся сяржант Шчарбакоў, якога не так сказаць каб і даўно бабка Настасся адсекла крапівой, калі той з Грышкам Зызам залез у яе грады па гуркі. Але ж зараз ён — сяржант Шчарбакоў. Гучыцы!

— Мне б да начальства, клопат мой вельмі сур'ёзны, — прасіла Кандраціха, мабыць, не намерваючыся пра ўсё расказваць Фролку.

— Дык што ў вас там за турботы? — у каторы раз пытаўся сяржант. — Давайце я запішу і аб усім далажу.

— Справа, дый годзе, — не выдавала сакрэт Кандраціха. — Пусці мяне, Фролка, да начальніка.

— Не, не паложана, — пакрыўдзіўся сяржант Шчарбакоў ад таго, што ён у вачах бабкі не быў начальствам, і таму стаў больш строгі. — Не хочаце гаварыць — ваша й гора, — і ўткнуўся ў нейкі часопіс, у якім былі намаляваны прыгожыя дзяўчаты. — У начальніка і так турбот хапае.





— Куры падохлі ў мяне, унучак, — праслязілася раптам бабка Настасся.

— Што-о?! — адарваўся ад часопіса сяржант. — І з такім пытаннем да начальніка? Ды і пры чым тут мы? Вы хочаце, каб... — але звычны і грозны голас яго раптам асекся. Сяржант падскочыў, узяў руку пад казырок. — Таварыш падпалкоўнік, за час дзяжурства...

— Добра, добра, ведаю, малайцы, — лагодна перабіў сяржанта шыракаплечы, высокі і статны падпалкоўнік. — Дык, кажаш, нічога не здарылася?

— Так точна, таварыш падпалкоўнік, — бадзёра рапартаваў сяржант і неяк незычліва зыркаў вачыма на бабку Настассю, маўляў, слухай, як яго хваляць.

Падпалкоўнік ужо хацеў выходзіць з дзяжурнага пакойчыка, але прыпыніўся:

— А гэта хто і па якой справе?

— Ды так... — зніякавеў сяржант і пераступіў з нагі на нагу. — Курыная справа, адным словам, — паспрабаваў пажартаваць ён.

— Вы тут галоўны начальнік? — падхапілася з зэдліка Кандраціха, пачуўшы, што гамонка ідзе пра яе.

— Я, а што такое? Дарэчы, як вас завуць і як па бацьку?

— Настассяй Кірылаўнай некалі называлі, а па-простаму — Кандраціха. Муж у мяне быў Кандрат, ды загінуў у вайну. Як хочаце, так і завіце.

— Ды што такое ў вас, Настасся Кірылаўна, здарылася? — перапытаў падпалкоўнік.

— Сакрэт... — панізіла голас бабка. — Мне параілі зайсці толькі да вас і толькі вам усё расказаць, але ж вось тут не пускаюць.

Сяржант, адчуваючы нейкую трывогу, памкнуўся нешта сказаць, але падпалкоўнік ветліва ўзяў бабку пад локаць:

— Хадземце, Настасся Кірылаўна, я вас выслухаю.

Праз колькі хвілін Кандраціха жвава расказвала падпалкоўніку пра сваё гора. Як яна выпісвала брыкет, як прасіла старшыню сельскага Савета таварыша Майдана дазволіць выгнаць гарэлку. І пра платы, і пра сена, пра ўсё, што набалела.

— Яно б, можа, так і далей было, — бабка Настасся, узрушаная такім прыёмам, разгарачылася, што ажно скінула сваю квяцістую хустку, — але неяк дні праз два сустракае мяне на вуліцы Змітро Гармулёў. Так, маўляў, і так, кажа. Чуў, што хадзіла да старшыні. А ты, кажа, зрабі, як я. Схадзі, гаворыць, да начальніка міліцыі і зарэгіструй свой самагонны апарат.

Падпалкоўнік уважліва слухаў, раз-пораз нешта запісваў на паперцы, усміхнуўся.

— Што, можа, не так сказала? — насцярожылася бабка Настасся.

— Не-не, усё так, — супакоіў бабку сівы падпалкоўнік і націснуў на нейкую кнопачку.

— Дзяжурны сяржант Шчарбакоў слухае вас, — данеслася раптам з чорнай каробачкі.

Падпалкоўнік павярнуў крыху галаву ўбок і спакойна сказаў:

— Паклічце да мяне ўчастковага інспектара... лейтэнанта Кірычэнку. Ён павінен быць у зампаліта. — І ўжо да бабкі: — Ну, што там у нас далей, Настасся Кірылаўна?

— Да цябе, кажа Змітро, — працягвала Кандраціха, — сакратарка

Майдана прыбягала па гарэлку, як якая праверка? Прыбягала, кажу. А як рэйд па самагонаварэнню ці начальства з раёна замінае? Таксама, кажу я. Ды яшчэ й пагражала, што, маўляў, закон парушаю. А замазку аконную замест дражджэй, пытае, які прайдзісвет не падсоўваў? А як жа ж, згаджаюся, было і такое, ды колькі разоў. То-та ж, кажа ён, і ў мяне цюцелька ў цюцельку такое было, пакуль не зарэгістраваў свой самагонны апарат у начальніка міліцыі. Цяпер, кажа, гані гарэлку — не хачу. Спакой і цішыня. Дык, можа б, і мяне запісалі ў той спіс, га, таварыш начальнік? Кажуць, цяпер паўсюдна адкрываюцца кааператывы. І піражкі пякуць, і марожанае вырабляюць, і нейкую цукровую вату. І ніхто цябе за гэта не чапае. Вось і запішы мяне ў кааператыў.

— А што, можна, — вельмі сур'ёзна пагадзіўся падпалкоўнік, што ў бабкі ажно адлягло ад сэрца.

— Дазвольце? — раптам данеслася з дзвярэй. — Лейтэнант Кірычэнка па вашаму загаду прыбыў, — дакладваў крыху ўжо ў гадах міліцыянер і чамусьці касавурыўся на бабку Настассю.

— Заходзь, — дазволіў начальнік міліцыі. — Караліхаўскі сельсавет твой участак?

— Так точна, мой, — брава адказвае лейтэнант.

— А як там з самагонаварэннем? — зноў задае пытанне падпалкоўнік.

Бабка Настасся не магла ніяк зразумець, што тут да чаго. Яна ж усё растлумачыла. Можа, скажа сівы начальнік, каб напісалі ёй, Кандрацісе, тую паперку, і пойдзе яна хутчэй дадому. Але ж не. Нешта не тое.

— Нуль, таварыш падпалкоўнік, — ажно выдыхнуў з хваляваннем участковы, — днём са свечкаю не знойдзеце. Там, акрамя хіба дзяцей, усе члены таварыства цвярозасці. Рэйды пастаянна праводзім, амаль кожны тыдзень. Ці я са старшынёй сельсавета, ці са старшынёй калгаса, а то і з адказным сакратаром раённага таварыства барацьбы за цвярозасць, і я-ак праверым, я-ак патрасём, дык ажно дым толькі курыцца над Караліхай.

«Маніць, от маніць, — думала здзіўленая бабка. — Як гэта днём з агнём не знойдзеш? Ды амаль праз аднаго ў двары так і валяюцца без усялякага страху бражнікі, трубы, але пра дым не зманіў».

— Добра, малайцы, — пахваліў начальнік міліцыі лейтэнанта Кірычэнку. — Калі наступны рэйд мяркуеце рабіць?

— Заўтра, як заўсёды, перад выхаднымі, у васемнаццаць нуль-нуль. Таго-сяго прыйдзецца, мабыць, падключыць, — касавурыўся ўсё на бабку ўчастковы.

— Ну добра, дзейнічайце, — памяркоўна згадзіўся падпалкоўнік і кіўнуў на Кандраціху: — У Настассі Кірылаўны куры прапалі, дык на наступным тыдні патрэбна разабрацца. Ідзіце.

— А-а, — працягнуў радасна Кірычэнка, — будзе зроблена, — і хуценька знік за дзвярыма.

Бабка Настасся ад недаўмення ажно прыўстала:

— Якія куры, таварыш начальнік? Гэта ж я знарок так, каб да вас папасці. Мне паперку якую дайце. А божачкі, якія куры?

— І я таксама пажартаваў, — засмяяўся падпалкоўнік. — Мае хлопцы справу добра разумеюць, на ляту ўсё хапаюць. А паперку абавязкова дадуць, не хвалюйцеся.

— Вось добра, дзякуй, таварыш начальнік, — супакоілася Кандраціха, хочучы тым часам зазірнуць у паперку, на якой нешта ўсё чыркаў сівы падпалкоўнік: хаця б не падмануў. Здалёк, аднак, нічагуткі не было відаць, таму бабка Настасся ўсё ж пацікавілася: — Дык Змітро Гармулёў праўда запісаўся?

— А як жа ж, праўда, адзін з першых, — пацвердзіў падпалкоўнік і зноў нешта чыркнуў на паперцы.

— Можа б, і суседа майго запісалі заадно, — няўпэўнена зноў спытала бабка Настасся. — Чалавек вельмі добры, падзеллівы. Дзям'ян Іванавіч Канаплянік.

— Чаму ж не, і гэтага можна, — пагадзіўся начальнік міліцыі.

Бачачы, што сівы падпалкоўнік вельмі ўважліва ставіцца да яе просьбаў, Кандраціха замовіла слоўца яшчэ за чалавек мо з дванаццаць аднавяскоўцаў. Вельмі ж ужо хацелася ёй зрабіць ім добра, бо колькі можна здзекавацца? Начальнік міліцыі папрасіў пакуль пра гэта нікому не гаварыць — справа складаная. Патрэбна дакумент выпісаць, агледзець, праверыць, так што час пройдзе. Потым ён правёў бабку на вуліцу і загадаў, каб яе на машыне завезлі дамоў. Так што ў Караліху Кандраціха прыехала на легкавушцы з міргалкамі і, ляснуўшы дзверцамі, важна, пад недаўменныя позіркі суседзяў, пайшла ў хату.

## III

Назаўтра раніцаю, як заўсёды, у дзевяць нуль-нуль старшыня Караліхаўскага сельсавета Павел Хведаравіч Майдан быў на сваім рабочым месцы. Учора ён так і не выйшаў пасля абеду з дому: задрамаў, а прачнуўся — каровы з пашы прыйшлі.

— Ну, як справы? — паздароўкаўся ён з сакратаркай. — Усё ў парадку?

— Усё як мае быць, — лісліва адказала тая. — Ёсць навіны, — і зайшла ўслед за Паўлам Хведаравічам у кабінет. — Званіў участковы Кірычэнка, — перайшла чамусьці на шэпт Таццяна Іванаўна, хоць у пакоі больш нікога не было.

— Ну-ну, — ёкнула сэрца ў Паўла Хведаравіча.

— Казаў, што Кандраціха сапраўды была ў самога, — замаўчала яна мнагазначна, ад чаго ў Паўла Хведаравіча па скуры забегалі мурашкі. — Начальніка міліцыі, — нарэшце выдыхнула. — Той выклікаў і яго, пытаўся, ці не гоняць самагонку, але Кірычэнка адрапартаваў так, што начальнік ажно пахваліў. Сказаў, каб і далей так дзейнічалі. І вас там, дарэчы, успамінаў. Праўда, начальнік міліцыі загадаў, каб на наступным тыдні разабраўся з курамі Кандраціхі. Мо й сапраўды я памылілася? — сумелася Таццяна Іванаўна і неяк дзіўна пацiснула плячыма.

— Ну, то добра, — палагоднеў Павел Хведаравіч. — Усё?

— А, ледзь не забылася, — спахапілася Таццяна Іванаўна, — Кірычэнка перадаў, што сёння ў васемнаццаць нуль-нуль пачатак рэйду. Будзе пашыраны састаў, казаў, што вы ведаеце хто.

«От Кірычэнка, сапраўды малайчына. Добрую справу чаму б не абмыць?» — падумалася старшыні сельсавета, і ўжо да сакратаркі:

— Зойдзеце да Сцяпана Мархаля, кладаўшчыка, перадайце, што сёння пачнём рэйд у яго. Хай падрыхтуецца як след.

— Будзе зроблена, Павел Хведаравіч, — падміргнула змоўніцкі Таццяна Іванаўна і борздзенька выйшла...

...Як і дамаўляліся, у васемнаццаць нуль-нуль пачаўся рэйд, у якім

 

удзельнічалі старшыня Караліхаўскага сельсавета Гіавел Хведаравіч, старшыня калгаса Фёдар Анісімавіч, адказны сакратар раённага таварыства барацьбы за цвярозасць Анатоль Сямёнавіч і ўчастковы інспектар лейтэнант Кірычэнка. У васемнаццаць пятнаццаць яны, ужо ў добрым настроі, сядзелі пад прахалоднай, спецыяльна зробленай для такіх мэт, павеццю Сцяпана Мархаля за сталом, які ламаўся ад рознай закусі, і паспелі ўжо перакуліць па чарцы моцнай самагонкі. Прыкметна пачырванеўшы, Кірычэнка расказваў і з выкрунтасамі паказваў, на што ў яго быў асаблівы талент, як ён акалпачыў начальніка міліцыі. Хведар Анісімавіч пагладжваў пуза і раз-пораз зыркаў на пачатую пляшку: таму чарка гарэлкі ўсё роўна, што сабаку муха. Анатоль Сямёнавіч чамусьці пачаў ікаць — мо хто ўспамінаў, хутчэй за ўсё жонка, якой ён баяўся больш за любое начальства, а Павел Хведаравіч паблажліва ўсміхаўся і тлумным поглядам таропіўся бяздумна ў прыадчыненыя дзверы павеці, праз якія прыемна патыхаў халадок. Раптам твар яго як анямеў, вочы акругліліся, бы тыя яблыкі, што буйнымі гронкамі звісалі з яблынь. Ён спрабаваў нешта сказаць, але не атрымоўвалася. Дзверы павеці адчыніліся ўжо насцеж, і праз парог пераступілі старшыня райвыканкома Карпенка, начальнік міліцыі падпалкоўнік Грызадуб і яшчэ некалькі чалавек у міліцэйскай форме. За іх спінамі, паказваючы рукамі нейкія знакі, бы цень, матляўся гаспадар Сцяпан Мархаль...

Назаўтра Караліху зноў абляцелі дзве навіны. Першая — у сельсавет прымчала нейкая камісія з раёна. І другая, бадай больш значная, — Кандраціха зноў чамусьці раненька паехала ў райцэнтр. Чаго і да каго — ніхто, праўда, не ведаў.

# БЛІЗКІ БЕРАГ

Нейкі час Рыгор з Марыляй жылі нават няблага. Сышліся без асаблівых заляцанняў. Яна яму падабалася: жвавая, чарнавокая, пышныя валасы прывабнымі матузкамі звісалі са скроняў. Употай, каб ніхто не звярнуў увагі, заглядваў на сенакосе на яе стройныя ногі, і нешта шчымела ў душы, калі хто з хлопцаў з ёй загульваў, шчыкаў за бок. Хмурны, неразгаворлівы, ён, аднак, кінуўся ў вочы і Марылі. Можа, таму, што быў непадобны на іншых, усё сам сабе, працавіты, дбайны, не заглядваў асабліва на дзяўчат. І нават тады, калі той памятнай, тлумнай ноччу яны да самай раніцы цалаваліся ля пахучага куста бэзу, калі купаліся пазней ужо, пад восень, у водары свежаскошанага сена, Рыгор быў нейкі сарамлівы і нерашучы. Праз які год яны пажаніліся, і, здаецца, не было відаць краёў іх маленькага сумеснага шчасця. Паціху сталі абжывацца.

Крыху назбіралі грошай, купілі старэнькую, на водшыбе вёскі, хатку і з маладой паспешнай гарачнасцю ўзяліся ладзіць сваю гаспадарку. Можа, і не трэба было ўжо так пнуцца, ніхто ж не гнаў, але Рыгор бы некуды спяшаўся: таго мала, гэтага няблага б прыдбаць. Марыля з усім згаджалася, цягнула воз, толькі аднойчы запрацавілася. Крыху пазней Рыгор здагадаўся, што яна надарвалася менавіта тады, калі цягалі пасцілкі атавы з поплава. Але ж яна чамусьці не прызнавалася, маўчала. Маўчаў і ён, не хацеў першы зачынаць размову, думаў, не па-мужчынску будзе.

Пасля таго выпадку Марыля ніяк не магла нарадзіць. Колькі разоў хадзіла цяжарная і ўсё не даношвала. Рыгор хацеў сына, вельмі хацеў.

Адчуваючы нейкую віну перад мужам, Марыля паступова змірылася і была нават шчаслівая, што прырода, не надзяліўшы яе жаночым шчасцем, дала ёй сілу і вынослівасць, і яна хоць гэтым прыносіла карысць мужу і дому.

Суседзі бачылі іхняе жыццё. Хто спачуваў, хто, бы незнарок, казаў, што, маўляў, трэба недзе «знайсці» дзіцё. Сказаць лёгка. Хопіць, і так языкамі менцяць, нельга прайсці па вуліцы. Аднойчы Рыгор вырашыў падысці да яе неяк па-лагоднаму — жонка ж, як-ніяк, не прыблуда. Доўга апранаўся ў стары, зашмальцаваны кажух, ляпаў па халявах пугаўём і, быццам не да яе, некуды ўбок прагудзеў:

— Ты б мо да маткі з'ездзіла, я сам упраўлюся. Можа б, і памагло што... Каму збіраю ўсё гэта?..

Заблытаўся ў словах, бразнуў клямкай, перавярнуў у пацемках вядро з памыямі і, сутулячыся, паплёўся да канюшні.

Марыля ўсё ж паехала і была ў ма-







 

ці з месяц. Калі ўсё зноў паўтарылася, да Рыгора не вярнулася: і баялася, і саромелася. Няёмка было. Праз тыдзень прыехаў сам. Яшчэ больш неяк асунуўся, але ні ў размове, ні ў сваіх паводзінах дакору не выказваў. Каму было яго выказваць? Маці яе, што спрытна і крыху мітуслівa ставіла на стол вячэру, пляшку гарэлкі? Ці, можа, сабе? Што будзе — тое будзе. Нейкая надзея ўсё ж не пакідала: няўжо не ўсміхнецца і яму шчасце? Быць не можа. З такімі думкамі Рыгор і хрупасцеў гуркамі, апякаў рот паранай бульбай ды вёў свой нетаропкі говар з жанкамі пра гаспадарку.

Пакуль жанкі збіраліся, Рыгор схадзіў у пуню, узяў бярэмя сена, кінуў у драбінкі, памог узлезці Марылі на воз.

— Но-о, паехалі, маленькая, — ляснуў лейцамі па гладкіх баках кабылы, і на хаду ўжо скокнуў на драбінку.

Дарогай крыху разабрала. Рыгор павесялеў, стаў непадобны на сябе, занадта гаваркі. Кабылка лёгка цягнула вазок па ўтаптанай дарозе.

— Угнявілі, Марыля, мы з табой бога нечым. Не ўпадабаліся, адным словам, яму... Но-о, ну што ты, дарогу забылася? Дык, кажу, угнявілі яго недзе мы з табой, адвярнуўся ён ад нас, усё жыццё помніць будзем. І жыць нядрэнна стала. Хата — унь якая. Ды і астатняе — свінкі, куры, бульба... Усяго хапае, што казаць, толькі рабі, зямля родзіць, зямля добрая ў нас. Для душы б чаго-небудзь. Вось шчасця — кукіш, трасцы, а не шчасця. Абышло неяк нас яно бокам. Паўз Міхеда ішло яно. Унь колькі дзяцей. А каб іх па мякіну ці куды адправіць. От бы нацягалі. Дык Міхед усё хоча, каб па-справядліваму было. Так не пражывеш. Кішэні вывернеш.

Рыгор разышоўся, бы воз з гары. Марыля баялася яго, але цяпер не магла змоўчаць.

— Не чапай, Рыгор, дзяцей. Ды і Міхед тут ні пры чым, не браў ён чужога, сам знайшоў сваё шчасце. Добры ён чалавек.

Рыгор не агрызнуўся, думаў пра сваё. «От каб ён бачыў тое шчасце, як карову ці як хату, а то дзе яно? Ішло б па вуліцы, дык рукі паадбіваў бы, каб сунуўся хто да яго, тут ён не праспаў бы, ухапіў. Хватка ў яго ёсць. Мёртвая, бацькоўская. Канечне, радыё, газеты — справа іншая. Там крычаць кожны дзень: будуйце тое шчасце самі, сваімі рукамі. маўляў, толькі без падсобнікаў. А ён што, з падсобнікамі? Ён не будаваў хіба? Унь якія харомы: хата, хлеў не з плах, а з дрэва. Ды не абы-якога, адна смоль. Бы з воску хату зрабіў, бы ляльку выцацкаў. А-а, што гневацца! Праўда, самагонкі прыйшлося заперці лесніку. Чорт крывы, шчэ мала было з яго. А часаў хто? Ён сам, з ранку да вечара ляпаў сякерай, вуглы заводзіў. Праўда, Марыля памагала, што казаць, дык хіба гэта падсобнік? Баба ёсць баба, якая памач з яе!

А ў яго што, жывот не балеў? Балеў, ажно пуп трашчаў, дык не звяртаў увагі, усё хутчэй хацеў засяліцца ў хату. От настроіў шчасця таго, палавіна пагніло, зноў трэба лес цягаць. На горбе сваім прыйдзецца, не на Міхедавым жа. І горба не хопіць на ўсё. От табе і радыё, газеты, а ты паспрабуй на практыцы. Каб чарцёж, план які таго шчасця паказалі — о! За ноч бы пабудаваў, адзін, без Марылі, і раніцай кветку на крокву прыбіў бы, усё было б як мае быць. Каб паказаў хто толькі, каб параіў...»

Калёсы гулка грукаталі па разбітай дарозе. Марыля, бы чытаючы яго думкі, трывожна глядзела на Рыгора, спытала:

— Рыгор... Чуеш, Рыгорка, мо трактар выпішаш у калгасе, папросім Міхеда, каб падараў бульбу? Хутчэй бы было, га?

— Самі выкапаем, не калекі. От кабылу вазьму, падару ранкамі і выкапаем. А іх дапусці толькі... Но-о, не наелася, каб табе бакі паразрывала, — Рыгор сцебануў пугаю кабылу, і тая рванулася, затупацела трухам.







У апошні час ён быццам урастаў у зямлю, горбіўся, гнуўся, бы насіў кожны дзень ношку пудоў на сем. Там-сям на скронях у рэдкай, калі яшчэ можна было так назваць, чупрыне, якую ён старанна кожны дзень прылізваў наперад, забялеў верас — сівеў, а ззаду на галаве медным спадачкам прасвечвалася лысіна. Змітро, Рыгораў сусед, адзінокі, які ўсё жыццё прагарцаваў з бабамі, а сваёй так і не знайшоў, ніколі не прамінаў Рыгора і наравіў падкалоць:

— Ето мо, брат, ад баб так, плеш з'явіўся? Каб спераду — дык ад розуму, а ззаду — ад іх, ей-бо ад баб.

Рыгора бы аблівалі варам, але ён толькі бліскаў вачыма: «Падло старое, я табе пасмяюся». Але ж маўчаў і праходзіў міма.

Так і жыў Рыгор. Бы непрыкаяны які. Так і не мог даўмецца, да якога берага прыбіла яго жыццё, да чаго на старасці ён грабецца, пнецца з усіх сіл. Нешта не даходзіла да яго, нешта не да канца разумеў ён, а спытаць не дазваляў гонар. Так і жыў са сваёй маўклівай спадарожніцай жыцця, не памятаў, кахаў яе ці не. А было ж. Толькі куды дзелася? Як хто ў пелю боўтнуў, сунуў усё тое даўняе, ажно бурбалкі пайшлі і пагойдваюцца хвалі.

Доўгія гады сумеснага жыцця неяк прыцерлі, бы жорны, адзін да другога Рыгора і Марылю. І пэўна ж, калі адзін з камянёў трэскаецца, мукі не змелеш, і заціхае на нейкі час грукотнае жыццё млына. Так здарылася і з Рыгорам. Знешне ён, здаецца, ужо і змірыўся з лёсам, цягнуў іх сумесны воз на адведзенай толькі ім з Марыляй дарозе. Але гора чакала ўжо, узышло на іх няхвацкі гасцінец якраз, можа, у самы неспадзеўны час. Ранічкаю на вялікдзень ціха, з нейкім нявыказаным болем і жалем у вачах памірала Марыля. Пакуль выклікалі ўрача, пакуль прыехала «Хуткая дапамога», яе ўжо не стала.

Ніколі Рыгор не плакаў, насіў усё пры сабе, а тут, калі загрукацела мёрзлая зямля па труне, — не змог стрымацца. Быццам нешта адпала, адарвалася ад сэрца з тым тлумам бэзу, водарам сена і шапаценнем пажухлага лісця іх сумеснай апаленай восені.

Не думаў Рыгор, што аднаму так прыйдзецца. Не пад сілу яму прыйшлася ноша, што пакінула Марыля. Колькі начэй напралёт не спаў. Амаль год прайшоў. І калі-нікалі мільгала думка: мо каго ўзяць сабе ў спадарожнікі, мо хто б і згадзіўся. Вось хаця б Аўдоцця з суседняй вёскі, Крукаўкі. Гаспадыня, нічога не скажаш, але ж каб суседзі языкамі не мянцілі, бо толькі прыкмецяць што, асабліва Змітрок, дык на ўсю вёску разнясуць: у сваты ездзіў. Не паспеў адну пахаваць, а ўжо — да другой. Яно, можа, і так, але жывому жывое. Ну і што, пахаваў, ну няма яе, няма... Жонка, здавалася, бы шыба ў акне: і трэба, і не. Глядзіш — шкла не відаць, а калі памацаеш — патрэбна, бо без яго дзірка. А цяпер у яго такая дзірка. Хата без гаспадыні — усё роўна што вядро без вочапкі: бяры, цягай, толькі ад таго цягання адны пакуты, так упейхаешся, што і вады не захочаш.

Як ні находзіў сабе прычыны, колькі ні адкладваў на потым, а ўсё ж неяк надвячоркам вырашыў праехаць да Аўдоцці. Кабылу прывязаў не каля яе хаты, крыху далей, каб суседзі не здагадаліся. Выцер сенам боты і пастукаў у дзверы сянец. Аўдоцця адазвалася.

— Можно? — зайшоў у сенцы, потым — у хату. Святло лямпачкі, занадта яркай, балюча разанула ў вочы. Рыгор нейкі момант прыглядаўся: Аўдоцця была не адна. Яна стаяла каля печы, абапёршыся на вілачнік, а

каля стала на лаўцы сядзела старая Сымоніха.— Здраствуйце ў хату, маладзіцы!

— Здраствуваць, Рыгор,— Аўдоцця здзіўлена паглядзела на яго.— Праходзь, сядай. Ды не стой у парозе, а то не жэнішся.— Аўдоцця і тут не прапусціла пажартаваць.

— Так ужо і не. Мо хто і знойдзецца.— «От уліп, дык уліп. Кавалер. Ты вострая на язык, але ж не на ёлупа натрапіла». Рыгор прайшоў, сеў на лаўку.

«А ета мянташка,— зазлаваў на Сымоніху,— совaецца па хатах, не—каб дома сядзець. Заўтра ўжо будзе малаціць па вёсцы...»

— Я ненадоўга, па дарозе, у лузе быў. Дай, думаю, заеду. Просьба ў мяне, так сказаць, ёсць... Мо мяхі дзе-небудзь заваляліся? Картоплю збіраюся капаць, дык не хапае,— паглядзеў на Аўдоццю. Тая ўсміхнулася. «От зараза, шчэ смяецца. Таксама плясную — мяшкі, з лугу. У гальштуку з лугу... Бязмен стары. Каб ступу, сказаў, трэба, дык саўсім добра было б...»

— Чаму няма? Пашукаю толькі... Нешта ты рана картоплю збіраешся капаць, мо сорт які харошы? Гуляйце, куды вы сабраліся, цётко!

Сымоніха ўстала з лаўкі, паправіла хустку.

— Позна ўжо, трэ дадому. Ну, дабранач. Заўтра забягу, Аўдоцько,— старая ляснула клямкай, пашкрабала пад вокнамі.

— Гаворкі заўтра будзе на ўсё сяло. Хіба не можна зайсці мужчыну, ці што?— Рыгор памкнуўся ўстаць з лаўкі.

— Чаму ж,— Аўдоцця адышла ад печы, паправіла кофту,— ты ж па справе, па мяшкі. Мо табе кадушку шчэ даць, дык у мяне ёсць. Пасядзеў бы, куды спяшаешся?

— Я от што скажу, Аўдоцця, ты не гневайся толькі. Мо і кадушку вазьму, але каб цябе от як... Хазяйка патрэбна мне. У любоў гуляць не ўмею, дык от як атрымалася — так і ёсць. Па-простаму. Хата ў мяне добрая, карова, свінні, соткі. А рук не хапае. Разам яно б, канечне...— Рыгор глядзеў у падлогу, на боты, рукі, якія не ведаў куды дзець, і цяпер, бы малатамі, варочаў імі на каленях.

— Бач, хуткі які. Не паспеў у хату зайсці, а ўжо выкладзі яму. Раней не такі быў. Дзевак за кіламетр аббягаў, а то сам прыйшоў.

— Ты не смейся, Аўдоцця, я па-сур'ёзнаму, не варушы тое, што было.

— Калі па-сур'ёзнаму, дык от што, Рыгор. Па-сур'ёзнаму ты мо і сам не падумаў. Мне ўжо пад пяцьдзесят, ды і табе не менш. Дзеці, хоць і не жывуць са мной, але прыязджаюць дамоў, да маткі. Гаспадарка ў мяне ёсць, пражыву і без яе, не ў ёй загваздка. Каб на душы было спакойна, шлунне не еў хто каб, ды здароўе, гэта галоўнае. От што, Рыгор. Калі па-сур'ёзнаму, дык мне з імі трэба параіцца. І ты падумай, каб не апёкся толькі.

— Ты не пужай, Аўдоцця. Дзецям хопіць месца і ў мяне, у маёй хаце.— Рыгор устаў. «Бач, якая. Другая б дык адразу, а ета яшчэ ўпіраецца».— Я пайду, зойдзе шчэ хто — няёмка будзе...— узяўся за клямку.

— Пачакай, кавалер,— Аўдоцця сунула яму ў рукі некалькі пустых мяхоў.— А цяпер ідзі.

Рыгор выйшаў. Ад злосці аж плюнуў, так гідка было на душы.

«З ёй трэба асцярожна, можа на карак сесці, толькі нагніся, адразу ўскочыць і ногі звесіць».

Як ні мучыла Рыгора пагарда — як жа, каб сабе яшчэ цану набіваць,— але да Аўдоцці пайшоў другі раз. Сымоніха, праўда, разнесла па ўсёй



вёсцы пра тыя «мяхі», і сёй-той з мужчын пры сустрэчы з Рыгорам спрабаваў жартаваць. Але нязлосна, так, чыста па-мужчынску. І ўжо адно гэта яго неяк супакойвала: значыць, не зусім асуджаюць. Можа, і яны ў душы недзе былі згодны з ім: не хадзіць жа бабылём. Таму да Аўдоцці ішоў не тоячыся. Няхай бачаць. Тут не схаваешся, усё роўна ведаць будуць, так яно лепш.

На гэты раз Аўдоцця была сур'ёзная. Бачыла, што яе ультыматум прыняты. Сказала, што і яна згодна, але з адной умовай: пераедзе да яго не раней як праз месяц. На гэтым і развіталіся. Нават замочваць іх «вяселле» не сталі, адклалі на потым.

Позняй восенню ён перавозіў Аўдоцціны клункі, перавёў карову. Свіней адразу здалі ў калгас. Праўда, адно закалолі і аддалі яе дочкам, якія прыехалі з горада. Рыгор бы ажыў, распраміўся. Дочкі прыязджалі да іх раз у тыдзень, дапамагалі. Пабялілі хату, пераставілі мэблю, пасля чаго пакоі здаліся ўтульнейшымі. Купілі радыёлу, настойвалі і тэлевізар узяць. Спачатку згадзіўся, але калі даведаўся, колькі ён каштуе, згоды пакуль што не даваў.

Рыгор неяк палагоднеў. Не казаць, каб радаваўся — не ведаў, што гэта такое, можа, і не даводзілася ў жыцці радавацца, а ў душы пацяплела, святлей стала. Адна з дачок, старэйшая, збіралася выходзіць замуж, папярэдзіла і праз два тыдні прыехала з будучым мужам. Васіль, хлопец малады, відны, працаваў токарам на заводзе. Пры знаёмстве так пацісну ў руку, ажно косці затрашчалі ў Рыгора, але ён выгляду не паказваў. «От малакасос, я шчэ так магу сціснуць, што запішчыш, дарма, што стары... Бач, спрытны які, адразу пайшоў у двор гаспадарку глядзець, не, каб пагаварыць! Рано! Рано рукі расстаўляеш. Не падымеш усяго, што дам».

Васіль вярнуўся з двара праз паўгадзіны.

— Тата, трэба платы падладзіць, зусім падаюць. Страху на хляве замяніць. Я выпішу шыфер, перакрыем. З Вольгай на наступным тыдні падскочым, дапаможам, добра?

Васіль абняў Вольгу. А Рыгор бы прыліп да лаўкі. «Тато... от табе і на. Яму не здалося... Тато... Упершыню назвалі. Значыцца, я таксама не пустое месца. Хай быў адзін, як пень, голы, як корч пад восень, але прышчапілі, і прынялося, даў парастак. Хай чужы, але парастак!..»

Даўкі камяк падступіў да горла, ажно млосна стала. Рыгор выйшаў з хаты. «А каб сваё, сваё каб! Абсыпаў бы грашамі ўсяго, адзеў бы з ног да галавы. Грошай хопіць. На дзве машыны хопіць. Міхеда куплю з хатай і трактарам. Дык каму грошы тыя? Каму? Але ж ён мяне назваў. Тато назваў. Тато...»

— Тата! Ідзіце есці,— на парозе стаяла Вольга. Яна таксама ўпершыню назвала яго так, пачула, як казаў Васіль, таму неяк сумелася, пачырванела.— Хадземце, пастыла ўсё, Васіль ужо сеў за стол, без вас не хоча.

Рыгор нічога не сказаў. Моўчкі патупаў непаслухмянымі нагамі ў хату.

Праз тыдзень Васіль прыехаў адзін — Вольга не змагла, папрасілі папрацаваць у выхадныя. Ён хутка пераапрануўся, і цэлы дзень з Рыгорам ладзілі платы. Рыгор толькі дзівіўся Васілёваму спрыту. Змітро, які праходзіў міма іх, калі яны ўжо прыбівалі апошнюю пляніцу ад вуліцы, і тут не прапусціў:

— От брат, шчасце табе, Рыгор, анігадкі. Усё табе каб дарэмно. Бач,

якога хлопца адхапіў, ні за што, можна сказаць. Другія унь як пацеюць, крэкчуць, а тут такі асілак, дай дарэмно.

— Стары ты, Змітро, а дурны, як пень. Зяця б пасаромеўся. Дурныя жывуць доўга, дай дарэмно, от гэта хвакт. Я б на іх баранаваў або араць ездзіў, каб меней чаўплі, што не след. — Рыгор узяўся за сякеру, нейкія нядобрыя агеньчыкі бліснулі ў яго запалых вачах. — Не лезь у маю душу, Змітро, ты мяне ведаеш... — Не дагаварыў. Вярнуўся Васіль. Ён нёс з другога боку двара жэрдку.

— Ты б не цягаў адзін, цяжкія ж. Паспеем, да вечара яшчэ унь колькі, — Рыгор нагнуўся, пачаў часаць камель жэрдкі. «...Дурны, дурны, а бач: «шчасце табе». Зайздросціць... Шчасце... Чорт яго ведае, мо і так. Гэта ж не плот за дзень адляпаць. Усё жыццё ляпаю, дык от у канцы трохі».

Васіль ад'язджаў на маршрутным аўтобусе. Аўдоцця паклала ў адну сумку сала, яек, у другую насыпала яблыкі. Сумкі вынесла за дзверы. Далей праводзіць пайшоў Рыгор. Калі ўжо падышоў аўтобус, Рыгор дастаў з кішэні хусцінку, працягнуў Васілю зялёныя, чырвоныя паперкі.

— На, на тэлевізар... Выберы які-небудзь. З Вольгай прывязеш другі раз. Ну, я пайшоў, — адвярнуўся і павольна пакалываў па вуліцы.

Васіль з Вольгай павінны былі прыехаць тыдні праз два. Як там ні было, а Рыгор хваляваўся. Нават нейкі гонар авалодаў ім. А каб выглядаць як след перад гасцямі, масціў двор, ладзіў платы. І ўжо ў апошні час толькі прыкмеціў, што ў хляве надламалася бэлька. Ніхто б яе пэўна не ўбачыў, але ж хацеў усё давесці да ладу.

Таму і вырашыў усё ж на стары, спрактыкаваны манер цішком падскочыць у лес. Вырашыў, праўда, адзін, з Аўдоццяй не раіўся. Быў упэўнены, што яна будзе згодна з ім, дапаможа. Не для сябе ж аднаго стараецца. З такімі думкамі і лёг спаць.

Сонца раніцой не было. Перад гэтым стаяла халодная ноч, і набраклыя хмары ахінулі вёску, клубамі падступілі да лесу, размяклага за лета дзядзінца, насунуліся да Прыпяці, якая павольна і асцярожна выгіналася, выплывала з-за магутных дубоў і, выбраўшыся на свабоду, лагодна расплывалася ў берагах, лянiва маршчыніла хвалямі. Рыгор глянуў у пам'утнелае акно, працёр запацелую шыбу. Стары клён надакучліва шкрабаў голлем аб шкло, пастукваў у сцяну, лапатаў на ветры лістамі, блытаўся кучаравай верхавінай у электрычных правадах.

— Лажыся спаць, куды ў такую рань? — Аўдоцця адкінула шырму запечча, згарнула старую, у клеткі коўдру, пацягнулася па спадніцу.

Рыгор у поцемках пачаў шукаць штаны, боты, палез на печ, сцягнуў скручаныя, закарэлыя анучы.

— Аўдоцця, то збірайся, я кабылу пакуль запрагу... У лес з'ездзім. Я хутка, — крэкнуў, падцягнуў салдацкай папругай кажушок. — Якраз час, ніякая зараза не сунецца. Нам каб толькі тут праскочыць, паўз брахуна гэтага, Змітра.

— Што там забыліся? Ды і цёмна ж яшчэ, дождж будзе, аблажыла ўсё. — Аўдоцця чырканула запалкай, падпаліла смаловую лучыну, — ідзі дроў лепш прынясі, ядрано нейк стала...

— Не палі ў печы пакуль. — Рыгор занерваваўся. — Бэлька ў хляве падае, трэба замяніць. Тут недалёка, ля Белага Круга, ля гары. Стройная такая сасонка, якраз акурат будзе. Прыедзем — разам управімся, памагу.

— Не паеду я. — Нейкі час Аўдоцця маўчала. Потым, зразумеўшы, што і да чаго, спакойна сказала — так спакойна, што Рыгор аж сумеўся: — Красці не буду.

Аўдоцця сунула ў печ лучыну, а Рыгор ад нечаканасці апусціў рукі, каўтнуў сліну.

— Як гэта, Аўдоцця? Гэта не суседу, а нам трэба. Ты мне нораў не паказвай, не кабыла. Я ўжо даўно з'еў тое, што ты ведаеш. Кра-а-адзенае, бачыш яе! А гэта якое? — Рыгор сцебануў пугаёўм аб сцяну. Пастараўся ўжо залішне, пугаўё зламалася, са сцяны ўпаў ладны кавалак тынкоўкі. — Купленае?! Трасцы купляў! Без штаноў хадзіў бы, каб купляў!..

— Не паеду, і ўсё. Ды распетрываць не было чаго. Нажыў. Адно падпечча і бачыш.

«Дагадалася, падглядвала», — Рыгор як стаяў, так і бухнуў на калені, ірвануў дзверцы падпечча. «Во, прыгрэў на сваю бяду... Марыля хоць маўчала!» Намацаў рукой цаглiну, выцягнуў, адкінуў убок. «Тут, на месцы, усё на месцы, здаецца». Узмакрэлы, ён вылез з падпечча, разгарнуў скрутак. Грошы былі цэлыя.

Збянтэжаная і напалоханая Аўдоцця, бы загнаная курапатка, заціснулася ў кут.

— Падглядвала, халера на цябе! Ты б лепш ведала, дзе сваё ляжыць, дык не?! Месца няма, не хапіла табе, каб прыхаваць. Іншыя захапілі?! Дык хавай, асвабадзіў унё, а мае не ча-а-пай! Зарабіў! Сваімі рукамі, — ён выцягнуў перад сабою рукі, здаровыя, з вузлаватымі пальцамі. Раптам правай рукой ткнуў скруткам Аўдоцці пад нос. Потым яшчэ і яшчэ... Апамятаўся толькі на вуліцы, успомніў пра грошы. Зноў загарнуў у анучку пачкі і сунуў за пазуху.

...Вецер на вуліцы ўзмацнеў, старая вішня, што расла каля хлява, здавалася, вось-вось надломіцца. Трашчала, рыпела, але трымалася, чапляла голлем за плот, мільгацела ў поцемках белымі ранамі.

Рыгор прыставіў калена да хамута, пацягнуў на сябе супоню, заматаў. Кабылу ён яшчэ ўчора прывёў дадому, каб сёння раніцой нікуды не бегаць. Рабіў ён так даволі часта, і пакуль усё сыходзіла, брыгадзір не заўважаў, а Рыгор ужо прывык, кабылка стала як уласная, якой ён распараджаўся, як хацеў. «Наўлюбляўся, схапіў, па самае горла схапіў. На дармавое ўсё, каб патужыцца трохі — дык трасца, сам упірайся, сам цягай, а яна толькі смецце выносіць. Сам магу насіць, унь колькі цягаў! А сена, дровы, бервяно якое ў двор прыдбаць, памагчы — кукіш, ды шчэ з двух рук! Прыгрэў!»

Рыгор са злосцю кінуў на калёсы вяроўку, паклаў пілу, сякеру. Бы брага ў бочцы, так пачала варушыцца, тухкаць у скроні помста. У ім прачнуўся Рыгор, якім быў год дзесяць назад, той страшны Рыгор, які некалі выкошваў па семдзесят сотак травы, мог перавярнуць воз сена, паціснуць руку так, што дзень войкалі. Рыгор адчыніў дзверы, падпёр палкай, асцярожна выглянуў на вуліцу: яна была пустая, толькі дзе-нідзе ў хатах гарэла святло. Раніца толькі пачыналася.

«Позна ўжо, унь як вецер усхадзіўся, разгоніць хмары, і ўсё, тады праскочыш, аж гаўкнеш». У двары за хлявом працяжна і жудасна завываў сабака. Рыгор на момант застыў: «Галаву адсяку гаду, як прыеду. Колькі разоў збіраўся, не хапала шчэ гайню разводзіць...»

— Но-о, каб цябе, паехалі, — Рыгор узяў за аброць, вывеў кабылу на вуліцу. Было даволі цемнавата, і прыціснутыя да зямлі хмары зацыркалі мжой.

Холадна стала ў грудзях, бы за пазуху хто жменю снегу кінуў. Хоць Рыгор і не верыў у прыкметы, але сабакі вылі не на дабро. На вуліцы накінуў на галаву капюшон брызентавага плашча, зацягнуў папругу. Калёсы глуха затахкалі па няроўнай вуліцы, час ад часу ляскалі, скрыгаталі аб камені.

— Здароў, Рыгор! Куды сабраўся? — Міхед заліваў масла ў трактар, бразнуў вядром, павесіў за вочапку на фару трактара.

Рыгор не адазваўся, увабраў галаву ў плечы. «Успёрся ў такую рань, бач, стаханавец знайшоўся. Каб не бачыў, дык яно лепей. Ціха зрабіў, дый усё, толькі каб ціха. Нікога не чапаць, прытаіцца, бліжэй да зямлі, каб не знесла, от як ягаднік. Чапляйся за зямлю, яна вытрымае. Прытоіцца, але калі што — трэснуць па зубах так, каб не лезлі, не сунуліся не ў сваё...»

...Лес сустрэў варожа, насцярожана. Высокія стройныя сосны амаль упіраліся ў самае неба, у чорныя кудлатыя хмары. Дождж мацнеў, а над ракой ужо павіс доўгімі мутнымі пугамі. Рыгор спяшаўся. Праз гадзіну зусім развіднее, тады ўсё прапала, могуць убачыць. Калёсы паставіў крыху далей ад сасны, каб, калі падсячэ, не забіла кабылу. Тут жа зняў драбінкі, расцягнуў калёсы. Звязаў вяроўкамі задок і перадок. Потым зрабіў на камлі падсечку, зняў пілу. Выбіўшы ручкі, засунуў замест іх лазовую дугу і пачаў пілаваць.

Праз паўгадзіны сасна была распілавана на два ладныя кавалкі. Бліжэй падкаціў воз і пачаў спрабаваць іх ускінуць. Не ўдалося. Аднаму было цяжка, не пад сілу, таму Рыгор спачатку палажыў адзін канец, пачаў ладкавацца, каб ускаціць камель. Мокры, ён слізгаў па падстаўленым калу, падаў. Рыгор злаваў, нерваваўся, пнуўся з усяе моцы, ажно кругі ішлі ў вачах, пачаў выбівацца з сіл. «От каб удваіх, дык хутка было б... Удваіх спарней, каб трохі падсобіла — і ўсё. Бач, не захацела...»

— Добрай раніцы, мо дапамагчы трохі, а то вунь як успацеў. — Камель слізгануў па калку, балюча ўдарыў па калене, шмякнуў на зямлю. Рыгор адвярнуўся: «...От табе, каго ета прынесла, мо крывы, дык не страшна, уладкую з ім...»

Каля пня стаяў Антон. Рыгор бачыў яго некалькі разоў, калі прыходзіў у лясніцтва. Ведаў дрэнна, бо той жыў у суседняй вёсцы. «От уліп, але хай паспрабуе, паглядзім, хто каго...» Выгляду, што напалохаўся, не паказаў.

— Канечне, як прыйшоў, дык памагай. — Рыгор выцер рукавом лоб. Антон зняў сумку, ружжо, аднак, пакінуў на плячы, падышоў да воза. Удваіх яны хутка закінулі адзін, потым другі кавалак. Рыгор перахапіў повадам драбінкі, утыркнуў у бервяно сякеру, павесялеў:

— От і ўсё. Каб адзін, дык папарваў бы шчэ пуп.

— Ну, то паехалі, — Антон папраўіў стрэльбу, сумку, ляснуў спецыяльным малатком па белым пні, на якім адразу сталі відаць дзве літары — СП — самавольная парубка.

— Куды? — Рыгор неяк асеў, адчуў пагрозу ў голасе Антона.

— У лясніцтва, куды ж. Адвязём, саставім акт, грошы плаціць патрэбна. Хопіць, можа, ужо?

— Не лезь не ў сваё дзела. Крывы тут начальнік, не ты, хай і камандуе, — Рыгор узяўся за лейцы, — дадому павязу, от куды.

— Быў крывы начальнікам, ды няма. Знялі, я замест яго. Хопіць, папасвіліся нямала. Чуў я і пра цябе. Давай, вярні аглоблі, няма часу.



— Не лезь, Антон, пакуль па-добраму прашу.

— Не страшы, не баюся.

— Адыдзі! Раздзяру, як жабу! — вецер шыбануў у твар касяком даждждю, ірвануў шапку, сарваў. Рыгор, збялелы, з раскіданымі пасмамі валасоў, стаў страшны.

— Не пужай, бачыў такіх.

— Бачыў?! Дык на, шчэ пабач, — Рыгор з усяе сілы здаравенным кулаком ударыў Антона ў скіўіцу, хутка, па-маладому скочыў да яго, ірвануў з пляча стрэльбу. Ірвануў так, што раменная вочапка не вытрымала, лопнула на заклёпцы, размахнуўся і з усяго маху бразнуў прыкладам па смалістым пні.

— Ну і падла ж ты, Рыгор, от хто... — Антон адной рукой трымаўся за лейцы, другой — за скіўіцу. Згорбіўшыся, ён здаваўся зусім дзіцём супраць Рыгора. Потым хіснуўся, прысеў на мох. — Дарма, заўтра прывязеш... Сам прывязеш...

— Ето пабачым! Чакай, прывязу!.. — Рыгор вылаяўся. — Но-о, но-о! — Кабылка натужылася, ірванула з месца. Воз нехаця, павольна зарыпеў, паплыў наперад. Калёсы жавалі набраклую зямлю, крэмсалі мокры мурог, за возам заставаліся глыбокія каляіны. Рыгор крочыў побач. Дождж балюча сцябаў па твары.

«Перагрузіў трохі, але дарма, дацягнем, ужо мала засталося, а там дарога... Бач, прыперла гада!»

— Ну, яшчэ трошкі, унь і дарога. Но-о, маленькая... пераехаць бы канаву толькі, а там і дома...

Лес расступіўся, дарога віляла па лузе, мінаючы верцябы, нізіны, купіны. Абапал дарогі цягнуліся, упіраліся зялёным мурагом у сцяну лесу калгасныя палеткі. Дарога павярнула налева, некаторы час цягнулася ўздоўж рэчкі, дзе за дубовымі карчамі падала ўніз, упіралася прама ў ваду. У тым месцы было мелка, але адыдзеш убок — глыбіня немалая, не раз куляліся тут вазы з сенам, і таму для перасцярогі летам звычайна з аднаго берага да другога звязвалі і клалі жэрдкі, каб адзначыць мель.

— Тпр-р-ру... Цішэй, маленькая, Рыгор узяў кабылу за аброць, павёў да пераезду. «От табе і на, хто б ето жэрдкі знёс?» Пярэднія калёсы ўжо залапаталі спіцамі па вадзе, кабылка боязна тапырыла вушы, асцярожна пераступала, высока ўзнімаючы ногі. Рыгор ішоў наперадзе, мацаў нагамі дно. Да берага заставалася зусім мала, на паверхні вады ўжо паказаліся восі, калі задняе кола неяк асела, задок пацягнула, пачало хіліць.

— Но-о, но-о-о! Ну, напніся, унь жа бераг, — Рыгор цягнуў кабылу за сабой, але тая, відаць, ужо не магла нічога зрабіць, забілася, раздзімала ноздры, сапла, шырока выкаціўшы налітыя крывёю яблыкі вачэй.

— Чакай... трошкі чакай, падсаблю, — кінуў аброць, крыху ступіў убок, але праваліўся па пояс. Хапаючы рукамі за лопухі, амаль не паплыў назад. — Чакай, чакай, маленькая, от шчас падсаблю і выедзем... вы-е-едзем, не можа быць!

Задок зацягвала, усё больш хіліла, воз перакасіла, перадок пачаў узнімацца. Рыгор ухапіўся за кола, ірвануў уперад. Хруснулі суставы, балюча кальнула ў пояснiцы, жываце, але воз нават не здрыгануўся».

«...От зараз... каб хто падсабіў, каб...»

— Но-о-о! — Рыгор з апошняй надзеяй раўнуў на ўсе грудзі, налёг на бервяно. Кабылка рванула наперад, потым асела, ажно хамут павіс на галаве, кінулася направа. Воз перакуліла, пярэднія колы падняліся ўверх,

сталі ўздоўж воза. Правае задняе кола павісла над вадой, бервяно слізганула па ручцы воза, балюча ўдарыла ў грудзі. Рыгора адкінула назад, ён бухнуў у ваду.

«...От табе і прывёз... Сам сабе на бяду...»

Ён сутаргава грабянуў рукой, ужо амаль не хаваючыся з галавой пад вадой. На дзіва, у апошні момант пальцы, бы кляшчы, абхапілі тоўсты дубец лазіны, і ён неяк ужо несвядома пацягнуў яго да сябе...

Халодны вецер сцінаў дыханне, цісиуў грудзі, забіраў ажно ў нутро. Мокры як квач, ледзь-ледзь жывы, Рыгор цягнуўся хмызняком дадому, чаўкаў поўнымі вады ботамі па грузкім тарфяніку. Кабыла збегла, а воз так і застаўся там, у рачулцы. Ля самай вёскі прыпыніўся, прыслухаўся. Ціха. Над комінам яго хаты тоўстай шлейкай падымаўся дым і шырокім полагам слаўся па зямлі, цягнуўся па разорах у гародзе, едка казытаў у носе і пякуча выядаў вочы.

У хаце было цёпла. І ён, нейкі зніякавелы, ссутулены, паволі пабрыў да прыадчыненых варот.



*Іван Рубін*

**МІР**

**Знаёмы кут—**
**сасоннік,**
**беразняк...**
**Жыццё аддам, здаецца, за сініцу,**
**І з радасцю прыкленчу прад крыніцай,**
**І кіну ў серабро яе**
**пятак.**

**Тут Мір**
**вартуе мір адвеку**
**Пад зоркаю нязгаснай у сусвеце.**
**Тут продак мой**
**і сто гадоў,**
**і дзвесце**
**Быў рады слову добраму**
**і чалавеку.**
**Не толькі назву—**
**гарадок знішчаў**
**Не раз азлоблены тэўтон-вампір.**
**А ты жывое свету завяшчаў**
**Не толькі сваёй светлай назвай—**
**Мір.**

**Зямную вось у бок дабра**
**Ты памагаў круціць з маім народам**
**Наперакор маньякам,**
**нелюдзям-звярам.**
**Я веру,**
**Мір,**
**Ты з цвёрдае пароды...**

■

**За першай зялёнай развілкаю**
**Вітанне найлепшым сябрам.**
**Мне кожнай знаёмай галінкаю**
**Сасонкі жадаюць дабра.**

**Сцяжынкай лясной мураўінаю**
**Я выйду да спелых суніц.**
**Ласі расяной лугавінаю**
**Дарогу пратрусяць уніз.**

**Крыніца заплешчацца нудна**
**Ў зялёных далонях стаўка.**
**Няхай не абвугліцца грудкай**
**Травінка, душа і рука.**

**Няхай застанецца на свеце**
**Хоць гэты у сэрцы куток.**
**Казычацца ласкава вецце,**
**Пульсуе крынічны глыток.**

■

**Дух сумненняў—прабуджэнне.**
**Спасціжэнне ісціны, сцвярджэнне,**
**Дзе тваё сапраўднае карэнне?**
**Ад вытокаў мудрасці не кніжнай?**
**Хто твой продак самы бліжні,**
**Вольны рух ці буйны нораў**
**(Прывілея а ці гонар?),**
**Што пушчанец, мой нашчадак,**
**Не тушыў ніколі горан,**
**Гартаваў нарог і меч,**
**Прад чужынцам не гнуў плеч**
**І на слова быў ашчадны?**
**Дух сумненняў, як гарэнне,**
**Праз пакуты абнаўлення.**
**Праўды нашай паскарэнне—**
**Праз вякі яе свячэнне:**

 

Не пытацца без прычыны,
Што ты значыш для Айчыны.

## МОЙ АРКЕСТРЫК ЛУГАВЫ...

Мой аркестрык лугавы,
Звон пчаліны, звон мядовы.
Для мелодый тваіх словы
Спеліць голас векавы.

І высокай думы завязь
Ты мне, родны, падарыў,
Што лунае песняй зараз
На знаёмы наш матыў.

Мой стары сівенькі дом
Засумуе, сустракае.
У забытым родным краі
Пахне мёдам, палыном.

Дакрануся да травы,
Сяду моўчкі пры бярозе.
Што сыграеш на парозе,
Мой аркестрык лугавы?

Кажуць,
Сёння не ў пашане,
Твае песні адышлі.
Па рацэ вянкі сплылі,
Адыходзяць гараджане.

У тумане паплавы,
Дні і людзі пасівелі.
Песні ўспомні і вяселлі,
Мой аркестрык лугавы.

Зрэдку
Вясновую кветку
Надзеі дарыць.
У май
Салаўіную клетку,
Душой пасвятлеўшы,
Адкрыць.

Балюча адчуць,
Што так хочацца
Жыць,
Голас пачуць—
Нехта насустрач бяжыць.

Гору чужому
Умець спачуваць,
Гонар суняць.
Тваёю усмешкай світаць—
Каханым быць
І кахаць.

## МЯШЧАНЕ

Маладосці берагі крутыя
Размывае хуткая вада.
Мы гаворым — мы ужо не тыя
І ступаем па чужых слядах.

Аглянецца нехта раптам.
Як дакор, папрок нямы.
Пацішэла наша радасць —
Мы гаворым, што не мы.

Абрастаем ціха бытам,
Нібы раскаю густой.
І душа, глядзіш, забіта
Для бяды людской, чужой.

І ні споведзі, ні слова.
Так пражыць, як набяжыць.
І навошта тая мова,
І за што ёй даражыць?

Крэпасць-дом, дастатак сыты,
І не лезь ты на ражон.
Абы добра, абы ціха—
Вось і крэда ўжо закон.





## *Леанід Пранчак*

■

Прайшлі,
Адбалявалі халады.
Старыя клёны
Распраўляюць плечы.
І слепіць неба
Яркасцю сінечы.
Дзе выган быў,—
Там возера вады.

Пачуцці і жаданні—
Цераз край.
Прыйшла пара
Забыць сваю знямогу.
О як гудзе паводкі бурнай грай!
Зіма мінула...
Ну і дзякуй богу.

Крыляюць мары смелыя мае.
Бунтуе ў прадчуванні шчасця сэрца...
Зіма мінула.
Жаўранак пяе,—
Нібы мая каханая смяецца!

■

Цягнік у 18.48.
Перон вячэрні—
Брудны і пусты.
Дажджлівая няветлівая восень
Шпурляе ў твар пажоўклыя лісты.

Не хочацца нікуды сёння ехаць.
Гнятлівая ціша.
Свецяць ліхтары.
Глухое і раскацістае рэха
Гукнула і згубілася ў бары.

Я растварыўся ў часе.
Стаў крылатым.
Ля зорак не спалохаўся згарэць.
Сагрэўся сам пад хмараю кудлатай,
А дзе і як душу сваю сагрэць?

Гарачы лоб змакрэе і астыне.
Спушчуся на зямлю,
Дзе золь і ціш,
Дзе жураўлём
З засмужаных вышыняў
Ты аб любві знясілена крычыш...

■

На золаку пайду
З цяпла твайго каўчэгу.
У лабірынтах дум
Чакаю снегу.

На ростані шляхоў
Бадзяцца рэху.
У вабнасці грахоў
Чакаю снегу.

Жаданне цішыні,
Святла і смеху.
І прага чысціні:
Чакаю снегу.

Гарыць лістоў агонь
Нам на пацеху.
Няма чакаць каго.
Чакаю снегу.



 

■

**Сцены голыя.**
**Вокны наросхрыст.**
**Апусцела, знямела кватэра.**
**Напамінкам аб радасці—**
**Роспіс:**
**Галубы на блакітных шпалерах.**

**Апусцелі,**
**Стаміліся душы**
**Ад бяды,**
**Ад журбы і адчаю...**
**Ад такой безвыходнасці скрушнай**
**Галубы**
**У акно вылятаюць...**

■

**Ты лёсу майго іскрынка —**
**У сэрцы на самым дне.**
**Горыч, а не гарчынка**
**У перасмяглым віне...**

**Горыч балючай страты.**
**Востры, пранізлівы боль...**
**Жыву на зямлі вінаваты**
**У тым,**
**Што жыву не з табой...**

■

**У руках—**
**Сініца маладая.**
**Кружыць галаву**
**Вясновы хмель.**
**А цябе чамусьці захапляе**
**У блакітным небе журавель.**

**Зацвілі на ўзлеску незабудкі,**
**Прагрымеў над рэчкай першы гром.**
**Адпусці сініцу з рук бялюткіх:**
**Хай ляціць!**
**Мо стане жураўлём...**



# Пад гістарычным ветразем

Твор Уладзіміра Дзюбы ёмісты па задуме, незвычайны па вырашэнню. Ён не кладзецца ў «чыста» жанравыя рамкі: што гэта—паэма, драма, раман? Хутчэй—іх сінтэз. У час жанравых збліжэнняў і ўзаемаперапляценняў—нармальная з'ява. Я сказаў бы—дужа патрэбная мадыфікацыя. Яе ўнутраная змяшчальнасць, грузапад'ёмнасць можа быць агромністай. Не кожны асмеліцца ўзысці на капітанскі мосцік такога карабля.

Трохі нечаканая, што У. Дзюба, параўнаўча «малады» ў творчасці, размахнуўся на «драматычную адысею», якая патрабавала не толькі прыроджанай здольнасці, але і як бы рыўка ў сталасць, вымагала грунтоўнай дасведчанасці ў гісторыі, арыенціроўкі ў моры фактаў і падзей, да таго ж—спакушанасці ў творчых уроках папярэднікаў—нашых нацыянальных флагманаў (Купала, Куляшоў) ды і ў сусветным эпічным вопыце (Мільтан, Шэкспір, Шылер, Байран, Пушкін, Міцкевіч). Так здарылася, што ў беларускай літаратуры гэты ёмісты жанр (асабліва ў асэнсаванні гістарычнай праблематыкі) доўгі час не быў па-сапраўднаму абжыты. Куляшоў невыпадкова праслаў сваю «ластаўку» да Шэкспіра, і яна, шчасліва вярнуўшыся, паспрыяла адраджэнню беларускай драматычнай паэмы («Хамуціус»).

Ды невыпадкова кажуць: талент—гэта і жанр. Пісьменнік вымушаны лічыцца з законамі жанру, але жанр неабыякавы да прыроды дару аўтара. Чытач будзе мець прыемную магчымасць адкрыць у асобе У. Дзюбы адметную здольнасць творчага мыслення, дзе паэт памагае драматургу, а драматург празаіку. І што надзвычай важна—дар пераўвасаблення. Без яго немагчыма «сыграць» свайго героя, асабліва вядучага, з якім аўтар падзяляе настроі, перажыванні, ідэалы, вандраванні, небяспекі, усе злыбеды, высокія ўсплёскі духоўнасці.

Такой менавіта, каларытнай, жыццёва-неўтаймаванай, велічнай у спраўджаннях рэвалюцыйных ідэалаў, акрэслена постаць «доктара Руселя», слыннага Міколы Судзілоўскага, сына беларускай зямлі, якому суджана было стаць дзеячам міжнароднага рэвалюцыйнага руху. У лепшых раздзелах і сцэнах твора («На Сажы», «Вулканы Еўропы», «Балканы—арліныя гнёзды», «Прэзідэнт Гавайскіх астравоў»), у грозных сутычках і роздумных маналогах, ён то рызыкоўна-рашучы, далёкасяжна-відучы, то сціплы, тактоўны, даверлівы, міласэрны, як і належыць доктару. Але гэта не толькі чарадзейны доктар у вачах пацыентаў, параненых. Гэта доктар мужна-высакароднага намеру—лячыць Чалавека з вялікай літары, памагчы пазбавіцца ад немачы чалавецтву.

Таму так важна было ў творы паказаць «доктара Руселя» на шматлікіх, самых гарачых пунктах і месцах змагання (Магілёўшчына, Кіеў, Румынія, Гаваі, Японія), у жывых дзейсных сувязях з усім ускалыхнутым людам, з паплечнікамі, правадырамі (Хрыста Боцеў, Маркс, Энгельс). Каардынаты зямныя і духоўныя—невымерныя! Аўтар сутыкнуўся з той «звышзадачай», якая або «раскрыжуе» яго, або падцягне ўверх, выявіць патэнцыяльныя сілы (калі прастамоўна—будзе цягнуць «за вушы»!). Сутыкнуўся з неабходнасцю—высвеціць спосабамі і сродкамі мастацкімі—не проста праз «дыялагізаванне», а праз псіхалагічныя дэталі, праз светабачанне герояў. Трывожна займалася зара новай рэвалюцыйнай эры...

Не ўсё ў творы (асобныя сцэны, пераносы дзеі, персанажы) пазначана бездакорнай пячаткай майстра. Ёсць пэўная фрагментарнасць, вымушаная празаізацыя. Хоць белы пяцістопны ямб у цэлым добра шчыруе, працуючы на мяжы з прозай, з годнасцю спаўняе яе ролю. Выпадкі інфармацыйнай апавядальнасці, пераказу можна зразумець. Фактычная аснова агромністая. «Супрацiўленне» матэрыялу—таксама. Жанравы тып «адысеі» працуе з загружанасцю да краёў. Хоць і не без выдаткаў. З'яўленне такой рэчы ў нашай літаратуры трэба вітаць.

Мікола АРОЧКА



*Уладзімір Дзюба*

# ДОКТАР РУСЕЛЬ

ДРАМАТЫЧНАЯ АДЫСЕЯ *

## ПРАЛОГ

*На ростанях курган у ружаватай смузе. З-за кургана ўстае расой умытае сонца. Заясніцца воблік зямлі, у павевах ветру і пошуме лісця пачуецца вешчы голас, быццам сама зямля-матухна прамаўляе:*

Пад кожнаю сасной, пад кожным курганом
Паснулі мае дзеці вечным сном.
Я помню іх. Яны — не чэзлы прах.
Жыву, трымаюся на іх плячах.
Гляджу вачамі іхнімі на свет,
На сіні снег, на яблынь першацвет.
У спратах часу, верныя сыны,
Прачніцеся, рассыпце курганы!

*Тады на кургане вырастае постаць сівога вандроўніка з посахам.*

Вандроўнік
Я з разгуканых ростаняў дарог
Дастаўся, родная, на твой парог.
Я — доктар Русель. Выцвіў ён зусім
У сховішчах архіўных, псеўданім.
Бярозавы святлісты росны гай
Шапоча мне: Мікола... Мікалай...
Быў хатай свет. Цяжкая падарож.
Вярнуўся з выраю. Здарова, Сож!

---

* Часопісны варыянт.

Мал. **А. Карповіча.**

 

# ГОРКІ ВЫРАЙ

*Пакінуўшы Расію ў 1875 годзе, я абараняў свае пазіцыі і адначасна ратаваў сваю душу ад засілля драпежнікаў у розных пунктах зямнога шара. Маю шчасце: пасля 40-гадовай службы справе рэвалюцыі ў Расіі дажыў да падзення нашай Бастыліі.*

Мікалай Судзілоўскі

## Фастава

**(май 1874)**

*Маляўнічыя краявіды Мсціслаўшчыны. Маёнтак двараніна Канстанціна Судзілоўскага, калежскага асэсара, сакратара Магілёўскай палаты грамадзянскага і крымінальнага суда.*

*Яго сын Мікалай крые альтанку. Падыходзяць бацькі.*

Мікалай
Падайце мне цвікі і малаток.
Бацька
*(падае)*
Сынок, няўжо цяслярыць навучыўся?
Мікалай
Нарэшце ацанілі! Я альтанку
Адштукаваць рашыў вам у дарунак.
Бацька
Не, не, ты толькі, маці, падзівіся,
Як грае гэблікам наш Мікалай!
Маці
Якія ж гэта, Канстанцін, дзівосы —
Наш Коля вырас, свету ён пабачыў.
І працавіты. А таго дваранства
Ў ім — ні на зерне макавае... Хват!
Бацька
Сынок і праўда ж хлопец майстравіты.
Во толькі тыдзень дома павярнуўся —
Глядзі, нібыта ў казцы той, альтанка!
Яшчэ дзянёк...
Мікалай
До! Перахваліш, тата...
Маці
То чуе сэрца — як жа не старацца:
Нявесту, мабыць, хоча ў дом прывесці —
Дзе выглядзеў?.. Імя хаця назваў бы...
Мікалай
Што ж, мама, назаву імя вам. Савіч!
Любоўю Фёдараўнай велічаюць.
А родам з-пад Чарнігава...



Бацька
Дай божа!
Унукаў дачакаемся.
Мікалай
Не, тата!
Мне выпаў іншы лёс: я ў вас вандроўнік...
Не беларучка. Поўдзень наш і поўнач
Ніхто так не схадзіў, як я з сякеркай!
Цясляры́ў я. І гавары́ў з людзьмі,
Адумаліся каб ды гналі сон!
Я веру: мы народ яшчэ разбудзім.
Нас шмат...
Маці
А хто яны, твае сябры?
Мікалай
Сябры мае, таварышы Кавалік,
Каленкіна, Сцяпняк-Краўчынскі, Кабліц,
Дэйч... Сотні...
Маці
Сын, вас цар усіх загубіць!
Мікалай
Не зломіць суд, і высылка не зломіць.
Мы выбралі дарогу, не саступім.
Маці
Што ж гэта будзе?
Бацька
Сын! Паслухай бацьку.
Цябе, усіх вас, бачу, скрозь абклалі —
Не вырвацца... Едзь да нявесты, чуеш?
Жаніся. Супакойся. Не яршыся
І не прасі ў цара спагады тое.
Не з тых ён, хто даруе... Я хацеў бы,
Каб ты забыў на ўсё — цябе забудуць.
Мікалай
А хіба птахі гнёзды ўюць тады,
Калі пара прыйшла збірацца ў вырай?
Чакаць, што вецер шчасце прынясе?
Сябе ў муры пустых надзей хаваць
І верыць, што галоўка ацалее?..
Даруй мне, тата.
Бацька
Сын, не мне табе
Дарогу выбіраць. Калі дзяўчыне
Даў слова ты...
Мікалай
Яе наведаць мушу.
Яна мяне павінна зразумець.
Маці
Сынок, але ж няблізкі свет — Чарнігаў.
Не дойдзеш пешшу. Па чыгунцы можна...
Ой, не, забудзь чыгунку! Там жа шпегаў —
На кожным кроку! Высачаць цябе...
Мікалай
Знайду я спосаб. Не хвалюйся, мама.
*У гародзе пяюць дваровыя дзеўкі.*
*Ой, ляцелі жураўочкі,*
*Пасеялі слёзы-крывінкі.*
*І ўзышлі, прараслі журавінкі...*



 

Бацька
Найлепш у чоўне па Сажы падайся...

*З гарода чувацъ песня.*

*Журавы на адлёце кружылі,*
*У крыку смутным тужылі.*
*Адкрычаўшы, знямелі,*
*У чужыну паляцелі.*

Мікалай
Спяваюць, што на сэрцы, у душы...

Маці
*(плача)*
Сумотна птушкі пакідаюць гнёзды...

Мікалай
Я не забуду гэтай песні, мама.
Прашу цябе, дай у дарогу мне
Кісет, які ты ўчора вышывала.
Там бераг Сожа, роднага да болю,
І шэры воўк, на ім — вярхом Іванка.

Маці
Не скончыла я, не паспела, сынку.

Мікалай
Здалёку, мама, я назад вярнуся —
Тады ты і закончыш свежай ніткай.

*Маці збірае ў дарогу.*

Бацька
Баішся — схопяць...

Мікалай
Нават смерці, бацька,
Я не баюся. Ды загінуць марна
Я не хачу. Пра гэта толькі маме
Нічога не кажы.

Бацька
Я разумею.
Каму ты, сыне, прысягнуў?

Мікалай
Народу.
Сваёй Радзіме і народнай волі,
Радзіма без якой чужой здаецца.

Маці
*(з вузельчыкам)*
Ты штосьці з бацькам тоіш ад мяне?

Бацька
Пра волю гутарку вядзем, пра волю...
Але адкуль ён, буйны вецер, прыйдзе,
Калі разбудзіць нетры цёмнай пушчы?

Мікалай
Такі вятрыска ёсць — сыны Расіі.
Ёсць племя маладое. Гэта племя
Святло навук пазнала, горыч праўды.

Бацька
Былі арлы не толькі на Сенацкай.
Яны, як Пугачоў, з маны вялікай
Скрозь пачыналі, тут жа абвяшчалі
Сябе нашчадкамі цара, што царскай
Крыві яны і род іх знакаміты.
Яны супроць падману выстаўлялі



Падман ці не таму, што ў свеце больш
Няма надзеі між людзей, а праўда
Адолець крыўду зможа ў рэшце рэшт.
Табе, тваім сябрам не раз сялянскі
Пазнаць даводзілася цёмны гнеў,
Калі вы ўсклацці на цара віну
Паспрабавалі...

Мікалай
Уцякалі нават
Ад мужыкоў, калі нас тыя ў рукі
Ледзь-ледзь ураднiку не аддалі.
Мы пойдзем толькі шляхам праўды, покуль
Яна не стане вераю народнай.
І нас не раз адчай цягнуў на дно.
Згнілі адны ў цэнтралах, і знявера
Даводзіла да самагубства іншых
І нават да ганебнага — да здрады.
Ды між сяброў маіх і аднадумцаў
Было і застаецца шмат нязломных
Патужнікаў, што зломяць цёмны мур.

Бацька
Сумненняў жорны ў перамол тваю
Душу ўзялі. Самому мне вядомы
Бязлітасны каменны холад іх.

Мікалай
У нас не мара — мэта ёсць: стварыць
За межамі кайданнае Расіі
Такую лучнасць грамады, якая б
Змагла народ узняць супроць манарха,
І вырваць люд з ганебнага палону,
І адгукнуцца ў новых пакаленнях
Рэвалюцыянераў. Часам думаў:
Мы быццам жоравы, што прыляцелі
Заўчасна і прынеслі без пары
З сабою напамінак аб вясне.

Маці
Сынок мой...

Мікалай
Мама!..

Маці
Любы... На расстанні
Вазьмі з сабой зямелькі нашай, Коля.
У гэтую зямліцу на чужыне
Зярнятка кінеш — прарасце Радзіма.

Бацька
Лёс Каліноўскага табе вядомы.
Ён быў. Яго няма. І тысячы
Галоў з плеч пакаціліся. А іншых
Таксама недзе тысячы гібеюць
На катарзе сібірскай. Я малюся,
Каб ты жывы вярнуўся...

*А на гародзе не моўкне песня.*

*Адкрычаўшы, знямелі,*
*У чужыну паляцелі.*
*На далоні маёй журавінкі...*

# На Сажы

*Бераг ракі пад шатамі бору. У чароце, якім зарасла затока-старыца, Мікалай Судзілоўскі садзіцца ў човен. З кустоў разлёгся басавіты голас:*

Спытацца трэба. Тут я гаспадар.
Ну, што супуціўся? Выходзь сюды!

Судзілоўскі
Хто вы?

Пархом
Ты з чоўна выйдзі і зірні!

Судзілоўскі
Дзень добры вам!

Пархом
Дабрыдзень, чалавек.
Сядай на пень — працягам дуба будзеш.

Судзілоўскі
Гляджу я, дубу век укарацілі.

Пархом
Але хіба ў цябе душа, нібыта
Той дзьмухавец?

Судзілоўскі
Суцішна тут, і вецер
Не распаветрыць дзьмухаўца...

Пархом
Ды ты
Сядай ямчэй. І перад дубам надта
Не выстаўляй, брат, гонару. Жыў мудра
Вячысты дуб. Не кланяўся нікому.
Самому перуну не саступаў,
Пакуль той бліскавіцаю зласліва
Не падпаліў бакі яго сівыя.
А я сякерай сажанёвы ствол
Счасаў, і вось, як стол, ён перад намі.
Харчуюся я тут. Прыемна думаць,
Што можа хоць крыху дуб перадаць
Сваёй мне сілы з каранёў глыбінных.

Судзілоўскі
Удзячны я спагадзе і пашане.

Пархом
Яшчэ калі цябе не бачыў я,
Мог думку мець, хто ты такі.

Судзілоўскі
Даруйце,
Не надта што ў прадбачанне я веру
Тых ясназорцаў, ведаюць якія
Пра долю-лёс вандроўніка, не чуўшы,
Не бачыўшы.

Пархом
Каб думка не блудзіла,
Спыню цябе. У гэты кут вярнуўся
Я толькі ўчора. А хадзіў жа я
Далекавата, гэтак вёрст за дваццаць.
Жыве адзін там графскі палясоўшчык.
Жыве ў засценку. Я мяняць насіў
Туды мірона вэнджанага, зёлкі,
Што ад зямлі лясной і лугавой



У добрай змове з сонцам сок гаючы
У сцёблы набіраюць, як пітво,
То лекі ад хвароб падступных, хлопча.
Дык я й занёс — хай спажываюць людзі.
Мне круп яны адсыпалі на кашу.
І солі нават.

Судзілоўскі
А вы тут адны?

Пархом
Ты малады і нецярплівы, бачу.
Як паджаробак, што каню старому
Дарогу забягае напачатку.
Пасля прыстане, галаву апусціць
І ледзьве-ледзьве цягнецца за возам.
Тут конь стары і вымушаны збочыць
Са шляху на папас. Я кашу ўспомніў —
І ты ўстрывожыўся: відаць, не еўшы,
Як той мядзведзь, што за зіму схуднеў,
На Юр'я на нішчымнага нарэшце
З бярлогі вылез, згаладаны ўшчэнт?

Судзілоўскі
*(усмешліва)*
Ад праўды мне не збегчы.

Пархом
Пацярпі.
Не забягай — бліжэй к папасу будзеш.
Хадзіў я не адзін. Са мной была
Прыручаная чапля. Дык яна
Ўстрывожылася раптам: круг зрабіўшы,
Апала на маё плячо імгненна,
І ў птушкі задрыжала дзюба,
Спалохана зашчоўкаўшы. Выходзіў
Я на дарогу стоена. Пачуў,
Як фыркнуў конь. Затым — і галасы.
Я ненадоўга затрымаўся там.
Мы з чапляю гушчарнікам глухім
Паціху месца абагнулі тое,
Пайшлі сваёй сцягою.

Судзілоўскі
Хто ж дарогу
Вам заступіў?

Пархом
Я і чакаў, што ты
Спытаеш. Так бывае: чалавек
Куды больш пра сябе тады гаворыць,
Калі пытае. Многа менш, калі
Расказвае ён пра сябе. Жандараў
Засела зграя там. Крумкач цікуе
Хвіліны, калі кроў ахаладзее,
Жандар цікуе кроў адно жывую.
Што скажаш? Ці не так?

Судзілоўскі
*(з усмешкай)*
Калі пытае,
То пра сябе гаворыць чалавек.

Пархом
Спрыцён на слоўца! Хай жа будзе так,
Нібыта я і не пытаў. Вунь каша

Пад папараццю. І гарбата побач.
Не надта, праўда, каб зусім гарбата,
Падвар з травы-буцейкі, што казінец
З ног выганяе. Дзікага мядку
Для госця знойдзецца падгарчык. Еш!
Еш, чалавек. Адна вось толькі лыжка.
Тады табе і пачынаць.

Судзілоўскі
Не трэба.
Ёсць ножык у мяне.

Пархом
Хто есць нажом,
Той з'есць ражон. Мы лыжкаю адной
Лепш паямо. І будзе, можа, лепш
Табе са мной інакш загаварыць?
Еш, чалавек... Табе я «ты» кажу,
А ты мне «вы» ды «вы». Вось лыжка нас
І параўняе.

Судзілоўскі
Проста як і мудра!

Пархом
Дык ведай: лыжка некалі людзей
Няроўнымі зрабіла. Бо дужэйшы
Узяў большую, а меншую — слабы.
З таго пайшла няроўная дзяліцьба.
Адсюль пайшоў нязводны ўвесь падман.
І тут, і там.

Судзілоўскі
Калі б на ўсіх ды лыжка
Адна была!

Пархом
Жуй, чалавек, жуй лепш.
Не разжуеш — і смаку не пазнаеш.

Судзілоўскі
Хто вы такі?

Пархом
Калі зноў кажаш «вы»,
Да дна вышкрэбвай кашу...

Судзілоўскі
Мне таго
І трэба, мусіць.

Пархом
Што ж, яшчэ наварым.
Да вечара далёка. Ты пытаеш,
Хто я. А на тваё як вока? Ну?

Судзілоўскі
Маглі б вы мне за дзядзьку быць. Па ўзросту.

Пархом
Напэўна. Дык хіба пляммяш не можа
Сказаць у шчырасці бяскрыўднай дзядзьку
«Ты»?

Судзілоўскі
Можа. Так! Каго сустрэў я сёння
Тут, на Сажы, сказаць нялёгка: хто ён,
Не ведаю. Ды не хачу, прызнацца.

Пархом
У нетрах, між Дняпром і Сожам, закуць
Надзейная мая. Як зваць цябе?



Судзілоўскі
Мікола.

Пархом
Дык Мікола... Што ж, цікава!
Але на ўгодніка ты не падобны
Пахваткаю. Не з ціхага гнязда
Узвіўся сокал. Пі, юнак, гарбату.
Напэўна, ведаеш ты гарадок унізе,
Завецца Веткай. Там на свет з'явіўся
І там асірацеў. І закруціла
Шалёным вірам доля мая крута.
Павінен быў рабіць я ўсё, бо ўсім
Памочнік быў. У рыбака, у цеслі,
У бортніка, у каваля. Было,
І ў балагола там ці ў скамароха.
Усюды быў адзіны паратунак —
Умей і паспявай! Усё я мусіў
Умець. Мяне прыставілі аднойчы
Да панскай псярні нават. І стары
Ахрэм, з вядзьмарскай хваткай егер, выць
Па-воўчы навучыў мяне. Я выў.
Выў, да зямлі прыпаўшы, і выводзіў
Выццём ваўчыну зграю на сябе.
Паны забаву мелі. Асабліва,
Калі ўдавалася ваўкоў напляжыць.
Аднойчы зграю на сябе я вывеў,
Ды іншая забава паляўнічых
Спыніла недзе. На мяне глядзелі
Жахліва вочы воўчыя і хіжа
Гарэлі. Я ад страху выў зацята.
І думалі ваўкі, чаму тут верыць —
Вачам альбо вушам?

Судзілоўскі
Відаць, вушам?
Інакш я не сустрэў бы вас сягоння...

Пархом
Мікола, ах, Мікола... Я адзін
Перад табою, а ты зноўку «вас»...

Судзілоўскі
Не буду больш. А што далей?

Пархом
Ахрэм
На выручку мне прыскакаў. З сядла
Саскочыў ён, ударыў з дубальтоўкі,
І воўчая разбеглася аблога.
А я свой голас страціў, анямеў.
Мяне прагналі з псярні. На Сажы
Я пасяліўся, як манах, у пушчы.
Рака і паплавы, дубы і сосны,
У хмарным небе вырай жураўліны
Са светам размаўляць зноў навучылі.

*У месячным святле пераліваецца рухомае серабро ракі. На вёслах Судзілоўскі і Пархом.*

Пархом
Не першы ты ўцякач, стрывожана-пануры,
У Сожа на плячах калышаш хмары-думы.

Мой дзед — на свеце ён сто вёсен адвясляры —
Калісьці човен гнаў апоруч з Пугачовым.
Судзілоўскі
Сівая байка.
Пархом
Што ты! Ямеля здзёр пагоны,
Прыгнёт салдатчыны пракляўшы ў царскім войску.
Хаваўся ён у нас, у кузні старавера,—
У Ветцы з веку ў век для вальнадумцаў прыстань.
Смалой, свабоды ветрам, далечынёй прапахлі
Каната скруткі там і лайбы з якарамі.
Судзілоўскі
А Пугачоў?
Пархом
Арол на родны Дон падаўся.
Глядзі! За згонам згон у досвітным тумане
Плыты, плыты плывуць. Мы з маху іх дагонім!..
З баграмі плытнікі і хатка вунь на згоне.
Куды, куды вы, хлопцы, з роднай баравіны?
Галасы:
— А мы ў Дняпро!..
— У Дняпро!..
— На Украіну!..
Пархом
Тады ў арцель вам з ходу дзецюка падкіну!
Судзілоўскі
Бывай, Пархом, бывай. Развёў ты мне бяду ўсю.
Пархом
Адно хачу, каб ты на родны Сож вярнуўся.

# Паром на Дняпры

**(чэрвень 1874)**

*Досвіткам завозна на дняпроўскім пароме: галас, вазы, брычкі, груды скрынак, кошыкі,— хто ў поле, хто на ранішні рынак, хто з далёкай ці ў далёкую дарогу. Адчальвае цяжка гружаны паром. З-за пагорка вылецела жандарская тройка. Прарэзлівыя свісткі, каб запыніўся паром.*

Селянін
Тпру! Мілы чалавек, дапамажы!
Пакуль я гэта на паром уз'ехаў,
Намэнчыўся з канём. Бач, як храпе:
Дняпра не бачыў... Дужая рака!

*Ён крычыць Судзілоўскаму, якога цяпер не пазнаць: цірольскі капялюш, куртка, боты, рыжая бародка.*

Э, мілы чалавек, не разумееш
Па-нашаму?..
Судзілоўскі
Гут! Гут! Дніпро... Дні-про-о-о!
Селянін
А-а... З каланістаў, мусіць... Значыць, немец.
Пан ахвіцэр, я замінаць не буду.
Лявей падамся з возам. Тпру! У, чорт!



Ротмістр
На д'ябла гэты каланіст падобны.
Судзілоўскі
*(смяецца)*
Гут! Гут!
Ротмістр
Гэй, Шаўлюкоў, ідзі сюды!
Вахмістр
Арыштаваць? Не, гэтага няможна.
І праўда ж, каланіст. А праз яго
У няміласць трапім мы да гасудара.
Такія немцы скрозь тут на Дняпры —
Указам царскім дадзены валокі.
Ротмістр
*(ціха вахмістру)*
А Судзілоўскі? Судзілоўскі дзе?!
Вахмістр
На тым ён, пэўна, беразе даўно.
Ротмістр
Адчальвай! Ды хутчэй, жвавей, паромшчык!
Вахмістр
А вось і сонца.
Ротмістр
Мне б зацьменне лепш.
Вахмістр
Царазабойцы за мяжу — цю-цю!
Ротмістр
Тут каланісты, там — царазабойцы.
Вахмістр
Але за рэдзьку хрэн не саладзейшы.

*Паром марудна скрануўся, падаўся ў развароце — кармой па плыні.*

# ВУЛКАНЫ ЕЎРОПЫ

*Пасля выступленняў Маркса і Энгельса на трыбуне Судзілоўскі, беларус, шкадаваў, што залішне юны ўзрост не дазволіў яму браць удзел у паўстанні 1863 г., але жыццё, якое тады кіпела вакол яго, пабудзіла ў ім глыбокае спачуванне да гераічных абаронцаў волі і сталася апірышчам яго адносін да гэтага руху.*

Польскі часопіс «Wici» —
Цюрых, 30 студзеня 1875 г.

*«Рускія сацыялісты ў Лондане і Цюрыху просяць мяне прыехаць альбо стаць іхнім пасрэднікам. Яны хочуць наладзіць сувязь з нашымі рэвалюцыянерамі. Прапаноўваюць абменьвацца прапагандыстамі, пашпартамі і г. д. «Мы гатовы дапамагчы вам і маральна і фізічна, г. зн. і словам і фізічнай сілай»,— піша мне адзін стары спалучнік Судзілоўскі».*

З пісьма Хрыста Боцева Івану Драсаву —
Бухарэст, 12 красавіка, 1875 г.

# На Тэмзе прывід Кастуся

**(Лондан. 23 студзеня 1875)**

*На мітынг, прысвечаны 12-й гадавіне паўстання 1863 года ў Польшчы, Літве і Беларусі, сабраліся прадстаўнікі рэвалюцыйна-дэмакратычнай эміграцыі Францыі, Расіі, Германіі. Найбольш прадстаўнічая дэлегацыя «Люду польскага» — секцыі I Інтэрнацыянала: побач з палякамі беларусы, украінцы, літоўцы, чэхі, сербы.*

Карл Маркс
*(выступае)*
Не толькі адзіны славянскі народ,
Польшча — адзіны ў Еўропе народ,
Рэвалюцыйным хрышчоны агнём,
Як усясветны свабоды салдат.
Амерыка, Венгрыя, Францыя — скрозь
За волю лілася братэрская кроў.
Лепшых сваіх генералаў, салдат
Польшча Парыжскай камуне дала!
Рабочае партыі мэта — скрышыць
Крывавых падзелаў, прыгнёту ярмо!

*Апладысменты*

Я веру: свабодай абвеснены свет
З братэрскай пашанай яшчэ пакладзе
Жывыя вянкі на скрываўлены брук
Варшавы і Вільні, дзе грозна маўчыць
Грымотнае рэха паўстанцкай хады!

*Авацыя*

Энгельс
*(Урублеўскаму)*
Надоечы рускі часопіс «Вперед»,
Які выпускае тут Павел Лаўроў,
Цікавы артыкул змясціў. У мяне,
І ў Маркса таксама, пытанне да вас:
Дзе аўтар?
Урублеўскі
А хто?
Энгельс
Судзілоўскі.
Урублеўскі
Ён тут,
З сібернай Расіі, падсудны, уцёк.
Энгельс
Цікава, што скажа лясны журавель.
Урублеўскі
Паслухаем... Пан Судзілоўскі з Масквы!
Судзілоўскі
На Белай Русі караніцца мой род —
На Тэмзу з Дняпра прыляцеў зімаваць:
Дыханне Гальфстрыма, туман ды цяплынь...

*Задумаўся, хвалюючыся.*





Калі з Каліноўскім вы ўдарылі ў звон,
Парыжскай камуны герой генерал,—
Мне толькі трынаццаць было. Гімназіст,
Я думкай у бурах паўстання лунаў...
А часу таго навальнічны азон,
Ён жывіць усіх, хто падаўся ў народ,
Усіх, хто пакуе снарад на цара
(У світцы работнай і я сярод іх).
У дыме прадмесцяў, у мораку стрэх —
Апірышча вернае барацьбітоў.
Паўстанне ж чынілі перш-наперш панкі,
Дваровы, узброены косамі люд,
Студэнты са шляхты...

Урублеўскі
Хвілінку адну!
Прабачце, шаноўны. Паўстанне хіба
Паўстаннем шляхецкае Польшчы было?
Знаёмыя байкі! Літва, Беларусь
Паўсталі — ішлі на маёнткі бары.
Магчыма, у вас там...

Судзілоўскі
І ў нас, на Дняпры,
Чырвоны пяюн па маёнтках ляцеў.
Ды ўрад схітраваў, абвясціўшы тады:
Маўляў, гэта бунт шляхцюкоў ды паноў,
Якія баяцца, як смерці, таго,
Што цар скасаваў спаконвечны прыгон...

*Прыціхла зала. Урублеўскі штосьці занатоўвае ў кніжачку.*

І з вамі не ўсюды сяляне пайшлі,
Хаця іх нямала і ў нас палягло.

Энгельс
Кангрэсавай Польшчы вядомы нам рух
Выходзіў і выйдзе за межы яе
У лучнасці братняй з Расіяй, Літвой
І вашай радзімай.

Судзілоўскі
Захмарыў разгром
Паўстання мільёны засмучаных душ.
Як хораша Маркс гаварыў пра вянкі,
Што лягуць з пашанай на віленскі брук,
Дзе стыгне пачварнае вісельні цень!
Кастусь Каліноўскі, змагар і паэт,
Пакінуў «Пісьмо» нам з-пад чорнай пятлі:
«Бывай здаровы, мужыцкі Народзе!
Жыві ў шчасці, жыві ў свабодзе.
І часам спамяні пра Яську свайго,
Што загінуў за праўду для дабра твайго...»

*Прамоўца раптам пазнае ў зале вальяжнага грукача. Гэта граф Шувалаў. Без генеральскіх эпалет.*

Вачам я не веру! А ці сон, ці міраж?
Шувалаў, глядзіце, сюды завітаў!
Дзясніца цара, найвышэйшы жандар,
Жандара Еўропы жандар-пасланец.

*Усе азіраюцца, шукаючы вачамі рускага пасла. Шувалаў, насунуўшы на вочы цыліндр, прабіваецца да дзвярэй.*



Воклічы абурэння:
— Кацюга!..
— Падступнік!..
— Жандар-пасланец!..

*Да Судзілоўскага падыходзіць Карл Маркс.*

Маркс
І трыбуна, гляджу,— барыкада для вас!

Судзілоўскі
Ды дзякаваць люду, не бог навучаў.

Маркс
А бомбы забудзьце. Паўсюдна цяпер,
Паверце, выходзяць бамбісты ў тыраж.
*(Паціскае руку.)*
Да новай сустрэчы!

Судзілоўскі
Найлепшага вам.

# БАЛКАНЫ—АРЛІНЫЯ ГНЁЗДЫ

I

*Красавік 1876. Прыцемак на рацэ побліз Бухарэста. Замшэлы млын. Да яго асцярожна набліжаюцца постаці падарожнікаў. І вось ужо за дзвярыма звоніць званочак, турбуючы гаспадароў.*

Судзілоўскі
Хто там?

Боцеў
Тах-трах, дом на гарах. Вада
Ліецца, барада трасецца.

Судзілоўскі
*(з'яўляецца ў дзвярах)*
Белай
Мукі вам ці жытнёвай?

Боцеў
Мікалай!

Судзілоўскі
Штоноч чакалі, Хрыста даражэнькі!

Боцеў
Балгарскі бераг, як той свет.

Судзілоўскі
Ці горай?

Боцеў
А сувязныя мне сказалі ўчора,
Што зменены пароль у Бухарэсце.
І хоць дакладны адрас не назвалі,
Ды і ў паролі згадваецца: млын.
Падумаў: недзе ён таіцца будзе
На беразе рачулкі ці азерца.
Як стогне!..

Судзілоўскі
Жорны вышчарблены ўшчэнт.

Боцеў
Ты — канспіратар!

Судзілоўскі
Нам не па кішэні
Набыць што лепшае.
Боцеў
На жорнах часу
Муку малоць мы мусім!
Судзілоўскі
Хрыста! Любы!
Зірні сюды!
Боцеў
Няўжо станок друкарскі?
Судзілоўскі
Галоўнае, што ёсць твая газета.
Боцеў
Газета...
Судзілоўскі
Першы нумар. І тыраж —
Не нейкія дзесяткі экземпляраў,
А сотні!
Боцеў
Для балгарскіх эмігрантаў
Тут, у глухой Румыніі, тыраж
Адцісне словалітня. Хай глынуць
Паветра праўды пра сваю радзіму.
Мы перш за ўсё павінны быць людзьмі,
А потым — я перакананы ў гэтым —
Балгарамі і патрыётамі.
Судзілоўскі
Я тут надоечы прыкінуў, Хрыста.
Рэдактар ты, я ведаю, з прыцэлам.

*Дастае з кішэні рукапіс.*

Боцеў
*(чытае)*
Парады эскулапа?! А-а... Разумна!
Павінен сам сабе дапамагчы
Гайдук, паранены на полі бою.
Судзілоўскі
*(кліча)*
Любаша, гайдукоў напоіш чаем.
Боцеў
О, пані Савіч! Вечар добры!
Савіч
Добры!
Боцеў
Прабачце, патрывожылі вас ноччу.
Савіч
Частуйцеся, панове, хлебам.
Боцеў
Хлеб!
Судзілоўскі
Сама, сама спякла.
Савіч
Млын хоць стары,
Ды ён і нам і людзям спраўна служыць.
Боцеў
Хлеб... А духмяны ж!



Савіч
Паляныца!
Боцеў
*(рука на сэрцы)*
Пані!..
Савіч
Ад маці навучылася.
Боцеў
Ад маці...
Судзілоўскі
Далёка маці...
Боцеў
Печ. Дзяжа для цеста.
Усё, што трэба гаспадыні мець.
Судзілоўскі
Клас для заняткаў. А вунь там майстэрня.
Пакой для адпачынку.
Гайдук
Тут жа стрэльбы!
Боцеў
Запас бяды не чыніць.
Судзілоўскі
Ёсць і хлопцы —
Майстры, сябры па Кіеўскай камуне.
Яны навучаць вас вайсковай справе.
Боцеў
На Вол-гары паўстанцы нас чакаюць.
Судзілоўскі
Эх, Хрыста, дружа нецярплівы!
Агульнае ў Балгарыі паўстанне
Не выспела яшчэ, і янычары
Гайдуцкія кастры крывёю гасяць.
Боцеў
*(смяецца)*
Цяпер згасіць бы мне з дарогі смагу!
Савіч
Любіла над Дняпром збіраць я зёлкі.
Судзілоўскі
Дняпро згадала... Крок ад успамінаў
Да роспачы.
Боцеў
От скора два гады,
Як за мяжою вы, у Бухарэсце.
Савіч
І два гады Мікола мой — млынар,
А не хірург. Яго мяхі прыгнулі,
Ён згорбіўся... Як жыць далей?
Судзілоўскі
Ну, хопіць!
Усё ты, Люба, разумець павінна.
Савіч
Як тое разумець, што не прымае
Мой розум. Тут памёр наш хлопчык, наша
Дзіцятка слаўнае... А загубілі
Яго нястача, бесхаціннасць...
Судзілоўскі
Люба,
Я ўсё зрабіў, што мог...

Савіч
О, божа! Колькі
Ахвяр мяне яшчэ чакае!
Я не магу больш! Хоць бы частку сродкаў,
Аддадзеных на зброю, зброю смерці,
Магла я скарыстаць на ўратаванне
Дзіцятак...
Судзілоўскі
Зразумей, прашу цябе:
Не смерці гэта зброя, гэта зброя
Жыцця, свабоды, будучыні блізкай
Дзяцей людскіх і нашых. Люба, чуеш?!
Савіч
Лятункі, мілы. Журавель у небе!
Боцеў
Усім, сябры, трэба мужна брацца
Ад матчынай любові і спагады.
Не плачце, пані Люба, не смуткуйце.
Вам горка — і маё рыдае сэрца.
Савіч
Я благаслаўляю вас на бой святы!
І дзецям раскажу сваім пра вас
І ўнукам.
Судзілоўскі
Люба, супакойся.
Швейцарцы, скандынавы абяцаюць
Гарматы на Балканы перакінуць.
Гайдук
Даўно пара.
Боцеў
Цацанкі-абяцанкі,
Ды мы не дурні. На Балканах неба
Крывёю налілося. Жорны хай
Няспынна мелюць зерне, лёс і долю.
*(Выходзіць.)*
Судзілоўскі
*(гартае кніжку)*
Стэфан Стамболаў. Хрыста Боцеў. Гэта
Плён працы іх — танюсенькая кніжка.
Падпольнае выданне. Дваццаць вершаў
За дваццаць восем год свайго жыцця
І напісаў ён. А гучаць грымотна,
Гайдуцкім гімнам скалануўшы горы.
*(Чытае.)*
Мы спяваем волі песні,
Шчэрым зубы на тырана.
І ў карчме нам быццам цесна,
І крычым мы: «На Балканы!»

II

*Май 1877. Шпіталь рускіх войскаў непадалёк ад Бухарэста. Сюды прыехаў сам гасудар Аляксандр II. Усе хвалююцца. Надзвычай узрушаны і Мікалай Судзілоўскі, хірург шпіталя,— да яго ў палату завіталі румынскі і рускі бамбісты.*

Судзілоўскі
На вочы накладу табе павязку.
Дабраджану-Гера
На вочы?..



Судзілоўскі
*(усміхаецца)*
Дабраджану-Гера, кажуць,
Прадбачлівы, далёкасяжны ў думках.
Дазволь жа мне адзін эксперымент
Для пэўнай маскіроўкі.
Дабраджану-Гера
Слухай, Русель!..
Судзілоўскі
Кажу зусім сур'ёзна. У шпіталі
Здаровых не трымаюць, так што...
Дабраджану-Гера
Так што
Бярэш ты абавязак на сябе:
Свайго цара спячы на бомбе.
Судзілоўскі
Мушу.
Ігнацьеў
Яшчэ б не мусіў! Ты мяне, як ляльку,
Забінтаваў. І правую руку
Загіпсаваў: я не бамбіст цяпер.
Судзілоўскі
Як вы знайшлі мяне?
Дабраджану-Гера
Ды па газетах.
Ігнацьеў
Жалябаў неяк вычытаў, што ты
Між рускіх войск атаўбаваўся...
Судзілоўскі
Вось як!
Ягоны стыль і акцыі найменне
«На Сашку паляванне» — ўсё Жалябаў.
Ігнацьеў
Не ўсім ты падабаешся.
Судзілоўскі
Каму?
Такім, як ты, народнікам з Расіі.
І тэрарыстам...
Дабраджану-Гера
Што! Ану, знімі
З вачэй маіх павязку — пагляджу,
Што ты за цаца!
Галасы:
— Гасудар прыбыў!..
— Сюды шыбуе...
— Світаю аточаны!..
Дабраджану-Гера
*(Ігнацьеву)*
З табой дарэмна мы ў шпіталь, другар,
Цягнулі бомбу.
Судзілоўскі
Так, рызыкавалі,
Напэўна, марна.
Ігнацьеў
Русель, Русель... Ты ж
Рызыкаваў не менш, калі са Штатаў
Вёз акіянам дынаміт.

Судзілоўскі
Вёз, вёз.
Дабраджану-Гера
І ў бросню ўрос... Так?
Судзілоўскі
На бамбістаў мода
Прайшла, бо спісана ў тыраж сягоння.
Ігнацьеў
Ты з глузду з'ехаў!
Галасы пошапкам:
— Цар...
— Радзецкі сам
Суправаджае бацюхну...
— Ідуць...
Радзецкі
Асман-паша пакінуў Бухарэст...
Аляксандр II
Хто вызначыўся?
Радзецкі
У сваёй калоне
Адзначыў бы я грэнадзёраў. Зноў жа
Балгарскіх апалчэнцаў. Сем з паловай
Іх, кажуць, тысяч. І яшчэ назваў бы
Румынскі першы корпус.
Аляксандр II
Генерал,
Дык рушым у Балгарыю?
Радзецкі
Чаму ж!
Руку славянам падаюць славяне.
І сімвалічна гэта, і...
Аляксандр II
Паэт!
Радзецкі
З паэтаў Боцеў тут. Сама легенда.
Загінуў як герой.
Аляксандр II
Я чуў.
Судзілоўскі
*(у думках)*
Загінуў?!
І ведаць я не ведаў! Хрыста! Брат!
Ступіў на Вол-гары ты ў неўміручасць...
Такім, як ты, адвечна жыць...
Радзецкі
Тры дні
Башыбузукі галаву яго
Па селішчах зажураных насілі,
Спусціўшыся з крывавай Вол-гары.
Аляксандр II
Балгарыя свайго цара шануе,
Парог Расіі вечны.
Радзецкі
Гэта наша
Аперацыйная. Адкіньце шырму!..
І трыццаці няма хірургу. Русель.
У Бухарэсцкім універсітэце
Вучыўся. Медыцынскі факультэт
Закончыў паспяхова. Проста майстра!



Аляксандр II
Хвалю!
Радзецкі
Нагода ёсць адна.
Аляксандр II
Ну, ну!
Радзецкі
Яму Румынскі залаты медаль
Вас, гасудар, мы просім уручыць.
Аляксандр II
З прыемнасцю.
Радзецкі
Хірург вяртае ў строй
Тут ратнікаў адпетых, безнадзейных.
Як скрыпка, скальпель у яго руках
Жыццю спявае гімны.
Аляксандр II
Доктар Русель,
На подзвігі далейшыя ў імя
Расійскае дзяржавы!

*Яны сустрэліся вачыма: у адных — боская высачыня і паблажлівасць, у другіх — пільнасць і дзёрзкая весялосць.*

Судзілоўскі
Гасудар,
Да скону буду я служыць Расіі
І рускаму народу!
Аляксандр II
Што ж, служыце.

*Цар са світаю выходзіць.*

Дабраджану-Гера
Чаго марудзіш? Ну! Спяшайся, Русель!
Судзілоўскі
Хірургам быць і быць бамбістам — мабыць,
Занадта ўсё ж, панове.
Дабраджану-Гера
Адшчапенец!
Судзілоўскі
Паслухайце, вы! У разгары руска-
турэцкая вайна. І рускіх вояў,
Салдат адсюль, з-за сіняга Дуная,
Збіраўся хто, ну, як не мы, павесці
На штурм царызму? Павярнуць штыхі
Супроць тупога самаўладства.
Дабраджану-Гера
Годзе!
Ігнацьеў
Адступнік. Слімачок.
Дабраджану-Гера
Сябе ўяўляе
Ён лідэрам сярод сацыялістаў!
Ігнацьеў
Рэдактар, дзеяч! Як табе далёка
Да Боцева-пакутніка!
Судзілоўскі
Ігнацьеў!
Забіць цара за межамі Расіі —
Зрабіць святым пакутнікам яго.



© PDF: Kamunikat.org 2016
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

Пакутнікам за рускі ўвесь народ.
Тым самым рэвалюцыі нашкодзіць.
Тэрор — як панацэя для слабых,
Нямоглых і нямотных...

Ігнацьеў

*(цягнецца да бомбы)*
Толькі мы,
Расіі рыцары, мараты...

Судзілоўскі

Рукі!
Каму сказаў, Ігнацьеў!

Ігнацьеў

Чорт з ёй, з бомбай,
З табою разам!

Судзілоўскі

Прэч адсюль!

Дабраджану-Гера

Арэшак,
Як бачыце, нарэшце раскалоўся!

III

*Верасень 1885. Палявы лазарэт край дарогі на Шыпку. Судзілоўскі не адыходзіць ад аперацыйнага стала — цяжкія баі. Ля ўваходу ў палатку Стаянаў, камандзір чаты — атрада гайдукоў.*

Стаянаў

Дабранач!

Судзілоўскі

Пачакайце, я закончу.
Другар! Ну, пацярпі ж! Я зараз, мілы.
Надоечы казаў: дурніца куля.
А тут чатыры — у плячы і спіне.
З бельгійскага стралялі карабіна.

Гайдук

А-а-а!..

Судзілоўскі

*(як пабраціму)*
Ты, Стаянаў, стаўся на чале
Паўстання ў Філіпопалі — усюды
Цябе на ўсё хапае.

Стаянаў

Лазарэт
Башыбузукі злева абыходзяць.

*Воклічы, страляніна.*

Судзілоўскі

Не вецер, значыць, задзімае свечкі —
Радзеюць нашы шэрагі?

Стаянаў

З гадзіну б
Нам пратрымацца. Дандукоў-Карсакаў
Сялякаў, гайдукоў, мяне запэўніў:
На падыходзе рускія.

Судзілоўскі

Ратунак.
Інспектар імператара не толькі
Другар-дарадчык у чаце балканскай,—







Ён генерал і дзейнічаць павінен,
Абставіны прымусілі.

Стаянаў

Мне, Русель,
Ісці патрэбна.

Судзілоўскі

Разумею. Прошу,
Каб за мяне не хваляваўся надта.
Ідзі, Захарый.

Стаянаў

Дзякуй!

Судзілоўскі

Ну, ні пуха
І ні пяра! Ды беражы людзей.

Стаянаў

На беразе Марыцы бой кіпіць.

Судзілоўскі

Спяшайся!

*Стаянаў адыходзіць. Чуваць, як за дзегцяваным палатном палаткі крычаць, набліжаючыся, туркі, і кулі сякуць палатно.*

Галасы:
— Лазарэт!..
— Чырвоны крыж...
— Параненыя.
— У палон не браць!..

Судзілоўскі

Хто можа з ложка ўстаць, усе ў ружжо!
Лагчынай па-над лесам, хлопцы, зойдзем
У тыл башыбузукам! Ах... плячо!
Якое нечаканае хрышчэнне!
Ды ў бой падпашкі з бояззю не ходзяць.
Якаясьці там драпінка. За мной!

Стаянаў

*(вяртаючыся)*
Былі тут туркі?

Паранены гайдук

Русель іх пагнаў.

Другі гайдук

Кліч кінуў: «У ружжо!» — і гайдукі,
Хто мог, пайшлі ў атаку.

Стаянаў

Судзілоўскі!

*Разам з Савіч у лазарэт заходзіць генерал.*

Дандукоў-Карсакаў

Дык Русель — Судзілоўскі? Ён дзяржаўны
Злачынец, гэты ваш герой!

Савіч

Няпраўда!
Мікола мой цара не забіваў!

Дандукоў-Карсакаў

Такіх, як ён, усіх Сібір чакае!
Сюды яго! Хутчэй! Злавіць! Прывесці!

Савіч

Памілаванне я яму прывезла.
Мікола мой пакаецца, што ён

Не забіваў цара — яму ў Расію
Дазволіць обер-пракурор сінода
Пабеданосцаў з выраю вярнуцца.

Дандукоў-Карсакаў
Вярнуцца ў кайданах... Вось птах дык птах!
Арлом надумаў стаць — на Шыпцы, кажуць,
Гняздо сабе згарусціў!

Савіч
*(плача)*
Мой Мікола!
Даруй...

Дандукоў-Карсакаў
Царазабойца ён!

Савіч
Даруй...

Дандукоў-Карсакаў
Э, пані! Напрасіліся ў мяне
Паехаць да хірурга — я і вёз.
А ён... Дзе ён? Падмазаў, мусіць, пяткі.
Але яшчэ сустрэнемся...

*На горным перавале Стаянаў і Судзілоўскі. Міма іх ідуць і ідуць узброеныя чэтнікі.*

Стаянаў
Ах, Русель!
У вас, у рускіх, так, відаць, заўсёды:
За міласць мусіш трапіць у няміласць.

Судзілоўскі
Ты чуеш, друг, нібыта стогнуць горы?

Стаянаў
Каханкі так аплакваюць каханых.

Судзілоўскі
Зусім знаёмы голас. Ну, нібыта
Рыдае вельмі блізкі чалавек.
Быў у мяне такі...

Стаянаў
Быў?

Судзілоўскі
Люба, Савіч.

Стаянаў
Магчыма, рэха гэта?

Судзілоўскі
Дык жа плача.
Хлусні ніколі не паўторыць рэха.

Стаянаў
Боль гэта твой. Як вір-Дунай, глыбокі.

Судзілоўскі
Забрала дочак — і за сінь-Дунай,
Да мачахі-Расіі падалася.

Стаянаў
Прабач, не ведаў я.

Судзілоўскі
І я падамся.

Стаянаў
Куды?

Судзілоўскі
У белы свет, мой браце.
*(Прыпамінаючы.)*



Мы спяваем волі песні,
Шчэрым зубы на тырана.
І ў карчме нам быццам цесна,
І крычым мы: «На Балканы!»

# ПРЭЗІДЭНТ ГАВАЙСКІХ АСТРАВОЎ

*І куды толькі не закіне лёс рускага чалавека! Трэба ж гэтак выпасці, каб адзін прыехаў сюды ўрачом-эмігрантам, а другі апынуўся тут, уцякаючы з Сібіры.*
Леў Дэйч, «16 год у Сібіры»

## Анафема

*1890 год. Сан-Францыска — сталіца штата Каліфорнія. Прыватная лякарня доктара Руселя. Ён, знакаміты хірург, у беласнежным халаце, за сталом піша для газет рэпартаж «Па Каліфорніі».*
*У прыёмным пакоі завіхаецца Леакадзія Шыбека, палітэмігрантка, доктар Бернскага універсітэта. Цяпер яна верная спадарожніца Судзілоўскага.*

Консул
Дзень добры вам!

Шыбека
Дзень добры! На прыём?
Прыемна бачыць мне, што рускі консул
Рашыў наведаць нас...

Консул
Лічу за гонар.

Шыбека
Вас, Серафім Панкратавіч, ён прыме
Між першых, бо дзяржаўны клопат...

Консул
Так.
Заняты я... Складанае пытанне
З Аляскаю. Аляску прадалі
І, думаю, навечна.

Шыбека
Штатам?

Консул
Штатам.
На дзевяноста дзевяць год ажно!
Ды на цяжкіх умовах... З Сан-Францыска
Туды, што пацы, шуснулі дзялкі —
Бум залатое ліхаманкі!..

Шыбека
Страшна.

Консул
Урад урадам, служкі ж капіталу,
Яны сябе часовымі там лічаць
І, як краты, зямлю перакапалі.
Яна — у ранах. Дынаміт рве скалы.

Шыбека
I бруд у халабудах скрозь?
Консул
Горш! Пекла.
Я заявіў пратэст, але з Расіі
Прасіць мне загадалі прабачэння.
Расіі трэба, значыць, капітал,
Раз б'е паклоны за сваё ж дабро.
Шыбека
I б'юць, і плакаць не даюць — так кажуць...
Консул
Што горка рэдзька, ды яе ядуць,
Што дрэнна замужам, але ідуць —
I так гавораць на Русі Вялікай.
*(Смяецца.)*
Са шлюбам вас, шаноўная Шыбека!
I — шчасця!..
Шыбека
Дзякуй!

*З кабінета выглянуў Судзілоўскі.*

Консул
Мілы доктар Русель!
I вас — са шлюбам! Невясёлы штось?
Шыбека
У Пецярбурзе пашпарт, Серафім
Панкратавіч, не выдалі яму.
Консул
Пацерпім...
Шыбека
Божа!
Судзілоўскі
Прошу ў кабінет,
Мой Серафім Панкратавіч харошы.
Сястра, гатова ўсё?

*У прыёмны пакой сунецца крадком поп Мітрапольскі.*

Мітрапольскі
*(да Шыбекі)*
Згадалі бога —
Ну, як было да вас не падысці!
Лёс добры звёў мяне з рабою божай...
Шыбека
А пад хітонам...
Мітрапольскі
Я дарую нават,
Калі сам чорт з-пад рызы вас гукне.
На тое і царква, каб гнаць злы дух.
Малебен сёння ў праваслаўным храме.
Шыбека
Лёс, Руселя ўратуй.
Мітрапольскі
Боль гэта ваш,
Епархіі ўсяе. Бо неслух доктар.
Ён лечыць плоць, а дух... Не ў храм чарга
Падоўжылася — дзень пры дні сюды
Да лекара ідуць старцы, калекі.
Шыбека
Ён богу пераняў дарогу?





Мітрапольскі
Пані,
А дзядзька ж ваш, Шувалаў сам, прасіў
Епіскапа Уладзіміра, каб з богам
Жылі вы, паслухмяныя, у Штатах.
Я на прыём да Руселя прыйшоў,
Каб вас сягоння бачыць на малебне.
Не прыйдзеце...

Шыбека
Без бога я на дзверы
Вам мушу паказаць, святы айцец.
Святы... Святы хіба ты, Ванька Мітрапольскі?
Хто воч не зводзіць з голых прасталытак?
Хто збэсціў хор жаночы?! Хто?!

Мітрапольскі
Здаецца,
Не столькі доктар, колькі вы лухту
На прасцірадлы ўсіх газет ліеце
Пра нашую царкву. І дзень пры дні.

Шыбека
Няма мне часу слухаць прайдзісвета.
Бывайце!

*Мітрапольскі ў дзвярах сутыкаецца з шыкоўным пацыентам.*

Мітрапольскі
*(збянтэжана)*
Містэр Блэкфул!..

Блэкфул
О, айцец?
Выходзіць, разам мусім падлячыцца?

Шыбека
У клініцы няма чаго рабіць
Стаеннікам ружавашчокім. Містэр...

Блэкфул
Містэр Блэкфул.

Шыбека
Даведаюся зараз,
Ці прыме сёння доктар вас.

Блэкфул
Прабачце,
Я сам.
*(Нахабна сунецца ў кабінет.)*
Я на хвіліначку да вас.

Судзілоўскі
Я па чарзе прымаю пацыентаў.

Блэкфул
Выходзіць, выключэння мне няма?

Судзілоўскі
Сэр Блэкфул?.. Спадарожнік даўні мой
Цераз шалёны акіян...

Блэкфул
Жыцця...

Судзілоўскі
Жыцця... Я думаў: толькі Атлантычны.

Блэкфул
Было. Мы з вамі ў Свет Стары плылі
Як спадарожнікі і... журналісты.
Калі вы везлі... дынаміт на «Сашку».







*(Смяецца.)*
І вось вы ў Новым Свеце. Сан-Францыска.
Але не тая гавань, доктар, тут.
Завязваюцца ўсе вятры ў вузлы
Аж за чатыры тысячы міль недзе
У чэрвені бясконцым — на Гаваях,
Хоць там навокал Ціхі акіян...

Судзілоўскі
Не разумею.

Блэкфул
Гардэроб стары
Калісьці вы распрадалі без жалю.
Ці здольны зноў перамяніць сябе?
Чаму б не стаць плантатарам?

Судзілоўскі
Мне?

Блэкфул
Пэўна ж.
Мой дзядзька на Гаваях мільянер.
Ён дапаможа вам і вашай жонцы...

Судзілоўскі
Якая, ведаеце, сіл не мае
Узяць яшчэ раз штормы падарожжа
На сэрца хворае.

Блэкфул
У Сан-Францыска,
У небаскробным лесе, тлумна, чадна.
А на Гаваях — рай зямны, лагода.
Батанік ваша жонка. Вы пра гэта
А ці падумалі? Сям'я, яна...
Яна не толькі суцяшэнне, містэр.
Я сёння бачу фірму на Гаваях...

Судзілоўскі
Так.

Блэкфул
«Доктар Русель — Блэкфул»... Для яе
Няма памежкаў там. Вялікі бізнес
Заўсёды вызначала безгранічча.
А тут такі выпадак!

Судзілоўскі
Кажуць, свеціць,
Але не грэе...

Блэкфул
Ваша лэдзі сонцам
Быць можа толькі ў справе той, якую
Я прапаную заслупіць сягоння.
За клінікай у Сан-Францыска, доктар,
Якая вам належыць, пільна сочым.
На жаль, вядома нам, усё вы той жа,
Што і ў Еўропе. Вас чакае крах,
Калі не зразумееце, што акры,
Дзесяткі тысяч акраў на Гаваях
Без вас — нішто! Зямлю вы за бясцэнак
Там скупіце. Памочнікам я буду —
Заўсёды, пэвен, дапаможа дзядзька...

Судзілоўскі
Рэвалюцыянераў дзядзька любіць?

Блэкфул
У акіян ён любіць углядацца.
Японскія, англійскія нярэдка
На гарызонце бачыць караблі.
Рэвалюцыянеры — што?! Анёлы!
А караблі? Баяцца трэба іх.
Падбіць супроць іх цемнякоў-канакаў
На райскіх выспах надышла пара.
Рэвалюцыянерам — карты ў рукі...
Судзілоўскі
З падтэкстам закід...
Блэкфул
Ведаеце, доктар,
Не ваш канёк — прасталінейна думаць.
Пакіньце ж і за мной такое права.
Судзілоўскі
Вы ўжо мой пацыент па-за чаргой.
Блэкфул
Дарэчы, з Сан-Францыска ў Ганалулу
Курсіруе шыкозны параход.
Для адаптацыі папрацаваць
Вам раю эскулапам там. Заўважу,
Што Ціхі і Вялікі — не Дунай,
Дзе штурмам горы з Боцевым вы бралі.
Бярыце штурмам лепш амерыканак,
Народжаны яны для грэшных спраў.
Судзілоўскі
Ну й вінегрэт з палітыкі і сексу!
Хімеры хворых з пухлым партманетам.
*(Задумваецца.)*
Гаваі... Як міраж... Кось, кось — а потым
За грыву і з падскоку — у сядло.
Блэкфул
Сядло не простае — у золаце.
І свой ваяж вы спраўдзіце бліскуча —
Каб стацца прэзідэнтам на Гаваях.
Судзілоўскі
Вядома ж, вашых Штатаў прэзідэнт
Расцэніць гэты факт як дзёрзкі выклік
І тут жа пойдзе Блэкфулам насустрач —
На астравы дэсантам скіне войска.
*(Смяецца.)*
Пасля адна фармальнасць застанецца:
Пяцідзесятым штатам абвясціць
Гаваі...
Блэкфул
*(далонь на сэрцы)*
Русель!
Судзілоўскі
Да спаткання!

*Калі на развітанне нахабны візіцёр, рагочучы, паляпаў па плячы, доктар задумаўся, ды так глыбока, што нават не чуе стуку ў дзверы кабінета. Гэта Уладзімір — епіскап Алеуцкі і Аляскінскі, прадстаўнік свяцейшага сінода ў Амерыцы.*

Епіскап
Здаецца, містэр Блэкфул быў у вас?
Судзілоўскі
І Мітрапольскі быў...



Епіскап
Адсюль ляцеў,
Бы корак з-пад шампані.
Судзілоўскі
Сёння, бачу,
Епіскап Уладзімір у гуморы?
Епіскап
Хутчэй у смутку я. Давайце разам
Хвілінаю маўчання мы ўшануем
Пяцёра тых, якіх між нас няма.
Судзілоўскі
Каго яшчэ, каго ушанаваць
Епіскап зможа?
Епіскап
А я душам грэшным
Дапамагаю адлятаць на неба...
Судзілоўскі
Грэх утварылі?
Епіскап
Аляксандр Ульянаў.
Пётр Шавыроў. Пахомій Андраюшкін.
Васілій Асіпанаў. Сын казачы
Васілій Генералаў...
Судзілоўскі
Гінуць людзі.
Епіскап
Тры з іх бомбакідальшчыкі, а двое —
Сігнальшчыкі. Забіць яны хацелі
Цара Русі. За Аляксандрам Трэцім
Ішлі. Схапілі іх — і эшафот!
Таму ўжо будзе, доктар, тры гады.
Судзілоўскі
Епіскап, пачакайце!
*(Паказвае на газету, якую трымае епіскап.)*
У газетах
Пра гэта пішуць?
Епіскап
Гэта, што са мной,
Маўчаннем абышла пяцёра тых.
Затое пра мяне ў ёй столькі бруду!
Маўляў, распуснік я і казнакрад.
Маўляў, адкрыў у Сан-Францыска бурсу...
Судзілоўскі
Што напісаў пра вас — я зноў сцвярджаю!
Крывёю распішуся.
Епіскап
Мефістофель!
Кроў д'ябла ў жылах грэшніка цячэ!
Судзілоўскі
Не, царскі шпег, за морам-акіянам
У сетках павучыных анікалі
Не біцца духу рускаму, а кроў
Вірыць-кіпіць бацькоўская, епіскап,
У жылах у мяне!
Епіскап
Перакаці-поле!
Судзілоўскі
Прэч з воч, святоша! Вон, атопак царскі!

Шыбека
*(у дзвярах)*
Віхурай вымела!.. А я з паштамта —
Для Савіч і дачок паслала грошы.

*За вокнамі забомкалі званы рускай царквы, што побліз лякарні. Там невыразна клубіцца спеў. Леакадзія Вікенцьеўна разнасцежыла акно.*

Шыбека
Здаецца, Мітрапольскі. Воўкам вые.
Паслухай, што гэта?
Судзілоўскі
Анафема.
Грымотны бас архідыякана:
— Стенька Разин, Ванька Каин — анафема!
Гришка Отрепьев, Емелька Пугачев — анафема!
Злочестивый нигилист, богопротивный двоеженец
Николка Судзиловский — анафема маранафа!
Шыбека
Наступны хто?
Судзілоўскі
Напэўна, граф Талстой...

# Вечны чэрвень

**(студзень 1901)**

*Гэта час ціхаакіянскай рабінзанады доктара Руселя. Праўда, цяпер на востраве райскай птушкі тубыльцы звяртаюцца да яго: «Каука Лукіні!» — гэтак на мове канакаў гучыць імя «добрага рускага доктара».*
*У гушчары ліян і дрэвападобнай папараці накінуў чарапічную шапку белы дом з просторнаю верандай.*
*Ад высокага ганка змяяцца дзве сцяжынкі: адна да вулкана Кілаўэа, другая — праз какосавы гай да бязмежнай сінечы акіяна.*
*Спакойна дыхае акіян, і хвалі, як мускулатура на ім, ходзяць, збягаючы на каралавыя водмелі. Дзе-нідзе махне хвастом дэльфін-гарэза, прамільгне плаўнік акулы, а на пяску ў карунках адкатнай пены варушацца крабы. Іх збіраюць у трысняговыя кошыкі асмужаныя сонцам Мікалай і Леакадзія. Рыхтык Адам і Ева ў райскай лагодзе.*

Судзілоўскі
Наш Ціхі брат Вялікі Акіян!
Мы толькі кропелькі твае...
Шыбека
Мікола!
Якая я шчаслівая! Якая...
Судзілоўскі
Які шчаслівы я з табой... такой...
Шыбека
Якой?
Судзілоўскі
З дачкой зямлі і сонца! Лёдзя,
На волю крабаў і — пад лахі пахі!
Я ў Ясную Паляну адпішу
Нарэшце.



*З акна веранды той жа маляўнічы краявід.*

Судзілоўскі
*(чытае ліст)*
«У Вас там снег. Мароз. Трашчаць парканы,
Леў Мікалаевіч! Чуў краем вуха:
Намер Вы маеце апошні твор
Газетам у Амерыку прадаць,
А за даляры берацеся быццам
Перасяліць сектантаў-духабораў,
Праклятых люта на Русі царквою.
Эх, на Гаваі б іх закінуў лёс!
Адчулі б уваскрэсенне нябогі.
(Раман у Вас прарочага наймення!)
Як згодна б зажылі! Я не чужы ім...
Анафему царква і нам спявала:
Я пяты быў, Вы — шосты ў цемрашалаў...»
Шыбека
Пішы: цудоўны клімат на Гаваях.
Тэмпература цэлы год у межах
Ад дваццаці да дваццаці пяці,
Не меней, градусаў.
Судзілоўскі
«Тут вечны чэрвень
Сярэднярускай паласы. Па скалах,
Гаях, каньёнах пры такіх умовах
Гуляй, хадзі сабе — ні змей, ні гнюсу! —
Нібы па хаце ці па ўласным садзе.
І не здзіўляйцеся таму, шаноўны,
Што я лічу сябе тут селянінам,
З канакамі на сходцы маракую,
Што пасадзіць-пасеяць...»
Шыбека
Напішы:
Спецыяліст ты і ў агранаміі,
На ціхаакіянскіх выспах рады
Артыкулам тваім па глебазнаўству...
Судзілоўскі
«Мой вопыт па селекцыі раслін
Таксама зацікавіў, быццам я
Якісьці аграфізік. Так, лічу:
Тут ёсць дзе разгарнуцца землякам.
Заробкі ўсе пайшлі ў агульны фонд
Акцыянернае кампаніі,
З якою на урадлівай глебе
Бананы, ананасы росцім.
Падтрымку прэзідэнта ЗША
Я ў гэтым маю. Блэкфул-мільянер
Гавайскі сейф прыадчыніў. Здаецца,
Без хітрыкаў...»
Голас з парога:
— Не, не! Хітруе янкі!

*Гэта канак Сугонда, амаль голы, учарнелы, быццам корань старога дрэва, высушаны спёкай і ветрам нягод.*

Шыбека
Сугонда! Рады, дзеду, вам.

Судзілоўскі
Сядайце.

*Далёкі выбух. Усе азірнуліся.*

Сугонда
Бяда, бяда: кладуць амерыканцы
Жалезны мост да сіняга ўзбярэжжа,
З хацін канакаў выгналі, наклалі
На кожны дым падаткі.
Судзілоўскі
Хто дазволіў?
Сугонда
Я заступіўся за сваіх — рукою
Штурхнуў з парога белага прыблуду.
Судзілоўскі
Не маюць права янкі, як не меў
Такога права тут свае парадкі
Наводзіць Кук-паганец.
Сугонда
Ад яго.
Ад Кука, і пайшла ўся калатнеча
У нас на выспе тут, каля вулкана
Кілауэа, дзе жывём мы з вамі.
«Ку-ку!» — тады крычалі Куку з гаю.
Судзілоўскі
Сто дваццаць год яму, не менш, выходзіць...
Шыбека
Дзядуля Індра, што было далей?
Сугонда
Дык з гаю Куку чуўся рык звярыны,
І Кук, Джэймс Кук, апратку расхінуўшы,
Маланак-змей гняўлівых з рукава
Стаў выпускаць — канакаў класці ўпокат.
А мой прапрадзед Сокал Пільны Зрок
Адну з тых змей злавіў, паслаў назад
І проста ў сэрца трапіў Куку.
Шыбека
Індра,
Англійскіх мараходцаў, ходзяць чуткі,
Жыўцом канакі елі, страшны лёс
І капітана Кука напаткаў.
Сугонда
Паданні маюць дзіўную ўласцівасць —
Быць гэткімі, якімі ў марах росцім.
А вы ў якія верыце, міс Птаха?
Шыбека
У тыя, што й Сугонда Індра, слаўны
Нашчадак Сокала, што з пільным зрокам.
Сугонда
Свет у вачах туманіцца паволі.
І рай не рай, дзе крумкачыны грай.
А я таго нібыта і не бачу.
Стараюся не бачыць і сталёвых
Кітоў...
Судзілоўскі
І караблі, і груганы
Чужыя тут.





Сугонда
Не чуць бы на Гаваях
Галáсу іх і граю аніколі.

*Яны сышлі з веранды на белы пясок узбярэжжа.*

Шыбека
Ой, краб! Які вялікі краб!
Сугонда
Міс Птаха
Баіцца крабаў?
Шыбека
От і не баюся!
Сугонда
Гарэза сінягорліца.
Судзілоўскі
Гарэза...
Сугонда
Што крабы? Ён неасцярожны, краб.
Па водмелі, бач, коціцца.
Шыбека
Тс-с-с, чапля...
Сугонда
Яна і схопіць разяваку краба.
Глыць, глыць — і ў чэрава сваё схавае.
Судзілоўскі
Схапіла!
Шыбека
*(адыходзячы)*
І крычыць, ажно шкада
Гаротніцу, яе.
Сугонда
Шкада не краба,
Бо ён нямы.
Судзілоўскі
Я разумею вас.
У гордасці вучыліся маўчанню.
Ці здольны жыць, дыханне затаіўшы?..
Сугонда
*(загледзеўся)*
Стаілася на дыбачках міс Птаха.
Судзілоўскі
Цікуе...
Сугонда
Што вы, Каука Лукіні,
Наш добры доктар! Тут мы ўсе, канакі,
Прыкмецілі, якое ў вас каханне.
Яно заўжды на дыбачках. Кахаў
Калісьці я таксама.
Судзілоўскі
*(усміхаецца)*
А Сугонда ж
Нам скардзіўся на дрэнны зрок...
Сугонда
Як толькі
Кавовы гай з-пад вашых рук стаў брацца,
Я ўсім сваім сказаў, што добры лёс
Гаваі ашчасліvіў — заляцеў
На востраў Голуб Шызае Крыло.

Судзілоўскі
Сто акраў кавы ды вунь той цукровы
Трыснёг ён аглядае дзень пры дні
З вышынь крутога лёту па-над кручай,
Дзе лепяцца да стромы гнёзды-хаткі
Канакаў-навасёлаў.

Сугонда
Перабрацца
Да вашае сядзібы мы рашылі
Усёю чарадою.

Судзілоўскі
Трыста тысяч
Канакаў я не ўратаваў, Сугонда,
Цяпер вас трыццаць тысяч — так спазніўся!
Гавайскі райскі бераг не разгледзеў
З-за акіянскай далечы ў Еўропе.
Таму гадоў пятнаццаць мне б дастацца
Сюды, пад стрэхі дабрыні і дружбы,—
Ад смерці люд ўратавалі б...

Шыбека
Коля,
Вулкан Кілауэа закурыў
Нарэшце люльку міру!

Сугонда
*(горка ўсміхаецца)*
Эх, міс Птаха,
Адвечны Кіл лагодны. Ну, а людзі
На суд мяне павалакуць. Пайду.

Шыбека
Не забывайце нас, дзядуля.

Судзілоўскі
*(падаўся быў за ім)*
Трубіць
Машына каля дома — хтось у госці.

*На верандзе частуюць высокую госцю. Завітала прынцэса Камекаеха Ліліуакалані, якая пасля смерці караля гуртуе патрыятычныя сілы.*

Ліліуакалані
Ой, мілы доктар Русель, толькі што
Амерыканцы з «Бостана» дэсант
У Ганалулу высадзілі.

Судзілоўскі
Значыць,
Вайна ці акупацыя Гаваяў?

Ліліуакалані
*(з рашучасцю каралевы)*
І я сказаць вам мушу: толькі вы
Ад янкі можаце абараніць нас
І нашыя Гаваі.

Судзілоўскі
Я?

Ліліуакалані
Вы, доктар.
Канакі скрозь вас просяць узначаліць



Сенат Гавайскіх астравоў, даць згоду
На прэзідэнта.

Судзілоўскі
Дык прабіў мой час!

Ліліуакалані
Вядуць рэй людзі: «Каука Лукіні!»
Народу я скажу пра згоду вашу.

Судзілоўскі
Ах, Лёдзя, дай асадку і паперу.
*(Піша.)*
«Канакі гінуць. Не магу маўчаць!»

*А пад акном зноў гудзе матор — новы госць, і не адзін.*

Блэкфул
Сенацкая камісія са Штатаў.
Мак-Кінлі сам паслаў. Да вас ёсць просьба

Судзілоўскі
Ну-ну?

Блэкфул
Сенат павінны вы ачоліць
На астравах Гавайскіх.

Судзілоўскі
Што за спешка?

Блэкфул
Тут Кука з'елі некалі, а ўчора
Канакі білі белых на чыгунцы.

Судзілоўскі
Я маю вестку: ўсё наадварот,
Тут белыя канакаў білі.

Блэкфул
Русель.
Вы згодны прэзідэнтам быць?

*Выбухі побліз.*

Судзілоўскі
Прачнуўся
Вулкан Кілауэа?

Блэкфул
Дык ці згода?

*Новыя выбухі.*

Судзілоўскі
*(глядзіць у акно)*
Вулкан спакойны, курыць люльку міру.
А на чыгунцы выбухі — дарогу
Карчуюць да ўзбярэжжа дынамітам.

Блэкфул
*(пасміхаецца)*
Ужо ж!

Судзілоўскі
Няма спакою і ў эдэме.

# Страчаны эдэм

*На востраве Ааху, побліз вулкана Кілауэа, той жа дом доктара Руселя. Мінула колькі часу, і цяпер гэта ўжо віла прэзідэнта Гавайскіх астравоў. Вось і сам ён — пасівелы, энергічны, у белым трапічным гарнітуры — вылазіць з аўто.*
*Непадалёк, у какосавым гаі, лямант і цёмны гул натоўпу.*

Галасы:
— Прыехаў ён!..
— Наш Каука Лукіні!..
Шыбека
Мы, Русель, зачакаліся цябе.
Судзілоўскі
Я з добрай весткай. Разглядаў сенат
Сягоння біль. Чаканы біль — «Адмена
Смяротнай кары». Роўнасці правоў
Даб'юся я, не дзелячы народ
На белых і тубыльцаў.
Шыбека
Позна, любы.
Судзілоўскі
Чаму?
Шыбека
Яны расправіліся з ім.
Судзілоўскі
Хто?
Шыбека
Бачыш, у какосавым гаі —
Натоўп канакаў. Там амерыканцы
Павесілі Сугонду на світанні.
Судзілоўскі
Ну й свет!
Шыбека
Я так баялася за Дэйча.
Пабачыць шыбеніцу — загарыцца.
А там, глядзі, ён кінецца на катаў.
Яны б і Дэйча не пашкадавалі,
Дармо што белачолы.
Судзілоўскі
І мяне б
Адгарадзіла ты ад свету, Лёдзя,
Калі б змагла.
Шыбека
Ды не магу, на жаль.
Судзілоўскі
Расправіліся без суда, без следства...
А ўсё чаму? Галáс ды разгалосіца:
У партыі гамрулераў — с в а ё,
Сенат с в о й рэй вядзе. Ці не таму
Фракцыйнасці Пляханава ніколі
Я не ўхваляў. Фракцыйнасць замінае
Адзінству сіл рэвалюцыйных.
Шыбека
Госць
Цябе чакае зранку.



Судзілоўскі
*(азірнуўся)*
Містэр Блэкфул,
Здаецца, вы ў нядобры час.
Блэкфул
Не варта
Трывогу біць з-за аднаго жыцця
Замшэлага канака.
Судзілоўскі
Сорам! Ганьба!
Блэкфул
Хацелася б, каб і на гэты раз
Не надта вы пярэчылі нам.
Судзілоўскі
Ну!..
Блэкфул
Дарэмна вы пакінулі сенат,
Калі паўстала ў ім пытанне, доктар,
Аб далучэнні астравоў да Штатаў.
Сенат, ён даў без згоды прэзідэнта
На тое згоду. Мы пяцідзесятым
Абвесцім штатам жоўтыя Гаваі.
Судзілоўскі
Вы? Прэч адсюль!
Блэкфул
Бывайце, мілы доктар.

*На парозе Блэкфула ледзьве не збіў з ног раз'ятраны Леў Рыгоравіч Дэйч, уцякач з сібірскай катаргі. Ён атаўбаваўся на ферме Судзілоўскага, знаёмага яму па эміграцыі і народніцкаму руху ў Расіі.*

Дэйч
Хто гэта? За цябе я, Мікалай,
Перагрызу ўсім горла!
Судзілоўскі
Супакойся.
Дэйч
Вікенцьеўны напоі і гасціна
Металам налілі мае цяглíцы —
Я падужэў пасля Сібіры.
Судзілоўскі
Бачна.
Дэйч
Мы многіх у Сібіры пахавалі,
Але ці думалі яе абжыць?
Суровую, таежную...
Судзілоўскі
Свабодны
Абжыць і Месяц можа, а закуты
У лютае жалеза — аніколі!
Дэйч
Пабачыў бы ты Лену, сінягор'е
Алтая — божа, што там за прасторы!
Жывí! Ды па баках ідуць салдаты,
І спераду і ззаду — канваіры.
І розум гасне, і нямее слова.
Судзілоўскі
Бо горкае...

Дэйч

І прывіды — навокал.
Аднойчы падалося мне: Валконскі
Стаіць між дрэў. Зарослы, скамянелы.
Жахнуўся я. Гляджу — без кроны дрэва.
А крокі тры ступіў — Валконскі зноў.
І — асуджае!..

Судзілоўскі

Нас?

Дэйч

Я дзекабрыстаў
Не разумеў... Мяне тады, выходзіць,
Ён асуджаў.

Судзілоўскі

Але за што, скажы мне?

Дэйч

За тое, што ў адкрытую не сталі
Змагацца, як яны, мы з самаўладствам —
Пайшлі ў народ, а на Сенацкай плошчы
Не выстраілі баявых палкоў...

Судзілоўскі

Калі?

Дэйч

Калі ў сталіцы Аляксандра
На мушку бралі. Як жа, Грынявіцкі
Сігнал нам даў. А нас — нікога поруч:
Хто — за граніцай, хто — далёка ў ссылцы.

Судзілоўскі

Ды як ты можаш?

Дэйч

Я кажу аб справах,
А іх няма.

Судзілоўскі

А «Вызваленне працы»?

Дэйч

Гурток марксісцкі? Я не слыў там першым.

Судзілоўскі

Што? Поза? Можа, самаасуджэнне?

Дэйч

Дык я ж кажу — прымроіўся Валконскі.
І ён, напэўна, выйграў паядынак.

Судзілоўскі

Дзівак ты, Леў.

Дэйч

На ферме акрыяў я,
У Штаты еду...

Судзілоўскі

Што ты ў Штатах знойдзеш?
Не Новы Свет — Расія наша доля.
Нам трэба мужна прызнаваць памылкі,
Інакш да мэты нашай не прабіцца —
У кожнага сумненняў повен нерат.

Дэйч

Каб зважыць ісціну, ці ёсць бязмен?

Судзілоўскі

Тут мера можа быць адна — урокі
І вопыт барацьбы.

Дэйч

Урокі, вопыт...



Хто альбо што падкажа нам тады,
Як аценіць іх правільна?

Судзілоўскі

Сумленне.
Яно павінна быць суддзёй вярхоўным,
Гранічна мужным, як дыягназ жорсткі.
Да хворых гэтак стаўлюся цяпер.

Дэйч

Хваліся ўсім, што скрозь цябе друкуюць.
Экзотыку смакуюць, сум, і слёзы,
І настальгію рускага героя,
Пакутніка!..

Шыбека

Дэйч!..

Судзілоўскі

*(да жонкі)*

Розныя мы з ім.
Не з колішнім — з перараджэнцам Дэйчам,
Рэдактарам газеткі аднае,
Якое назва «Чорны перадзел».

Дэйч

Да твару толькі рукі паднясу —
Яны мне ўсё яшчэ Расіяй пахнуць.
І ведаеш, які я чую пах?

Судзілоўскі

Стаміўся ты.

Дэйч

Пах вечнага балота.
Смурод вакол трывушчы...

Судзілоўскі

Павучынне
Памылак і сумненняў, даўні дружа,
Тваю душу аблытала павучна.
Слабых пашкадаваць не грэх, ды толькі
Не пашкадуе час іх, мілы Дэйч.
Як чалавеку я дапамагу.
Што тычыць спраў, то нам не па дарозе.

Дэйч

*(губляе прытомнасць)*

Я не хачу! У Акатуй — не трэба!..

Шыбека

Ён трызніць...

Дэйч

Акатуй...

Судзілоўскі

Згубілі турмы,
Этапы і капальні чалавека,
Яму не трэба хвалявацца.

*Доктар адводзіць уцекача да канапы, укрывае белым прэзідэнцкім пінжаком.*

Шыбека

Наш сад пажоўк... Марскія пехацінцы
Пад кронамі... Сякеры напашэве.

Судзілоўскі

*(матросам)*

Тут віла прэзідэнта!

Афіцэр

Прыбывае
Яшчэ адзін дэсантны батальён.

Яму — палатак, яшчэ кухня, сэр.
Судзілоўскі
У садзе?
Афіцэр
Гэты перастарак-парк
Псуе мясцовасць!
Шыбека
Закісу жалеза
Баяцца дрэвы...
Судзілоўскі
Ты каму тлумачыш?

*Пад'ехала машына. Зноў Ліліуакалані. Яна цяпер каралева.*

Ліліуакалані
Мір дому!
Судзілоўскі
Прошу!
Ліліуакалані
Пільная размова.
Ах, доктар, вы не ведаеце, мусіць,
Што згоду даў сенат на далучэнне
Гаваяў да Амерыкі. Я гэта
Рашэнне нашага сената, доктар,
Лічу лагічным, правільным...
Дэйч
*(ачнуўшыся)*
Выходзіць,
Вы ўжо не прэзідэнт. Ну, ці не так?
Займалі крэсла вы без году тыдзень.
Прыміце спачуванне..
*(Рагоча.)*
Судзілоўскі
Мілы сведка
Маёе катастрофы, адкажу я
На гэта так: ёсць людзі, што падобны
На Бобчынскага з Добчынскім, якім
Карціць штодня бачком а ці паўзком
Праціснуцца ў гісторыю, са скоку
Сваё імя ўпісаць. Я да такіх
Ніколі не належаў.
Дэйч
Не крыўдуй!
Я не хацеў...

*Цяжка ўздыхнуў вулкан Кілауэа, полымя шуганула з кратэра, і ў барвовым небе закрычалі спалоханыя птушкі.*

Судзілоўскі
А я хачу стаць птушкай.







# СЯРОД ТАПЕЛЬЦАЎ ЦУСІМЫ

*Пляханава я пазнаёміў падрабязна з арганізацыяй забеспячэння нелегальнай літаратурай, праз Руселя, нашых палонных у Японіі. Георгій Валянцінавіч сказаў мне, што Руселя ён добра ведае і без агаворак рэкамендуе яго як дужа энергічнага і цалкам адданага справе рэвалюцыі таварыша...*

У. Д. Бонч-Бруевіч, «Выбраныя творы», т. 2

*Доктар Русель заняўся распаўсюджваннем... У Кумамота нелегальную літаратуру атрымлівалі на маё імя. Да мяне прыходзілі людзі з усіх баракаў, бралі кніжачкі і газеты.*

А. С. Новікаў-Прыбой

## Лодка ў моры

*Лістапад 1905. Японскі крэйсер плужыць мора, вяртаючыся з далёкай вахты ля Ціхаакіянскага архіпелага. У каманды настрой дзевяцібальны — тут пераможна адгрымела Цусімская бітва, на радзіме сустрэнуць як пераможцаў і іх, каманду дазору. Марскія ваўкі з пагардай пазіраюць на двух цывільных, якіх далёка адсюль на борт узялі з аўстралійскага транспарту-маруды.*

Судзілоўскі
Бяду народа пахавала мора...
Ятсуда
Вам трэба адпачыць.
Судзілоўскі
Ятсуда-сан,
Хіба адпачываць я еду?
Ятсуда
Так.
Спакой і тут вам не сасніцца.
Расія... Дыхае Расія цяжка,
Што кіт на водмелі. Пра Севастопаль,
Напэўна, чулі? На галовах ходзяць,
Шалее чарнаморская палундра.
Шміт, невядомы Шміт падаўся ў людзі.
Даруйце, з лейтэнанцікаў.
*(Смяецца.)*
Судзілоўскі
Дык цесна
У цяльняшцы рэвалюцыі, калі
У яе героях ходзяць лейтэнанты.
Ятсуда
Атрымана з Нью-Йорка кабельграма:
На крэйсеры «Ачакаў» хвацкі Шміт
Узняў сігнальны флаг, маўляў:
«Камандую я флотам!»
Судзілоўскі
Адмірал!

Ятсуда
Ды што казаць, на Чорным моры Шміт,
Пілсудскі з Кракава, чуваць, грызуць
Калматы зад расійскага мядзведзя.
Судзілоўскі
Цаню, Ятсуда-сан, цаню заўсёды
І нюх і слых японскае разведкі.
Ятсуда
*(не чуючы нібыта)*
Мы выхапілі Порт-Артур навечна
З драпежна-прагных кіпцюроў. Хе-хе...
Няма сумнення, што са скоку тыгра
І да Урала дойдзем. Прэзідэнтам
Японскае Сібіры быць вам, Русель!
Судзілоўскі
Сібіры?
Ятсуда
Разумею, нечакана
Пачуць такое, але, Русель-сан,
Лагічна гэта ўсё. Кругі жыцця.
Слывеце ў свеце вы звышчалавекам.
Судзілоўскі
*(задуменна)*
Вайна прайграна ўжо беспаваротна.
І крахам самаўладства гэта будзе.
Ваенным крахам. Крахам канчатковым.
Але, Ятсуда-сан, народ Расіі,
Непераможны ён.
Ятсуда
Патрыятызм
Народнікаў Расіі нам гаворыць
Пра многае. Пра гэта Чарнышэўскі
Пісаў. Ды сонца ўсходзіць з нашых выспаў.
Судзілоўскі
А вы фанатык. Так, Ятсуда-сан.
Ятсуда
Я не трымаю злосці. Вы — у гэтым!
А я трымаю злосць. І ў гэтым — я!
*Ля гарматы завіхаюцца матросы.*
Каманды:
— Цэль!
— Вышыня прыцэлу!
— Агонь уроскідзь!
Судзілоўскі
*(бярэ бінокль)*
Чакайце! Вы страляеце па лодцы?!
Ятсуда
Яна, відаць, з тапельцамі Цусімы.
Тут недалёка востраў Кіу-Сіу.
Там рускія палонныя. Усе
З няволі хочуць збегчы — хто на чым:
На шлюпках, на баркасах, на плытах.
І вось — на лодцы.
Судзілоўскі
Не страляць!
Ятсуда
Не нам,
Шпакам цывільным, музыку заказваць.



Судзілоўскі
Спыніце іх!
Ятсуда
Скажыце, доктар, дзякуй,
Што ўчора здагадаліся спыніцца
Дазорныя.
Судзілоўскі
Скажыце: не страляць!
Ятсуда
Мы тут ніхто. На дапаможны крэйсер
Нас узялі ў парадку выключэння.
Судзілоўскі
Вы ж у людзей! З гарматы!.. Душагубы!..
Капітан
*(падыходзячы да Ятсуды)*
Вам замінае ён?
Ятсуда
Не ваша справа!
Вы галавой адказваеце за...
Капітан
За пасажыра шумнага ў пантофлях,
Капелюшы і шортах...
Судзілоўскі
*(знервавана)*
Не страляць!
Капітан
Бардак, а не ваенны карабель.
*(Ятсудзе.)*
Мне вы не ўказ... На караблі прымаю
Рашэнні я!...
Судзілоўскі
У, гады!
Капітан
Затрымайце!
Судзілоўскі
*(адбіваецца ад матросаў)*
А каб вас ліха!
Капітан
Лаецца. Па-руску...
Ятсуда
За гэткіх рускіх нашых сто даюць!
Цябе ў тым ліку...
Капітан
Госця ў трум!
Судзілоўскі
Во, дудкі!
Перастраляць бы вас.
Капітан
Куды яго?
Ятсуда
*(паказвае капітану пасведчанне)*
Няхай сабе камандуе, раз хоча.
Капітан
Дык што, тады ў каюту?
Ятсуда
Пачакаць.
Карэспандэнт!.. Ён, бачыце, лаяльна
Амерыку ў нас будзе прадстаўляць.

Дамогся, бачыце, такога права
Амерыканец гэты з рускім шлункам!

Капітан
Кранты, здаецца, лодцы.

Ятсуда
Адыходзім!

Судзілоўскі
Не, не! Уцекачоў забераце
Усіх з разбітай лодкі!

Ятсуда
Згода, доктар.

*На борт узвалаклі параненых тапельцаў. Між імі вельмі ж знаёмае, зарослае барадою абліччa старога матроса.*

Пархом
Мікола! Судзілоўскі?

Судзілоўскі
(як у сне)
Я...

Пархом
(штурхае пад бок таварыша)
Чуў, Лёха!
Мікола гэта. Лунем лунь. З Дняпра.
Плямеш мой нарачоны. Колькі год.
О божа, выпала спаткацца дзе!

Новікаў
*(і тут яршыцца)*
Я баталёр з «Арла», Пархом з «Аўроры».
Дарожанька адна — магіла-мора.

Карабельны медык
Зірніце, як ён рады роднай мове.
Як слухае бадзяг славуты Русель!
Ручай любімых гукаў ловіць, быццам
Крынічны звон...

Ятсуда
Не дзіва. Трыццаць год
Таму назад Расію ён пакінуў.
Хоць, можа, не аднойчы з роднай мовай
І знаўся за мяжой, але каб так,
Каб з вуснаў землякоў і пабрацімаў
Ды ў гэткай мясарубцы,— аніколі!

Судзілоўскі
Ятсуда-сан, што іх чакае?

Ятсуда
Суд.

# У віры трывог і смутку

**(снежань 1905)**

*Змрочныя дайжэзныя баракі на ўскраіне горада Кумамота — давяць, бы клапоў, пакутныя дні 1500 матросаў і 6500 салдат з афіцэрамі.*
*Сіняе неба ў акенцах заткана ў некалькі нітоў калючым дротам. Жыццё адгароджана ад жыцця. І песня, дайняя марацкая песня пра гэта і тое жыццё.*

*Пайшла донька да каморы,*
*Крэпка ўснула.*
*Укралі яе пілiпоны,*
*Ой, дак не чула.*
*Укралі яе піліпоны,*
*Дак не чула.*
*Прачнулася красная дзеўка,*
*Ой, сярод мора.*
*Прачнулася красная дзеўка,*
*Сярод мора,*
*У маладога піліпона,*
*Ой, на прыполе.*

**Галасы:**
— Братва, зноў сівы пан да нас ідзе!
— Прасілі мы ў яго газет і кніг.
— З дастаўкаю да нас у кубрык...
— Тып!..

Судзілоўскі
*(усміхаецца)*
Дзень добры ў хату!

**Галасы:**
— Уваходзьце!
— Просім!..

Судзілоўскі
Прынёс я вам часопісаў, брашур.
Паверыце — не, свет дапамагае.
Тут першы нумар новае газеты
«Наперад» — гэта кліч бальшавікоў.
Цікава ўсё. «Падзенне Порт-Артура» —
Артыкул Леніна. Я раю вам
Удумна пачытаць гурмою брацкай.
Багата сярод вас сібіракоў.
Скажыце, хлопцы: як яно ў Сібіры?
Калі ўжо футра — сабалёва толькі!
Каўнер — з куніцы! Золата бярэцца
У разлік, і толькі золата грашмі
І золата душы! А прасталыткі...
Агідна гэта — бачыць брудңай плоць!
Няўжо мы, небаракі, змізарнелі,
Не здолеем каханне апрануць
У футра, падарыць яму каралі,
Вярнуўшыся з праклятае чужыны?

Матрос
Пра вас Пархом апавядаў.

Судзілоўскі
Пархом?..

Матрос
Ага, стары матрос. Апавядаў,
Пытаўся ўсё...

Судзілоўскі
Як мне яго знайсці?

Матрос
Ці знойдзеце, бо хто сюды патрапіў,
Губляецца іголачкай у стозе.

Судзілоўскі
*(у думках)*
Пархом, Пархом... Я ведаю: ты будзеш
Шчаслівы самы шчасцем тым, якога
Так не хапае мне, уцекачу.

Новікаў
*(прадзіраецца праз натоўп)*
Здарова, доктар Русель! Ці пазналі?
Судзілоўскі
Ты ў лодцы быў.
Новікаў
Судзілі нас.
Судзілоўскі
Прасіў я
Ваеннага міністра Тэраучы,
Каб строга не каралі.
Новікаў
Дзякуй, доктар.
Судзілоўскі
*(да палонных)*
Вы чулі пра крывавую нядзелю?
У студзені. Дзевятага было.
Ля Зімняга палаца расстралялі
У Піцеры з пратэсамі рабочых —
Салдатам цар аддаў загад.
Галасы:
— Як можна!..
— Цар...
— Крывасмок!..
Матрос
Брашура гэта ваша?
Судзілоўскі
Мая. Звяртаюся да афіцэраў
І вас прашу, матросы, смела ўзняцца,
Устаць на бок свайго народа, хоць бы
Не замінаць народу ў барацьбе
Супроць паноў, цара і царанят...
Матрос
Матросы-пініпоны мы. На моры
Ў каго, скажыце, нам страляць?
Судзілоўскі
Ах, малец.
*(Падае газету.)*
Чытай!..
Голас:
А што там?
Судзілоўскі
Пра «Пацёмкін» пішуць.
Там на адэскім рэйдзе сцяг свабоды
Узняў адважна чарнаморскі крэйсер...
Матрос
Свабоды!
Дык па ім з усіх гармат —
Распарадзіўся зноў жа цар — с в а е
У с в а і х страляялі...
Матрос
Быць таго не можа!
Свае ў сваіх...
Судзілоўскі
Вось і прашу я вас,
Дзяцей сваіх, сыноў сваіх: як верне
Вас цар адсюль, з палону, у Расію —
Няхай ніколі вашая рука



Не ўзнімецца на гэткіх жа, як вы,
Людзей гаротных...
Кульгавы
Хораша спявае!
Я думаю, братва: а хто ён нам,
Сэр гэны? Лахманы на нас, на ім —
З іголачкі ўсё з ног да галавы...
Галасы:
— Гані яго!..
— Шпег!..
— Падасланы!..
Судзілоўскі
Рукі!..
Новікаў
*(з кулакамі на кульгавага афіцэра)*
Ах, правакатар!... Гад...
Матрос
У морду бі
Кульгаваму!..
Кульгавы
*(адступаючы, выхапіў рэвальвер)*
А пушачка са мной!
Матрос
Ты!.. Лярва чарнасоценная!..

*Наперад выступае катаржанін. Ён з тых, каго ў ланцугах японцы заняволілі ў сахалінскай няволі.*
*На катаргу Браніслаў Пілсудскі, студэнт Пецярбургскага універсітэта, трапіў як паплечнік Аляксандра Ульянава і іншых удзельнікаў замаху на цара.*

Пілсудскі
Гніда!
Кульгавы
Яшчэ нам не хапала катаржан
І ссыльных з Сахаліна? Адкусілі
Паўвострава японцы — і забралі
Царазабойцаў як палонных!..

*Уваходзіць камендант, аточаны світай вайскоўцаў.*

Камендант
Шу-ум!..

*Побач з камендантам лагера генерал-лейтэнант Данілаў, камісар Цэнтральнага распарадчага камітэта па эвакуацыі палонных з Японіі.*

Тут вашы начытаюцца, а потым
Героямі сябе ўяўляюць. Кожны,
Як пава, ходзіць.
Данілаў
Хто?
Камендант
Вунь той, са шрамам,
Празваны... як гэта па-руску? Мабыць,
Ён Шэры Воўк між іх...
Данілаў
Дык Шэры... Слухай,
Хачу пагаварыць з табою шчыра,
Матрос...

Галасы:
— Уліп!..
— Трымайся!..
— Генерал,
Ён ведае, пра што пытаць...
Шэры
Ёсць, ваша...
Данілаў
Далоў субардынацыю! Скажы,
А воўку надта хочацца ў свой лес?
Шэры
Пусцілі б толькі! Бег бы я і бег
Без сцежак, без дарог у той барок,
Дзе леснічоўка... дзе стары мой бацька...
Відаць, зусім аглух, аслеп, а сын
Бадзяецца па белым свеце воўкам.
Данілаў
Цябе, матрос, парадаваць хачу:
З японцамі ў нас — камендант пацвердзіць —
Такая ёсць дамоўленасць: каб вас —
І з Кумамота перш усіх! — вярнуць
Да родных рэчак і сяліб.
Кульгавы
Братва!
Гурмою гушкаць генерала!
Данілаў
Што вы!
Мой абавязак быць за бацьку вам.
*(Гутарыць са світай.)*
Як зразумець эсэраў нашых? Як?
Яўно Азэф, іх лідэр знакаміты,
Даносамі засыпаў Пецярбург:
Нібыта нам салдаты і матросы
З Японіі прывалакуць віхуру,
Маўляў, паўстанне выбухне...
Рускі чыноўнік
Азэф?
Таемны вораг Руселя Яўно.
Данілаў
*(смяецца)*
Яўно — яно і ёсць яўно, прабачце.
Рускі чыноўнік
Як нам вядома, Судзілоўскі б'ецца,
Што рыбіна аб лёд, каб іх, палонных,
Павесці за сабой супроць цара.
Азэф — складаны механізм. Нямала
Ён доктару нашкодзіў.
Данілаў
Камендант,
Цяпер павінны тут нашкодзіць мы.
Камендант
Што маеце на ўвеце?
Данілаў
Патрабуе
Урад Расіі выдаць эмігранта.
Яму адмовілі амерыканцы
У іх грамадзянстве. Як і англічане
З французамі.



Камендант
А вунь ён — Судзілоўскі.
Прашу ўсіх расступіцца!..
Ятсуда
*(рашуча)*
Камендант!
Лічыце, што вы з гэтае хвіліны
Ўсяго наглядчык, бо тупых галоў,
Як гарбузоў пустых, не паважаюць
Японцы ў доме...
Камендант
Ёсць!
Ятсуда
Вы, генерал,
І адмірал Раждзественскі... тапелец...
Два боты — пара! Не адно і тое ж:
Па моры плаваць і без вёслаў плаваць,
Як вы з ім, у палітыцы вялікай.

*Генерал Данілаў адразу абмяк, а разведчык бярэ падпашкі Судзілоўскага, падводзіць да Браніслава Пілсудскага.*

Ятсуда
Знаёмцеся, панове.
Судзілоўскі
А, Пілсудскі.
Пасобца ў змове.
Ятсуда
Родны брат таго
Пілсудскага, які наведаў нас
Зусім нядаўна ў Токіо, каб пакт
Супроць Расіі заключыць.
Пілсудскі
Во, Русель,
Якое звышсакрэтнае дасье
На нас, Пілсудскіх. Пэўна, і на вас.
Судзілоўскі
Ну.
Пілсудскі
Цар, і не адзін, даўно скалеў —
І гэта хай паслужыць суцяшэннем,
Што недарэмна пажылі на свеце
Ульянаў, Генералаў, Асіпанаў.
Судзілоўскі
Я — у выгнанні, ты — у ссылцы...
Пілсудскі
Цяжка
Сказаць, ці лепш ад катаргі выгнанне
Палякам у жалязах.
Судзілоўскі
Беларус я.
Чым горшае ад катаргі выгнанне?
На катарзе заўжды з табою побач
Такія ж, як і сам, а на выгнанні
Ятсуды поруч... Разумееш? Як бы
На кожным кроку прорва. Тую ж справу
Павінен весці не з таго канца,
Як надзяваць штаны праз галаву.
Выгнанне горай шахт, Браніслаў.

П і л с у д с к і
Старэйшы брат мой Юзэф са Свянцян
Падаўся ў свет, царом закратаваны.
Глынуў Сібіры, з пецярбургскіх лёхаў
Уцёк; гуртуючы стральцоў атрады
У Аўстра-Венгрыі, гатовы ён
Супроць цара хоць з д’яблам у хаўрусе
Вайною рушыць... хоць і ў д’ябла краты.
Выгнанне горай шахт, то праўда.

*Ужо на прыстані палоннікі брыдуць на параходы, з вышыні махаючы бесказыркамі і папахамі на развітанне. І песня, шчымлівая песня.*

*Ой, да там твой сыночак*
*У чыстым полі пры дарозе,*
*Да там ён спачывае.*
*Сокал ясны прылятае,*
*За галоўку сціскае,*
*А чорны воран прылятае,*
*Да цела абірае.*
*А ўжо ж тыя косці*
*Ад дажджу пасінелі*
*Да і з ветру пачарнелі!*
*Ой, не дай, божа, смерці,*
*На чужым краю ўмерці,*
*Да некаму дазіраці*
*Салдацкае смерці...*

П і л с у д с к і
Шчаслівыя! Вяртаюцца дахаты.
С у д з і л о ў с к і
Дадому... Катаржанін і выгнаннік
Адно і могуць, што змахнуць слязу.

# НАД ПРОРВАЙ

*Ці нельга хоць мёртвым вярнуцца і спачыць у сваёй зямлі?..*
Мікалай Судзілоўскі

## Роспач

**(студзень 1912)**

*Домік у прадмесці Нагасакі. Невыпадкова тут пасяліўся доктар Русель. У горадзе вялікі порт, куды часта заходзяць замежныя караблі, тут, як нідзе, спрыяльныя ўмовы для сувязі з Расіяй, Заходняй Еўропай, Амерыкай, да таго ж, сябры і таварышы з палонных матросаў, салдатаў, афіцэраў, а таксама ўдзельнікі рэвалюцыйных падзей пятага года, уцякаючы з Сібіры і Уладзівастока, згуртаваліся пад дахамі Нагасакі. Адсюль ляціць у стрывожаны свет газета «Воля». Доктар Русель яшчэ рэдагуе часопіс «Японія і Расія», выдае свае кнігі, друкуе лістоўкі для падполля Сібіры і Прымор’я.*

*Звычайна ў доміку тлумна ад спрэчак і туманна ад табакі. А сёння тут строга шпітальная цішыня. Доктар Русель у белым палоне падушак. Ён, знямоглы, дыктуе сваёй сакратарцы. Гэта ліст у Магілёў да сястры Яўгеніі.*







С у д з і л о ў с к і
...А сяння з пальцаў выпала асадка.
Падбіўся я, што конь... Падбіўся, Жэня,
На рытвах і выбоінах у свеце,
Сівою грывай захінуўшы долю.

*Яго б’е кашаль. Увішная сакратарка і гаспадынька Масаё падае напой з тыбецкіх траў.*

С у д з і л о ў с к і
*(дыктуе)*
Туга і роспач...— ведаю, прамовіш.
Бяда, сястра,— Бастылія не пала,
І наша рэвалюцыя, якою
Я змалку жыў, разгромлена крывава...
Удар другі — здалёку вестка: Лёдзя,
Шыбека Леакадзія, «міс Птаха»,
Батанік на Гаваях, мой дарадчык
І песня лебядзіная... памерла...

*Хворы змоўк.*

М а с а ё
*(за машынкай)*
І песня лебядзіная памерла...
С у д з і л о ў с к і
*(схамянуўшыся)*
...Калекцыі, гербарыі Шыбекі,
Лісты Тургенева і Караленкі,
Увесь архіў, што адрасую родным,—
Прашу, сястрыца,— дома зберажыце.
А мне адно... адно мне застаецца:
Пайсці адгэтуль, як пайшлі Лафаргі.
М а с а ё
Не разумею: як пайшлі Лафаргі?
С у д з і л о ў с к і
Там калій быў... цыяністы... Раптоўна...
Дазвольце мне спытаць у вас, калі
Вы рускай авалодалі, як роднай?
М а с а ё
Цікаўлюся русістыкай з маленства.
Спачатку быў японска-рускі слоўнік
Гашкевіча.
С у д з і л о ў с к і
То беларус з-пад Вільні.
М а с а ё
І першы ў Токіо расійскі консул.
С у д з і л о ў с к і
Даўно было. Сплыло... Гашкевіч Восіп —
Зацяты драгаман і падарожнік.

*У дворык, чуваць, заехала машына. На парозе візіцёр з сакваяжам.*

Я т с у д а
У рускіх не змяняецца характар —
Спрадвечная мядзведжая дрымота.
С у д з і л о ў с к і
Лягво і свет пакіну неўзабаве.
Я т с у д а
Цяпер вам крэматорый не прысніцца.

*Візіцёр, смеючыся, дастае з сакваяжа газеты, шмат газет.*

Я т с у д а
Зірніце, Русель-сан! Чыта, і Кіеў,
І Пецярбург — усюды некралогі:
Пан Судзілоўскі (слынны доктар Русель)
Сваё жыццё закончыў самагубствам.
Партрэты ў рамцы, бачыце, партрэты.

*Ашаломленая Масаё падае хвораму акуляры, а ён абыякава гартае прасціралды газет.*

Я т с у д а
Дык сто гадоў — такая ў вас прымета!
С у д з і л о ў с к і
Хачу адзін на ўласным пахаванні
Застацца.
Я т с у д а
Хай Расія пахавала,
Японія ж — маленькая краіна —
Шануе, бо вялікі ў ёй парадак.
Прашу вас толькі: супыніце, доктар,
Сваіх у Нагасакі каланістаў.
Лістоўкі ціснуць, агітуюць докі,
І нашы выспы скрозь пачырванелі.
Не любіць імператар гэты колер —
Цару Расіі можа выдаць... з м о ў ц у.
С у д з і л о ў с к і
Хачу адзін на ўласным пахаванні
Застацца дома.
М а с а ё
Добра.
Я т с у д а
Да спаткання!

*Доктар Русель абмацвае на зэдліку парашкі, карабочкі, бутэлечкі з медыкаментамі. Ён не знаходзіць у віры роспачы патрэбнае і неабходнае. Уздыхнуўшы, прыслухоўваецца да гамонкі за адчыненай форткай.*

## Другі экземпляр

*У дворыку ля машыны візіцёр і гаспадынька.*
М а с а ё
Ятсуда-сан, атруту я забрала,
Таксама — ўсё атрутнае з аптэкі,
Я т с у д а
*(разглядае паперы перадруку.)*
Пісьмо сястры... а гэта... што такое?
М а с а ё
На смерць Шыбекі.
Я т с у д а
Вершыкі? Чытайце.
М а с а ё
Куды пад ветрам птушкі адлятаюць,
Калі настане ноч,
Калі настане ноч?..



Куды, куды хаваюцца яны,
Калі настане ноч
І песня лета спета?..
Адны хаваюцца ў лістоце дрэва,
Другія — у калысачцы гнязда.
Калі б мне крылы, крылы, як у птушкі,
Далёка, эх, далёка паляцеў бы...
І звіў сабе ў пустэльні я гняздо,
І там спачыў. Спачыў, як птушка.
Я т с у д а
Атрута, некралогі... Не занадта?..
Не птушкі лёт, а хітрыкі шпіёна.
Сачыце пільна.

М а с а ё
З намі імператар!
Я т с у д а
І бог! І бог, Масаё-сан. Сачыце.

# КРОПЛЯ І АКІЯН

*«Я прачытаў Ваш цікавы артыкул «Кітайская праблема» з вялікай увагай. Ён пакінуў глыбокае ўражанне. Ідэя Ваша высакародная, а Ваша сэрца велікадушнае! Я рэдка сустракаў еўрапейца, які заходзіць так далёка, каб абараняць практычна так, як гэта робіце Вы, ідэю адраджэння Кітая і ўздыму мільёнаў яго прыгнечаных.*
Адданы Вам Сунь Ятсен». З пісьма М. Руселю

## Паратунак

*Домік у прадмесці Нагасакі. У пакоях выветрыліся і шпітальны вусціш, і неспакой стрывожанай душы — так нечакана вясна-красна валадарна на парог ступіла: да бацькі прыехалі дочкі з далёкай Беларусі.*

В е р а
Пісалася ў газетах, што заўчасна
Пакінуў свет вандроўнік і вучоны,
Наклаўшы рукі на сябе.
М а н я
Ой, тата!..
А цётка Жэня кажа: гэта плёткі,
Фантазіі падступніка Азэфа.
М а н я
І раптам ліст!..
В е р а
Пазначана ў ім дата:
Ну, хто паверыць — піша з таго свету!
М а н я
Ад радасці мы скачам!
В е р а
Цётка Жэня
Ляжыць і думае.

Маня
І мы прыціхлі.
Вера
Яна смяецца: ластаўкі, ў дарогу!..
Маня
Мы ехалі, плылі...
Судзілоўскі
*(выцірае слёзы)*
Дачушкі, дзякуй...
А Жэня што?..
Вера
Хвароба аблажыла.
І муж пакінуў.
Судзілоўскі
Родныя крывінкі...
Маё жыццё... Вясна і паратунак...

*У калідоры азваўся тэлефон. Нячутна з'яўляецца сакратарка.*

Масаё
Прабачце, Русель-сан. Званок з паліцыі —
Зайсці вас просяць.
Судзілоўскі
Хворы. Так скажыце.

*Ён падыходзіць да стала, гартае перадрукі.*

Судзілоўскі
Масаё-сан, гляджу свае паперы.
А дзе другі аднец машынапісу?
Масаё
*(збянтэжана)*
Не ведаю, шаноўны доктар Русель.
Судзілоўскі
*(злосна)*
Не толькі вы ў русістыцы майстрыха —
Вы спец яшчэ ў Ятсудавай канторы.
Прашу вас, сяння ж шэфу далажыце:
Сваіх я маю дома сакратарак
І верных шчырых гаспадынь. Бывайце!

*Знямелая Масаё схэзла нячутна, як мышка.*

Маня
Навошта так? Яна ж уся, як ласка.
Судзілоўскі
Звярок жыве сабе, завецца Ласкай.
На выгляд — проста дзіва, а драпежнік,—
Я помню з Фастава.
Маня
Фальварак тамка
Прадалі, як памерлі дзед з бабуляй.
Вера
Прзвалі бунгала тваю альтанку,
З усіх бакоў зарослую павоем,
Калі чыталі там лісты з Гаваяў...

*У акне, адчыненым у мокры сад, усплылі ціхенька, як два месяцы, абліччы мужчын — ажно дзяўчаткі ўскрыкнулі. Было чаму спужацца.*



Японец
*(таямніча)*
Чужых няма?..
Судзілоўскі
У дом заходзяць з ганку,
Таварышы партавікі.
Кітаец
Убачаць.
На вуліцы шпегі.
Японец
З верных рук вядома:
На арышт ордэр атрымаў Ятсуда.
Сюды прыедуць ноччу. Часу мала.
Кітаец
На збор гадзіна ў вас.
Японец
Аўто за садам.
Кітаец
А ў порце шхуна. Морам — да Кітая.
Японец
Такі загад.
Кітаец
І просьба Сунь Ятсена.

# Апошняе спатканне

**(2 красавіка 1912)**

*Пад зорным шатром начы цьмеюць руіны будыйскага манастыра. На двары каменны калодзеж. Мыюцца спешаныя коннікі сіньхайскай рэвалюцыі. На прывале вогнішча. Разгарыстае полымя дзеля роздуму і споведзі.*

Сунь Ятсен
Учора паўнамоцтвы прэзідэнта
Я зняў з раменаў, мілы доктар Русель.
Судзілоўскі
Пагас учора ясны дзень Кітая —
Рэспубліка, здабытая крывёю.
Сунь Ятсен
Не згасне на прывале наша праўда
І заклік «Кожнаму ратаю — поле!»,
Сваё, здабытае ў паходзе поле.
Судзілоўскі
Баі. Паходы. І паўстанняў дзесяць.
І суд бязлітасны — прысуд смяротны.
Назваў, калега, вас героем Ленін.
Сунь Ятсен
У нас цяпер таксама адступленне.
Дармо, што адраклася ад пасаду
Маньчжура-цынская дынастыя,—
Ізноў да ўлады прущца феадалы,
Віжуюць скрозь японскія агенты
З кадзілам «Азія для азіятаў».

*Трашчыць на агні сушняк. У абложнай цемры далёкая траскатня бязладнай страляніны. Толькі над галавою спакойна гарыць, іскрыцца ўрачыста неасяжны Млечны Шлях.*

Судзілоўскі
Сусвет — рака адвечнасці і духу:
Выток у прошласці шукай, а вусце
Глядзі у прышласці жывой і вечнай.
Бясконца ў ёй матэрыя, калега.
Мы — толькі кроплі гэтай зорнай плыні,
І наша сіла толькі ў акіяне.
Як вецер кропельку адзьме, то пырскай
Яна, маленькая, імгненна счэзне.
Не стане нас, жыццё не счэзне ў свеце.
Сунь Ятсен
Мы вельмі цэнім ваш вялікі вопыт
І шчыры дух інтэрнацыянальны.
Вы медык, як і я. Сягоння разам,
Бінтуючы байцоў цяжкія раны,
Мы лечым свет і словам, і спагадай.

*Узрушана загаманілі салдаты пры калодзежы. Да вогнішча вядуць мужчыну са звязанымі рукамі.*

Канвойшчык
Асочнік. Студні труціў.
Сунь Ятсен
Развяжыце.

*Доктар Русель пільна глядзіць на палоннага, зараслага барадой — штосьці знаёмае і ў паставе, і ў абліччы.*

Судзілоўскі
Ятсуда-сан, я помню: «Да спаткання»,—
Сказалі мне ў прадмесці Нагасакі.
Спаткацца нам і праўда давялося.
Відаць, у нас апошняе спатканне.

# НАВАЛЬНІЦА Ў ЦЯНЬЦЗІНЕ

*Пакінуць свет хоць крышачку лепшым, ніж мы засталі яго.*
Мікалай Судзілоўскі

*Судзілоўскі глядзіць на карціну-мініяцюру Пахітанава «Парыж. Могільнік Пер-Лашэз», якая вісіць над пісьмовым сталом. Трызніць.*

Зноў Урублеўскі? Як жа! Бліскавіца
Яго, яго мне высвеціла зараз!
Ды ён мяне не бачыць...
Урублеўскі-прывід
Бачу, Русель!
Хаця няўпраўка ў нас на барыкадах,
Здалёку змеціў... Нам бы валанцёраў
Больш...
Судзілоўскі
Генерал Парыжскае камуны!
Так, ты мяне пераканаў у многім...





Пры Энгельсе, пры Марксе папракнуў быў
І, хто для беларусаў Каліноўскі,
Дасціпна растлумачыў...
Вера
*(уваходзіць)*
Тата...
Судзілоўскі
Я!..
Вера
Да нас вандроўнік нейкі...
Судзілоўскі
Адчыні!

*Уваходзіць сівы, састарэлы ротмістр.*

Ротмістр
Дабранач, доктар Русель!
Судзілоўскі
Уваходзьце.
Ротмістр
Да вас не на хвілінку я...
Судзілоўскі
Тым больш.
Ротмістр
Ах, гэта навальніца і... Цяньцзінь!..
Чужое тут усё...
Судзілоўскі
Бліжэй да справы.
Ротмістр
Мяне вы не пазналі?
Судзілоўскі
Я, здаецца,
Не мог на вас калісьці азірнуцца,
Не тое што разгледзець добра...
Ротмістр
Ваша
Сястра Яўгенія на вас падобна!
Яна ў Адэсе выручыла вас,
Бо гэтыя вось рукі як схапіла —
Нібыта абцугамі... А цяпер...
Судзілоўскі
Дык што цяпер?
Ротмістр
Як добра, што вы тут.
Свой чалавек...
Судзілоўскі
Ну?
Ротмістр
Гоняцца за мной...
Паліцыя... І я цяпер, не вы,
Загнаны... Какаін тут прадаваў...
Судзілоўскі
Хто вас давёў, старога чалавека,
Да гэткіх цёмных спраў?
Ротмістр
Унгерн фон Штэрнберг.
Судзілоўскі
Той Штэрнберг ці не той, каго Сібірскі
Рэвалюцыйны трыбунал за здзекі

Над мірнымі людзьмі прыгаварыў,
Здаецца, да расстрэлу?

Ротмістр

Расстралялі.
З Раманам Фёдаравічам дарэмна
Падаўся я ва Усходнюю Сібір
Савецкае Расіі. Атаман
Сямёнаў і яго, і нас усіх
Давёў там да салодкага жыцця!
З контррэвалюцыяй у Забайкаллі
Усё скончана было ўжо ў дваццаць першым...

Судзілоўскі

А ў дваццаць трэцім ротмістр сівагрывы
Прыйшоў прасіць ратунку да ахвяры,
Ішоў па следу за якой амаль што
Паўвека...

Ротмістр

З Магілёва да Адэсы,
І толькі, доктар Русель,— улічыце!
Згадалі: слаўся кляты стэп жыцця
Скрозь перад вамі?..

Судзілоўскі

Стэп...

Ротмістр

Ці мог я думаць,
Што ў навальнічнае сканчэнне свету
Абодва трапім мы...

Судзілоўскі

Які ён, свет,
Пан ротмістр, ці табе цаніць па-людску!
Ну, прэч, белагвардзейскае ахвосце!..

# ПОСТАЦІ НА КУРГАНЕ

**(замест эпілога)**

*Красавік 1926. Менск. У рэдакцыі часопіса «Полымя» ўсхваляваны рэдактар Зміцер Жылуновіч сустракае Янку Купалу.*

Купала

*(з неадлучнай кавенькай)*
Дабрыдзень, браце.

Жылуновіч

Янка! Добры дзень...
А дзе Міхась Чарот?

Купала

Чарот пры скарбе.
Мяне мая Уладка адпусціла
Ды наказала, каб адной нагой
Сюды, другой — дамоў...

Жылуновіч

От гэта жонка!
А я ў акно зірнуў — і анямеў:
Ідзе Купала побач з возам...



Купала

Браце,
Як босых тых на вогнішчы, паводка
Загнала на гарышча. Заліло
Па вокны дом. Ды хлопцы ўратавалі —
Па вуліцы Кастрычніцкай на чоўнах
Дабраліся...

Жылуновіч

Чым я дапамагу?

Купала

Ля «Полымя» адно дай абсушыцца —
Прамок да ніткі.

Жылуновіч

Дык прысядзь.

Купала

О, не!
Купалы-пралетара гаспадарка
Уся як ёсць палегла на падвоскі,
Атосы і драбіны.

Жылуновіч

Любы Янка,
А піцерскі ж рабочы Жылуновіч
(Сягоння ён яшчэ і Цішка Гартны)
Найперш з сялян капыльскіх, а таму
Так скажа ён табе: што швораң, рэхвы,
Калодка з абадамі, нават дышаль
З падушкамі — увесь няхітры гэты
Набор дасціпных назваў гужавога
Даступнага ўсім транспарту няхутка
Павыветрыцца, знікне з лексікону,
А можа, і ніколі не ўстарэе,
Хаця натхненне мы ад гідрастанцый
І домнаў, знай, бярэм...
*(Смяецца.)*

Купала

Даніна модзе.
А пафас, пафас ці не ад паводкі...

Жылуновіч

Ад весняй?

Купала

І рэвалюцыйнай, браце.

*З'яўляецца Якуб Колас.*

Колас

Дзень добры, хлопцы! Янка, я ж цябе
Шукаю...

Купала

*(заўсміхаўся)*
Каласок, я і знайшоўся!

Колас

Там твой на возе скарб — дык буду рады
Табе ў сваіх харомах даць прытулак.

Купала

Пакрыўдзіцца Чарот. А за спагаду,
Якубе, дзякуй. Ты заўжды быў чулы.
Прыпамінаю... Як гэта ў «Сымоне...»?



© PDF: Kamunikat.org 2016

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

*Эх, чаго нам ні прыйшлося,*
*Браце мілыя, ужыць!*
*Колькі талентаў звялося,*
*Колькі іх і дзе ляжыць*
*Невядомых, непрызнаных,*
*Не аплаканых нікім,*
*Толькі ў полі адспяваных*
*Ветру посвістам пустым!*

Колас
*Дык хіба ж мы праў не маем,*
*Сілы шлях свой адзначаць*
*І сваім уласным краем*
*Край свой родны называць?*
І гэта, Янка, ад цябе ўсё, чуеш?

Купала
Я ж не Баян.

Колас
Ты спраўдзіў люду сненне.

Купала
Якое?

Колас
Людзьмі звацца.

Купала
Людзьмі звацца...
У словалітнях дбаў яшчэ Скарына,
Каб сненне люду спраўдзіць.

Колас
*(загараецца)*
Дык каму
Тады, калі не ворагу, патрэбна,
Каб сталі адрачэнцамі мы, Янка,
І выракліся тых людзей, якімі
Павінен ганарыцца наш народ?
Як, скажам, Каліноўскі, Судзілоўскі...
Ад гэтых каранёў сячы храсточкі?
І дзе? На маладым па веку дрэве!

Купала
Жыло ў табе трывожнае, Якубе,
З юнацтва прадчуванне... Ды ад «Іскры»,
Бач, зашугала «Полымя»! Ты, Цішка,
Рэдактар-палымянец, і табе
Крылаты гэты выраз даспадобы,
Як бачу. Хай прыходзяць абсушыцца
Да «Полымя», а часам і сагрэцца.
Не толькі Колас ды Купала!..

Паштавік
*(у дзвярах)*
Можна?..
Парнасу прывітанне! Бандэроль.

Жылуновіч
*(з пакетам)*
Ад Руселя. З Кітая... Толькі што
Згадалі Судзілоўскага — і дзіва:
Пастукаўся вандроўнік сам у дзверы.

Купала
Здарожыўся, відаць,— у белым свеце
Гудзе паводка. Земляку такому
Пачэснае мы знойдзем, хлопцы, месца,
Каля агню прывецім, абагрэем
Яшчэ адну збалелую душу.

*З разрэзанага канверта выпала фотакартка — сівенькі, як астатні дымок, доктар Русель. Аблічча павялічваецца, быццам ён побач, быццам размаўляе. Толькі не з намі — з бацькаўшчынай сваёй.*

Я з разгуканых ростаняў дарог
Узбіўся, родная, на твой парог.
Я — доктар Русель! Выцвіў ён зусім
У сховішчах архіўных, псеўданім.
Не я дастаўся з далечы дамоў —
Як воблачка сівенькае, дымок.
Ад жару крэмацыйнага кастра
З Кітая плыў да роднага Дняпра.
У веснім шале Проня, Сож і Друць.
Вяртаюся, бо многіх ты вярнуць
Наважылася — стаць самой сабой,
А не глухой, нямотнай і сляпой.
Рассыпаўшы крутыя курганы,
Вяртаюцца дамоў твае сыны.
Быў хатай свет.
У свеце боль і бой.
Шляхі... Шляхі...
Спавітыя журбой...
Асядзе дым-дымочак
На сасне.
А ці пазнаеш,
Родная, мяне?

**1985—1989 гг.**





## *Уладзімір Арлоў*

### ЦЯГНІК

Дзіўны цягнік спыняецца штоночы на нашым ліпнёвым паўстанку: свецяцца вокны, ды не відаць людзей за імі.

Там нікога няма, шэпчаш спалохана ты і завешваеш фіранку ў пакоі. І нідзе нікога няма. Мы з табою—апошнія людзі на свеце.

Чакае цягнік—нібы лёс, нібы непазбежнасць, вабіць, як бездань, светлай сваёй пустэчаю, каб павезці ў невараць.

Адзіны паратунак застаецца ў нас:
ты—для мяне,
я—для цябе.
Вусны ратуюць вусны,
цела ратуе цела,
душа ратуе душу.
Знікаем у полымі паратунку, каб памерці разам і разам уваскрэснуць.

Уваскрэсну на досвітку: спіць за акном аснежаны горад, чужое дыханне казыча шчаку.

Ты ўваскрэснеш у тое ж імгненне на нечым плячы, скажаш камусьці ў одуме: дзіўны цягнік прысніўся мне—свецяцца вокны, ды няма нікога за імі...

### ГАДЗІННІК

Стаўлю дакладна стрэлкі, падцягваю вагі, пускаю медны ківач—заводжу апоўдні свой гадзіннік адмысловы, дзе заместа лічбаў імёны.

Адсякае ківач ад вечнасці імгненне за імгненнем, паўзуць па коле стрэлкі—няўмольна сціраючы імёны, аднаўляюць на іх месцы лічбы.

Б'е гадзіннік апоўначы, заміраюць на імені тваім гострыя стрэлкі, але не знікае яно, як астатнія, а свеціцца пераможна.

Яно непадуладнае стрэлкам.
Яно належыць іншаму часу.
Яно закутае ў ім, быццам срэбная пацерка паветра ў кроплі бурштыну.

Новае кола пачынаюць стрэлкі—гаснуць услед за імі лічбы, запальваюцца імёны.

Ідзе гадзіннік, і кожны міг паказваюць стрэлкі тваё імя.

### ТАМ, ЗА ДЗВЯРЫМА

Стаюся за дзвярыма, пакуль пакой мой не пачне жыць сваім жыццём, пакуль не пачуюцца адтуль таемныя гукі: дробныя крокі, прыцішаны стукат, шамаценне кніжных старонак.

Адчыню знянацку дзверы—падманная ціша сустрэне мяне.

Але чые гэта слядкі на пыльным краі стальніцы? І кніга разгорнута не на той старонцы, і масянжовы анёлак застыла ўсміхаецца зусім іншаю ўсмешкай.

Весела мне: спіць яшчэ думка пра таго, хто чакае цярпліва дня свайго там, за нашымі дзвярыма.

### КАХАННЕ

Прагну сустрэчы з табой—
каб вырвацца з гэтай вязніцы,
каб зрабіцца відушчым,
каб спасцігнуць суладнасць,
каб дакрануцца сутнасці рэчаў і слоў.

Я зрабіўся відушчым, але я—сляпы.
Я спасціг суладнасць, але сам ператвараю яе ў хаос.
Я авалодаў сутнасцю слоў, але самі яны выйшлі з-пад маёй улады.

Прагну расстання з сабой—
каб вырвацца з гэтай вязніцы,
каб зрабіцца відушчым,
каб занатаваць спасцігнутыя сутнасці.

Прагну сустрэчы з табой, і кожны новы дзень аддаляе мяне ад мяне.

### СТРАТА

Шукаю цябе штодня—
у словах прахожых,
у абрысах мураванак,
у лініях рэк.
Шукаю зноў і зноў, але няма цябе там, дзе—сцвярджаюць мапы—ты была здавён.

Буду шукаць цябе там,
дзе свецяць іншыя зоркі,
дзе рэкі стромістыя і каламутныя,
дзе—сцвярджаюць мапы—цябе ніколі не было.

Буду шукаць, і аднойчы
твае далёкія храмы адновяць страчаныя абрысы,
твае выпрастаныя рэкі зробяцца пакручастыя, як лініі лёсаў,
твае прахожыя загавораць на мове, якой цэлае стагоддзе не чуў я.
Вярнуся прасіць даравання, і, пачуўшы мяне, ты адкажаш позіркам, якім глядзяць на блазна.

### ЧОВЕН

Плыве па рацэ човен, рыпяць вёслы, пагойдваюцца лілеі ў затоках.

Нахінецца вясляр над вадою: плыве ў глыбіні човен з весляром, што глядзіць сувора ўгору.

Падыме галаву: плыве ў небе човен з весляром, што глядзіць долу здзіўлёна і легкадумна.

Лётаюць вакол чоўна чайкі.
Мітусяцца над чоўнам рыбіны.
Заходзіць човен, нібы месяц, за хмары.

Плывуць услед за сонцам чоўны, каб спаткацца там,
дзе сустракаюцца раўналегласці,
дзе знікае і нараджаецца час,
дзе будучыня была, а мінулае яшчэ будзе.

Адлучана глядзіць наперад вясляр.

### ШЛЯХ

Надзену дзедаў картуз саламяны, і агорнуць мяне думкі незвычайныя: пра ячмень, і пра канюшыну, і пра жарабца варанога, што прадавалі надоечы цыганы ў Воршы.

Іду па вёсцы ў дзедавым картузе, гамоняць са мною людзі, пазнаюць і змаўкаюць прысаромлена сабакі.

Пабраў ты і кропелькі ад дзеда, кажа бабка Хадорка. Барані цябе, божа, ад лёсу ягонага—хрысціць на адвітанне.

Іду па вёсцы, а яна ўсё не канчаецца, і царква бялеецца на месцы руінаў, і ўсё болей людзей незнаёмых сустракаю я ў даўняй апратцы: адны вітаюцца са мною прыязна, другія адводзяць позіркі зласлівыя.

Азірнуся назад—туман клубіцца за мною.

Пагляджу наперад: ідзе на гару дарога, растуць на вяршыні крыжы, кружляе над ім крумкаччо.

Іду насустрач дзедаваму лёсу, як ішоў некалі дзед насустрач маймў.

### НА БЕРАЗЕ ІНШАГА ЧАСУ

Там, на беразе іншага часу, на апошняй выспе знікомага Сусвету, апануюць мяне ўспаміны.

Празрыстасць імклівае плыні ўспомню — з жыцця, дзе рыбінай быў.
Успомню пчалы пацалунак—быў кветкай калісьці.
Сонечны вецер згадаю—з веку свайго птушынага.

З жыцця, дзе быў чалавекам, успомню каханне.

## МАЛЕНСТВА

Прыстаўлю да ліпіны драбіны, падымуся да першых галін, і абдыме яна мяне зелянінай, затуліць ад усяго, што пакінуў на доле.
Усё вышэй падымаюся—засталіся драбіны далёка, і старую калоду і буслянку пакінуў унізе...

А гэта ўжо не ліпіна, а зялёнае неба,
а гэта ўжо не квецень, а зорнае сяйво,
а гэта ўжо не хутар наш пада мною,
а ўся зямля.

Плыву над ёю ў зялёным небе і не страшна мне, бо—дзе б ні апынуўся—ведаю: стаяць унізе драбіны, што лучаць неба маё з маёй зямлёю.

## ГАЛАСЫ́

Удзень і ўначы гучаць ува мне галасы.
Крычы!—загадвае адзін.
Маўчы,—шэпча другі.

Адна палова маёй існасці падуладная першаму голасу, другая—другому, і толькі няўцямнае мармытанне злятае з маіх вуснаў.

Удзень і ўначы чакаю голасу таго, хто ведае, каму павінен я даць веры. Пачую вешчае слова і зраблюся роўны Яму, і хтосьці будзе гэтаксама чакаць майго голасу, нібы паратунку.

А той, усемагутны, каго я прагну пачуць, прагне пачуць мяне, слабога, каб зрабіцца сапраўды ўсемагутным, бо ўдзень і ўначы змагаюцца ў ім два галасы:

Крычы!—загадвае адзін.
Маўчы,—шэпча другі.

Чакае Ён слова майго, як паратунку, але ўдзень і ўначы гучаць ува мне два галасы...

## ЧАРНАДЗЕЙ

Там, за акном, узыходзіць і заходзіць сонца,
мяняюцца месяцавыя квадры,
людзі спраўляюць радзіны і памінкі.
Тут булькоча няспынна перагонны куб,
гарыць у прыцемку горан,
гараць утрапеннем бяссонныя вочы чарнадзея.

Няма нічога вышэй ад ісціны, шэпчуць вусны ягоныя заміж пацераў, а ісціна ёсць філасофскі камень, што роўны Хрысту, гэтаксама як сын божы роўны філасофскаму каменю.
Гэты камень ператварае медзь у золата,
лекуе ўсе хваробы,
вяртае маладосць,
дарує неўміручасць.

Гартае чарнадзей ліхаманкава манускрыпты, змешвае нястомна рэчывы, выводзіць алхімічныя знакі—шукае вечнае жыццё, ды марныя пошукі ягоныя.
Пакідаюць яго з праклёнамі знявераныя вучні,
выкрыквае сам ён зняверана праклёны,
абдзірае ў роспачы рукі аб сцены,
прагна глядзіць на бутлік з атрутаю.

А за сляпым ад куродыму акном нараджаюцца і гінуць дзяржавы,
ствараюць народы куміраў і разбураюць іх апантана,
і ўнукі ўнукаў колішніх вучняў чарнадзеевых паспелі ўжо састарэць і памерці.

## СІЗІФ

Вас, хто шкадуе мяне, калі я штурхаю ўгору свой камень, ператвараючыся ў бяздумны клубок знясіленых цягліц;
вас, хто—шчыра ці не—шкадуе мяне, калі мой вялізны камень зрываецца са стромы і са здзеклівым грукатам коціцца долу;
вас, хто шкадуе мяне, калі іду да ўзножжа, каб зноў пачаць свой пакутлівы шлях,
вас я хачу запытацца:

ці адкрывалі вы простым смертным таямніцы падступных багоў?
ці, можа, і вам удалося закуць у ланцугі бога смерці Таната?
а мо вы таксама вярнуліся з царства журботнага ценяў, падмануўшы самога Аіда, як я, і жылі яшчэ доўга на беразе цёплага мора?

Вы, хто шкадуе мяне, не забывайце: ваша жыццё розніцца з сённяшняй доляй маёй не больш, чым алівы плады між сабою, але ёсць у мяне тыя хвілі, калі я няспешна іду гары да ўзножжа, твар узмакрэлы аддаўшы ласкаваму ветру, а сэрца—ўспамінам.

## КНІГА

Вазьмі гэтую кнігу, кажа бабуля. Як была я дзяўчом, пакінуў яе ў нашай хаце чалавек лёзны.
Не бачылі мы ніколі кнігі такой: слёзы выступалі на ёй перад голадам; крывавілі старонкі яе перад вайною; чарнеў абклад, як паміраў хтосьці з радзіны нашае; а калі ты на свет прыйшоў, успыхнула кніга сама сабою і пагасла сама, цалюткаю застаўшыся.

Хацеў пагартаць кнігу бабуліну, ды старонкі яе зляпіліся ад слёз.
Хацеў прачытаць, што напісана ў ёй, ды спякліся старонкі ад крыві.
Не памірае ніхто з радзіны нашае, а пацямнеў увачавідкі абклад яе.
Не нарадзіўся ніхто, а яна загарэлася знянацку і знянацку пагасла.

Вусцішна жыць мне з дарункам гэтым, хачу пазбыцца яго, ды не магу адарваць кнігу ад стальніцы, нібыта не слабыя старэчыя рукі прынеслі яе надоечы.

То—праклён мой, думаю раніцой.
То—скарб мой, думаю ўвечары, разумеючы ўжо, чый гэта дарунак.

А кніга штодня плача,
а кніга штодня крывяніць,
і чарнее штодня абкладам,
і ўспыхвае —
усё часцей.

## КАВАЛЬ

Стаіць над рэчкаю кузня, гараць у мораку вокны, куе каваль.
Ён можа выкаваць краску,
можа выштукаваць жаўрука,
можа выкаваць шчасце,—
кажа пошапкам люд паспаліты.

Ён злыгаўся з д'яблам,
робіць гадаў жалезных,
куе крамолу на пагібель людзям тутэйшым,—палохаюць валадары.

Удзень і ўначы ходзяць вакол кузні віжы.
Адны вераць валадарам, што каваль—чарнакніжнік.
Другія не вераць ім, але ж добра плоцяць віжам у гэтай краіне...
Трэція вераць кавалю, ды нават самім сабе не прызнаюцца ў тым.

Гараць у мораку вокны.
Ходзяць вакол кузні віжы.
Шэпчацца палахліва люд паспаліты.

Куе каваль.



*Павел Ткачоў*



# ЧАТЫРЫ ДНІ

## ДАКУМЕНТАЛЬНАЯ АПОВЕСЦЬ *

### 1

Быў шэры студзеньскі ранак. Па пустэльных вуліцах Петраграда, зрываючы са сцен, тумбаў, парканаў старыя аб'явы, гуляў халодны вецер.

Горад яшчэ спаў. Зрэдку праязджалі трамваі, праходзілі ўзброеныя рабочыя і салдацкія патрулі, рэдкія прахожыя.

Цераз плошчу да будынка Фінляндскага вакзала спяшаліся дзве жанчыны і мужчына. Нягледзячы на даволі моцны мароз, на мужчыну падношанае асенняе паліто і фетравы капялюш.

Вакзал сустрэў іх гоманам: людзі сядзелі на лаўках, клунках, скрынях. Ля білетных кас — чэргі.

— Хутка каляды, таму і пасажыраў многа. У госці едуць, — тлумачыў мужчына сваім спадарожніцам, дастаючы з кішэні камізэлькі гадзіннік. — А пасадка на наш поезд ужо, відаць, пачалася.

На пероне іх сустрэў камісар Фінляндскай чыгункі Эйна Рах'я.

— Надзя, Маняша, а вось і наш добры знаёмы, — сказаў мужчына. Па голасе можна было здагадацца: ён задаволены гэтай сустрэчай. — Ну, як справы?

— Здаецца... добра, — камісар расцягваў словы. — Працуем.

— А памятаеце, гаварылі: не ведаю, што і як рабіць... Не святыя гаршкі лепяць. Такая ў нас прыказка ёсць.

— Вы маеце рацыю, Уладзімір Ільіч. Але пачынаць было боязна. Новая справа...

— Такі храбры і... боязна. Праводзіце нас?

— Не толькі праводжу, але і паеду з вамі.

— Як так? А праца?

— Намеснік справіцца. А я буду вашым перакладчыкам.

— Гм... Перакладчыкам... Хутчэй вартаўніком маёй асобы? — і ён з усмешкай паглядзеў на Эйна.

Эйна пачырванеў: барані божа, у ЦК папярэдзілі, каб Ільіч не ведаў, што ён і двое салдат будуць суправаджаць яго да санаторыя «Халіла», куды паводле рашэння Саўнаркома на кароткачасовы — чатыры-пяць дзён — адпачынак напраўляецца Уладзімір Ільіч з Надзеяй Канстанцінаўнай Крупскай і сястрой Марыяй Ільінічнай.

---

* Часопісны варыянт.
Мал. **С. Рыжыкавай.**

 

Салдаты адразу ж вернуцца ў Петраград, а ён застанецца з Леніным у санаторыі, нібыта за перакладчыка.

— Эйна Абрамавіч,— сказалі яму тады ў ЦК.— На вас ускладаецца вялікая адказнасць: ахоўваць жыццё Уладзіміра Ільіча. Вопыту ў вас хапае, ды і Уладзімір Ільіч прывык да вас. Мы спадзяемся...

Эйна Рах'я кінуў позірк убок: салдаты ўваходзілі ў вагон, «Дзякуй богу, што хоць гэта Ільіч не бачыць»,— падумаў Рах'я.

— Ну, дык я маю рацыю наконт вартаўніка маёй асобы?— перапытаў Уладзімір Ільіч з усмешкай.

Хлусіць Эйна Рах'я не ўмеў, і ён прызнаўся:

— Так, маеце, Уладзімір Ільіч.

— Ну вось, бачыце,— звярнуўся Ленін да жанчын,— мая сціплая асоба столькі дае клопатаў людзям. А навошта гэта?

— Валодзя,— сказала Надзея Канстанцінаўна,— час ісці ў вагон. А таварыш Рах'я выконвае даручэнне ЦК. Сам жа гаварыў, што з Эйна Абрамавічам ты адчуваеш сябе спакойна.

Рах'я з удзячнасцю паглядзеў на Надзею Канстанцінаўну.

— О, ды тут, я бачу, супраць мяне змова,— сказаў Ленін, і ў голасе яго адчувалася жартаўлівасць.— Што ж, перамога за вамі, паважаныя змоўшчыкі. Пайшлі....

І яны накіраваліся да вагона. Не паспелі заняць месца, як у купэ зайшла Аляксандра Міхайлаўна Калантай, а з ёю салдат, які нёс кажухі і цёплую шапку-вушанку.

— Ну вось і Аляксандра Міхайлаўна — камісар дзяржаўнай апекі, член Саўнаркома, таксама ўдзельнік змовы, і, як мне здаецца, адзін з галоўных. А гэта... Кажухі? Навошта?

— Вам давядзецца ехаць на санках па полі, дзе, вядома, будзе вельмі холадна, ад станцыі да санаторыя даволі далёка. Вось там і спатрэбяцца кажухі. Яны са склада наркамата.

— Бачу, бачу,— сказаў Уладзімір Ільіч, паказваючы на нумарныя знакі.— Гэта вы для таго, каб мы іх захавалі? Добра. Казённая маёмасць патрабуе ўліку. Так і неабходна рабіць,— ён быў задаволены: патрэбна было вучыцца і вучыць гаспадарыць.

...Развіталіся. Праз некалькі хвілін поезд крануўся з месца. Гледзячы на людзей, якія праводзілі сваіх знаёмых, блізкіх, родных, Аляксандра Міхайлаўна думала: «Ніхто з іх і не здагадваецца, што ў гэтым поездзе паехаў, як звычайны пасажыр 2-га класа, Старшыня Савета Народных Камісараў...

— Старшыня Савета Народных Камісараў,— ціха паўтарыла Аляксандра Міхайлаўна.

— Я слухаю, таварыш камісар!— прагаварыў салдат, што суправаджаў яе.— Вы нешта мне сказалі?

— Не, не, таварыш... Я так... Сама сабе.

— А-а-а. Бывае, часам і я сам з сабою размаўляю...

Аднастайна пастуквалі на стыках рэек колы... Гэта наводзіла на роздум, успаміны...

## 2

Ён любіў заставацца сам-насам: можна было сур'ёзна і з усіх бакоў прадумаць тое ці іншае пытанне, удакладніць фармулёўку. Калі працаваў над якім-небудзь творам, нават на слых «спрабаваў» сказы.



У апошні час (добрыя два месяцы!) застацца сам-насам не выпадала: з ранку да позняга вечара (дакладней, з ранку да ранку) людзі ішлі да Старшыні Савета Народных Камісараў, і з кожным неабходна абгаварыць тое, што хвалявала, турбавала, непакоіла яго; узважыць усё і знайсці адзіна правільнае рашэнне, бо гісторыя — суддзя строгі і прынцыповы: не даруе нават самай нязначнай памылкі, самых дробязных хібаў. А як пазбегнуць усяго гэтага, калі такога не ведала чалавецтва?

Як?!

На кожным кроку — як?! Сотні, тысячы гэтых «як?!». І ўзніклі яны, гэтыя «як», адразу ж, калі ён пераступіў парог невялічкага пакойчыка на першым паверсе Смольнага ў тую памятную кастрычніцкую ноч...

Проста на крэслах ляжалі паліто, шынялі, шапкі, а вакол дрэнна асветленага стала стоўпіліся будучыя члены першага ў свеце рабоча-сялянскага ўрада — Савета Народных Камісараў. Так, так, Савета Народных Камісараў. Пакуль будзе так, а там паглядзім...

Калі ён сказаў: Савет Народных Камісараў, мабыць, многія з прысутных успомнілі Вялікую французскую рэвалюцыю, камісараў Канвента.

— Komissaire — упаўнаважаны...— данёсся з цёмнага кутка ўсхваляванa-ўрачысты голас Анатоля Васільевіча Луначарскага.— Савет Народных Камісараў... Савет упаўнаважаных народам людзей. Разумееце, я тут бачу рэвалюцыйную пераемнасць,— па-першае; па-другое, рашучае адмаўленне ад старога; па-трэцяе, увасабленне на практыцы самых дэмакратычных ідэалаў...

Вядома, справа не ў назве (потым ён карыстаўся і словам «міністр»: «Вы патрэбны,— гаварыў ён,— у міністры»), але, між іншым, і ў гэтым быў свой сэнс.

Уладзімір Ільіч быў задаволены: зразумелі яго правільна і падтрымалі члены ЦК, а потым і дэлегаты II Усерасійскага з'езда Саветаў.

Падтрымалі — аднагалосна!

Назва ўрада не выклікала спрэчак, а фарміраванне ўрада ішло з цяжкасцю. Адмовілася (і прытым катэгарычна) Марыя Спірыдонава, кіраўнік левых эсэраў, прыняць агульную ўрадавую праграму... Што ж — сфарміруем урад з бальшавікоў. Здавалася б, працей павінна ўсё пайсці, але і тут узніклі свае цяжкасці: таварышы па партыі катэгарычна адмаўляліся ад «міністэрскіх» партфеляў, спасылаючыся на тое, што не маюць вопыту.

— А ў каго ёсць гэты вопыт?— задаваў кожнаму адно і тое ж пытанне. Сапраўды: у каго ён ёсць, вопыт дзяржаўнай дзейнасці? І дзе маглі бальшавікі набыць яго? У турмах? У ссылках? У эміграцыі? На барыкадах?

— Я працаўнік, а не чыноўнік-канцылярыст,— даводзіў Уладзімір Іванавіч Неўскі, бальшавік з дваццацігадовым рэвалюцыйным стажам, партыйны арганізатар, калі яму было даручана ўзначаліць камісарыят шляхоў зносін.

— Згодзен з вамі,— адказаў Уладзімір Ільіч.— Цалкам. Вы сапраўды добры арганізатар. Чыноўнікам называць вас таксама не магу — не працавалі на такой пасадзе. Пакуль што... Калі ж станеце чыноўнікам — здымем вас з пасады. А зараз прызначаем. Нам патрэбны сапраўдныя арганізатары мас.

(Потым ён падкрэсліць:

Сувязь з масай.

Жыць у гушчыні.

Ведаць настрой.



 

Ведаць усё.
Зразумець масы...
Заваяваць іх абсалютны давер.)
Згадалася прызначэнне камісара ўнутраных спраў.
Добрай кандыдатурай на гэты пост быў Рыгор Іванавіч Пятроўскі. Член партыі з 1897 года, старшыня бальшавіцкай фракцыі Дзяржаўнай думы, як дэпутат думы, разам з іншымі дэпутатамі-бальшавікамі сасланы ў Сібір у 1915 годзе...
Добрасумленны, прынцыповы... Усё як мае быць. Менавіта такім і ўяўляў сабе Уладзімір Ільіч міністра ўнутраных спраў.
Але Рыгор Іванавіч сказаў:
— Прызначце на гэты пост іншага таварыша, а я буду яго памочнікам.
Давялося напомніць Рыгору Іванавічу адзін няпісаны закон: у час рэвалюцыі ад прызначэнняў не адмаўляюцца.
— На гэта, даражэнькі Рыгор Іванавіч, няма часу, — і ўжо жартам: — Даць Пятроўскаму двух выбаргскіх рабочых з вінтоўкамі, яны адвядуць яго ў памяшканне міністэрства ўнутраных спраў...
Хоць і марудна (надта ж марудна!), але ствараліся ўсё новыя наркаматы...
З'явіліся камісарыяты замежных спраў, фінансаў...
Было з імі клопатаў. Іван Іванавіч Скварцоў-Сцяпанаў, прызначаны наркамфінам, так і не змог выехаць з Масквы. Недзе ўначы партфель камісара фінансаў уручылі В. Р. Мянжынскаму і запатрабавалі ад яго як мага хутчэй распачаць работу, бо з фінансамі становішча вельмі складанае (архіскладанае), таму наркамат павінен быць арганізаваны сёння.
Глыбокай ноччу яму спатрэбіліся дакументы па знешняй палітыцы царскай Расіі адносна Германіі. Ён пазваніў кіраўніку спраў Саўнаркома У. Д. Бонч-Бруевічу. Уладзімір Дзмітрыевіч сказаў, што паспрабуе знайсці і адразу ж прынясе.
— Не турбуйцеся, я сам зайду.
Калі выйшаў са свайго кабінета, то першае, што кінулася ў вочы: амаль ля дзвярэй яго кабінета стаяла даволі вялікая канапа, над канапай — аб'ява: «Камісарыят фінансаў. Працуе з...». А на канапе, змораны, спаў камісар фінансаў В. Р. Мянжынскі.
— У нас ужо арганізаваны і другі камісарыят... А камісар, як бачыце, набіраецца сіл, — сказаў ён У. Д. Бонч-Бруевічу. — Відаць, з гэтага і патрэбна пачынаць, бо нам неабходны дужыя, бадзёрыя камісары... Камісары справы, а не гучнай фразы.
Тут жа папрасіў Уладзіміра Дзмітрыевіча знайсці якую-небудзь коўдру або паліто, каб накрыць камісара фінансаў.
— У калідоры холадна. Можа ж захварэць наш галоўны фінансіст, — і, усміхаючыся, дадаў: — Застанемся тады без сродкаў. А без сродкаў, самі ведаеце, — цяжка.
Ён, вядома, жартуючы гаварыў У. Д. Бонч-Бруевічу пра тое, што пачынаць камісарам трэба з адпачынку. Жарт жартам, але наладжваць працу Саўнаркома неабходна, і як мага хутчэй. Дзяржава без урада — не дзяржава, тым больш, што адбываецца не простая змена кабінетаў, як, скажам, у капіталістычных краінах, калі да ўлады прыходзіць тая ці іншая буржуазная партыя, а ідзе карэнная перабудова дзяржаўнага апарату з верху да нізу, а дакладней — ствараюцца прынцыпова новыя органы ўлады, якіх яшчэ не ведала гісторыя. Улада рабочых і сялян, улада народа. Таму змяняецца і палітыка — унутраная і знешняя.
Першыя крокі... Яны самыя, мабыць, цяжкія. Нават дзіцяці зрабіць іх вельмі цяжка. А тут цэлая дзяржава становіцца на ногі, каб крочыць у будучыню. І на гэтым шляху столькі нязведанага, незразумелага, непрадбачанага...
Да Кастрычніка думка працавала ў адным кірунку: усе сілы, энергію, час — на падрыхтоўку рэвалюцыі. Калі ж быць справядлівым, дык ён і да Кастрычніцкай рэвалюцыі прадбачыў, якія цяжкасці ўзнікнуць пры пабудове новага дзяржаўнага апарату, і таму звярнуўся па параду да Маркса і Энгельса. У выніку чаго нарадзілася кніга «Дзяржава і рэвалюцыя». Апошні раздзел — сёмы — напісаць не паспеў: «перашкодзіў» Кастрычнік.
Ці ж засмуціўся ён, што не дапісаў кнігу?
Не, не і яшчэ раз не!
Аб гэтым ён пісаў у пасляслоўі:
«Гэтая брашура напісана ў жніўні і верасні 1917 года. Мною быў ужо складзены план наступнага, сёмага раздзела: «Вопыт рускіх рэвалюцый 1905—1917 гадоў». Але акрамя назвы я не паспеў напісаць з гэтага раздзела ні радка: «перашкодзіў» палітычны крызіс, пярэдадзень кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 года.
Такой «замінцы» можна толькі радавацца».
Ён добра памятае, што, паставіўшы кропку пасля слова «радавацца», паклаўшы ручку, устаў з-за стала і падышоў да акна: шэры пецярбургскі дзень — снег напалову з дажджом, слата... У апошні час ён нешта хутка зморваецца. З'явілася бяссонніца, галаўныя болі, ды і выгляд, гавораць, не зусім добры... «А мо надвор'е вінавата ў тым, што я кепска сябе адчуваю?» — падумаў ён, але тут жа махнуў рукой: якое там надвор'е... і ўвогуле, ці варта на гэта звяртаць увагу, калі столькі спраў — вялікіх і малых...
А дома ўсё часцей узнікала гамонка (і пачынаюць яе то Марыя Ільінічна, то Надзея Канстанцінаўна) пра тое, што ў яго змораны выгляд, што патрэбна адпачыць, хаця б змяніць месца, абставіны дні на чатыры-пяць. На большую колькасць дзён яго не агітуюць, ведаюць — не пагодзіцца пакідаць на працяглы тэрмін Петраград.
Неяк Надзея Канстанцінаўна сказала:
— Валодзя, Аляксандра Міхайлаўна Калантай прапануе паехаць у санаторый «Халіла». Гэта зусім блізка... — чакала адказу з надзеяй: мо згодзіцца?
— Даражэнькая Надзя, ты добра ведаеш — зараз не да адпачынку. Столькі спраў...
Хацеў яшчэ нешта сказаць — не паспеў.
Але адмовіўся ён, як яму тады здалося, не ў катэгарычнай форме. Падумалася: а можа, праўда варта паехаць на некалькі дзён, каб прадумаць задачы далейшага развіцця краіны... Пакуль што ўсё ідзе па інерцыі, на рэвалюцыйным уздыме. Уздым — гэта добра, але ж неабходна ўлічваць аб'ектыўныя законы грамадства. А для гэтага трэба ўсебакова абдумаць шматлікія пытанні эканамічнага, палітычнага і нават практычнага характару.
«Што ж, — падумаў ён, — мабыць, Надзя і Маняша маюць рацыю: варта з'ездзіць у гэтае «Халіла». Тут жа пазваніў А. М. Калантай.
— Таварыш Калантай, вы прапануеце паехаць у санаторый «Халіла». Гаворыце, што ёсць асобны домік і нават цёплы, а ў лесе можна па-

лявацъ? А ці ж ёсць там зайцы? Не ведаеце. Гм! Вавёркі? Паляванне на вавёрак — дзіцячая забаўка, паважаная Аляксандра Міхайлаўна. Калі збіраюся ехаць? Пакуль не ведаю... Патрэбна ўсё ўзважыць. Але ўдзячны, вельмі ўдзячны за інфармацыю. Да пабачэння!

Ён шпаркімі крокамі падышоў да стала, узяў ручку і дапісаў: «Але другі выпуск брашуры (прысвечаны «Вопыту рускіх рэвалюцый 1905 і 1917 гадоў»), мабыць, давядзецца адкласці надоўга; прыемней і карысней «Вопыт рэвалюцый» перарабляць, чым аб ім пісаць.

Петраград. 30 лістапада 1917 года. Аўтар».

Ці зможа ён вярнуцца да апошняга раздзела і напісаць аб вопыце рускіх рэвалюцый? Ці знойдзецца ў яго час? Тым больш, што засталася вялікая колькасць нявыкарыстанага матэрыялу — розныя нататкі, выпіскі з прац Маркса, Энгельса...

Усё гэта, відаць, давядзецца адкласці і адкласці надоўга — на парадку дня іншыя важныя (архіважныя), злабадзённыя, практычныя (вось-вось — практычныя!) пытанні. На іх і неабходна сканцэнтраваць сваю ўвагу.

Усё адкласці, адкінуць убок — і ў полі зроку павінна быць толькі тое, што неабходна рашаць, сёння, заўтра... Інакш нічога не атрымаецца. Другараднае, розныя дробязі, якія не маюць дачынення да сённяшняга жыцця, распыляюць сілы і тым самым прыносяць вялікую шкоду асноўнай рабоце.

Ён яшчэ раз тады перачытаў пасляслоўе.

«Вельмі сцісла, мала, — падумаў ён, — але галоўнае сказана, сказана шчыра, дакладна...»

Успомнілася чамусьці, як пачынаў працу «Дзяржава і рэвалюцыя». Думка напісаць такую кнігу нарадзілася яшчэ ў 1916 годзе, як адказ на рознага роду блытаніну і анархічную бязглуздзіцу адносна ролі і значэння дзяржавы.

Канец 1916 года — пачатак 1917 увесь вольны час працаваў у Цюрыхскай бібліятэцы — вывучаў літаратуру аб адносінах марксізму да дзяржавы. Матэрыял (ён яго назваў «Марксізм і дзяржава») быў назапашаны вялікі, вось толькі выкарыстаць яго тады ён не паспеў: надышоў 1917 год, а разам з ім Лютаўская рэвалюцыя... У Расіі яго чакала практычная работа — неабходна было рыхтаваць рабочыя масы, партыю да рэвалюцыі сацыялістычнай. Тут ужо не да кнігі.

Пасля ліпеньскіх падзей, калі неабходнасць (а дакладней, урад Керанскага) прымусіла пайсці ў падполле, з'явіўся вольны час: ён адразу просіць таварышаў з ЦК пераправіць у Разліў матэрыялы «Марксізм і дзяржава» («Сіні сшытак»). Там, у Разліве, на сенажаці і распачаў працу над кнігай «Дзяржава і рэвалюцыя», але па-сапраўднаму ўзяўся за яе ў Гельсінгфорсе на кватэры... начальніка паліцыі.

Потым Надзея Канстанцінаўна жартавала:

— Ну і знайшоў жа месца, дзе хавацца ад паліцыі, — у начальніка паліцыі.

А ўсё найміле́йшы Аляксандр Васільевіч Шотман арганізаваў. А ўвогуле, у сэнсе канспірацыі здорава: хто мог падумаць, што Ленін знайшоў прытулак у начальніка паліцыі і што сам начальнік паліцыі яму дапамагае ў працы: дастаўляе газеты, адпраўляе пісьмы? Ніхто. Нават гэты рускі банапарцік Керанскі.

Праўда, начальнік паліцыі свой брат — сацыял-дэмакрат, рабочы Густаў Ровіа, якога выбралі на гэтую пасаду рабочыя арганізацыі Фінляндыі.



Але ўсё роўна — начальнік паліцыі і рэвалюцыянер! Адно слова выключала, перакрэслівала другое. Але тады было не да моўных казусаў.

Ужо ў першую ноч (а дабраліся яны да кватэры а 12-й гадзіне) ён узяўся за працяг працы над кнігай «Дзяржава і рэвалюцыя». Пісалася вельмі лёгка: усё даўно абдумана, узважана — усю кнігу ён бачыў, толькі патрэбен час. І ён, час, дзякуючы Керанскаму, з'явіўся.

Помніцца, у адным з пісьмаў (начальнік паліцыі пераслаў) да Марыі Ільінічны ён пісаў: «Засеў за працу аб дзяржаве, якая мяне даволі цікавіць».

А ў першую ноч у начальніка паліцыі ён працаваў да самага світання.

Поезд нечакана спыніўся. Ён паглядзеў у акно, але што за станцыя, разабраць не паспеў: у вагон увайшла старая жанчына з ношкаю галля. З-пад хусткі выглядалі сівыя валасы. Яна не спяшаючыся расшпіліла кажух, папpавіла хустку і нешта па-фінску сказала маладой жанчыне, якая сядзела ў купэ насупраць іх. Жанчына штосьці спытала ў яе, і тая пачала нешта горача даводзіць...

Яму вельмі захацелася даведацца, аб чым яны гамоняць.

Ён паглядзеў на Рах'ю — той, мабыць, зразумеў Уладзіміра Ільіча.

— Вас зацікавіла іх размова? — Рах'я кіўнуў у бок жанчын.

— Вельмі. Перакладзіце, калі ласка.

— Яны... гамоняць... Як бы вам дакладней сказаць? Маладая жанчына спытала: адкуль галлё? Бабуля гаворыць, што насекла ў лесе. «У лесе? — пытаецца маладая жанчына. — Там жа вартаўнік са стрэльбай?!» А бабуля адказвае: «Родненькая мая! Цяпер не трэба баяцца чалавека з ружжом...»

— Як, як? Цяпер не трэба баяцца чалавека з ружжом! Гм... Цікава, вельмі цікава! І галоўнае — правільна.

Поезд набіраў хуткасць, а ён зноў застаўся сам-насам. І ніхто не ведаў, што зараз Старшыня Савета Народных Камісараў абдумваў словы старой фінскай жанчыны: «Цяпер не трэба баяцца чалавека з ружжом...»

## 3

Старая фінская жанчына, што ўвайшла з ношкаю галля, чымсьці нагадвала маці.

Але чым?

Ён зноў (у які раз!) уважліва аглядае жанчыну. Не, тварам яны не падобны: у старой фінкі твар шырокі, скуласты, у маці — прадаўгаваты, хударлявы, з тонкімі, нібы вытачанымі рысамі, над верхняй губой — радзімка... Яна любіла гаварыць:

— Радзімка, Валодзечка, на шчасце. Чалавек з радзімкай — шчаслівы чалавек.

— Мамачка, а ты шчаслівая? — неяк запытаўся ён.

— Вельмі. Маё шчасце — гэта тваё, Валодзечка, шчасце, шчасце Ані, Маняшы, Міці. Калі вы шчаслівыя, я, ваша маці, вельмі шчаслівая. Калі ж у вас гора, яно і маё сэрца разрывае. Тады і мне цяжка.

Гэта было сапраўды так. Збіралася ўся сям'я (такое, на жаль, здаралася не часта — то ён у ссылцы, то ў эміграцыі, то сёстры або Міця ў турме: такі ўжо іх лёс — лёс прафесійных рэвалюцыянераў), маці маладзела, была сапраўды шчаслівая. Увесь час гатавала, каб пачаставаць іх нечым смачным, сама слала кожнаму ложак, не дазваляла нічога рабіць — усё сама, сама. І калі ён прасіў: «Мамачка, дазволь гэта мне. Ты ж змарыла-

ся — адпачні», яна адказвала: «Свая ноша, сынок, не ў цяжар, а ў радасць. У радасць, родны. Ты ўжо займайся сваімі справамі». І вочы яе лучылі цеплыню, бязмерную любоў.

Дык чым жа ўсе-ткі нагадвае яму гэтая жанчына маці?

Постаццю? Таксама не. Маці была значна ніжэй — невялічкая, хударлявая...

Чым жа? Гэта на першы погляд нязначнае, другараднае непакоіла, перашкаджала думаць аб іншым — галоўным, дзеля якога ён і згадзіўся паехаць у санаторый: аб будучыні новай Расіі, аб далейшых шляхах развіцця рэвалюцыі...

Але ведаў свой характар: пакуль не знойдзе адказ на гэтае пытанне, не зможа засяродзіцца на тым другім — галоўным.

Ён пільна глядзіць на жанчыну. Яна расшпіліла свой старэнькі, вельмі паношаны кажух, скінула на плечы шэрую хустку і не спяшаючыся раз, другі правяла грабеньчыкам па сівых валасах, убіраючы іх з твару. Грабеньчык (гэтак жа рабіла і яго маці) пакінула ў валасах. Потым прысланілася да сцяны вагона. Увесь выгляд жанчыны нібы гаварыў аб тым, што яна вельмі стамілася, што ёй патрэбна хоць крыху адпачыць.

Ад твару, усчырванелага, зморанага, ад усёй постаці жанчыны павявала спакоем, чалавечай дабрынёй, жыццёвай мудрасцю. Так, так — дабрынёй і мудрасцю...

І раптам, зусім нечакана, ён нарэшце знайшоў тое падабенства, што так доўга і ўпарта шукаў: у маці і ў гэтай старой фінскай жанчыны аднолькавая разважлівая манера гаварыць, чалавечая дабрыня, жыццёвая мудрасць.

Ён не мог нават уявіць маці раззлаванай, у роспачы, хаця яе жыццё, жыццё яе дзяцей было нялёгкае. Нават у самых складаных і цяжкіх становішчах яна ўмела трымаць сябе. Пра яе казалі (хто добра ведаў, канечне):

— У гэтай жанчыны добрае сэрца і моцная воля.

Колькі матчынаму сэрцу давялося перанесці, колькі ўмясціла яно гора...

Першы ўдар абрушыўся на іх сям'ю 12 студзеня 1886 года — нечакана памёр бацька.

Недзе а пятай гадзіне вечара маці паклікала яго і сястру Анну Ільінічну да сябе і сказала:

— Вось і мы засталіся, дзеці, без дарагога ўсім нам... таты.

Гаварыла яна роўна, спакойна. Хваляванне яе выдаваў голас — нейкі перарывісты: быццам бы падшуквала яна з цяжкасцю словы. Здавалася, вось-вось яна заплача — апошнія словы прамовіла шэптам; але вытрымала — не заплакала. Яна і потым, калі доўгі час стаяла ля труны, і тады, калі на могілках Пакроўскага мужчынскага манастыра добрыя знаёмыя і таварышы па службе Ільі Мікалаевіча гаварылі развітальныя прамовы, не плакала. Збялелая, але заставалася спакойная (знешне, вядома), маці не скардзілася, як гэта звычайна здараецца ў такіх няшчасных выпадках, на свой цяжкі лёс. Не скардзілася Марыя Аляксандраўна на свой лёс і ў другія цяжкія часіны, якіх многа, вельмі многа было ў яе жыцці.

...Нездарма гавораць, ідзе ліха і за сабою вядзе ліха. У сакавіку 1887 года Ульянавы атрымалі з Пецярбурга паведамленне: Аляксандр і Аня арыштаваны. Яму добра помніцца той сонечны сакавіцкі дзень. На перапынку (у той час ён быў вучнем 8-га, апошняга класа Сімбірскай гімназіі) яму перадалі просьбу іх добрай знаёмай Веры Васільеўны Кашкадамавай зайсці пасля заняткаў дамоў да яе. Нешта ўстрапянулася ў яго душы: няўжо здарылася непрыемнае з Сашам або Аняй — абодва даўно не пісалі?

Тое, што паведаміла ў пісьме да Веры Васільеўны іх сваячка Кацярына Іванаўна Пяскоўская, вельмі ўразіла яго: «Паведаміце асцярожна Марыі Аляксандраўне Ульянавай — дачка Аня і сын Саша арыштаваны. Аляксандр заблытаны ў змове супраць жыцця гасудара».

У галаве ніяк не ўмяшчалася: Саша — і змова супраць цара? У апошні прыезд на канікулы Саша з ранку да вечара праседжваў над навуковаю працай пра кольчатых чарвякоў. Тады яшчэ ён падумаў: «Не, не будзе з яго рэвалюцыянера. Рэвалюцыянер не можа столькі часу аддаваць даследаванню нейкіх там чарвякоў».

Выходзіць, ён памыляўся...

— Справа вельмі сур'ёзная, — у горле засеў нейкі камяк, словы даваліся з цяжкасцю. — Усё гэта можа дрэнна скончыцца для Сашы.

Гэта разумела і Вера Васільеўна.

— Становішча Сашы складанае, калі не сказаць — цяжкае, — дрыжачым голасам прамовіла Вера Васільеўна. — А як сказаць пра гэта Марыі Аляксандраўне? Сапраўды — як? Якія знайсці словы? Як паводзіць сябе? Мо пакуль не гаварыць усяго: няхай заспакоіцца, а потым... потым сказаць пра астатняе? Маці ж яшчэ не зусім ачуняла пасля смерці бацькі...

— Я, Валодзя, мяркую так, — пасля працяглага маўчання пачала гаворку Вера Васільеўна. — Ты паведаміш маме толькі пра пісьмо і скажаш, што я прашу зайсці яе да мяне. Пісьмо яна прачытае тут, і я паспрабую яе заспакоіць...

Яго твар — сур'ёзны, заклапочаны (дакладней, нахмураны), што бывала не вельмі часта, адразу ж насцярожыў Марыю Аляксандраўну:

— Валодзечка, што з табою? Ты захварэў? — занепакоілася маці.

— Не, не, мамачка... Толькі ты не хвалюйся, Вера Васільеўна атрымала пісьмо з Пецярбурга.

— Дрэнна з Сашам? Аняй? Захварэлі? — запытальна глядзела маці на сына. — Праўду, Валодзя, гавары. Якая б яна ні была горкая... Толькі праўду.

Ён расказаў пра ўсё, што даведаўся з пісьма.

Знешне маці заставалася спакойная, але рысы збялелага твару рэзка вызначыліся, а сэрца, матчынае сэрца, ён гэта ведаў, напоўнілася прадчуваннем нечага страшэннага, непапраўнага...

І яно, страшэннае, адбылося: 8 мая 1887 года яго старэйшы брат Аляксандр Ульянаў разам з іншымі — Васілём Генералавым, Пахоміем Андраюшкіным, Васілём Асіпанавым, Пятром Шавыровым — быў пакараны смерцю.

Усё жыццё вобраз Сашы стаяў перад яго вачыма — непахісны, цвёрды, прынцыповы. Ён час ад часу звяртаўся да імя брата і да імён яго паплечнікаў — герояў першага сакавіка — у сваіх выступленнях, заметках, працах. Падкрэсліваючы гераізм і самаадданасць народавольцаў, Уладзімір Ільіч гаварыў і пісаў пра іх памылкі. Нядаўна (бацюхны, год прайшоў, а яму здаецца, нядаўна), 9 студзеня 1917 года, ён выступаў з дакладам аб рэвалюцыі 1905 года ў цюрыхскім Народным доме перад швейцарскай рабочай моладдзю. Юнакі і дзяўчаты ўважліва, як яму здалося, з захапленнем слухалі яго. Вось і там ён успомніў герояў першага сакавіка 1887 года. Помніцца, тады ён падкрэсліў: «Яны праявілі найвялікшую самаахвярнасць і сваім геранчным тэрарыстычным метадам барацьбы выклі-

калі здзіўленне ўсяго свету. Несумненна, гэтыя ахвяры палі не дарэмна, несумненна, яны садзейнічалі — прама ці ўскосна — наступнаму рэвалюцыйнаму выхаванню рускага народа. Але сваёй непасрэднай мэты, абуджэння народнай рэвалюцыі, яны не дасягнулі і не маглі дасягнуць».

І ўжо зусім нядаўна яму давялося зноў успомніць Сашу і тую цяжкую для іх сям'і часіну. У красавіку, дзён праз дванаццаць — пятнаццаць пасля вяртання з эміграцыі, таварышы з Петраградскага Савета яму перадалі ліст салдат 8-й конна-артылерыйскай батарэі дзеючай арміі. У лісце салдаты прасілі напісаць ім пра Леніна: «Якога ён паходжання, дзе ён быў, калі быў высланы, дык за што? Якім чынам ён вярнуўся ў Расію і якія дзеянні ён праяўляе зараз, гэта значыць карысныя ці шкодныя?»

Уладзімір Ільіч сабраўся адказаць на ўсе пытанні, акрамя апошняга. «Толькі вы можаце меркаваць, карысныя вам мае дзеянні ці не». І там жа, у пісьме да салдат, успамінаючы пра жудасную вясну 1887 года, напісаў: «Вясной 1887 года мой старэйшы брат, Аляксандр, пакараны смерцю Аляксандрам III за замах (1 сакавіка 1887 г.) на яго жыццё».

Усяго адзін сказ, а колькі ўмясцілася ў ім матчынага гора, балючага, нявыказанага...

— ...Я ведала, што болей Сашу не ўбачу... — перадавала неяк яму расказ маці жонка Глеба Максімільянавіча Кржыжаноўскага Зінаіда Паўлаўна. — Не памятаю, як дабралася дамоў і легла. Адчувала, што жыць болей не магу, няма сілы жыць. Ніякіх у галаве думак, адно жаданне хутчэй памерці, каб нічога не адчуваць. Колькі ляжала, не памятаю, здаецца, доўга. Раптам перада мною чамусьці ўзнік тварык васьмігадовай Машы. Я забылася на яе, забылася на ўсё... І тут я апамяталася. Нельга паміраць. Трэба жыць.

...Маці вярнулася з Пецярбурга хутка пасля пакарання смерцю Сашы. На яе цяжка было глядзець: счарнела ад гора, яна амаль увесь час маўчала. Усе — знаёмыя і блізкія — адчувалі, што яна не можа гаварыць пра Сашу, не можа нават вымавіць ягонае імя.

З Пецярбурга Марыя Аляксандраўна прывезла два здымкі: на адным здымку Саша зняты ў твар, на другім — у профіль. Твар — прадаўгаваты (нібы і не Сашаў), а валасы яго — густыя, чорныя. Глядзеў Саша спадылба, глядзеў хмура і сумна. Рэчы Сашавы (плед і гадзіннік) не вярнулі, сказалі, што пакідаюць у лік турэмнага абслугоўвання.

Родная мамачка! Колькі ж ты перажыла, колькі перанесла: вясною 1891 года раптоўна памерла сястра Вольга, а потым яго арышт і ссылка ў Сібір, шматлікія арышты Анны, Марыі, Дзмітрыя, небяспечнае жыццё ў эміграцыі... Усё перажыла яна, усім імкнулася дапамагчы. Мала, надта мала, было ў яе жыцці спакойных хвілін, хвілін, калі яе дзеці збіраліся разам.

Мамачка! Даражэнькая, як удзячны мы табе за тое, што прывучыла нас, тваіх дзяцей, да працы, дысцыпліны, да бездакорнага выканання сваіх абавязкаў. Ты заўсёды разумела нас, нават у тыя далёкія дзіцячыя гады (дарослым дзяцінства заўсёды здаецца вельмі далёкім).

Мы ішлі да цябе, каб падзяліцца ўсім тым, што хвалявала нас, непакоіла, турбавала. І заўсёды знаходзілі матчынае разуменне.

Нечакана, без усякай на тое падставы, у памяці ўзнік адзін выпадак.

Неяк летам яны паехалі ў Казань. Спыніліся на кватэры матчынай сястры Анны Аляксандраўны Вераценнікавай — цёці Ані. Яму было тады, здаецца, гадоў пяць.

Дарослыя няспешна вялі размову: цёця Аня, як ён памятае, цікавілася сімбірскімі навінамі, а тата — казанскімі. Мама тады засталася дома, а яны падарожнічалі з татам.



Дзеці распачалі гульню ў хованкі. Поспех у гэтай гульні, як вядома, у многім залежыць ад хуткасці (трэба як мага хутчэй схавацца, потым у зручны момант выбегчы са сваёй хованкі і адзначыцца), то яны з крыкам і вясёлым енкам лёталі па даволі цеснай для такой гульні кватэры.

У кутку стаяў невялічкі на трох ножках столік, а на ім — вельмі прыгожы графін з вадой. Ён тады нават і не падумаў (ды і калі было думаць), што графін можа зваліцца, калі залезці пад столік, каб схавацца...

Графін грукаецца на падлогу, разлятаючыся на невялічкія асколкі.

— Хто гэта зрабіў? — спытала, як тады яму здалося, вельмі строга цёця Аня.

Кожны паспешліва адказваў:

— Не я!

— Не я!

— Не я!

Чамусьці (ён і зараз не можа растлумачыць тое, што адбылося тады, — мо чужыя абставіны, мо строгае пытанне цёці Ані: «Хто гэта зрабіў?» А мо звычайная разгубленасць — у пяць гадоў такое здараецца, і даволі часта — цяжка сказаць) і ён паўтарыў услед за ўсімі:

— Не я!

Цёця Аня паглядзела ўважліва на кожнага з іх, уздыхнула, сказала:

— Што ж... Будзем лічыць, што графін сам зваліўся.

Гэты выпадак (а дакладней, тое, што ён міжволі падмануў цёцю Аню) доўгі час непакоіў яго, хваляваў, зноў і зноў прымушаў перажываць.

Глыбокай восенню, калі ўсе спалі, а за акном, тузаючы аканіцы, злаваўся вецер, зноў успомнілася Казань, кватэра цёці Ані, разбіты графін. Цяжка ўздыхаючы, ён варочаўся з боку на бок, пакуль не пачуўся ласкавы заклапочаны матчын шэпат:

— Што з табою, Валодзечка? Ці не захварэў? — І яе мяккая, цёплая далонь датыкаецца да лба.

— Мамачка... той графін... у Казані...

— Што ты гаворыш? Які графін? — здзіўлена пытаецца маці. — Ты трызніш?

— Не, мамачка. Калі мы з татам летам былі ў Казані ў цёці Ані, я незнарок графін разбіў, а потым з усімі разам адмовіўся. Я падмануў цёцю Аню... Мне, мамачка, сорамна і балюча.

— Супакойся, дарагі. Заўтра я напішу цёці Ані ліст і ўсё раскажу. Мяркую, што яна даруе... А зараз спі. — І мама ўхутвае яго мяккай коўдраю.

Аднойчы (гэта адбылося ў эміграцыі) ён, перачытваючы кнігу Ёгана Петэра Экермана «Размовы з Гётэ», знайшоў месца, якое чымсьці нагадала яму гэты выпадак. Гётэ, як сведчыць яго сакратар Экерман, расказаў яму пра хлопчыка, які не мог заспакоіцца пасля ўчыненай ім невялікай правіннасці.

— Мне не спадабалася, — сказаў Гётэ, — гэтае сведчанне непамерна чулага сумлення, гэта ж азначае, што ён вельмі высока ацэньвае сваё маральнае «я», што ўжо нічога яму не даруе. Такое сумленне робіць людзей іпахондрыкамі, калі, канечне, яго не ўраўнаважвае энергічная дзейнасць.

Вялікі паэт-псіхолаг, падумалася тады, загаварыў мовай няўдалага міністра. Што паробіш, у гісторыі такое бывае: геніяльны паэт, тонкі псіхолаг і... пасрэдны міністр ужываюцца ў адной асобе.

Дзяцінства! Любае, далёкае і ў той час блізкае дзяцінства... Колькі гадоў было яму тады? Чатыры? Пяць? Цяжка ўдакладніць зараз, ды і ці гэта так неабходна?

Усё адтуль, з дзяцінства... Колькі ён сябе памятае, маці перад сном ціхенька спявала яму якую-небудзь песню. Словы адной запомніліся яму на ўсё жыццё. Яму здаецца, як і ў дзяцінстве, ён чуе задумлівы, пяшчотны, ціхі матчын голас:

...А тебе на свете белом
Что-то рок пошлет в удел?
Прогремишь ли в мире целом
Блеском подвигов и дел?
Вождь любимый, знаменитый,
В час невзгоды роковой
Будешь крепкою защитой
Стороны своей родной.
. . . . . . . . . . . .
Иль тебе по воле рока
Будет дан высокий ум,
И поведаешь ты много
Плодоносных новых дум.
Неподкупен, бескорыстен
И с сознаньем правоты,
Непоборной силой истин
Над неправдой грянешь ты...

Песня была значна даўжэй, гэта ён добра помніў, але асобныя радкі не ўтрымаліся ў памяці — відаць, не кранулі за жывое, прайшлі непрыкметна.

Неяк (ён жыў тады ў Жэневе) яму захацелася ўстанавіць аўтара гэтай песні. Перарыў усю эмігранцкую літаратуру (яна была даволі вялікая), але дарэмна — ні ў адным легальным і нелегальным выданні такой песні не знайшоў. Хутчэй за ўсё словы яе нарадзіліся пад уплывам знакамітага верша Някрасава «Песня Яромушку». Мабыць, аўтара (а можа, і аўтараў — многія народныя песні складаліся звычайна не адным чалавекам) усхваляваў твор паэта-дэмакрата — нарадзіўся новы. Калі параўнаць абодва вершы, дык можна знайсці нават тэкставыя супадзенні... Але ж не ў гэтым справа, яго цікавіла, хвалявала іншае — дарагі матчын голас, пад які так добра было засынаць...

Дзякуй табе, старая фінская жанчына, што прымусіла ўспомніць дарагую мамачку.

Дзякуй!..

## 4

Мерна пастуквалі колы вагона на стыках рэек. Гэта не перашкаджала яму, а наадварот, спрыяла заставацца сам-насам са сваімі думкамі. А яны зноў і зноў вярталі яго да Петраграда, да Смольнага, да Расіі — хворай, змoранай вайною, сыходзячай крывёю, Расіі рабочай, сялянскай...

Сацыялістычная рэвалюцыя набірала хуткасць. Прапарцыянальна хуткасці рэвалюцыі ўзрастала супраціўленне ворагаў: чыноўнікі-сабатажнікі, юнкеры, жулікі, злодзеі шкодзілі, як толькі маглі. І не проста шкодзілі, а шкодзілі мэтанакіравана — адчувалася, што імі кіруюць вопытныя ворагі. Што застаецца рабіць Савецкай уладзе? Адно — змагацца, змагацца рашуча, бескампрамісна, знішчальна. Толькі тая рэвалюцыя вартая чаго-небудзь, якая можа сябе абараніць. Аб гэтым сведчаць урокі Парыжскай камуны. Яе пралікі і памылкі павінны ўлічваць бальшавікі. Інакш... інакш паражэнне.

Але толькі Савецкая ўлада ў адказ на варожыя вылазкі пачынае весці барацьбу — узнімаецца скавытанне: бальшавікі — узурпатары, дэспаты, арганізатары тэрору, грамадзянскай вайны. І крычаць больш за ўсіх так званыя «паны-сацыялісты» — меншавікі, эсэры... У гэтым скавытанні пачуўся і голас Пляханава.

Пляханаў... Георгій Валянцінавіч. Колькі падзей было звязана ў рускіх марксістаў з яго імем. Нічога не скажаш — першы сапраўдны рускі марксіст. Аўтар добрых прац, па якіх вывучалі азы марксізму многія рускія рэвалюцыянеры. Асабліва вызначалася яго праца «Да пытання аб развіцці маністычнага погляду на гісторыю». Ёю зачытвалася дэмакратычная Расія, на ёй выхоўвалася цэлае пакаленне марксістаў. Так ён, Пляханаў, пачынаў, пачынаў, скажам, цудоўна — усе бачылі ў ім надзею, правадыра рускага вызваленчага руху.

Успомніліся першыя сустрэчы з Пляханавым, перагаворы аб выданні «Искры».

«Искра» — юнацтва партыі, далёкае і ў той жа час блізкае, незабыўнае. Зараз усім відавочна — без «Искры» не было б і партыі. А яна, «Искра», ледзь не патухла. Ледзь...

У канцы ліпеня 1900 года ён, закончыўшы ўсю падрыхтоўчую работу па стварэнню агульнарускай марксісцкай газеты, пакінуў Расію. Па дарозе ў Швейцарыю зрабіў прыпынак у Германіі і перагаварыў з сацыял-дэмакратамі Штутгарта і Мюнхена, каб тыя дапамаглі выдаваць «Искру».

У цяжкіх умовах праведзена велізарнейшая арганізацыйная работа: у Расіі пачалі працаваць агенты-карэспандэнты будучай газеты — недахопу ў матэрыяле не будзе. Дамовіўся з гаспадаром друкарні, знойдзены сродкі. Праўда, невялікія, але для пачатку хопіць. Потым рабочыя падтрымаюць сваю газету. Заставалася дробязь — стварыць рэдакцыю і прыступіць да выдання газеты. Але гэтая «дробязь» з'явілася вялікай перашкодай, якая ледзь не загубіла «Искру».

У жніўні ён прыехаў у Цюрых, дзе на працягу двух дзён вёў гутаркі з Паўлам Барысавічам Аксельродам, адным з паплечнікаў Пляханава.

Павел Барысавіч падтрымліваў пачынанне Леніна і сцвярджаў, што для групы «Вызваленне працы» выданне газеты і часопіса (меркавалася выдаваць і часопіс) азначае паўнакроўнае жыццё. Толькі выдаваць газету і часопіс неабходна ў Жэневе... Так, так, у Жэневе.

— Не, дарагі Павел Барысавіч, лепш у Германіі, — адказваў Ленін. — У Германіі агульная граніца з Расіяй, значыць, і лепшыя магчымасці для дастаўкі газеты рускім рабочым.

А потым ён сустрэўся з Пляханавым. І адразу зразумеў: Пляханаў паводзіць сябе няшчыра — то ён адмаўляецца ад сарэдактарства і хоча быць проста супрацоўнікам, пры гэтым гаворыць так, нібы хоча паказаць: што вы будзеце рабіць без мяне? А часам паводзіць сябе ўладарна, па-дыктатарску, і адразу відаць, што хоча захапіць у свае рукі рэдактарства.

Крыху пазней ён зрабіў падрабязныя нататкі аб сустрэчах і перагаворах з Пляханавым. Нататкі так і назваў — «Як ледзь не патухла «Искра»...». Прайшло 17 гадоў, але здаецца, усё гэта адбылося ўчора — так моцна той выпадак запаў у душу, адбіўся ў памяці. То была першая праява неўраўнаважанага характару, хістанняў Георгія Валянцінавіча. У далейшым яго ўжо не здзіўляла тое, што Пляханаў гаварыў адно, а праз некаторы час — другое.

А тады яны нарэшце вырашылі: у склад рэдакцыі ўвойдуць Ленін, Аксельрод, Засуліч, Патрэсаў, Пляханаў. Рэдакцыя будзе знаходзіцца ў Германіі, на значнай адлегласці ад эміграцкіх колаў, якія б толькі перашкаджалі рабоце. У Германіі паселяцца тры рэдактары — Ленін, Патрэсаў,

Мартаў, астатнія будуць час ад часу прыязджаць на нарады, каб вырашыць тое ці іншае пытанне...

«Искра» ўспыхнула, асвятляючы ўсе цёмныя куткі царскай Расіі, згуртоўваючы вакол сябе рабочы клас, рускія марксісцкія арганізацыі...

Потым быў другі з'езд партыі, на якім ішла адкрытая (а часам і прыкрытая рэвалюцыйнымі фразамі) барацьба паміж «цвёрдымі іскраўцамі» — яго прыхільнікамі і апартуністамі — «эканамістамі», бундаўцамі. Ішла барацьба за стварэнне маналітнай, баявой партыі, партыі новага тыпу, якая б была перадавым авангардам рабочага класа. А гэтага якраз і не хацелі апартуністы. Іх задавальняла партыя, падобная да заходнееўрапейскіх сацыял-дэмакратычных партый, якія ўжо даўно перасталі быць пралетарскімі.

І таму не было нічога дзіўнага, што апартуністы кінуліся ў атаку супраць асноўных палажэнняў ленінскай праграмы: аб дыктатуры пралетарыяту, саюзе рабочага класа і сялянства, праве на самавызначэнне, пралетарскім інтэрнацыяналізме.

Даводзілася выступаць па кожным пытанні. Часам і не аднойчы — два, а то і тры разы. Прынцыповасць, непрымірымасць «цвёрдых іскраўцаў» дала свае вынікі — з'езд зацвердзіў сапраўды рэвалюцыйную праграму. Апартуністы не хацелі пагадзіцца з ленінскімі палажэннямі Статута партыі.

Мартаў (яго падтрымлівалі Аксельрод, Засуліч, Троцкі і іншыя так званыя сацыял-дэмакраты) настойваў на тым, што член партыі можа і не быць у партыйнай арганізацыі, маўляў, дастаткова, калі ён будзе падтрымліваць яе матэрыяльна. Гаворачы іншымі словамі, Мартаў адчыняў дзверы ў партыю людзям выпадковым, якія не падпарадкоўваліся партыйнай дысцыпліне.

Па гэтым (і адзіным!) параграфе Мартаву ўдалося сабраць нязначную большасць галасоў — яго падтрымалі бундаўцы і іншыя апартуністы.

Разгарнулася жорсткая барацьба і вакол выбараў кіруючых цэнтраў партыі — ЦК і рэдакцыі цэнтральнага органа.

Тут поўная перамога «цвёрдых іскраўцаў»: у склад рэдакцыі цэнтральнага органа выбраны Ленін, Пляханаў, Мартаў, у склад ЦК увайшлі Кржыжаноўскі, Ленгнік, Наскоў.

З таго часу «цвёрдых іскраўцаў», перамогшых на выбарах кіруючых органаў партыі, пачалі называць — бальшавікамі, а іх праціўнікаў — меншавікамі.

Такім чынам, панове апартуністы, мы не сектанты, як вы дазваляеце сабе называць нас, — бальшавізм існуе як плынь палітычнай думкі і як палітычная партыя з 1903 года.

Вось так!

На другім з'ездзе вялікіх рознагалоссяў паміж ім і Пляханавым не было, але і моцнай еднасці не адчувалася. Усё афіцыйна, тактоўна, ветліва, як і мае быць паміж культурнымі (гэтае слова Пляханаў любіў падкрэсліваць, відаць, у супрацьлегласць слову «дваранін») людзьмі...

Рознагалоссі паявіліся крыху пазней. Пасля з'езда. Ён адчуў інтрыгі, здрадніцкія дзеянні меншавікоў, якія перашкаджалі выконваць рашэнні з'езда, імкнуліся захапіць у свае рукі ЦК і цэнтральны орган. І ў той час Пляханаў схіляецца на бок меншавікоў і, парушаючы рашэнні з'езда, уводзіць у склад рэдакцыі «Искры» былых рэдактараў, адхіленых з'ездам...



З гэтага і пачалося... Пляханаў паступова адыходзіў ад рэвалюцыйнага марксізму.

Гэта ж ён, менавіта Пляханаў, у час першай рускай рэвалюцыі кінуў фразу (якую, дарэчы, меншавікі паспелі шырока распаўсюдзіць):

— Не трэба было брацца за зброю!

Тады ён напісаў артыкул «Урокі Маскоўскага паўстання», дзе і адказаў Пляханаву і меншавікам:

— Наадварот, трэба было больш рашуча, энергічна і наступальна брацца за зброю, трэба было растлумачыць масам немагчымасць адной толькі мірнай стачкі і неабходнасць бясстрашнай і бязлітаснай узброенай барацьбы.

Далейшы шлях Пляханава — гэта поўны адыход ад рабочага класа, ад пазіцый марксізму. Хаця, скажам, ён у 1909—1912 гадах павёў барацьбу супраць ліквідатараў, махістаў. Але (і зноў яго хістанні!) пасля 1912 года Пляханаў выступае за адзінства з ліквідатарамі.

У гады першай сусветнай вайны Пляханаў падзяляў погляды сацыял-шавіністаў.

Надта абурыла нават сляпых прыхільнікаў Пляханава яго прамова ў Таўрычаскім палацы ў дзень свайго вяртання з-за мяжы пасля Лютаўскай рэвалюцыі (за мяжой ён пражыў 37 год). Прамову надрукавалі ўсе буржуазныя газеты Расіі і, вядома, меншавіцкая — «Единство».

У той прамове Пляханаў заявіў:

— Мяне называюць сацыял-патрыётам. Што азначае сацыял-патрыёт?.. Чалавек, які мае вядомыя сацыялістычныя ідэалы і ў той жа час любіць сваю краіну. Я люблю сваю шматпакутную радзіму і ніколі не лічыў неабходным хаваць гэта... У нас цяпер ёсць што абараняць. Цяпер мы зрабілі рэвалюцыю, і наш абавязак усямерна змагацца як супраць ворага ўнутранага, так і супраць ворага знешняга.

Пляханаў не зразумеў (а мо і не хацеў зразумець) таго, што адбывалася і адбываецца ў Расіі...

Буржуазія пляскала ў далоні Пляханаву, усхваляючы яго «ўра-патрыятычную» мудрасць. Меркавалася нават прапанаваць яму, як «сапраўднаму праваднару расійскай дэмакратыі і рабочага класа», пасаду міністра працы ў Часовым урадзе.

Але нешта там не атрымалася... А мо сам адмовіўся...

Кастрычнік 1917 Пляханаў сустрэў адмоўна. У пралетарскай рэвалюцыі, паводле яго слоў, убачыў «парушэнне ўсіх гістарычных законаў».

Уладзімір Ільіч часта задумваўся: што прымусіла Пляханава адмоўна аднесціся да сацыялістычнай рэвалюцыі? І прыходзіць (у які раз!) да высноў: у ацэнцы рускай рэвалюцыі Пляханаў зыходзіў з догмаў II Інтэрнацыянала аб неабходнасці паступовага паспявання «эканамічных» умоў сацыялізму — маўляў, абавязкова павінен быць «высокі ўзровень» культуры для пераходу да сацыялізму. Лютаўская рэвалюцыя, на яго думку, павінна пакласці пачатак цэлай эпосе развіцця капіталізму ў Расіі.

Але ж Пляханаў не ўлічваў новыя ўмовы — капіталізм пераходзіў у апошнюю стадыю свайго развіцця — імперыялізм. Абставіны, якія склаліся ў гэты час, сведчылі: перамога сацыялістычнай рэвалюцыі ў адной краіне магчыма...

А цяпер вось Пляханаў разам з ворагамі бурчэў: бальшавікі — узурпатары, парушаюць правы асобы, свабоды друку...

Ворагі — яны і ёсць ворагі, ліха з імі. Але Пляханаў — яму дараваць нельга. Быў час — Пляханаў сцвярджаў: калі парушэнне таго ці іншага дэ-

макратычнага прынцыпу на карысць рэвалюцыі — нават прывёў лацінскае выслоў'е: «Salus revolutionis suprema lex» (карысць рэвалюцыі — вышэйшы закон), — дык неабходна ісці на гэта.

На другім з'ездзе РСДРП Пляханаў, выказваючы гэтую думку, падкрэсліваў:

— Рэвалюцыйны пралетарыят змог бы абмежаваць палітычныя правы вышэйшых класаў гэтак жа, як вышэйшыя класы абмяжоўвалі некалі яго палітычныя правы.

Усё гэта ўспомнілася Уладзіміру Ільічу, калі ён працаваў над артыкулам «Пляханаў пра тэрор». Артыкул быў надрукаваны якраз перад ад'ездам у Халіла — 22 снежня 1917 года.

У артыкуле ён прыпомніў Пляханаву, а разам з ім і ўсім тым, хто крычаў аб «бальшавіцкім тэроры», і іншае:

«Керанскі ўзнавіў пакаранне смерцю на фронце — ці ж гэта не быў тэрор, панове?»

Часовы ўрад рукамі Карнілавых расстрэльваў цэлыя палкі за тое, што яны не падтрымлівалі вайну, — ці гэта была не грамадзянская вайна?

Керанскія і Аўксенцьевы пасадзілі толькі ў адну мінскую турму 3000 салдат за «варожую агітацыю» — ці ж гэта не тэрор?

А калі закрывалі рабочыя газеты — ці ж гэта не тэрор?

Тэрор, панове, самы звычайны тэрор. Розніца толькі ў тым, што вы практыкавалі тэрор супраць рабочых, салдат і сялян у інтарэсах памешчыкаў і банкіраў, а Савецкая ўлада прымае рашучыя меры супраць памешчыкаў, буржуазіі і іх паслугачоў — у інтарэсах рабочых, салдат і сялян.

У гэтым, панове, розніца, менавіта ў гэтым.

Уладзімір Ільіч кінуў позірк у акно: ля шыбы мітусіліся сняжынкі, мільгалі зялёныя елкі, голыя дрэвы. Зіма ўхутвала зямлю снежнаю коўдраю.

«Зараз бы на лыжах прабегчы па лесе, а лепш на коньках — як у дзяцінстве», — падумаў ён і ўсміхнуўся: «Канькі, лыжы — як гэта даўно было. Цікава, а ці захапляўся Пляханаў, скажам, лыжамі або канькамі?»

Яны ніколі, нават у часіну добрых адносін, аб асабістым не гаварылі. Пляханаў нават блізкіх сваіх сяброў (а ці былі яны ў яго — паплечнікі, так, былі) трымаў на значнай адлегласці. Быў, вядома, ветлівы, але не адкрыты — душа яго заўсёды была пад замком.

Гм... Так, Пляханаў... Пачынаў сапраўдным марксістам, ворагам буржуазіі, а заканчвае зусім па-іншаму — абаронцам буржуазіі, падтрымкай яе, падлізваннем да яе.

Але хістанні Пляханава, яго варожасць да рускай сацыялістычнай рэвалюцыі — адно, а яго творы — іншае. Наконт прац Пляханава ў яго думка адна: «...**нельга** стаць свядомым, сапраўдным камуністам без таго, каб вывучаць — іменна вывучаць усё, напісанае Пляханавым па філасофіі, бо гэта лепшае ва ўсёй міжнароднай літаратуры марксізму...»

Хаця (адзначыў ён) погляды Пляханава на стрыжань філасофскай тэорыі марксізму — дыялектыку — памылковыя, калі не сказаць, шкодныя.

Да гэтай думкі Уладзімір Ільіч будзе неаднаразова вяртацца...

## 5

Два месяцы прамільгнулі, нібы адзін дзень. І ўвогуле што яны азначаюць: для чалавека — сапраўды дзень, а для дзяржавы — імгненне. Гэта калі гаварыць пра звычайныя дні, а тут — першыя паслякастрычніцкія месяцы, якія, відаць, неабходна лічыць стагоддзямі: столькі зроблена за гэты час, што нават цяжка ўявіць сабе.







Прыняты першыя дэкрэты Савецкай улады.

Дэкрэт аб міры...

Дэкрэт аб зямлі... Палажэнне аб рабочым кантролі... Ліквідаваны антысавецкі мяцеж Краснова...

Просты пералік (да таго ж далёка не поўны), а за кожным мерапрыемствам — бяссонныя ночы, звышчалавечая напружанасць...

А да гэтага — шматгадовая эміграцыя, падполле і праца над стварэннем навуковых асноў дзяржавы новага тыпу... Да таго ж даводзілася горача даказваць некаторым таварышам, што час надышоў — патрэбна браць уладу ў свае рукі, бо гісторыя ніколі не даруе памылак.

Усё гэта нервы...

У канцы снежня Уладзімір Ільіч адчуў стомленасць, нават выгляд змяніўся: прыбавілася маршчын.

Першыя заўважылі родныя: Надзея Канстанцінаўна і Марыя Ільінічна.

— Патрэбен адпачынак — хаця б невялічкі перапынак, — сказала аднойчы вечарам Надзея Канстанцінаўна.

— Зараз не да адпачынку, Надзюша, — столькі работы, — адказаў ён. — Набліжаецца час склікання Устаноўчага сходу. Нашы праціўнікі не спяць у шапку. Мы займаемся стварэннем новай дзяржавы, а яны нам перашкаджаюць. Дзеля чаго ім патрэбен Устаноўчы сход? Адказ просты — забраць уладу ў свае рукі і накіраваць яе супраць працоўных. Вось так, Надзюша.

Ужо ў лістападзе пачалася валтузня вакол Устаноўчага сходу. Да яго рыхтаваліся ўсе: кадэты, меншавікі, эсэры (правыя і левыя). Адчувалася, што пад шырмай сходу ворагі паспрабуюць нанесці адкрыты ўдар Савецкай уладзе.

Яшчэ ў 1905 годзе Уладзімір Ільіч выказаў свае адносіны да Устаноўчага сходу. Меншавікі ў рэзалюцыі так званай канферэнцыі, якую яны склікалі ў супрацьлегласць трэцяму з'езду бальшавіцкай партыі, лічылі заклік да Устаноўчага сходу «рашучай перамогай». Калі чытаў пра гэта, хацелася сказаць: «Панове меншавікі, гэта ж на карысць капіталістам і супраць рэвалюцыі». Крыху пазней, ужо спакойна, напісаў у кнізе «Дзве тактыкі сацыял-дэмакратыі ў дэмакратычнай рэвалюцыі»:

«...Заклік усенароднага Устаноўчага сходу ўспрыняты манархічнай буржуазіяй (глядзі праграму «Саюза вызвалення») і ўспрыняты... у інтарэсах гандлярскай здзелкі буйнай буржуазіі з царызмам».

А цяпер вось зноў паўстала пытанне аб Устаноўчым сходзе. Устаноўчы сход — звычайнае махлярства ворагаў Савецкай улады. Выбары дэлегатаў на сход праходзілі па старых спісах, якія былі састаўлены яшчэ да Кастрычніка. Большасць месцаў захапілі правыя эсэры. Іх платформа ўсім вядома — яны супраць улады Саветаў, за стварэнне буржуазнага парламента.

Забараніць сход, як гэта прапаноўвалі некаторыя «гарачыя галовы», нельга. Такое рашэнне толькі на карысць ворагам. Устаноўчы сход (калі ён сапраўдны народны сход!) павінен падтрымаць народную ўладу — Саветы. Калі ж не (а ў гэтым сумненняў не было), ён тым самым пакажа сваё антынароднае аблічча.

10 лістапада была надрукавана пастанова СНК аб скліканні Устаноўчага сходу.

Цяпер заставалася ўсё прадумаць...

Акрамя Устаноўчага сходу ў апошнія тыдні Уладзіміра Ільіча турбавала і некалькі іншых неадкладных праблем: што неабходна рабіць сёння для заўтрашняга дня: у галіне эканомікі, палітыкі, нацыянальных адносін; арганізацыйныя пытанні; міжнародная палітыка.

Прадумаць усё гэта ў Петраградзе не было магчымасці — кожная хвіліна на ўліку: практычная работа па стварэнню дзяржаўных органаў займала ўвесь час. Але ж эканамічныя, нацыянальныя, палітычныя, арганізацыйныя пытанні, міжнародныя адносіны (тут ён асабліва вызначаў праблему вайны і міру!) — усё гэта для будучыні, для заўтрашняга дня, патрабавалі ўсебаковага абдумвання, распрацоўкі менавіта сёння.

Таму і пагадзіўся ён паехаць на адпачынак на Карэльскі перашыек: у Халіла ніхто не будзе перашкаджаць яму ўшчыльную займацца распрацоўкай гэтых пытанняў.

— Калі ў наркамаце ў Калантай на самай справе ёсць асобны домік, у лесе, дзе мне ніхто не будзе перашкаджаць, дык я гатовы паехаць, — сказаў ён Надзеі Канстанцінаўне. — Мо і яна паедзе з намі?

Надзея Канстанцінаўна адразу ж пазваніла Аляксандры Міхайлаўне Калантай.

Калантай адмовілася: у камісарыяце зараз шмат работы.

— Калі будзе магчымасць, я на дзянёк-другі пад'еду пазней, — сказала яна.

І вось яны — Уладзімір Ільіч, Надзея Канстанцінаўна, Марыя Ільінічна і Эйна Рах'я — у дарозе.

З галавы не ішлі словы старой фінскай жанчыны:

— Цяпер не трэба баяцца чалавека з ружжом...

Чалавек з ружжом абараняе працоўных людзей. Чаго ж баяцца яго? Цудоўны прыклад таго, як народ успрымае Савецкую ўладу. Міжволі ўзнікалі новыя і новыя праблемы, або, як ён назваў іх (для сябе, вядома!), — тэмы для распрацоўкі. Тэмы, над якімі варта падумаць зараз жа, у дарозе, каб потым у тым Халіла запісаць, а мо сёе-тое ён паспее і распрацаваць?

«Паглядзім, паглядзім, — сказаў ён сабе. — Жанчыны, вядома, будуць запрашаць на прагулку. Але ж там і ў доміку паветра чыстае. Можна і на гэта спаслацца».

Словы фінскай жанчыны закранал і іншыя факты: жыццё бедных — кватэры, харчаванне.

Калі ўжо чалавек з ружжом абараняе працоўных людзей, дык Савецкай уладзе неабходна паклапаціцца аб астатнім — гэта яшчэ ў нас не разгорнута. Патрэбна прапаганда сацыялізму справай. Гэта — галоўнае. Але сацыялізм сам не прыйдзе. Дыскутаваць тут няма чаго. Сацыялізм — гэта ў першую чаргу кантроль, строгі кантроль і ўлік. Без кантролю фабрык, заводаў з боку рабочых Расіі з цяжкага становішча не выбрацца. Ды і які гэта сацыялізм, калі маёмасць, сродкі ў руках эксплуататараў?!

Палажэнне аб рабочым кантролі, якое ён падпісаў 14 лістапада, выклікала жорсткі сабатаж буржуазіі — рабочым не выплачвалі зарплату. Ведалі, на што ішлі — галадам затрымаць, перашкодзіць развіццю рэвалюцыі. Рабочыя слалі ў СНК тэлеграмы, накіроўвалі сваіх прадстаўнікоў з просьбай рашыць пытанне з нацыяналізацыяй таго ці іншага прадпрыемства.

За адмову падпарадкавацца рабочаму кантролю СНК спецыяльным дэкрэтам перадаваў фабрыкі, заводы ў рукі рабочых.

Рабочыя горача падтрымлівалі такія мерапрыемствы СНК. 17 лістапада быў абвешчаны дэкрэт, па якому фабрыка таварыства Лікінскай мануфактуры пасёлка Лікіна Уладзімірскай губерні перайшла ў рукі рабочых. А 11 снежня прыйшла тэлеграма: «Рабочыя і служачыя Лікінскай мануфактуры шлюць вітанне СНК і ўдзячнасць за канфіскацыю фабрыкі».





Вось так, панове... А вы гаворыце: бальшавікі — узурпатары. Не, мы робім тое, што жыццёва неабходна працоўным масам, што спрыяе далейшаму развіццю рэвалюцыі.

Але ж самы нязначны крок у гэтым напрамку — у напрамку кантролю, нацыяналізацыі — выклікае шалёную злосць з боку буржуазіі (гэта і зразумела!) і іх паслугачоў — меншавікоў, кадэтаў і да таго падобных.

І тут у памяці ўзнікла зусім нядаўняе: 14 снежня на пасяджэнні УЦВК ён сказаў прамову аб нацыяналізацыі банкаў. Прамова — нібы бомба для меншавікоў. Хаця яны здагадваліся, што ўсё ідзе да гэтага.

Сродкі ў сучасны момант — усё: хлеб, машыны, нарэшце, жыццё рэвалюцыі.

Грошы спатрэбіліся адразу ж пасля штурму Зімняга палаца. Але дзе іх узяць? Дзяржаўныя банкі адмовіліся добраахвотна падпарадкавацца Савецкай уладзе. Заставалася адно — прымусіць сілай.

Народны камісар фінансаў Мянжынскі загадаў арыштаваць дырэктара Дзяржаўнага банка Шыпава. Прывезлі ў Смольны. Пратрымалі некалькі дзён, а грошай, так неабходных рэвалюцыі, не атрымалі. Банкаўскія чыноўнікі адкрыта правакацыйна сабатавалі рашэнні Савецкай улады.

Уладзімір Ільіч выклікаў сакратара СНК Мікалая Пятровіча Гарбунова, маладога, кемлівага, прынцыповага і настойлівага чалавека, а таксама ўрадавага камісара Абаленскага-Асінскага.

— Вось дэкрэт урада, у якім мы патрабуем выдаць 25 мільёнаў грошай у якасці авансу. Бярыце машыну і едзьце ў Дзяржаўны банк. Без грошай не вяртайцеся. Вы добра разумееце, у якім становішчы мы апынуліся. Грошы патрэбны рэвалюцыі, як паветра чалавеку.

Адправіліся ўпаўнаважаныя Савецкага ўрада, а сам ён паехаў на завод, да пуцілаўцаў. Вяртаецца адтуль і застае ў сваім кабінеце такую карціну: сядзіць Гарбуноў на вялікіх мяхах з рэвальверам у руках («для аховы», як потым растлумачыў ён), а твар сур'ёзна-ўрачысты. Калі Ленін увайшоў у кабінет, усхапіўся.

— Заданне ўрада выканана, таварыш Старшыня СНК. Грошы прывезены. Прымайце...

Для першай савецкай казны адвялі асобны пакойчык і паставілі вартавога...

Буржуазныя газеты потым столькі крычалі аб рабаванні бальшавікамі Дзяржаўнага банка... Крычыце, плявузгайце — надыдзе час, і за буржуазны друк Савецкая ўлада возьмецца. Майце на ўвазе гэта, панове.

Ужо тады стала ясна: такім чынам здабываць грошы — куды гэта варта. Сабатаж банкаўскіх чыноўнікаў перашкаджаў (і надта!) нармальнай фінансавай дзейнасці дзяржавы. Неабходны радыкальныя меры — нацыяналізацыя банкаў.

Зноў думкі вярнуліся да 14 снежня. Ранкам Савецкі ўрад загадаў атрадам рабочых і чырвонагвардзейцаў заняць усе банкі і крэдытныя ўстановы Петраграда. А крыху пазней пачалося пасяджэнне УЦВК. На абмеркаванне выносіліся дэкрэты «Аб нацыяналізацыі банкаў» і «Аб рэвізіі сталёвых скрынак у банках».

Пасяджэнне, як і прадбачыў ён, было бурнае — адразу ж пачалася вострая барацьба бальшавікоў з меншавікамі. Што толькі не гаварылі на ад-

рас бальшавікоў меншавікі. Асабліва вызначаліся так званыя «інтэрнацыяналісты», прадстаўнікі меншавіцкай газеты «Новая жизнь».

— Бальшавікі вядуць краіну да пагібелі...— крычаў адзін з іх...

«Трэба выступаць»,— падумаў тады Уладзімір Ільіч і папрасіў слова.

— Папярэдні аратар імкнуўся нас запалохаць, што мы ідзём да вернай пагібелі і ў верную бездань. Але гэтыя запалохванні для нас не новыя. Тая ж самая газета, якая выказвае думкі фракцыі аратара — «Новая жизнь»,— перад кастрычніцкімі днямі пісала, што з нашай рэвалюцыі не выйдзе нічога, акрамя пагромаў і анархічных бунтаў. Таму прамовы пра тое, што мы ідзём па няправільным шляху, ёсць адлюстраванне буржуазнай псіхалогіі, з якой не могуць разарваць нават і незацікаўленыя людзі.

І тут пачуўся выкрык з боку інтэрнацыяналістаў:

— Дэмагогія!

— Не, гэта не дэмагогія...

Слухалі ўважліва, нават інтэрнацыяналісты сціхлі.

Дарэчы, меншавікі ўсё прымаюць — толькі яны супраць ажыццяўлення. Нават дыктатура пралетарыяту ім даспадобы, калі яна — толькі тэорыя, толькі панянцце, толькі словы. А вось калі бальшавікі пачалі праводзіць у жыццё тэорыю — гвалт аб сякеры, жалезнай руцэ, якая, маўляў, усё разбурае. Але яны — меншавікі,— нібы сляпыя кацяняты, не бачаць (а хутчэй не хочуць бачыць!): гэтая жалезная рука адначасова разбурае і стварае, стварае новае, дагэтуль не бачанае грамадства. І калі бальшавікі ад тэорыі пераходзяць да практыкі, да непасрэднай будзённай справы,— гэта, паважаныя паны меншавікі, нам несумненны плюс. Бальшавікі дапамогуць народу правесці ў жыццё дыктатуру пралетарыяту.

А што ўяўляе сабою дэкрэт аб нацыяналізацыі банкаў — гэта сапраўднае забеспячэнне рабочага кантролю. Народ хоча паглядзець, што там у жалезных скрынках. Нам адказваюць і адказваюць ад імя нейкіх там вучоных спецыялістаў, што ў сейфах, акрамя каштоўных папер, нічога няма.

Няхай сабе нічога няма — але ж і нічога дрэннага няма, калі прадстаўнікі народа пракантралююць іх, бо чэсныя банкаўскія супрацоўнікі заявілі нам:

— Вас банкіры падманваюць, паспяшайце спыніць іх варожую дзейнасць. Іх мэта — разладзіць гаспадарку.

Мы і спяшаемся...

Уладзімір Ільіч зноў прыйшоў да думкі, якую падкрэсліў тады ў сваёй прамове: нацыяналізацыя банкаў — справа надта складаная. Спецыялістаў няма (у турмах бальшавікі не змаглі набыць банкаўскія спецыяльнасці), таксама і знаўцаў міжнародных валютных аперацый няма. І тады ён выказаў такую думку:

— Мы паклічам спецыялістаў, якія займаюцца гэтай справай, але толькі тады, калі ключы будуць у нашых руках. Тады мы нават зможам завесці кансультантаў з былых мільянераў. Хто хоча працаваць — калі ласка...

Гэта пакуль што толькі мары... Спецыялісты вышэйшага класа сабатуюць, адмаўляюцца ісці на службу народу. Праўда, некаторыя, не рэкламуючы, пацішу кансультуюць нашых банкаўскіх работнікаў.

Паглядзім, што будзе далей...

Дэкрэты былі прыняты членамі УЦВК.

Банкаўская справа стала дзяржаўнай манаполіяй. Адначасова ліквідавалі ўсе знешнія дзяржаўныя займы царскай Расіі. А яны складалі не так ужо і мала — прыкладна 16 мільярдаў рублёў золатам...





**Л. ХОБАТАЎ. Кусялёнак** (алей, 1986).



**С. КІРУШЧАНКА. Збор агрэсту** (алей, 1985).

**6**

На станцыі іх чакалі. Непадалёку ад будынка стаялі коні, прывязаныя да невысокіх парэнчаў. Коні перабіралі мяккімі губамі сена і з апетытам жавалі. Побач стаялі санкі з высокімі спінкамі. Ля коней завіхаўся ў доўгім кажусе стары з сівою невялічкай бародкай. Ён падсоўваў коням сена і нешта ласкава гаварыў ім.

Другі — высокі і зусім малады хлопец у такім жа кажусе, як і стары, і ў такой жа шэрай заечай шапцы — корпаўся ў санках: перасцілаў сена, вытрасаючы адтуль снег.

Рах'я падышоў да старога, аб нечым перагаварыў з ім на фінскай мове. Потым падышоў да сваіх спадарожнікаў:

— Уладзімір Ільіч, — сказаў ён. — Гэта з Халіла. Па нас. Яны гатовы...

Пачыналася завіруха. Дзьмуў моцны, парывісты вецер са снегам. Рабілася цёмна, хаця ішла яшчэ толькі першая палова дня.

— Ехаць далёка? — спытаў Уладзімір Ільіч старога.

— Далёка? Яно, пан-таварыш, яго ніхто не змераў, а я так мяркую, вярсты тры з гакам будзе, — адказаў дзед, смокчучы цыгарку. Крыху падумаўшы, дадаў. — Так, пан-таварыш, — з гакам.

— З гакам?! — перапытаў Уладзімір Ільіч і весела рассмяяўся. Дзед здзіўлена глядзеў на Леніна і думаў: «Мо не так сказаў?»

— Не здзіўляйцеся, калі ласка, успомніўся адзін выпадак. Ён звязаны з гакам...

А было вось што. Жыў Уладзімір Ільіч з Надзеяй Канстанцінаўнай і яе маці Елізаветай Васільеўнай у польскай вёсачцы Малы Дунаец, што ў кіламетры ад Пароніна. Ішоў тады 1913 год. У еўрапейскім паветры ўжо патыхала порахам. Вялікія дзяржавы паспешна рыхтаваліся да вайны. Работы ў Леніна было, як заўсёды, надта многа. Зрэдку даводзілася ахвяраваць які час для адпачынку.

Аднойчы да іх завітаў Сяргей Багоцкі, польскі рэвалюцыянер.

— Кідайце ўсё, Уладзімір Ільіч. Зробім прагулку ў горы.

Ён даўно марыў пабываць у Татрах — прыгожых горных мясцінах. Нават са сваёй думкай падзяліўся з Багоцкім.

— Неяк знойдзем час, Уладзімір Ільіч. Абавязкова пакажу вам Татры.

І вось, відаць, той час наспеў.

— Але ж... даражэнькі Сяргей, мне патрэбна закончыць артыкул для «Праўды». І сёння ж пераправіць у Расію. Пад вечар зойдзе сувязны...

— Што ж — заканчвайце, а потым дзень-другі адвядзём падарожжу ў Татры.

Назаўтра ранкам яны з Багоцкім накіраваліся ў Татры. Праходзілі па прыгожых мясцінах. Свежае горнае паветра — дыхалася лёгка-лёгка. Адчуваў ён сябе бадзёра, добра. Начавалі ў турысцкай хаце — самі kaлолі дровы, гатавалі ежу, кіпяцілі гарбату.

На наступны дзень Сяргей Багоцкі прапанаваў:

— Пакажу Вам, Уладзімір Ільіч, адно вельмі ж цудоўнае месца — горнае возера. Гэта нам па дарозе дамоў. Толькі зробім кіламетры з два ўбок.

Невялічкае возера яны знайшлі даволі хутка. Тут і сапраўды было вельмі прыгожа: вакол возера раслі хвойныя дрэвы, якія ахоўвалі яго спакой. Вада ў возеры празрыстая і вельмі халодная.

Крыху адпачылі ля возера, палюбаваліся яго прыгажосцю і накіраваліся дамоў. Але недзе, відаць, збочылі з дарогі. Доўга блукалі па горных сцяжынках, пакуль пад вечар не сустрэлі польскага селяніна-гураля.

— Дзе дарога да Малога Дунайца? — спытаў Багоцкі гураля. — Як то далёка?

— Чатыры кілё... з гакам.

— А колькі той гак?

— Можа, тэж чатыры кілё, а можа, і таго болей.

— Тэж чатыры кілё?! — у голасе Сяргея Багоцкага адчувалася адначасова і здзіўленне і роспач.

Уладзімір Ільіч з увагаю слухаў жартаўліва-сур'ёзную размову Багоцкага з гуралем. Пад канец, калі высветлілася, колькі кіламетраў у тым гаку, весела засмяяўся.

І вось сёння — зноў гак. Дзе той Малы Дунаец і дзе Халіла — але гак і там і тут...

— Дык, кажаце, вярсты тры з гакам? — сказаў Уладзімір Ільіч. — А колькі ж у тым гаку?

— Колькі ў гаку? — стары са здзіўленнем і павагаю глядзіць на гэтага невысокага і дапытлівага чалавека. — Відаць, таксама тры вярсты.

— Тры вярсты? — перапытаў Уладзімір Ільіч і зноў паўтарыў: — Тры вярсты... — Усміхнуўся: тутэйшы гак амаль не адрозніваецца ад польскага.

— Пра што гамонка? — спытала Надзея Канстанцінаўна. — Мабыць, пра нешта смешнае?

— Мы тут удакладнялі, колькі вёрстаў у тутэйшым гаку.

— І што ж?

— Аказалася — тры вярсты...

— Амаль як і ў польскім? — Надзея Канстанцінаўна таксама ўсміхнулася. Яна добра помніла, як позна ноччу Уладзімір Ільіч і Сяргей Багоцкі, змораныя, але вясёлыя, вярнуліся з падарожжа ў Татры.

— Валодзя, я ўжо і не ведала, што рабіць, — з папрокам сказала яна. — Ты ж гаварыў, што вернецеся апоўдні, а зараз поўнач.

— Ва ўсім вінаваты, Надзюша, гак, — адказаў Уладзімір Ільіч і, убачыўшы на твары Надзеі Канстанцінаўны здзіўленне, паўтарыў: — Так, так, Надзюша, гак вінаваты. Калі б не ён, мы б у час паспелі дамоў.

І тады Сяргей Багоцкі расказаў пра ўсё: як яны збіліся з дарогі, як сустрэлі гураля, які паказаў ім дарогу да Малога Дунайца, і пра гак расказаў.

Пакуль стары са сваім памочнікам запрагалі коней, Уладзімір Ільіч і Эйна Рах'я дапамаглі Надзеі Канстанцінаўне і Марыі Ільінічне апрануць кажухі. «Добра, што Аляксандра Міхайлаўна патурбавалася пра кажухі, а то б замерзлі», — з удзячнасцю падумаў Уладзімір Ільіч пра Калантай.

У санкі да старога паселі Надзея Канстанцінаўна і Марыя Ільінічна. Уладзімір Ільіч праверыў, ці добра яны захутаны.

— Ногі ў сена хавайце, — параіў дзед. — Яно добра саграватае.

Уладзімір Ільіч прынёс са сваіх саней ахапак сена.

— Валодзя, навошта? Нам і свайго хопіць. Ато вы там з Эйна ў ледзяшы ператворыцеся, — паўжартаўліва гаварыла Надзея Канстанцінаўна.

— Так ужо і ў ледзяшы, — адказваў Уладзімір Ільіч. І яе тонам — жартаўліва: — Мы ж мужчыны — моцная палова чалавечага роду...

— Я ж і кажу, — не здавалася Надзея Канстанцінаўна, — каб тая моцная палова чалавечага роду не стала ледзяшамі.

Нарэшце ўладкаваліся. Коні, нібы чакалі гэтага, дружна рванулі і лёгка панеслі санкі па полі насустрач ветру. З правага боку зусім блізка безупыннай сцяной цямнеў лес, час ад часу праязджалі ля вялізных каменняў. Пранізлівы вецер шпурляў снегам, заляпляў твары. Уладзімір Ільіч захутаўся ў пушысты каўнер кажуха і закрыў вочы. Так лягчэй думалася.



Дык на чым жа спыніліся яго думкі? На чым? Ён перабіраў у памяці ўсё тое, што прадумваў у вагоне... Абдумваць да дробязяў, да дэталяў без алоўка і паперы цяжка, амаль немагчыма. Гатовага артыкула ў думках не складзеш, ды ён і не імкнуўся да гэтага — не было патрэбы. Зараз у дарозе, каб не губляць дарэмна час, неабходна тэзісна толькі вызначыць тэмы для распрацоўкі. Вось і знайшлося тое, што мільгала ў галаве яшчэ ў вагоне, — тэмы для распрацоўкі. «Каб не забыцца на гэта», — падумаў ён, хаця добра ведаў: ужо не забудзе. Тое, што доўга шукаеш, а потым знойдзеш — назаўсёды захаваецца ў памяці.

Тэмы гэтыя, выходзячы з канкрэтнага — сённяшніх, заўтрашніх умоў развіцця рэвалюцыі, — неабходна прадумаць усебакова і вызначыць каштоўнасць кожнай, злабадзённасць, першачарговасць. Потым па той ці іншай тэме (гледзячы на яе значнасць) можна будзе напісаць працу, у якой растлумачыць, паказаць, а пры неабходнасці і даказаць першачарговасць менавіта гэтага кроку, які павінен быць зроблены ў гэтым (а не ў іншым) напрамку. Але спачатку ён, абапіраючыся на творы Маркса, Энгельса, на практыку рэвалюцый (і ў першую чаргу рускай), спачатку павінен усё гэта сам вызначыць, для сябе, а толькі тады, калі будзе ўпэўнены сам у правільнасці і ў неабходнасці менавіта гэтага кроку, даказаць іншым таварышам, усім працоўным Расіі.

Некаторыя тэмы (ён быў у гэтым упэўнены), магчыма, увойдуць у яго прамовы як тэзісы, як дэталі, без якіх немагчыма ніякая прамова, артыкул, заметка.

«Потым пабачым», — падумаў ён і зноў вярнуўся да думкі: зараз галоўнае прадумаць розныя варыянты далейшага развіцця рэвалюцыі, знайсці, адабраць адзіна разумны і правільны варыянт.

Вядома, гэта цяжка, але магчыма. Больш таго, неабходна: час патрабуе, ён не чакае...

Крокі краіны ў будучыню — нязведаныя, таямнічыя, загадкавыя здалёку — пры абдумванні ператвараліся ў звычайныя, паўсядзённыя, жыццёвыя крокі.

І тут узнікае пытанне: а што ж з'яўляецца крытэрыем для вызначэння правільнасці таго ці іншага кроку?

Думка працоўнага народа. Толькі працоўныя змогуць успрыняць (або адкінуць) з'яву, мерапрыемствы, падмацаваць практычнымі справамі тэарэтычныя пошукі. Зусім свежы прыклад — сённяшняя размова дзвюх фінскіх жанчын. Словы старой фінкі: «цяпер не трэба баяцца чалавека з ружжом» глыбока кранулі яго, запалі ў душу. Яны — словы жанчыны — падмацоўвалі правільнасць палітыкі Савецкай улады.

Крычыце, панове дэмакраты, колькі хочаце, называйце бальшавікоў дыктатарамі, гвалтаўнікамі і іншымі мянушкамі. Ім (вашым крыкам) цана — капейка ў базарны дзень. Народ зусім па-іншаму адносіцца да мерапрыемстваў Савецкай улады — працоўныя людзі падтрымліваюць чырвонагвардзейцаў, бо яны, выконваючы прадпісанні Саветаў, дзейнічаюць супраць буржуазіі, ахоўваюць інтарэсы працоўных.

Цяпер не трэба баяцца чалавека з ружжом! Якая тут глыбокая думка! Што ж вы, панове дэмакраты, можаце акрамя крыку праціпаставіць гэтай

мудрай агітацыі простых і неадукаваных людзей? Такую агітацыю нельга перамагчы.

Старая фінская жанчына, сама таго не ведаючы, падказала, падкрэсліла тое новае, што прыйшло разам з рэвалюцыяй, — цяпер (менавіта цяпер!) не трэба баяцца чалавека з ружжом... Чалавек з ружжом цяпер абараняе працоўных. У гэтым (а дакладней — і ў гэтым!) сэнс сацыялістычнай рэвалюцыі.

Потым па дарозе ў Халіла ён яшчэ і яшчэ будзе ўспамінаць сказанае старой фінскай жанчынай, а ў Халіла запіша іх сабе на памяць.

Пройдзе два тыдні пасля адпачынку, і Уладзімір Ільіч успомніць гэтыя словы ў дакладзе на з'ездзе Саветаў:

— Я дазволю сабе расказаць аб адным выпадку, які адбыўся са мной. Справа была ў вагоне на Фінляндскай чыгунцы, дзе мне давялося пачуць размову паміж некалькімі фінамі і адной бабуляй. Я не змог прыняць удзел у размове, таму што не ведаў фінскай мовы, але да мяне звярнуўся адзін фін і сказаў: «Ведаеце, якую арыгінальную рэч сказала гэтая старая?» Яна сказала: цяпер не трэба баяцца чалавека з ружжом. Калі я была ў лесе, мяне сустрэў чалавек з ружжом, і замест таго, каб забраць у мяне галлё, ён яшчэ прыбавіў мне.

Калі я гэта пачуў, я сказаў сабе: няхай сотні газет, як бы яны там ні называліся — сацыялістычныя, антысацыялістычныя... няхай сотні надзвычай гучных галасоў крычаць нам: «дыктатары», «гвалтаўнікі» і іншыя словы. Мы ведаем, што ў народных масах узнімаецца цяпер іншы голас, яны гавораць сабе: цяпер не трэба баяцца чалавека з ружжом, таму што ён абараняе працоўных і будзе бязлітасны ў падаўленні панавання эксплуататараў... Вось што народ адчуў, і вось чаму тая агітацыя, якую вядуць простыя, неадукаваныя людзі, калі яны расказваюць аб тым, што чырвонагвардзейцы скіроўваюць усю моц супраць эксплуататараў, — гэтая агітацыя непераможная.

## 7

Лес сустрэў падарожнікаў зацішкам — вецер гуляў недзе ў верхавінах высачэзных сосна‌ў, ялін, бяроз... Адразу ж пацяплела. Уладзімір Ільіч расшпіліў каўнер, выпрастаўся:

— Ну як — хутка праедзем той гак? — жартаўліва спытаў ён у старога рамізніка.

— Праязджаем, праязджаем. Зараз паварот направа, а потым... потым паўвярсты налева, а там і Халіла. Зусім ужо блізенька, пан-таварыш. Блізенька. Апошні гак, можна сказаць, праязджаем.

— А вы, таварыш Рах'я, не замерзлі? Не сталі ледзяшом? Калі што, жанчыны нам, мужчынам, не даруюць: пакпяць з нас уволю.

— Што вы, Уладзімір Ільіч, як можна губляць гонар мужчын. Нельга нам. Да таго ж кажух такі цёплы, што я нават спацеў. У ім як на печцы — цёпла і ўтульна. А вы, Уладзімір Ільіч, любіце вясковую, як яе называюць, рускую печку, з гарачай ляжанкай, на якой добра лячыць радыкуліт, раматус і розныя прастуды?

— Вельмі люблю, але ж даўно не спаў на печцы. У апошні раз, здаецца, было гэта ў Алакаеўцы... Не, у Сібіры. Шушанскае — вёсачка ёсць такая. Там адбываў ссылку. Вернешся з палявання зморана, замерзлы — і на печку. І ніякай прастуды. Печ — сапраўды лячэбніца. Але даўно гэта было. А як бы хацелася папарыць, таварыш Рах'я, свае старыя косці...



— Ну ўжо ж і старыя?..

— А што, мне хутка 48 гадоў. Узрост, даражэнькі Рах'я, сталы. Павярнуўся рамізнік.

— Ну, гэта яшчэ не старасць — 48 гадоў, — падтрымаў ён Рах'ю, — у вашы гады я, пан-таварыш, добра бегаў. Днём на полі працую або на сенажаці касою махаю, а ноччу гадзінку якую пасплю — і то добра. У мяне дзятвы малой было пяцёра, а жонка, царства ёй нябеснае, памерла. Адзін з імі ваяваў... Упраўляўся. А зараз малодшыя добрыя памочнікі, а старэйшыя — на вайне. Скажыце, пан-таварыш, калі яна ўжо скончыцца, тая вайна? Гэта ж столькі людзей загінула. Вы там у Пецярбурзе бліжэй да Леніна. Перадалі б яму — вайну трэба хутчэй канчаць. Народ па горла сыты крывёю.

Рах'я павярнуў галаву да Уладзіміра Ільіча. У яго вачах бегалі агеньчыкі.

— Вы ж ведаеце, паважаны...

— Латука я.

— Дык вось, паважаны Латука, з першых дэкрэтаў Савецкай улады быў дэкрэт аб міры. Шкада толькі, што ваюючыя краіны не адгукнуліся на тыя прапановы.

— Дэкрэт аб міры мы ведаем — да душы ён нам, — сказаў рамізнік. — У ім выказаны думкі нашы. А багацеі... ім што, яны дома, не ў акопах, і не яны гінуць, а наш брат — селянін, рабочы. Яны не пойдуць з намі на мір. Відаць, трэба нешта іншае рабіць.

— Савецкая ўлада робіць спробу заключыць мір з немцамі сама. Расія павінна выйсці з вайны. Пачалі весці перагаворы...

— А Ленін як думае? — спытаў стары Латука.

— Ленін? Ленін, наколькі мне вядома, такой жа думкі прытрымліваецца, — адказаў Уладзімір Ільіч і паўтарыў: — Такой.

— Ну, тады мы пераможам... — сказаў упэўнена Латука.

— Царскую армію Савецкая ўлада зараз распускае... Але вось як вы думаеце: салдаты разыдуцца па дамах, а, скажам, буржуазія разам з генераламі дамовяцца паміж сабою і пойдуць вайной супраць рабочых і сялян, каб зноў цара пасадзіць і пакінуць старыя парадкі... Адным словам, каб зямлю ў сялян, што Савецкая ўлада дала, адабраць, фабрыкі, заводы — вярнуць капіталістам. Што тады рабіць?

— Як што? Ваяваць! Не, паважаны пан-таварыш, тое, што нам дадзена новай уладай, аддаваць не збіраемся. І не аддамо. Я вось ужо сёмы дзесятак размяняў, але вазьму ў рукі стрэльбу і разам з сынамі пайду змагацца. Не, тут ясна... А вось з немцамі, калі яны зноў не пойдуць супраць нас, мірыцца патрэбна. Так і перадайце Леніну: маўляў, стары фін Латука за мір. Ён ведае, што патрэбна рабіць.

— Перадам, — адказаў Уладзімір Ільіч і паглядзеў на Рах'ю. — Як, таварыш Рах'я, перададзім?

— Абавязкова.

— Вось мы і даехалі, — сказаў стары. — Добрага вам адпачынку, паважаны пан-таварыш, а за гутарку — вялікі дзякуй.

Стары зняў шапку і пакланіўся.

За брамай гучна, басавіта забрахаў сабака. А потым пачуўся рэзкі мужчынскі голас:

— На месца, Жулік! Свае прыехалі. — Голас, відаць, належаў гаспадару сабакі: ён адразу ж змоўк.

Уладзімір Ільіч дапамог сысці з санак жанчынам, зняць кажухі.

Расчынілася брама, і выйшаў невысокі паўнаваты чалавек, апрануты ў кароткі кажух, на нагах — валёнкі, на галаве — насунутая амаль на вочы вялізная шапка.

— Дзень добры, Уладзімір Ільіч. Нарэшце прыехалі. А я ўжо чакаў-чакаў... Турбавацца пачаў: ці не збіліся з дарогі, думаю, такая ж завіруха, хаця Латука і яго сын добра ведаюць дарогу. Але ж усё магло здарыцца. — Чалавек гаварыў хутка, трохі хрыплым, відаць, прастуджаным голасам.

— А вы, відаць, доктар Мікалай Іванавіч, гаспадар гэтых пенатаў?

— Так, Уладзімір Ільіч. Ён самы... доктар.

— Добры дзень, Мікалай Іванавіч. — Уладзімір Ільіч працягнуў руку і, паціскаючы руку Мікалая Іванавіча, адчуў: доктар займаецца фізічнай працай — ягоная рука моцная і шурпатая. — Рады з вамі пазнаёміцца. Аляксандра Міхайлаўна мне многа пра вас расказвала.

— Навошта яна... — Мікалай Іванавіч разгубіўся, — не такі я ўжо і добранькі...

— А добранькім і не трэба быць, — сказаў Уладзімір Ільіч. — Добранькі чалавек — гэта ні тое ні сёе. Як кажуць на Русі, ні рыба ні мяса. А дзелавым, прынцыповым, а калі патрабуюць абставіны — дык жорсткім, строгім. Вось такім мне і абмалявала вас Аляксандра Міхайлаўна.

Падышлі жанчыны, а за імі Рах'я.

— Знаёмцеся — наш гаспадар доктар Мікалай Іванавіч, — прадставіў падышоўшым Уладзімір Ільіч галоўнага ўрача Халіла. — А гэта мая сястра Марыя Ільінічна і жонка Надзея Канстанцінаўна.

Мікалай Іванавіч пакланіўся жанчынам.

— А таварыша Рах'ю, я мяркую, вы, Мікалай Іванавіч, ведаеце.

— Так, Уладзімір Ільіч. Эйна мой стары добры таварыш. — Рах'я і Мікалай Іванавіч, моцна паціснуўшы адзін аднаму рукі, абняліся.

— А цяпер, калі ласка, да нас — у Халіла, — запрасіў Мікалай Іванавіч.

Мікалай Іванавіч правёў іх цераз двор і накіраваўся да доміка, што стаяў убаку ад другіх — амаль у лесе.

Уладзіміру Ільічу кінулася ў вочы: домік новы і нагадваў хатку на курыных лапках — невялічкі, ён стаяў на даволі высокім падмурку і быў прыгожа пафарбаваны ў блакітны і ярка-жоўты колер. Вокны з белымі фіранкамі глядзелі з нейкай таямнічасцю, выклікаючы ў людзей жаданне зайсці ў домік і паглядзець, як жа ў ім.

Мікалай Іванавіч узышоў на высокі ганак, адчыніў дзверы і сказаў:

— Вось і ваша жыллё. Печка прапалена ранкам і, мабыць, астудзілася за дзень. Але тут жа ёсць бярозавыя паленцы, і мы зараз яе зноў распалім.

Калі Уладзімір Ільіч увайшоў — жанчыны распакоўвалі рэчы, а Эйна Рах'я важдаўся ля печкі (дровы, відаць, былі сырыя — не распальваліся).

— Што? Не распальваюцца? Дазвольце мне, таварыш Рах'я, — сказаў Уладзімір Ільіч, распранаючы паліто.

— Я схаджу па сухія трэсачкі. Гэтыя дровы так гарэць не будуць, — і Рах'я накіраваўся да дзвярэй.

— Не трэба. Абыдземся... — Надзюша, дай, калі ласка, нож, — папрасіў Уладзімір Ільіч Надзею Канстанцінаўну.

Нажом ён хутка надраў з паленцаў бярösты...

Праз некалькі хвілін у печцы патрэсквалі дровы і весела гарэў агонь.

— Вось як, — толькі і сказаў Рах'я.



Некалькі месяцаў прайшло з таго часу, як ён пазнаёміўся з Уладзімірам Ільічом, і кожная сустрэча з Леніным раскрывала перад ім новыя і новыя якасці гэтага чалавека.

Эйна Рах'ю здзіўляла, захапляла чалавечнасць, прастата Уладзіміра Ільіча, яго практычная кемлівасць: ён ведаў і мог рабіць многае і рабіў усё ўпэўнена, самааддана — нібы ствараў нешта такое, што да яго не існавала...

Аднойчы таварышы з ЦК папрасілі яго, Эйна Рах'ю, наведаць Уладзіміра Ільіча і перадаць матэрыялы нарады, якія былі яму вельмі патрэбны.

— Вось адрас Уладзіміра Ільіча, — сказалі ў ЦК, — але будзьце вельмі асцярожныя, каб не прывялі за сабою «хваста».

Эйна Рах'я тады пакрыўдзіўся: папярэджваць яго не трэба. Ён так і сказаў таварышам з ЦК.

У той час Уладзімір Ільіч хаваўся ад шпіёнаў Керанскага ў сям'і фінскага селяніна Парвіайнена.

У хаце Парвіайненаў Эйна Рах'я знайшоў толькі старога.

— Я да Канстанціна Пятровіча, — сказаў ён старому. — Дзе ён?

Канстанцін Пятровіч Іваноў — пад такім прозвішчам жыў тады Уладзімір Ільіч.

— Дзе-е?! — У голасе старога Парвіайнена Эйна Рах'я адчуў і гонар і здзіўленне. — На полі... З сынам аруць.

Поле Парвіайненаў было непадалёку ад дома, за невялічкім пералескам. Там Эйна Рах'я і знайшоў Леніна. Як звычайны селянін (нават апрануты быў па-сялянску: штаны засунуты ў боты, белая палатняная кашуля навыпуск, на галаве звычайны картуз), Уладзімір Ільіч ішоў за плугам, а сын Парвіайнена паганяў коней. Баразны былі роўныя — адчувалася, што ў гэтай справе Ленін не навічок.

Не адрываючыся ад плуга і не спыняючы коней, Уладзімір Ільіч на хаду прывітаўся і сказаў:

— Адну хвіліну, таварыш Рах'я, вось прайду гэтую баразёнку, і пагамонім...

«Дзіўна, — думаў Эйна Рах'я. — Ленін за плугам».

На сялянскім полі — ён арэ, як селянін, на сенажаці, як гэта было ў Разліве, ён косіць, як сапраўдны касец. Усё ў яго атрымліваецца добра, умела, надзейна.

Вось і зараз — колькі ён, Эйна Рах'я, страціў часу, каб распаліць печку, ды так і не распаліў. Узяўся Ленін, і калі ласка, праз хвіліну-другую ў печцы патрэскваюць дровы. Вялікі рэвалюцыянер, аўтар шматлікіх прац па марксізму, кіраўнік першай у свеце краіны рабочых і сялян — і за хвіліну распальвае сырыя дровы ў печцы... Чалавек, ад якога залежыць будучыня вялікай краіны, так проста і задушэўна вядзе гаворку з рамізнікам Латукам, доктарам, з ім, Рах'яй. Сярод сялян — ён селянін, сярод рабочых — рабочы. З усімі знаходзіць агульную размову, з усімі ён просты, чулы, душэўны чалавек...

## 8

Зморания дарогаю і цяплом, хутка ўсе разышліся па пакоях. Уладзімір Ільіч адмовіўся нават ад вячэры:

— Нешта не хочацца, — сказаў ён Надзеі Канстанцінаўне, якая прапанавала яму бутэрброд. — А вось чаю шклянку вып'ю. Гарачага.

Піў чай са смакам — маленькімі глыткамі.

— Мо яшчэ шклянačку? — спытала, а дакладней — прапанавала Марыя Ільінічна.

— Налі, вазьму ў свой пакой. Раптам ноччу захочацца піць.

Пакойчык, дзе яму належала правесці чатыры дні, быў невялічкі і надта чысты. Вокны занавешаны бялюткімі адпрасаванымі фіранкамі, на стале такі ж белы абрус, белай тканінай пакрыты крэслы. На падлозе саматканы дыван.

«Неяк боязна і дакрануцца — усё такое ўрачыстае, зусім не рабочае, давядзецца абжываць», — падумаў ён.

Распрануўся, патушыў лямпу і патануў у пуховай пярыне.

— М-так, — міжволі вырвалася ў яго. На такой мяккай пярыне яму давядзецца спаць упершыню ў сваім жыцці.

Там, у пакоі жанчын, ля печкі, спаць вельмі хацелася, вейкі самі сплюшчваліся. А лёг — заснуць не можа. Зноў завіхурыліся ў галаве неспакойныя думкі. Яго непакоіла тое ж, што ў Петраградзе, а потым у дарозе, — будучыня Расіі.

Якім шляхам? Шляхам вядома якім — сацыялістычным. Тут Маркс і Энгельс шмат папрацавалі — створана цэлая навука. Асабліва многа (у сэнсе практычнага!) для навукі аб сацыялізме дала Парыжская камуна. Гэта гіганцкі крок у пралетарскім руху. На ўспамін прыйшлі словы Карла Маркса:

— Парыж рабочых з яго Камунай заўсёды будуць вітаць, як слаўнага прадвесніка новага грамадства.

Парыжская камуна — прадвеснік новага грамадства!

Ён прачытаў усё, што напісана Марксам і Энгельсам пра Парыжскую камуну, прааналізаваў усе даступныя яму матэрыялы і прыйшоў да вываду:

— ...Пры ўсіх памылках Камуна ёсць найвялікшы ўзор найвялікшага пралетарскага руху XIX стагоддзя.

Не паўтарыць памылак Парыжскай камуны, помніць пра іх — абавязак бальшавікоў...

Улічваючы вопыт Парыжскай камуны, яе памылкі, ужо сёння (менавіта сёння!) неабходна распрацаваць канкрэтныя практычныя крокі, якія павінна зрабіць Расія да сацыялізму заўтра, паслязаўтра, праз месяц, год. Гэта — задача нумар адзін, задача, якую трэба рашаць зараз.

Ён пераварочваўся з боку на бок, але сон не прыходзіў. Пачуўся брэх сабакі.

«Відаць, яго нехта патурбаваў», — падумаў Уладзімір Ільіч, і раптам яму захацелася апрануцца і выйсці на марознае паветра; пад вечар мяцеліца сціхла, і, як сказаў доктар, бралася на мароз.

Уладзімір Ільіч апрануўся і ціхенька выйшаў на ганак: у доміку, дзе жыў доктар, гарэла святло.

«І доктару не спіцца! — і гэта яго чамусьці задаволіла. Не спіць чалавек — значыць, у яго ёсць справы, якія ён павінен неадкладна зрабіць. А то і ў яго бяссонніца? Тады, канечне, горш...

Мікалай Іванавіч спадабаўся Уладзіміру Ільічу. Ён быў крыху вышэй сярэдняга росту, каржакаваты, але не тоўсты, рыжавата-папялістыя валасы акуратна прычасаны на дзве няроўныя часткі — на прабор. Махнатыя вейкі, рыжыя бровы і блакітныя вочы рабілі доктарскі твар задуменным, як гаварыла Аляксандра Міхайлаўна Калантай, філасофскім. Прозвішча доктара Уладзімір Ільіч не запомніў (Калантай сказала: ці то Іваноў, ці то Пятроў — нейкае распаўсюджанае рускае прозвішча).



— Ён некалькі разоў званіў мне, — расказвала Уладзіміру Ільічу Калантай. — І заўсёды гаварыў: вас, таварыш нарком, турбуе доктар... Відаць, ён вельмі ганарыцца прафесіяй урача.

— А мо, Аляксандра Міхайлаўна, ён мае навуковую ступень доктара? — спытаў ён тады ў Калантай. Тая перасмыкнула плячыма, але нічога не сказала — не ведала.

Нягледзячы на тое, што доктар гаварыў даволі хутка, ён пакідаў уражанне паважнага, спакойнага чалавека і, відаць, па свайму характару сапраўды добрага.

Жулік працягваў брахаць. Бразнула клямка, і на ганку паказаўся Мікалай Іванавіч.

— Жулік, што здарылася? Чаго брэшаш? Спаць не даеш людзям...

Брэх узмацнеў: Жулік, падбадзёраны голасам гаспадара, ажно захадзіўся ад злосці.

— А-а-а, мабыць твой рыжы знаёмец прыходзіў? — Доктар размаўляў з сабакам, нібы з чалавекам. Ён, відаць, любіў сабак. І гэта таксама спадабалася Леніну: ён сам вельмі любіў жывёл і сам мог размаўляць з імі, часам забываючы на тое, што звяры не разумеюць чалавека. Хаця тон, якім сказана слова, звяры разумеюць. «Калі хочаш заваяваць давер жывёліны — ніколі не крычы», — успомніліся словы, якія ён чуў яшчэ ў дзяцінстве і якіх прытрымліваўся ўсё сваё жыццё.

Нарэшце Жулік заспакоіўся, і доктар пайшоў да сябе ў домік. Уладзімір Ільіч застаўся сам-насам з цёмным лесам, зорным небам і нязвыклаю цішынёю.

Ён паціхеньку сышоў з ганка і, пастаяўшы крыху, накіраваўся па сцяжынцы ў бок лесу. Ішоў не спяшаючыся: рыпеў снег пад нагамі, парушаючы начную цішыню лесу. Часам напружаны слых лавіў начныя лясныя гукі: трэск галінак, рыпенне дрэў.

Сцяжынка раптам скончылася. Далей даволі глыбокі снег. «Яшчэ не паспелі расчысціць», — падумаў ён і павярнуў назад. Пайшоў зноў жа размерана — спяшацца не было сэнсу: заснуць наўрад ці зможа. Яшчэ адчувалася тая душэўная ліхаманка, імкненне ахапіць адразу ўсе хвалюючыя яго праблемы. З аднаго боку гэта добра: мозг працуе напружана, успрынацце абвостранае: мроіцца, віхурыцца мноства думак — самых нечаканых, часам фантастычных (потым фантастычныя адкідваюцца), нерэальных, але патрэбных для таго, каб мозг працаваў. Нехта з вялікіх мінулага сказаў: філосафам неабходна трэніраваць свой мозг, каб ён не заленаваўся. Лянота мозга — смерць філосафа. Канечне, тут сёе-тое надумана, але сутнасць ёсць: мозг чалавека павінен працаваць над той ці іншай праблемай. Гэтая праблема можа мець значэнне толькі для аднаго чалавека, для сям'і, для таварышаў, нарэшце, для партыі, краіны, свету.

Зноў прыйшлі на памяць словы: я думаю — я існую...

«І чаму гэта мае думкі скіраваліся на філосафаў?» — задаў ён сабе пытанне. — А-а, вось чаму...»

Успомніўся яму расказ Аляксандры Міхайлаўны Калантай пра размову з тутэйшым доктарам.

Прыехаў аднойчы да яе Мікалай Іванавіч, пагаварылі пра тое-сёе, а потым перайшлі (якім чынам, Калантай не памятала) на старажытных філосафаў.

— Вы, мабыць, ведаеце Сакрата і Крытабула, дакладней, іх творы? — спытаў доктар.

— Даводзілася сёе-тое чытаць,— няўпэўнена адказала Аляксандра Міхайлаўна.— Але даўно... Многае забылася.

— А спрэчку іх аб прыгажосці памятаеце?

— Не,— адказала яна і папрасіла, каб ён расказаў ёй. Адчувалася, што доктар добра ведае творы Сакрата, Крытабула і іншых філосафаў старажытнасці — ён часта цытаваў іх, і трэба сказаць, да месца, свабодна валодаў грэчаскай і лацінскай мовамі.

— Што ж, калі ласка. Лацінскай? Грэчаскай? — спытаў ён.

— Нешта не разумею? — Аляксандра Міхайлаўна запытальна паглядзела на доктара.

— Якой мовай будзем карыстацца: грэчаскай, лацінскай?

— Лепш — рускай.

Доктар, як здалося Аляксандры Міхайлаўне, паглядзеў на яе з дакорам, але нічога не сказаў і пачаў пераказваць змест спрэчкі Сакрата і Крытабула наконт прыгажосці.

— Сышліся неяк Сакрат і Крытабул,— пра гэта піша вучань Сакрата Ксенафонт Афінскі. Дарэчы,— і доктар паглядзеў на Аляксандру Міхайлаўну,— таксама даволі цікавая асоба. Дык вось, сышліся Сакрат і Крытабул і паспрачаліся наконт прыгажосці... Дакажы,— гаворыць Крытабул Сакрату,— калі, вядома, у цябе ёсць якія разумныя аргументы, што ты прыгажэйшы за мяне...

Сакрат у адказ пытаецца:

— Ці толькі ў чалавеку, па твайму разуменню, ёсць прыгажосць, а мо і ў чым-небудзь іншым?

— Прысягаю Зеўсам,— адказвае Крытабул,— па-мойму, яна ёсць і ў каня, і ў бугая, і ўва многіх нежывых прадметах. Я ведаю, напрыклад, што і шчыт можа быць цудоўны, і меч, і кап'ё...

— Як жа гэта,— пытаецца Сакрат,— што прадметы, ніколькі не падобныя адзін да другога, усе прыгожыя?

А яму Крытабул:

— Прысягаю Зеўсам, калі яны зроблены добра для той працы, дзеля якой мы іх набываем, або калі яны па сутнасці сваёй добрыя для нашых патрэб, то яны цудоўныя.

— Ці ж ты ведаеш,— зноў пытаецца Сакрат,— для чаго нам патрэбны вочы?

— Зразумела,— адказваў Крытабул,— для таго, каб глядзець.

— У такім выпадку мае вочы будуць прыгажэйшыя за твае.

— Чаму ж так?

— Таму, што твае вочы бачаць толькі проста, а мае і па баках, таму што яны лупатыя.

— Мяркуючы па тваіх словах,— сказаў Крытабул,— у рака вочы лепей, чым у іншых жывёлін.

— Несумненна,— адказаў Сакрат,— таму што і па адносінах да сілы зроку ў яго ад прыроды цудоўныя вочы.

— Ну, добра,— гаворыць тады Крытабул,— а нос у каго прыгажэйшы, у цябе ці ў мяне?

— Мяркую, у мяне,— адказаў Сакрат,— калі толькі багі далі нам нос для нюху: у цябе ноздры глядзяць у зямлю, а ў мяне яны адкрыты ўверх, так што ўспрымаюць пах з усіх бакоў.

«Цікава,— думае Крытабул,— а што ты, Сакрат, адкажаш на такое пытанне?» I тут жа задае:

— А прыплюснуты нос чым прыгажэй за прамы?



Сакрат, нібы чакаў такое пытанне, адразу, не задумваючыся, гаворыць:

— Тым, што ён не з'яўляецца перашкодай для зроку, а дазваляе вачам адразу бачыць, што яны хочуць, а высокі нос, нібы здзекваючыся над чалавекам, падзяляе вочы бар'ерам...

— Усё гэта ён мне, Уладзімір Ільіч, расказваў з такім запалам і да таго ж з такім веданнем, што мне адчулася: доктар займаецца філасофіяй прыгажосці.

— Гм, цікава. Я некалі чытаў Ксенафонта Афінскага, але асаблівай увагі не звярнуў на гэтую спрэчку. Сакрат, як вам, паважаная Аляксандра Міхайлаўна, вядома, адстойваў палажэнне аб адносным характары паняцця прыгажосці. На яго думку, яна (а дакладней эстэтычная ацэнка) вызначаецца не ўласцівасцямі прадметаў, якія маюць абсалютныя якасці прыгажосці, а мэтазгоднасцю і ўласцівасцяў і якасцяў іх для чалавека...

— Нешта падобнае мне гаварыў і наш доктар-філосаф...

Потым пры сустрэчах Уладзімір Ільіч, калі-нікалі ўспамінаючы пра доктара, пытаўся:

— Ну як там наш доктар-філосаф маецца?..

Успамінаў і пытаўся не проста так, каб задаць пытанне, а таму, што зацікавіў яго чалавек, які захапляецца не толькі сваёй працай (а працаўнік, па словах Аляксандры Міхайлаўны, доктар быў цудоўны), а і яшчэ нечым — у дадзеным выпадку эстэтыкай.

«А ці ж ведае ён формулу Дастаеўскага: «Свет выратуе прыгажосць»? Трэба спытаць...»

З гэтымі думкамі Уладзімір Ільіч падыходзіў да свайго доміка. I як ні дзіўна, вокны доктара яшчэ свяціліся...

А на небе ўсё ярчэй і ярчэй разгараліся зоркі, мацнеў мароз. Паношанае асенняе паліто (тое, дарэчы, што маці купіла яму пры апошняй сустрэчы ў Швецыі) і фетравы капялюш сагравалі дрэнна.

«Шкада, што футравую шапку не надзеў на гэтую незапланаваную прагулку. Яно б і кажух не пашкодзіў»,— падумаў Уладзімір Ільіч, узыходзячы на ганак.

Паціху, каб не разбудзіць сястру, жонку і Эйна Рах'ю, адчыніў дзверы і ціхенька прайшоў у свой пакой. Хуценька распрануўся, намацаў на стале запалкі (іх пакінуў увечары доктар) і запаліў газнічку. Святло ад газнічкі, вядома, дрэннае, але чытаць і пісаць можна.

Ён прысунуў да сябе аркуш пісчай паперы, чарніліцу з ручкай і вывеў загаловак: «Изъ дневника публициста». У памяці ўчэпіста хаваецца цвёрды знак, хаця тут, відаць, хутчэй звычка — дзесяцігоддзямі так пісаў. Адразу адвыкнуць — цяжка, тым больш, калі пісаць даводзіцца хутка — многае прадумана, таму і думкі пераганяюць руку.

Збоку ў дужках напісаў: «Темы для разработки».

I тут жа зноў узнікла перад яго вачыма старая фінская жанчына, якая спакойна гаварыла, расцягваючы словы, сваёй суседцы па вагону:

— Цяпер не трэба баяцца чалавека з ружжом!

На аркушы паперы пад нумарам першым ён і паставіў тэму для будучай распрацоўкі: «Цяпер не трэба баяцца чалавека з ружжом».

Другой тэмай стала фраза «Прапаганда справай». Толькі справай можна прапагандаваць новыя ідэі, новую форму ўлады, жыцця. Практычныя справы, накіраваныя на карысць працоўных,— лепшай прапаганды і не трэба...

Думкі зноў вярнуліся да першай тэмы, і ён справа дапісвае: «I bis: Ква-

тэры беднаты і яе харчаванне; I ter. Слабыя бакі маладой Савецкай улады».

«Гэта будзе адна тэма», — падумаў ён, і адразу ж думкі скіраваліся на іншыя праблемы, якія хвалявалі яго сёння, каб заўтра, праз месяц, год, дзесяцігоддзі стаць генеральнай лініяй развіцця Расіі. Ён ледзь паспяваў (там-сям скарачаў) запісваць:

«3. Агітатарам ці пракурорам?

4. Практыцызм і «становчая справа».

5. Арганізацыйная работа і арганізатары з народа.

6. Нашы адносіны да анархістаў.

З правага боку ўдакладняе тэму: 6 bis: Анархісты па неразуменню, — па нецярпенню, — па настрою, — па інстынкту...»

Ён адчуваў: многія тэмы могуць мець сваё самастойнае значэнне, а некаторыя ўвойдуць асобнымі пунктамі, раздзеламі ў другія артыкулы, прамовы. Толькі б паспець распрацаваць — хаця б крышачку вольнага часу. Але дзе яго ўзяць: у сутках 24 гадзіны. 18 — 20 гадзін, як звычайна, аддаюцца справам, вядома, важным, злабадзённым, маючым непасрэдныя адносіны да практычных крокаў краіны да сацыялізму, да ўмацавання Савецкай улады... Але ж трэба жыць не толькі сённяшнім, хаця і злабадзённым... Кіраўнік дзяржавы павінен прадбачыць сёе-тое...

Толькі пад ранак Уладзімір Ільіч забыўся кароткім заклапочана-ўстрывожаным сном...

Скончыўся першы дзень адпачынку Старшыні Савета Народных Камісараў Уладзіміра Ільіча Леніна.

## 9

Ранкам зайшоў доктар. Даведаўся, як уладкаваліся: ці ж усё добра? Мо яшчэ што патрэбна?

Адказаў, што ўладкаваліся добра, што болей нічога не трэба.

А тут і сапраўды было добра: чысціня, бялюткія-бялюткія фіранкі, незвычайная цішыня. Утульны пакойчык (такія ж утульныя пакоі ў Марыі Ільінічны з Надзеяй Канстанцінаўнай і Эйна Рах'і), але той утульнасці, якая завецца сваёй, хатняй, ён не адчуваў. У гэтай утульнасці было нешта казённае, гатэльнае; яно суправаджала яго доўгія эмігранцкія гады. Толькі пасля прыезду ў Петраград у красавіку ён, пасяліўшыся спачатку на кватэры сястры Анны Ільінічны і яе мужа Марка Цімафеевіча Елізарава, нарэшце знайшоў утульнасць — тую, якая запомнілася яму яшчэ з дзяцінства. Мо таму, што многія рэчы напаміналі яму маці?

Уся гэтая казённая чысціня, бялюткія фіранкі, цішыня сціскалі яго, і ён адчуваў нейкую скутасць. Нават размаўляў чамусьці шэптам. Адразу ж пасля снедання хацеў быў засесці за стол і прадоўжыць работу над «Тэмамі для распрацоўкі». Але не давялося.

— Валодзя, — сказала Надзея Канстанцінаўна, — якое хараство. Пойдзем гуляць.

— А я хацеў папрацаваць крышачку... Якую гадзінку...

— Ведаем, якая гэта гадзінка, — сказала Надзея Канстанцінаўна, — да вечара прасядзіш.

— Не, не, спачатку ў лес, — Марыя Ільінічна падтрымала Надзею Канстанцінаўну.

— А потым, калі ласка, працуй...

Да іх далучыўся Эйна Рах'я, і яны накіраваліся ў лес, па той жа самай сцяжынцы, па якой таптаўся ён уначы. Сапраўды, навокал было пазімоваму прыгожа: стромкія сосны з белымі са снегу капелюшамі, а побач грузныя елкі, нібы састарэлыя волаты, збочылі з дарогі, каб адпачыць. Там-сям гурбы снегу — пад імі кусты схаваліся. Ад усяго так і павявала свежасцю, цішынёю і спакоем...

Непадалёку ад іх доміка сцяжынку перасеклі заячыя сляды.

— Гм, відаць, ранкам тут гуляў белячок, — сказаў Уладзімір Ільіч. — Паглядзім, куды ён паскакаў.

Непадалёку ад сцяжынкі заяц сцішыў хаду, «таптаўся», як заўважыў Уладзімір Ільіч, ля травы, кустоў. Тут была яго сталовая.

— Ну, як, Валодзя, ёкнула тваё паляўнічае сэрца, га? — спытала Марыя Ільінічна. — Не захапіў стрэльбу: вось бы і паспыталі дзічыны. Яна, гавораць, смачная...

— У Шушанскім ён неаднойчы частаваў нас дзічынаю: глушцы, цецерукі, зайцы — амаль кожны дзень. Ён быў заўзятым і, трэба сказаць, неблагім паляўнічым. Забяруцца ў тайгу з Сасіпатычам. Гэта наш сусед — мужчына нязграбны, невялічкі такі, — растлумачыла Надзея Канстанцінаўна Марыі Ільінічне і Эйна Рах'і. — Дзень, другі іх няма. А потым з дзічынаю вяртаюцца...

— Ну, Надзюша, не перабольшвай: паляўнічы, калі гаварыць шчыра, я даволі кепскі. Ды і калі гэта было — амаль дваццаць гадоў таму, а зараз... зараз я спакойна адношуся да зайцоў, нават вавёрак, паляваць на якіх мне прапанавала Аляксандра Міхайлаўна. Але заяц — куды ні ішло, а паляваць вавёрку — дзіцячая забаўка... М-так. — У голасе Уладзіміра Ільіча адчуваўся сум: відаць, успамінаў ён аб мінулых сібірскіх паляўнічых вандроўках, аб юнацкіх гадах.

— Уладзімір Ільіч, — падаў голас Эйна Рах'я. — Вы гаворыце, што тут сталаваўся бяляк. Адкуль гэта відаць? Ёсць жа, як мне гаварылі, і русакі. Мо гэта і быў русак?

— Бяляк, таварыш Рах'я, самы сапраўдны бяляк. Сам ён бялюткі-бялюткі, а хвосцік і кончыкі вушэй — чорныя. — А што тут быў бяляк — сляды падказалі. У беляка заднія лапкі шырэй за лапкі русака. Да таго ж і мясціны — лес, дзе толькі жывуць белякі. Русакі звычайна ў полі, у пералесках, ярах. У глыбіню лесу яны не заходзяць.

— Дзякуй за навуку... паляўнічую, — Рах'я сказаў гэта сур'ёзна. Увогуле ён быў чалавекам сур'ёзным.

— Паляванне, — працягваў размову Уладзімір Ільіч, — цудоўная рэч, нават калі і ні аднаго стрэлу не зробіў — заўсёды адпачнеш... Але цяпер не да палявання. Спраў у нас — вочы разбягаюцца, не ведаеш, за што і хапацца. Рэвалюцыю здзейснілі, а вось наладзіць работу новай дзяржавы ў два месяцы — гэта і бальшавікі не могуць, — апошнія словы Уладзімір Ільіч вымавіў з жалем, заклапочана.

— Дык што — ты ўвесь час збіраешся сядзець за пісьмовым сталом і працаваць? — спытала Надзея Канстанцінаўна.

— Пакуль — так. Потым будзе відаць. Мо і ўспомнім пра паляванне, — усміхнуўся Уладзімір Ільіч і дадаў: — А зараз неабходна, Надзюша, і за пісьмовым сталом пасядзець. Неабходна!

Сказана цвёрда — усе зразумелі: пераканаць Уладзіміра Ільіча немагчыма.

Далей ішлі моўчкі. Жанчыны сцішылі хаду і адсталі, а Уладзімір Ільіч і Рах'я пайшлі паперадзе.

З Эйна Рах'яй Уладзіміру Ільічу было заўсёды добра. Ён не перашка-

джаў думаць: па характару Рах'я, як і амаль усе фіны, спакойны — гадзінамі мог хадзіць побач і маўчаць.

Адчуванне таго, што з табою нехта побач, Уладзіміра Ільіча, як гэта ні дзіўна, натхняла. Яму думалася лягчэй, ды і ў любы момант можна было выказаць свае думкі і тым самым упэўніцца, што яны правільныя або наадварот — не зусім правільныя. Так ён заўсёды рабіў, калі была побач Надзея Канстанцінаўна. У часы падполля, пры Керанскім, ён раіўся з Эйна Рах'яй, калі вядома, той знаходзіўся з ім побач... Вось так і прывык ён да Эйна Рах'і — чалавека разважлівага і разумнага.

— Уладзімір Ільіч, глядзіце, — вось таксама сталоўка, — аднекуль здалёк данёсся да Уладзіміра Ільіча голас Рах'і.

— Што вы гаворыце, Рах'я? Якая там сталоўка?..

— Сталоўка... дзятла, — Рах'я паказваў на вялізны пянёк, вакол якога было раскідана на снезе мноства яловых і сасновых шышак.

— Так-ак. Цікава, цікава. Пакажам нашым жанчынам. — І ён паклікаў:

— Маняша! Надзюша! Хадзіце хутчэй!

— А вось і сам гаспадар, — весела сказаў Уладзімір Ільіч, паказваючы на стракатага дзятла, што ўладкаваўся на высачэзнай сасне і адтуль назіраў за імі.

Падышлі жанчыны, іх таксама захапіла дзятлава сталоўка.

— Але гаспадару трэба паснедаць, — сказаў Уладзімір Ільіч. — Хадземце, не будзем перашкаджаць.

Марозна. Пад нагамі рыпеў снег. Хутка яны збочылі на другую сцяжынку, што нацянькі вяла да іх доміка.

Цяпер паперадзе крочылі жанчыны, мужчыны — ззаду. Ля адной з елак жанчыны спыніліся.

— Валодзя! Рах'я! — паклікала Марыя Ільінічна. — Паглядзіце, вунь сядзіць нейкая прыгожая птушка!..

З верхавіны елкі зляцела невялічкая буравата-чырвоная птушка. Яна пераляцела на суседнюю елку.

— Цоп-цоп! — пачулася адтуль.

— Ну, даражэнькія мае, нам пашанцавала — мы ўбачылі з вамі крыжадзюба-елавіка, — шэптам сказаў Уладзімір Ільіч. — І мне здаецца, што ў яго тут недзе гняздо — з яйкамі або птушанятамі.

— Гняздо?! З птушанятамі?.. — перапыталі жанчыны.

— Зімою гняздо? — здзівіўся Эйна Рах'я. — Хіба такое можа быць?

— Можа, даражэнькі Рах'я, можа. Праўда, гэта даволі рэдкая з'ява, але яна сустракаецца. Давайце крышачку памаўчым і пасочым за крыжадзюбам.

Крыжадзюб тым часам пераляцеў на другую елку, потым на трэцюю, а тады вярнуўся да першай і схаваўся за галінкамі.

Праз хвіліну крыжадзюб зноў паўтарыў свой маршрут: пералётваў з адной яліны на другую, крышачку затрымліваючыся, а потым вяртаўся да елкі, дзе яго заўважылі жанчыны.

— Вось так: у яго на гэтай яліне гняздо і, відаць, усё-ткі птушаняты. Ён носіць ім ежу... — сказаў Уладзімір Ільіч.

Астатнюю дарогу да доміка жанчыны і Рах'я слухалі расказ Уладзіміра Ільіча пра крыжадзюба.

— Гэта зімовыя птушкі, — гаварыў Уладзімір Ільіч. — Яны не баяцца сцюжы. Жывуць у яловых лясах і харчуюцца ў асноўным яловым насеннем. Мала каму з натуралістаў пашанцавала бачыць гняздо крыжадзюба-



елавіка. Крыжадзюбы — вандроўныя птушкі. Дзе багаты ўраджай яловых шышак — там і яны...

— Бачыш, Валодзя, — сказала Марыя Ільінічна, — як хораша і з карысцю мы правялі час: адпачывалі, дыхалі марозным лясным паветрам, даведаліся шмат чаго з жыцця лесу, за што мы ўсе ўдзячныя табе. А ты, у сваю чаргу, — Марыя Ільінічна па-змоўніцку з усмешкай паглядзела на Надзею Канстанцінаўну, — павінен быць удзячны нам — мы выцягнулі цябе на прагулку, і ты ўспомніў сваё паляўнічае юнацтва... Карысна — для ўсіх нас...

— Гм... — тут яўная змова супраць мяне, — жартаўліва адказаў Уладзімір Ільіч. — Рах'я, будзьце сведкам...

— А я нічога не чуў, нічога не ведаю, — у тон Уладзіміру Ільічу адказаў Эйна Рах'я.

— Ну, цяпер змова відавочная... Але я дарую вам, мае даражэнькія змоўшчыкі, таму што нас чакае пасля прагулкі адпачынак.

Марыя Ільінічна і Надзея Канстанцінаўна шматзначна пераглянуліся: яны добра ведалі, што Уладзімір Ільіч адразу ж возьмецца за работу і сёння ўжо яго больш не выцягнеш на прагулку...

## 10

Марыя Ільінічна і Надзея Канстанцінаўна не памыліліся: Уладзімір Ільіч хуценька распрануўся і, уладкаваўшыся за сталом, пачаў чытаць напісаныя ноччу «Тэмы для распрацоўкі». Чытаў уважліва. Калі прадумваў пятую тэму «Арганізацыйная работа і арганізатары з народа», успомніў выступленні «Праўды» па арганізацыйных пытаннях.

«Тут яны будуць дарэчы», — падумаў ён і пачаў шукаць вачыма, куды ўпісаць, каб не забыцца. Правая старонка аркуша — уся ў дапаўненнях. Месца свабоднага няма. Невялічкія прагалкі захаваліся паміж першай, другой і трэцяй тэмамі. Там і запісаў: «5 bis: пар (аўнай) «Праўда» ад 4 красавіка аб арганізацыйных цудах». І абвёў двайной (каб адразу кінулася ў вочы) рамкай.

Далей чытаў услых:

7. Незадаволеныя з рабочых.

8. Цяганіна і разгільдзяйства інтэлігенцыі.

9. Ці ж зламана супраціўленне капіталістаў...

На дзевятай тэме спыніўся. Чагосьці не хапала... Чаго? Устаў з-за стала і пачаў хадзіць па пакойчыку: так думалася лягчэй. Штосьці да гэтай тэмы ён, кладучыся спаць, меркаваў дадаць... Успомніў: фразу з прамовы Пешахонава, міністра харчавання Часовага ўрада, 5 чэрвеня на Усерасійскім з'ездзе Саветаў рабочых і салдацкіх дэпутатаў. Тады (у чэрвені) гэты добранькі Пешахонаў і кінуў «гістарычную фразу»:

— Супраціўленне капіталістаў, як відаць, зламана.

Насупраць дзевятай тэмы, як бы працягваючы яе, у дужках напісаў з іроніяй: «Гістарычная фраза добранькага Пешахонава». Гэта каб потым, калі спатрэбіцца, ён вярнуўся да яго прамовы ўвогуле і да так званай «гістарычнай фразы» — у прыватнасці.

І ўсё роўна штосьці зноў затрымала яго ўвагу, і ён не мог перайсці да наступнай тэмы.

Раздумваючы, Уладзімір Ільіч хадзіў па пакойчыку.

«Ага... так...»

Падышоў да стала і, знайшоўшы месца на левым баку насупраць

адзінаццатай тэмы, некалькі разоў абвёў пяром: «9 bis: Грамадзянская вайна, яе значэнне, яе цяжар (перабежчыкі), яе непазбежнасць у 1917—1918 гг.».

Цяпер з дзевятай тэмай, на яго думку, было скончана, і ён перайшоў да дзесятай:

— Нацыянальны шавінізм у прыгнятальных і ў прыгнечаных нацыях.

Задумаўся...

Нацыянальнае пытанне ў такой краіне, як Расія, непазбежна ўсплывала і ўвесь час было злабадзённым. Яго даўно вельмі турбавалі палітычныя, эканамічныя, культурныя, праваныя і іншыя адносіны паміж нацыямі і народнасцямі, якія жылі на тэрыторыі царскай Расіі.

Ягоныя дзіцячыя і юнацкія гады прайшлі сярод дзяцей розных нацыянальнасцей — іншародцаў, як іх тады называлі. Часам Уладзіміру Ільічу — гімназісту даводзілася дапамагаць чувашам... Успомніўся адзін выпадак. Неяк да яго бацькі, Ільі Мікалаевіча, дырэктара народных вучылішчаў, звярнуўся інспектар вучылішчаў Іван Якаўлевіч Якаўлеў з просьбай, каб ён, тады вучань аднаго са старэйшых класаў гімназіі, дапамог настаўніку-чувашу Нічыпару Міхайлавічу Ахотнікаву авалодаць лацінскай, грэчаскай і нямецкай мовамі.

Бацька перадаў просьбу Івана Якаўлевіча, і ён пагадзіўся.

Пры першай жа сустрэчы Нічыпар Міхайлавіч расказаў яму пра сваё жыццё, пра сваю мару.

Сам Ахотнікаў — настаўнік чувашскай школы, выкладаў матэматыку — з сялян Казанскай губерні, збіраецца здаваць экзамены за поўны курс гімназіі, каб потым паступіць ва універсітэт.

План Ахотнікава, скажам шчыра, быў надта смелы. Селянін-чуваш, ужо ў гадах (Ахотнікаў на 10 год старэйшы за яго), меў сям'ю і малы дастатак.

— А ведаеце, вам вельмі цяжка будзе... Вельмі, але, што залежыць ад мяне, — дапамагу. А як з астатнімі прадметамі?

— З астатнімі? Дамовіўся з іншымі.

— Што ж — добра. Калі што, звяртайцеся да мяне — растлумачу незразумелае.

Ахотнікаў цераз дзень хадзіў да яго на заняткі. Ён быў задаволены сваім вучнем... Калі-нікалі ён звяртаўся да Уладзіміра Ульянава з пытаннямі па іншых прадметах. Часам пасылаў пытанні запіскамі. Ён дагэтуль памятае адну запіску: «26 чэрвеня 1887 г. Уладзімір Ільіч! § 30 (з гісторыі сярэдніх вякоў). Барацьба вельфаў (ён тады ж заўважыў памылку — гвельфаў) і гібелінаў. Да якой партыі належалі Генрых Горды і Конрад III? Н. Ахотнікаў».

Ахотнікаў... Ахотнікаў... Ён здаў экзамены на атэстат сталасці, паступіў ва універсітэт. З'яўляючыся студэнтам (а студэнтам ён быў вельмі здольным), напісаў шэраг гісторыка-педагагічных прац. Яго таварышы-чувашы гаварылі, што гэтыя працы маюць вялікае значэнне для культуры чувашскага народа... А потым яму расказалі, што Ахотнікаў — студэнт чацвёртага курса — памёр. Памёр ад сухотаў — не вытрымаў слабы арганізм гэтага таленавітага чалавека...

Колькі загінула таленавітых людзей з іншых нацыянальнасцей, якія стагоддзямі царызм душыў? Сотні... тысячы... дзесяткі тысяч...

**(Заканчэнне ў наступным нумары)**



# Публіцыстыка

# ПЕРАБУДОВА: РУПЛІЎЦЫ І СПАЖЫЎЦЫ

## ХІТРЫКІ «МУДРАГА ЗУБА»

Хачу паспрачацца з невядомым аўтарам выразу, знаёмага не толькі заўзятым чытачам перыёдыкі,—яго з задавальненнем смакуюць нават сціплыя працаўнікі Камароўскага рынку, а таксама «байцы» падземных пешаходных пераходаў з гваздзікамі ў руках.

Механізм тармажэння. Гэта ж трэба прыдумаць такое ў наш імклівы час! Сказаў бы, напрыклад, блок адключэння функцый камп'ютэра ці яшчэ што-небудзь такое са словам дысплей або транквілізатар. А то—механізм!

Не ведаю, як у каго, а ў мяне пры слове механізм узнікае вобраз вядомага будзільніка «Слава» ці, у лепшым выпадку, не менш славутага камбайна «Дон». Зламаць такую канструкцыю справа няхітрая, не трэба мець нават другога разраду слесара. Толькі той бяды—лясну ў па якой-небудзь шасцерні, і гамон механізму. Кідай пад ложак, дзе валяецца яшчэ добры дзесятак такіх будзільнікаў, што, дарэчы, перасталі «кукаваць» без усялякага ўмяшання звонку.

О, каб так проста выглядалі сілы, якія тармозяць абнаўленне нашага грамадства! Не, без жартаў,—яны зусім не механізм. Гэта хутчэй арганізм. З усімі адсюль высновамі. Жывучы, здольны прыстасавацца да неспрыяльных умоў, здольны выпрацоўваць імунітэт супраць «вірусаў», якія нясуць яму небяспеку. У нашым выпадку—супраць дэмакратызацыі, публічнасці, урэшце, супраць рэальнага погляду на рэчы.

Ад вятроў перамен, што зашумелі над нашай краінай, спачатку быццам разгубіўся гэты арганізм, здаецца, ажно захлынацца пачаў. І некаторыя з нас ужо амаль радавацца сабраліся—ура, перамаглі змея паганага. Аднак некаторыя назіранні паказваюць, што ён зусім не збіраецца, як кажуць, даваць дуба, а ў асобных выпадках нават пачаў ачомвацца паціхеньку.

Каб такі дыягназ не здаваўся тэарэтычным, звернемся да рэальных прыкладаў. Магчыма, яны здадуцца каму-небудзь дробязнымі, нязначнымі—мы ж прывыклі мысліць маштабна. Нам калі не Магнітку, то «Буран» як мінімум падавай. Але з такіх вось дробязей складаецца жыццё, цячэ, цячэ яго рака, адыходзяць дні.

Фотакарэспандэнт Мікола Амельчанка, у адрозненне ад некаторых, заклік аб тым, што для паляпшэння нашага жыцця патрэбны намаганні кожнага, успрыняў амаль літаральна. І вось разам з работнікамі міліцыі ён вырашыў праверыць, як на чацвёртым годзе перабудовы захоўваюцца правілы савецкага гандлю ў магазінах сталіцы. Накіраваліся ва універсам «Рыга» і засведчылі там... Урэшце, у гандлёвай зале члены рэйдавай брыгады ўбачылі звычайныя чэргі—мілы сэрцу малюнак. Затое ў памяшканнях, куды не ступае нага радавога пакупніка, іх вачам адкрыліся запасы далікатэсаў і іншых «складаемых нашага шчасця», што нават не сніліся наведвальнікам магазіна.



Здымкі і свае ўражанні Амельчанка змясціў на старонках «Звязды» (глядзіце падшыўку за 1988 год).

Гэта было падобна на гром сярод яснага неба.

Паважаныя мінчане і госці нашага горада ледзь не біліся за той нумар газеты, капіравальныя апараты ажно дымілі ад перагрузак. Наіўныя чытачы, яны ж—патэнцыяльныя пакупнікі, аптымістычна прагназіравалі: пасля такой публікацыі ў кіраўніцтва гандлем проста няма іншага выйсця, як навесці парадак. Пацярпіце, засталося два, ну, можа,—найбольш—тры дні да таго гістарычнага моманту, калі выслоўе «чорны ўваход» раз і назаўсёды згіне з нашага лексікону.

А што ж «гандлёвыя рады»? Сказаць па праўдзе, напачатку збянтэжыліся крыху, разгубіліся. Халера ясна, як кажуць палякі, тут недзе побач перабудова тупае, а гэты фотакарэспандэнт сунецца ў святая святых ды яшчэ здымкі друкуе. Ажно зубы забалелі ў арганізма супраціўлення.

Аднак знайшоўся сярод іншых у арганізме «мудры зуб». Ён прыцмокнуў раздругі і знайшоў выйсце. Простае, як і ўсё вялікае. Навошта нам чапаць увесь славуты гандаль ардэнаноснай сталіцы, калі гаворка толькі пра «Рыгу»? «На ўсіх фотаапаратаў не набяруцца»,—заключыў «мудры зуб», мнагазначна падміргнуўшы «зубу», які кіруе гандлем культтаварамі.

Тым не менш, на ўсялякі выпадак звольнілі з пасады па артыкулу працоўнага кодэксу дырэктара універсама. Праўда, каб ён не пакрыўдзіўся—свае ўсё ж людзі,—праз пэўны час ціхенька прызначылі яго кіраваць магазінам «Агародніна» ў іншым раёне горада.

Ну, усё: здаецца, адбіліся.

Але не такі чалавек М. Амельчанка, каб спыніцца на паўдарозе. Ён арганізоўвае яшчэ адзін рэйд, на гэты раз у гастраном № 9. І там брыгада выяўляе такое, што нават бывалыя «оперы» вачам не паверылі і на ўсялякі выпадак праверылі свае службовыя пасведчанні.

У фоталабараторыі М. Амельчанкі не змаўкалі тэлефонныя званкі. Ананімныя «добразычліўцы» пагражалі, шантажыравалі, прапаноўвалі грошы «ў імя вечнай любві і дружбы». Не паспеў журналіст праявіць плёнку, як у рэдакцыю амаль што фельд'егернай службай быў дастаўлены ліст. Невядомыя аўтары паведамлялі, што яны жылі, жывуць і будуць жыць па сваіх законах. І што на паклон да іх ходзяць нават міністры. І што трэба жыць дружна. А калі карэспандэнт не супакоіцца, то яму разаб'юць галаву і фотаапарат. Допіс, адным словам, у лепшых традыцыях «коза ностры».

І ўсё ж рэпартаж, да якога далучаецца і фатакопія пісьма, выходзіць у газеце. Здаецца, ажно заскуголіў «мудры зуб». І загадаў «адкапаць тамагаўкі і выйсці на сцяжыну вайны» не з адным, а з усімі адразу журналістамі. З адным што ваявацъ? Іх жа там поўныя рэдакцыі. Добраахвотна яны не здадуцца арганізму супраціўлення. Трэба ўдарыць па ўсіх адразу. У Дом друку паляцела тэлефанаграма—работнікі ўсіх газет і часопісаў пазбаўляюцца стала заказаў. «Ложа» іх адлучае.

І смех, і грэх. Заказы тыя, дарэчы, нічым абсалютна не адрозніваліся ад набору прадуктаў, якія атрымліваюць супрацоўнікі суседніх устаноў. Іх выдавалі зусім не з патаемных уваходаў, а з адкрытых, агульных сталоў заказаў, да якіх усе мы даўно прывыклі. Ну, кавалак варанай каўбасы, даволі пажылая курыца, кансервы... што яшчэ? Ага, масла, часам імпартная прыправа і вельмі рэдка бразільская кава. Тым не менш—«ложа» адлучае.

«Перш чым аддаць усю ўладу Саветам, яе трэба забраць у работнікаў гандлю»,—прайшоўся крылаты выраз па Доме друку.

Мае калегі ў пераважнасці народ з гумарам. Аднак дзеля справядлівасці трэба сказаць, некаторы эфект ад рашэння «мудрага зуба» ўсё ж быў. Адны проста жартавалі. Але знаходзіліся і такія, хто ў кулуарах гаварыў: «Ат, трэба было яму звязвацца?! Наш гандаль усё роўна непераможны...»

Ага, пахіснуліся? «Мудраму» і то—хлеб.

Спрабуе ачомацца арганізм супраціўлення, варушыць сваімі мярзотнымі шчу-

пальцамі. Не здзіўлюся, калі заўтра ён дадумаецца да таго, што людзям са значком Саюза журналістаў СССР будуць паказваць на дзверы ў любой гандлёвай кропцы. (Пойдзем на Камароўку, хлопцы, там законы рынку!) Ды яшчэ адпаведнымі інструкцыямі падмацуе. Нешта накшталт таго, што, маўляў, заказы маюць права атрымліваць толькі працоўныя калектывы, а супрацоўнікі рэдакцый — гэта так, збоку-прыпёку, чужы хлеб ядуць жа...

Цікава, ці выжыў бы наогул арганізм супраціўлення без інструкцый, ад якіх у звычайнага чалавека галава кругам ідзе?

## ЯЕ ВЯЛІКАСЦЬ ІНСТРУКЦЫЯ

Мая родная вёска знаходзіцца ў нейкіх двух кіламетрах ад шумлівай чыгункі Масква — Варшава. Тым не менш па волі лёсу ці, хутчэй, па волі некага больш рэальнага ў свой час на яе цёмным ценем легла характарыстыка, жудасная па сваёй сутнасці, — неперспектыўная. Засталіся ў ёй цяпер восем хат, дваццаць жыхароў, з якіх толькі пяць — працаздольныя.

Дык вось, калі я прыязджаю дахаты, вяскоўцы кпліва дапытваюцца:

— Слухай, растлумач ты нам пра перабудову.

Яны цяпер інфармаваныя, мае аднавяскоўцы. У параўнанні з 1913 годам тэлевізійныя антэны тырчаць над кожнай хатай. Таму я і імкнуся пазбягаць прамых адказаў.

— Дык то па тэлевізару, — незадаволена гавораць яны. — Там усё пра механізм тармажэння, пра нейкі такі канверціраваны рубель, пра прамыя сувязі... А ты нам па-нашаму, каб даходліва было...

Доўгія і цікавыя атрымліваюцца размовы. І галоўная сутнасць маіх тлумачэнняў у тым, што перабудова — гэта перш за ўсё вяртанне да рэальнага мыслення, да цвярозых падыходаў, да таго, урэшце, каб зрабіць жыццё людзей лепшым, святлейшым.

— Так-так, даўно трэба было гэта зрабіць, — пагаджаюцца аднавяскоўцы.

А я заліваюся пеўнем, расказваю, што цяпер ніякіх «неперспектыўных» вёсак няма. Наадварот, так званыя аддаленыя населеныя пункты будуць адчуваць на сабе дзяржаўны клопат.

Святлеюць твары аднавяскоўцаў.

А праз нейкі час размаўляю пра тое ж з першым сакратаром Маладзечанскага райкома партыі Васілём Нічыпаравічам Сахарчуком. Васіль Нічыпаравіч вырас у вёсцы, працаваў механізатарам, будаўніком, загадчыкам фермы — адным словам, сялянскае жыццё ведае не па лекцыях ды семінарах у інстытуце. Вось чаму, калі выбралі першым сакратаром райкома партыі, адразу ж энергічна ўзяўся за абнаўленне жыцця ў аддаленых вёсках. Ды і само жыццё патрабавала гэтага — трэць жыхароў раёна пенсіянеры, большасць якіх дажываюць свой век менавіта ў аддаленых населеных пунктах.

Напачатку хаця б некаторыя выгоды даць старым. Тыя ж магазіны каб былі ці хай сабе лаўка ў адной з хат.

Аднак лёгка задумваць, ды нялёгка ажыццяўляць. Першы сакратар сутыкнуўся з такой непаразнасцю інструкцый, што хоць каравул крычы. Вось адна з іх — гандлёвыя кропкі нельга адкрываць там, дзе менш пяцідзесяці жыхароў.

Або яшчэ. Па справаздачнасці транспартнікаў, у раёне 90 працэнтаў вёсак лічацца ахопленымі аўтобуснымі зносінамі. «Як жа так? — здзівіўся Сахарчук, вывучыўшы становішча. — У семдзесят жа вёсак аўтобусы не заходзяць!» «Справа ў тым, — растлумачылі яму, — што, калі маршрут праходзіць на адлегласці адна-паўтара кіламетра ад населенага пункта, пункт гэты лічыцца ахопленым. Так прадугледжана інструкцыяй».

...Аднавяскоўцы мае — людзі добразычлівыя і шчырыя. Сястра расказвала, калі здарылася бяда ў Арменіі, пенсіянеры самі, без усялякіх заклікаў, прыходзілі да яе, дэпутата сельскага Савета, прыносілі грошы — хто колькі мог. А мой дзед, які застаўся адзін у хаце, рашуча прапанаваў: «Ты там скажы, калі што — хай прыязджаюць, жывуць, я да вас перайду».



— Усе разам, — расказваю я землякам, — возьмемся за бюракратаў, каб жыць па-людску.

— Так, усім разам трэба, — падтрымліваюць яны, а потым доўга распытваюць, што яны за такія, тыя бюракраты, ды адкуль узяліся на нашай зямлі — зроду ж, здаецца, не было.

Не, не стаў я расказваць свайму васьмідзесяціпяцігадоваму дзеду пра тое, што наша вёска, аказваецца, даўно «ахоплена» — у справаздачах па ёй даўно курсіруе аўтобус, а можа, нават і поезд — міжнародная ж чыгунка побач. Не стаў гаварыць пра тое, што нават усе разам мы пакуль што не можам перамагчы іх вялікасць інструкцый.

Ды каб толькі тых, якія датычацца маёй маленькай вёсачкі! Зусім нядаўна гутарыў з генеральным дырэктарам вытворчага аб'яднання «Камсамолка» А. М. Біёнчыкам.

— Яшчэ дзве інструкцыі, — горка ўсміхнуўся Анатоль Мікалаевіч, — і інфаркт мне забяспечаны. Мне трэба трыццаць-сорак працэнтаў свабодных магутнасцей для манеўру. А мяне звязалі па руках і нагах дзяржзаказам. Нават здачу металалому і выраб запчастак для абсталявання ў яго ўціснулі.

Растлумачу: гэта для прадпрыемства, якое выпускае жаночую бялізну. А-у, арганізм супраціўлення, адгукніся!..

Тут, відавочна, трэба крыху праясніць пазіцыі. І В. Н. Сахарчук, і А. М. Біёнчык, ды і аўтар гэтых радкоў, вядома ж, разумеюць, што заклікі і кампаніі барацьбы з «параграфамі», «інструкцыямі» як нейкімі апорамі бюракратызму не мелі і напэўна не будуць мець дастатковага эфекту. Наша грамадства больш за ўсё цярпела і церпіць якраз не ад празмернай колькасці, а ад недахопу «параграфаў». Вядома, калі пад імі мець на ўвазе не народжаныя ў кабінетах і адарваныя ад жыцця, а разумныя, строгія і абавязковыя для ўсіх нормы закону.

Прасцей кажучы, каб па справядлівасці. Ну, напрыклад, як з тымі ж сумна славутымі талонамі на цукар. Атрымаў сваё — і ганяй чаі, колькі ўлезе.

Жартую, вядома, параўноўваючы. Хоць і з гаркаватым прысмакам жарт. Але талоны ўспомніліся зусім не выпадкова. Па-першае, яны таксама «выкідышы» арганізма супраціўлення, а па-другое, — талоны зрабіліся ўрадлівай глебай для бюракратычнай фантазіі асобных жэсаўскіх работнікаў. У некаторых домакіраўніцтвах не выдаюць талоны на цукар да таго часу, пакуль не пераканаюцца, што ты заплаціў за кватэру. Вядома, я не ўхваляю неплацельшчыкаў, але ці ж такімі метадамі іх выхоўваць? Гэтак мы хутка прыйдзем да таго, што талоны, напрыклад, на мыла будуць выдаваць толькі пры наяўнасці даведкі са скурвендыспансера ці яшчэ халера ведае адкуль. Колькасць тавараў, якія не выходзяць з разраду дэфіцытных, не змяншаецца — поле для творчага імпэту чыноўнікаў увачавідкі пашыраецца.

## ДЭМАКРАТЫЯ... З БУРАКАМІ

Было б наіўным лічыць, што сімптомы рэанімацыі арганізма супраціўлення праяўляюцца толькі ў сферы быту і матэрыяльнай вытворчасці. Прынамсі, наўрад ці хто асмеліцца сцвярджаць, што ў грамадскім жыцці сёння пануе атмасфера кансалідацыі, адзінства думак і імкненняў. Для сіл, якія былі прыціхлі пасля выступлення «Праўды» адносна вядомага артыкула Н. Андрэевай, такія паняцці, як плюралізм меркаванняў, варыянтнасць мыслення, на жаль, так і застаюцца далёкімі і неразгаданымі накшталт старажытных папірусаў. І такімі ж небяспечнымі, як эпідэмія СНІДа. Адны толькі словы дэмакратызацыя, публічнасць выклікаюць у арганізме супраціўлення ўдушлівую алергію, ад якой ён імкнецца пазбавіцца любымі сродкамі.

Канструктыўны такі «дыялог» атрымліваецца, нічога не скажаш.

Вы нам грамадскую ініцыятыву, нефармальныя аб'яднанні? А — «нам з вамі не па дарозе».

Вы капаецеся ў Курапатах, нейкі «Мартыралог» арганізавалі? А мы арганізуем суд над Зянонам Пазняком.

З вамі Васіль Быкаў? А з намі—Таццяна Бумажкова (гл. артыкул у «Политическом собеседнике» № 1, 1989 г.).

Вы нам свежы вецер перамен? А мы вам—балончыкі з «черёмухой», якія потым абавязкова ўзважым...

Урэшце, пра што гэта я?

Ды ўсё пра тое ж.

«Калі ўжо гаварыць пра цяперашні стан дыскусій, то якраз мы часта бачым не сумесную інтэлектуальную работу, не абмен меркаваннямі, не спробы зрушыць думку да сумеснага пошуку, а хутчэй за ўсё яны нагадваюць сітуацыю, калі ідуць «сценка на сценку».

Не ў брыво, а ў вока. Можна было б сказаць з упэўненасцю, што аўтар гэтых радкоў жыве ў Мінску, прынамсі, апошнія паўгода. Але прагучалі яны з вуснаў М. С. Гарбачова на сустрэчы з дзеячамі навукі і культуры ў ЦК КПСС. Як заклапочанасць, як заклік вучыцца культуры дыскусій. Ці зможа ўспрыняць яго арганізм супраціўлення?

Урэшце, асмелюся заявіць, што не трэба ніякага «палявання на ведзьмаў», бо арганізм гэты, у розных, вядома, праяўленнях, сядзіць натапыраным ваўчанём амаль у кожным з нас. Так, пасля красавіка 1985 года мы былі смелыя і рашучыя. Пасмейваліся над класікам: ён, бачыце, па кроплі выціскаў з сябе раба. А мы вось чарпанём усю брыдоту адным махам, глядзіце—чыстыя, як слёзы, нашы душы.

Аказалася, што шлях да такой чысціні зусім не просты, і праходзіць ён іншы раз праз слёзы, выкліканыя зусім не чысцінёй пачуццяў, а аэразоллю з міліцэйскага балончыка. Аказалася, што далёка не ўсе могуць, а галоўнае, хочуць выціскаць з сябе раба.

Свядомасць чалавека—не магнітная плёнка, якую можна сцерці і перапісаць нанава. Вось мы гаворым, што кожны павінен перш за ўсё помніць, што ён чалавек. І што ў яго ёсць магчымасць праявіць сябе ў галоўнай чалавечай якасці—не быць механічным выканаўцам задуманага іншымі. Правільна гаворым. Але ці могуць у адзін дзень праявіцца гэтыя якасці, калі чалавеку не адно дзесяцігоддзе ўнушалі, што ён толькі вінцік?

Нядаўна прыязджаў да мяне стары знаёмы, вясковы настаўнік. Сабраліся вечарам сябры, распытвалі яго пра жыццё-быццё, асабліва ў сувязі з тым, што вёска Аляксандра Іванавіча знаходзіцца побач з Літвой. І ён падзяліўся сваімі праблемамі, клопатамі. І раптам быццам спахапіўся.

— Ды што вы ўсё—дэмакратызацыя, нацыянальнае пытанне? Блюзнерства ўсё гэта!—мне здалося, Аляксандр Іванавіч ажно стукнуў кулаком па стале.— Вось даць вам буракоў дзялку або касу ў рукі—і ўся дэмакратыя.

Спачатку нам здалося, што ён жартуе. Аднак чым далей, тым больш пераконваліся, што наш знаёмы і сапраўды ўспрымае дэмакратыю і публічнасць—толькі як тэму для застольнай размовы, а зусім не як часцінку рэальнага жыцця. Каб неяк змякчыць напал неразумення, мне не заставалася нічога, акрамя як на правах гаспадара прамямліць нешта накшталт: вядома ж, дэмакратызацыю без буракоў уявіць ніяк нельга.

«Хопіць балбатаць, трэба рабіць справу!» Такое сёння можна пачуць даволі часта. Балбатаць, вядома, не трэба. Аднак было ўжо. Рабілі і не «балбаталі»... і не думалі. Выконвалі.

І прывыклі. Зрабіліся своеасаблівымі наркаманамі выканаўства. «Начальству лепш відаць», «мы людзі маленькія», «што там пра нас падумаюць»—такія распаўсюджаныя формулы складаюць аснову бюракратычнай свядомасці. І далёка не ўсе здольны сёння адмовіцца ад іх. Бо падобныя сурагаты формульнай ідэалогіі пазбаўляюць ад неабходнасці выпрацоўваць уласную пазіцыю, не патрабуюць адказнасці і актыўнага дзеяння.

Вось і знаёмаму майму даволі цяжка адрынуцца ад выканаўства і дакладных методык, аддзяліць буракі ад дэмакратыі. Пра методыкі я невыпадкова. Аляксандр Іванавіч зусім не буракавод, ён—настаўнік гісторыі ў вясковай школе. І зразумець яго ў нечым можна—ехаў-ехаў па накатанай дарозе, па методыках ды інструкцыях, а аказалася... Не, гэта ўсё тыя, хто пра дэмакратыю і публічнасць разважае. На буракі іх!

Ды ці варта крыўдаваць на экскаватаршчыка, які папракнуў пісьменнікаў куском хлеба?

І не апраўдвацца перад ім трэба, а прызнаць, што ў многім самі вінаваты ў перакосах яго свядомасці. На ўсіх нас прыкметны адбітак спекулятыўнага тэзіса, які нарадзіўся з жадання заігрываць з большасцю народа і які надзвычай згубны для гэтай большасці—тэзіса аб тым, што ўсё вакол створана толькі рабочымі рукамі. Развіццю і ўкараненню яго ў свядомасць людзей у пэўнай меры спрыяла і творчасць літаратараў (без імён, без намёкаў), асабліва спецыялістаў так званай вытворчай тэмы. Калі выходзіла, што толькі механізатар вырошчвае хлеб. А канструктар, які прыдумаў камбайн, інжынер, які даў машыне жыццё, урэшце, вучоны, які вывеў новы гатунак збажыны,—яны быццам і адносін да гэтага не маюць.

Аддаючы належнае аднаму, нельга ж забываць пра іншых.

І наогул, ці не амаральна гэта: сцвярджаць перавагу аднаго за кошт другога і тым самым штучна і крывадушна аддзяляць адных людзей ад другіх?..

У заключэнне хачу прыгадаць адну са сваіх любімых старажытных прытчаў. На будоўлю прыйшоў мудрэц і спытаў у трох рабочых, занятых адной і той жа справай: «Што вы тут робіце?»

— Не бачыш—вязу тачку,—прабурчэў адзін.

— Зарабляю грошы, каб пракарміць сям'ю,—паведаміў другі.

А трэці горда сказаў:

— Я будую сабор.

Урэшце, яна, гэтая прытча, успаміналася і раней. Адна толькі розніца. На словах нас заклікалі будаваць светлае будучае. А на справе прымушалі рабіць толькі адно—везці тачку. І не дай божа, калі яе кола выскоквала з наезджанай каляіны.

«Я будую сабор». У гэтых словах і гонар, і велізарная адказнасць. Як важна, каб кожны з нас пранікнуўся такімі пачуццямі, каб перад сумленнем сваім, перад памяццю продкаў і перад лёсам нашчадкаў мог упэўнена сказаць: «Я здзяйсняю перабудову».

Скажу, можа, занадта ўзнёсла, але менавіта ў гэтым—залог перамогі над арганізмам супраціўлення.

**АНАТОЛЬ ЯРАСЬ**





# КАБ ЗАЯЦ НЕ РАБІЎ СКІДКУ

*«У рэспубліцы склалася цяжкая экалагічная абстаноўка.*

*Нягледзячы на тое, што ў Беларусі штогод выдаткоўваецца каля 500 мільёнаў рублёў на паляпшэнне ўмоў працы і санітарна-аздараўляльныя мерапрыемствы, абстаноўка застаецца складаная. Каля **330 тысяч** чалавек працуюць ва ўмовах, не адпавядаючых патрабаванням і нормам аховы працы. З іх шмат жанчын. Сетка медыцынскіх устаноў расце марудна. За два гады дванаццатай пяцігодкі не асвоена 14,3 млн. рублёў, за 10 месяцаў гэтага года — 9 млн. рублёў».*

(З сесіі Вярхоўнага Савета БССР. Газета «Известия», № 331, 1988 г.)

Горад Магілёў, старажытны і слынны, раней стаяў на правым, крутым беразе, як усе дняпроўскія гарады. На кручы лягчэй абараняцца, не пагражае паводка, вецер ссоўвае ў даліну туманы, здзімае гнюс. Далей відаць, лепей чуваць, вальней дыхаць. І да слонейка бліжэй.

Так было, калі горад, па сучасных мерках, быў малы: 70 тысяч жыхароў у 1913 годзе, 100 тысяч—у 1940-м.

Гістарычны лёс мог бы апошнюю лічбу моцна павялічыць, і ўжо напярэдадні вайны Магілёў стаў бы такі, як ён сёння ёсць—не меншы за тагачасны Мінск. Для гэтага ўсяго толькі і трэба было, каб Мінск і Магілёў памяняліся ролямі. У трыццатыя гады сталічны цэнтр разам з усім адміністрацыйным апаратам і ўстановамі збіраліся ўсур'ёз перанесці на бераг Дняпра, нават пачалі будаваць на мінскі ўзор Дом урада. Падзеі 17 верасня 1939 года далёка на захад адсунулі дзяржаўную мяжу, а з ёю на дужа няпэўны тэрмін надзею магілёўчан стаць сталічнымі жыхарамі. Недабудаваны Дом урада назвалі Домам Саветаў.

Але і без таго Магілёў так разросся, што не хапіла яму правага берага, і Задняпроўе—былыя выганы, пералескі, вёсачкі—даўно трапіла ў межы горада.

Лічыцца, у большага горада—большыя праблемы. Хоць бы той Мінск, што амаль паўсюдна сягнуў да акружной дарогі, а месцамі і выбраўся за яе. Мегаполісны размах пры нізкапавярховым будаўніцтве парадзіў шмат нязручнасцей і невыгод: непамерна расцягнутыя камунікацыі, перагружанасць грамадскага транспарту, цеснату ў цэнтры, дыскамфорт ускраінных мікрараёнаў і шэрасць, шэрасць да панылasці стандартызаванай, нязграбнай, бездухоўнай архітэктуры... Чым буйнейшы беларускі горад, тым гусцейшы прысмак гэтай шаблоннай бездухоўнасці, якая стварае пачуццё часовасці, ненадзейнасці быцця гараджаніна, ён вымушана страчвае рысы індывідуальнасці з-за таго, што яго родны горад даўно згубіў сваю адметнасць. Быццам чужынцы планавалі і праектавалі, чужынцы непісьменныя ці нядобрасумленныя, а мо і сапраўды так, мо з поўным наборам адмоўных якасцей былі яны,—калі

ўважліва прааналізаваць па перыядах забудоў іх якасць і нагадаць прозвішчы галоўных архітэктараў Мінска. І ў Магілёве тое самае знойдзеце, і ў Віцебску, Гомелі, Брэсце, Гродна, Баранавічах...— я маю на ўвазе пасляваенная «дойлідства», асабліва 60-х і наступных гадоў. Ды ведаючы гісторыю паяўлення магілёўскага Дома Саветаў і гісторыю знішчэння помнікаў старажытнай беларускай архітэктуры, тэндэнцыю стандартнай бязлікасці прасочваеш яшчэ з даваеннай пары. Ужо славуты Лангбард паказаў, што можна тыражаваць нават індывідуальныя праекты, а наступныя за ім архітэктары лёгка ішлі на эклектыку і кампіляцыю, адначасова бяздумным росчыркам пяра падпісваючы смяротны прысуд сівой даўніне. І таму аднолькава горкі лёс напаткаў старажытныя цэнтры Мінска і Магілёва, іх унікальныя храмы—ды што храмы!—іх жа зносілі пад шум антырэлігійнай барацьбы, у імя «ідэі», але дзеля якой ідэі счасалі бульдозерамі абедзве гарадскія ратушы?!

Крыху раней ці пазней, пры Тым ці пры Гэтым на самабытныя аблічча накладваліся шурпатыя бетонныя маскі,—асаблівага значэння не мае. І не будзем зараз, як спрабуюць некаторыя дзеячы культуры, вылучаць кагосьці з мінулых кіраўнікоў, надзяляць іх арэолам гуманнасці, асветніцтва, падзвіжніцтва. Варта прыгадаць хоць марныя пратэсты беларускай інтэлігенцыі супраць зруйнавання вуліцы Нямігі, дарэмныя пярэчанні вучоных супраць глабальнай меліярацыі Палесся, безвыніковую барацьбу пісьменнікаў за адраджэнне роднай мовы і культуры. Сістэма бездухоўнасці панавала так доўга, што сярод яе функцыянераў не магло быць шчырых і паслядоўных носьбітаў высокай культуры. Спатрэбілася крытычная, крызісная сітуацыя, каб сістэма скаланулася, каб у ёй з'явіліся дзеячы, здатныя рэалістычна зірнуць на вялізнае кола праблем—культурных, сацыяльных, эканамічных, палітычных.

З крутой мешаніны розных пытанняў цяжка вылучыць найпершае па важкасці, бо ніхто дагэтуль не спрабаваў вырашаць іх комплексна, узаемазалежна, як патрабуе дыялектыка. Стараліся цягнуць за адзін хвосцік, і хвосцік звычайна абрываўся. Цягнулі за другі—з такім жа поспехам. А сітуацыя заблытвалася яшчэ мацней.

Ну хто мог, напрыклад, прадбачыць, што непісьменнае горадабудаўніцтва ўплывае на здароўе не адных жыхароў месца, а ўсяго рэгіёна? Альбо як пастаўлены далёка за ваколіцай завод праз два-тры дзесяткі гадоў апынецца ў густанаселеным раёне?

Мяркуем, былі ў нашай краіне светлыя галовы, што задумваліся аб чыстым скарыстанні навакольнага асяроддзя, аб тым, каб як мага меней пакінуць брудных слядоў прамысловай дзейнасці. Нам належыць верыць: жылі-былі сапраўдныя грамадзяне, сыны сваёй зямлі, навукова і практычна даказвалі безумоўную мэтазгоднасць ашчаджальнасці ў адносінах да біясферы. Акадэмік Вярнадскі пайшоў і далей, ім вынайдзенае паняцце наасферы апярэдзіла тагачасную экалагічную навуку. А толку з таго... Вярнадскі застаўся тэарэтыкам-рамантыкам, напаўзабытым і нікому ў нас практычна непатрэбным—у адносінах да экалогіі, самай непапулярнай у нас навукі.

Калі хто і прадбачыў, чым абернецца тлумная дзейнасць ура-планавікоў і марш-выканаўцаў, усё адно яму не давалася трыбуны, хіба на апошні крык душы, на перадсмяротны покліч сумлення. У закутках сталіншчыны самыя мудрыя галовы «ні за шэлег трушчыліся як гарэхі».

Пастаўленыя далёка па-за межамі разбуранага вайною Мінска трактарны і аўтамабільны заводы даўно апынуліся ў густанаселенай жылой зоне. Іх спраектавалі па горасці, разлічваючы на замаруджаны прырост сталічнага насельніцтва: мінскія папялішчы і ўся зруйнаваная Беларусь не дужа абнадзейвалі праектантаў.

А хто абнадзейваўся? Усе ўсходнія гарады Беларусі разбіты. Вёскі спалены ці абрабаваны. Афіцыйна (пазней стане вядома) загінуў кожны чацвёрты грамадзянін, а былі рэгіёны, дзе забівалі кожнага трэцяга, другога, першага...

Дэмаграфічныя пралікі накладваліся на адсутнасць элементарнага прагнозу міграцыйных працэсаў, хаця кожнаму з нас яшчэ з маленства ўбівалі ў свядомасць, што наша гаспадарка самая планавая на свеце. Адпаведна і генпланы развіцця гарадоў выдаваліся як самыя дасканалыя, збалансаваныя, канструктыўныя. А не праходзіла і 10 гадоў, як аказвалася, што планы былі памылковыя, непрадбачлівыя—адсюль вынікалі перакосы і хібы. Каб выправіць іх, генпланы перакройвалі, пераніцоўвалі, нібы Трышкін каптан. У значнай меры анархічнаму развіццю гарадоў садзейнічалі нечаканыя павароты эканамічнай палітыкі: індустрыялізацыя, хімізацыя і г. д.

Вось гэтыя фактары: бескультур'е кіраўнікоў, бясплянавае, скачкападобнае вядзенне «планавай» гаспадаркі, поўная экалагічная непісьменнасць на ўсіх «узроўнях»—прывялі да таго, што слынны горад Магілёў трапіў у спіс 66 гарадоў Савецкага Саюза, якія набылі змрочную рэпутацыю самых экалагічна небяспечных.

«Краевугольныя камяні» экалагічнай халатнасці былі закладзены яшчэ ў гады першых пяцігодак. Завод «Строммашына», заснаваны да рэвалюцыі, застаўся ў цэнтры горада, літаральна за спіною Дома Саветаў, разбудаваўся, у вайну быў эвакуіраваны, у 1946 годзе вярнуўся дамоў на тое ж месца, разбудаваўся яшчэ шырэй. Завод штучнага валакна, 1930 года нараджэння, з-за неверагоднай сваёй шкоднасці—першы клас небяспекі!—быў пастаўлены за ваколіцай, але ж пасля вайны, не зважаючы на яго жоўты пашпарт, горад бестурботна абступіў завод з усіх бакоў, падмяў пад сябе амаль усю санітарную зону. Пасярод жылога масіву апынулася і ЦЭЦ-1.

Цэлы ансамбль экалагічна шкодных прадпрыемстваў з цягам няўмольнага наступлення «планавага» гаспадарання так ці інакш апынуўся ў горадзе: хімічны камбінат «Заря» па вытворчасці фарбаў і аліфы, металургічны, жэлацінавы і рэгенератыўны заводы (апошні перапрацоўвае старыя аўтамабільныя шыны—ізноў хімія!); на розных дыстанцыях, але ў межах жылой зоны труцяць магілёўскае паветра МаАЗ і завод электрарухавікоў.

Дозы атручвання розныя, «пайшчыкі» выстройваюцца на бруднай лесвіцы па адноснаму ранжыру, іх шкоднасць вызначаецца паводле спецыяльнай методыкі, дарэчы, даволі ўмоўнай, якая грунтуецца на параўнанні ўсіх небяспечных рэчываў з чадным газам СО. Метафара, як вядома, заўжды кульгае, ды нават і такая не зусім дасканалая метафарычная методыка, каб своечасова скарысталіся яе вынікамі ды каб на вышэйшым узроўні зрабілі адпаведныя вывады, не хаваючы ад людзей праўды, магла б перакрэсліць валюнтарысцкае рашэнне аб «ударнай камсамольскай» (двукоссе нездарма—тысячы зэкаў працавалі тут) будоўлі—камбіната сінтэтычнага валакна.

Так павялося на нашай зямлі: браць, гарнуць да сябе, не ўдаючыся ў падрабязнасці і тонкасці сумніцельнай каштоўнасці «праекты веку». Адмаўляецца Літоўская ССР ад нафтаперапрацоўчага завода—Беларусь ганарыцца, што з'явіўся на карце Наваполацк, што Полацкі НПЗ—самы буйны ў Еўропе, што следам ставіцца там жа магутны хімкамбінат, абсталяваны лепшымі канцэрнамі Еўропы і Японіі—во куды сягнулі! Следам Мінмедбіяпрам падкідвае «ідэйку», адразу шкодную, заганную, бо ведаюць дасведчаныя дактары і хімікі, якія хваробы скарачаюць век жыхарам Кірышоў. Але прапанова будаваць завод БВК (бялкова-вітамінных канцэнтратаў) прымаецца на «ўра», робіцца наступны крок разгорнутай хімізацыі і максімальнае набліжэнне да экалагічнай катастрофы.

Ідэйка Мінмедбіяпрама, стопрацэнтна ажыццёўленая Наваполацкам, распаўсюджваецца і на Мазыр. Нафтавыя парафіны, з якіх робяць БВК, не павінны і тут прападаць. Завод ставяць у Міхалках, побач з Мазырскім НПЗ. Трымаюць на большым аддаленні, крыху навучаныя Кірышамі, крыху—Наваполацкам. Выбуховая сітуацыя пакуль аддалена, камулятыўны зарад чакае свае мішэні. На расцяг па часе разлічана шкода—не адразу выявіцца вінаваўца, а выявіцца—тым часам і след яго прастыне.

След у след, пята ў пяту. Гродзенскі азотна-тукавы пачатковая назва, пазней гродзенскі імя Прытыцкага, зноў-такі ГІГАНТ хімізацыі, служыў сцягам сацыялістычнага спаборніцтва ў імя спаборніцтва, калі найвышэйшай уладай раздаваліся пераходныя сцягі, ганаровыя дошкі і званні, ордэны, залатыя медалі, а рэспубліка крочыла заўсёды і непарушна пасля Украіны і РСФСР трэцяй, а ў асобных момантах (чым далей, тым часцей) вырывалася аж на першае месца матэрыяльнымі набыткамі для краіны і рахманай, сабе на шкоду паслухмянасцю. Гомельскі хімзавод, пабудаваны, каб працаваць на **прывознай** сыравіне,—колькі там мільёнаў кіламетра-вагонаў? Чамусьці Гомелю спатрэбіліся, аж пазарэз, адвалы не пустой, а шкоднай пароды—мала салігорскіх тэрыконаў, каб начыста звесці лепшыя на Беларусі ворывы.

У Сібіры катэгарычна «не схацелі» лаўсанавага камбіната. Магілёўскія на-

чальнікі пад уціскам ці з натхнёнай добраахвотнасці імпэтна падхапілі «на землі своя» спрута, якому (дакладна ніхто не ведае, а ведае—не скажа) паступова падпарадкоўваецца ўся эканоміка горада.

А клюнулі ж тады, у 1965-м, на вельмі руровенькага і тлустага чарвячка. І сёння казыраюцца чыноўныя хімікі: не было б «лаўсану»—не было б сучаснага Магілёва, так і сядзелі б князі ў гразі. Мінхімпрам вывеў вас у людзі, тым і ганарыцеся!

На спакуслівага ружовенькага чарвячка паклёўка ствараецца праз абяцанкі развіцця сацкультбыту. Бедныя нашы гарады не могуць і каліўка выпрасіць з бюджэту, а тут раптам дзесяткі мільёнаў шчодра дорыць Мінхімпрам ці Мінмедбіяпрам. З міласэрнай такой усмешачкай—ну проста чырвоны крыжык з чырвоным паўмесячыкам, бач ты. Недзе адрынутыя «дабрадзеі» амаль без промаху знаходзяць пляцы пад свае рыхкоўныя каміны на Беларусі. Здзіўляюча ганебна для нас як для грамадства, праз увесь набыты горкі вопыт, гучыць сёння не голас, а піск, глухое енчанне пратэсту супраць біяхімічнага завода ў Драгічыне. Мы дайшлі да самай ніжняй прыступкі пакорлівасці. Тонкімі галасочкамі молімся на ўсесаюзнага міністра Быкава: а даруй, божухна, а злітуйся з Драгічына, не будуй у нас такое страхоцце. А дзе там: як падпісалі і як дамовіліся паміж сабою мясцовыя начальнічкі і ўсемагутны Мінмедбіяпрам, так і будзе, так вада і камень не падточыць.

Будаваліся-спяшаліся дагадзіць Свет Іванавічу, генеральна, пад воплескі ацэньвалася раздзьмутая ў дасягненне драбяза і не ўлічваліся набытыя пры гэтым страты. Страты ў нас хто лічыў... Дасягненні падлічваліся.

Сам па сабе Магілёўскі камбінат сінтэтычнага валакна, як сцвярджаюць і яго кіраўнікі, і мясцовыя службы, прызваныя кантраляваць чысціню наваколля, перадавое ў гэтым сэнсе прадпрыемства, камбінатаўскія выкіды шкодных рэчываў не дужа перавышаюць гранічна дапушчальныя канцэнтрацыі—ГДК,—стабільна назіраецца зніжэнне адмоўнай дзейнасці галоўнага прадпрыемства. Народжаны 20 год назад, камбінат скарыстоўвае даволі прагрэсіўныя тэхналогіі, замежныя і айчынныя, развіваецца і мадэрнізуецца на дастаткова высокім тэхнічным узроўні. І ўсё ж за мінулы год «галаўная пляцоўка», як прынята ў тэхнічных колах называць камбінат, выкінула ў магілёўскую атмасферу 6333 тоны шкодных рэчываў: сярністы ангідрыт (з якога ў рэшце рэшт атрымліваюцца кіслотныя дажджы), чадны газ, вокіслы азоту, метанол, этыленгліколь, дыніл, ацэтаальдэгід, воцат, параксілол і багаты букет розных **іншых** рэчываў, у меншых колькасцях, але па розных прычынах і, магчыма, для дэзінфармацыі нанконт іх адноснай бяскрыўднасці занесеныя пад гэты надзвычай дыпламатычны, слаба кантралюемы параграф.

Галоўны інжынер аб'яднання «Хімвалакно» Вячаслаў Цімафеевіч Буткін і начальнік аддзела аховы прыроды Аляксей Пятровіч Калеснік, як бы працілеглы Буткіну па пасадзе, аднолькава сцвярджаюць, што з кожным годам камбінат і ўсё аб'яднанне зніжаюць выкід шкодных рэчываў, нават апярэджваюць запланаваныя паказчыкі. (Для чытача, магчыма, і невядома, што гэтыя паказчыкі плануюцца аўтарамі праекта, «закладваюцца ў праект». Вось дзе патрэбна пільнае вока, **дасведчаная** прыдзірлівасць яшчэ на той ступені, калі мясцовыя ўлады рашаюць, браць ці не браць ва ўлонне горада, рэгіёна, рэспублікі новае прадпрыемства.) Так, зніжаюць. Марудна, але павялічваюць колькасць заслонаў—тэхнічных, арганізацыйных, эканамічных. Варта раскрыць паасобку сэнс гэтых мерапрыемстваў, тады высветліцца агульная карціна.

Тэхнічныя і арганізацыйныя супадаюць—гэта паляпшэнне тэхналогіі, каб яна стала болей прадукцыйнай і найменш агрэсіўнай, і збудаванне спецыяльных ачышчальных сістэм, каб скараціць шкодныя выкіды. Тут патрэбны сродкі. Напачатку—грошы. 7 мільёнаў рублёў выдаткавана ў мінулым годзе на ахову прыроды. Але частка грошай залегла ў банку. Не хапае будаўнічых магутнасцей Магілёва. Гарадскім уладам даводзіцца вырашаць, куды найперш скіраваць маламагутныя будаўнічыя сілы: у жылую зону, каб паскорыць чаргу, якая ледзь сунецца з 1962 года, на арганізацыю сацкультбыту ці на ачыстку паветра, вады і глебы. Якое зло ні вазьму—усе аднолькава паталагічна запушчаныя. «Хімвалакну» даюцца грошы на паляпшэнне экалагічнага стану, а выкарыстаць іх немагчыма, бо горад пры сваіх бедных грашовых сродках не можа ператварыць багатыя «хімічныя» рублі ў рэальныя аб'екты. «Хімвалакну» на дабудову ачысных збудаванняў фінансавана ўсесаюзным міністэрствам 1,8 мільёна рублёў на сёлета, а мясцовыя будаўнічыя арганізацыі ўзялі пад асваенне ўсяго 472 тысячы. Грошы далі, а матэрыяльнае забеспячэнне легла на горад. Як вядома, грошы нічога не вартыя, калі за іх немагчыма хоць каліўку набыць. Такім чынам, 75 % міласэрнасці Міністэрства хімічнай прамысловасці ў 1989 годзе не стануць міласэрнасцю ў адносінах да Магілёва. Практычна. Праўда, на шматлікіх старонках справаздач міністэрства будзе выглядаць дужа самавіта: вось, калі ласка, зірніце на факты: мы даём **вялізныя** грошы Магілёву, а Магілёў іх не бярэ. Нашы субсідыі горад можа выкарыстаць толькі на чвэрць.

Вольна прыкідвацца дабрадзеем за папяровыя грошы, якія дзешавеюць з касмічнай хуткасцю і не забяспечаны не тое каб золатам, а цэментам, арматурай, бензінам, рабочай сілай дэфіцытнай высокай кваліфікацыі і такой самай дэфіцытнай зусім некваліфікаванай. Робіцца—на мове паляўнічых—скідка зайца: заднія лапы наперад, пярэднія пад хвост, і рэзкі скачок убок. Свядомая хітрыка, каб збіць са следу.

Пакуль заяц скача, падманваючы ліса, Мінхімпрам выглядае непераможна-дабраякасна. Вінаваты аказваецца горад, сам сябе ачышчаць не жадае на дармавыя грошы.

Тут напрошваецца праблема дзяржаўнага, агульнасаюзнага значэння: палітычная рэформа абяцае мясцовым саветам пэўны фінансавы набытак, адлічэнні з даходнасці прадпрыемстваў саюзнага падпарадкавання; між тым працоўныя і матэрыяльныя рэсурсы выкачваюцца «гігантамі пяцігодак» з рэгіёна, нічога ці амаль нічога не аддаючы рэгіёну—копія спажывецкай палітыкі. Немагчымасць матэрыялізаваць «шалёныя» грошы, адпушчаныя «дабрадзейным» міністэрствам,—не што іншае, як крызіс?

Крызіснае становішча ніхто не жадае прызнаваць. Кіраўнікі аб'яднання пазбаўлены самастойнасці гаспадарання, бо ўсе прыбыткі, атрыманыя па так званай другой мадэлі, далічваюцца ў казну, толькі ў казну і нікуды болей. Паўфабрыкаты і гатовую прадукцыю (сінтэтычныя валокны, віскозу, цэлафан, іншае) аб'яднанне напраскі магло б прадаць за мяжу, атрымаць валюту ці сучасную, найбольш прадукцыйную і найменш экалагічна шкодную тэхналогію. Але нават звышпланавая прадукцыя забіраецца пад дзяржзаказ. Эгаістычная палітыка і тут паслядоўна—да апошніх дробязей. Выкачаць! Выкачаць сто адзін працэнт вытворчае магутнасці, не звяртаючы асаблівай увагі на знос абсталявання і небяспечную тэхналогію.

Аб'яднанне «Хімвалакно» ўвабрала ў сваё чэрава завод штучнага валакна, той самы 1930 года нараджэння, імя Куйбышава, скарочаная афіцыйная назва ЗИВ (завод искусственного волокна). ЗИВ, як ражон у горле, псуе ўсе паказчыкі, прыродаахоўныя—найперш. Каб не ЗИВ, ардэнаноснае аб'яднанне даўно выйшла б у героі.

А ЗИВ штогадзінна, штосекундна падкідвае Магілёву падаруначкі: серавадарод, яго пах прымушае нагадаць анекдот пра скваннага папа, якому на вялікдзень прыхажане паднослі яек больш, чым на папоўні бульбы накапалі, і серавуглярод—газ без паху, а намнога горшы па атрутнаму ўздзеянню на чалавека.

«Хімвалакно» і тут паказвае прагрэс. Газаачышчальная канструкцыя першай чаргі—доўга і мутарна будаваная, бо грошы ёсць, а працоўная сіла не купляецца з-за адсутнасці самой сілы—значна скараціла серавадародныя выкіды. «Папоўскі аброк» стаў не такі заўважны. Імкненне перакрыць серавадародны шлейф заслугоўвае пахвалы, дзякуй богу-хімпраму, што так раздобрыўся са спазненнем на паўстагоддзя, але бог—не дурань, дакладна разлічыў псіхалагічную эфектыўнасць свайго дабрадзеяння: найперш перакрыў пахучы серавадарод, прысутнасць якога ў паветры выяўляецца звычайным чалавечым носам, і зацягнуў будаўніцтва серавугляроднага рэкуператара.

Вытворчасці віскознага валакна і цэлафану стараюцца пазбавіцца ва ўсіх цывілізаваных краінах, пераносячы падобныя прадпрыемствы на ўскраіны планеты. А Магілёўскі ЗИВ, як мы ведаем, апынуўся ў горадзе, пасярод густанаселенага раёна. Але кіраўніцтва аб'яднання аптымістычна суцяшае, што сумарныя выкіды «Хімвалакна» складаюць усяго восем працэнтаў ад агульнагарадскіх. І гэта праўда. Абедзве цеплаэлектрацэнтралі закопчваюць неба значна мацней, на іх долю прыходзіцца амаль палова атмасфернага забруджвання. Аб маштабах выкідаў металургічнага завода можна меркаваць па тым, што летам. пад націс-

кам гарадскіх улад металургі зменшылі выкіды на 16 тысяч тон, прыкладна на адну трэць.

Управу на дымы электрастанцый знаходзяць, спальваючы ў топках замест мазуту прыродны газ, такая работа ўжо вядзецца. На жаль, скарачаючы такім метадам колькасць сярністага ангідрыду і CO, павялічваем выкіды вокіслаў азоту. Апошніх і так задужа ў аўтамабільных выхлапах.

Аўтатранспарт—біч усіх нашых гарадоў—незвычайна шкодны менавіта ў Магілёве. Зноў вінаватыя ранейшыя праекціроўшчыкі: няма аб'язных і дубліруючых магістраляў, мала мастоў, увесь транспарт ідзе праз цэнтр. Часта здараюцца «пробкі», і калі пры гэтым няма ветру, а вільготнасць высокая, рэзка падскокваюць канцэнтрацыі шкодных рэчываў. У 1987 годзе быў зарэгістраваны выпадак, які трапіў пасля ва ўсе даклады супрацоўнікаў рэспубліканскага Гідраметцэнтра: 35 ГДК! Ад аўтамабільных выхлапаў!

Зараз намаганні гарадскіх улад скіраваны на будаўніцтва кальцавой дарогі і магістраляў-дублёраў. Гэта невялічкая частка дэталёва распрацаванай праграмы «Здароўе». Да 2000-га года, калі ўдасца яе выканаць, Магілёў значна паздаравее. А пакуль што ён самы хворы сярод буйных гарадоў Беларусі. Навапалацк, чэмпіён па экалагічнай неўпарадкаванасці, і той менш скардзіцца на здароўе.

Супярэчлівая атрымліваецца карціна. З аднаго боку, пастаянна зніжаецца колькасць аварыйных выкідаў і агульная колькасць небяспечных рэчываў; з пераходам на гаспадарчы разлік з'явіліся эканамічныя рычагі для падаўлення экалагічнай халатнасці—пачалі рублём караць за парушэнні тэхналогіі. А з другога боку, відавочны рост захворванняў. Вось як пра гэта паведамляе газета «Трудовая слава», орган аб'яднання «Хімвалакно» ў № 52 за 1988 год: «Захворваемасць за 11 месяцаў у параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года ўзрасла ў аб'яднанні на 9,2 працэнта, пры гэтым на вытворчасці сінтэтычнага валакна—на 36, а ў службе галоўнага тэхнолага—на 84!

...Рост захворваемасці за 11 месяцаў абумоўлены павелічэннем колькасці прастудных захворванняў—на 40 працэнтаў, кішэчных інфекцый—на 380 працэнтаў, эпідэмій грыпу—1646 працэнтаў!»

Заяц робіць скідку?

Яснасць вынікае з тлумачэння галоўнага санітарнага ўрача Магілёва кандыдата медыцынскіх навук Мікалая Фёдаравіча Жыгунова: сапраўды шкодныя выкіды хімічнага аб'яднання складаюць толькі 8 працэнтаў ад агульнагарадскіх. Але іх доля ў прыземным паветраным слоі, у тым паветры, якім людзі дыхаюць,—**больш за 50 працэнтаў.**

Рост захворванняў назіраецца сярод усіх жыхароў Магілёва. Калега Мікалая Фёдаравіча, кандыдат медыцынскіх навук Аляксандр Міхайлавіч Мяжэнны, узначальвае абласное навуковае ўрачэбнае таварыства. Паводле звестак таварыства, за апошнія 10—15 гадоў пашыраюцца вострарэспіраторныя, гнойнасептычныя, алергічныя, бранхіяльнаастматычныя, анкалагічныя захворванні. Пры гэтым замаруджваецца выздараўленне, бо хваробы працякаюць усё цяжэй і цяжэй, з рознымі ўскладненнямі. Усё часцей дактары сутыкаюцца з сіндромам дысімілюванага ўнутрысасудзістага згортвання. Гэты грозны ДВС-сіндром мала вывучаны. Ён распаўсюджваецца не толькі на Магілёўшчыне, але тым большая яго пагроза.

Урачы разумеюць, што прычыны гэтых паталагічных з'яў трэба выводзіць з усяго комплексу знешніх фактараў, якія дзейнічаюць на сучасніка. Праз хімізацыю сельскай гаспадаркі прадукты харчавання набылі пэўную дозу шкоднасці. Не лепшым чынам уплываюць на іх якасць штучныя дабаўкі тыпу БВК, якія прымяняюцца ў жывёлагадоўлі. Накладваецца і ўздзеянне радыеактыўнага фону.

З гэтых прычын трэба перагледзець, зрабіць больш жорсткімі нормы на гранічна дапушчальныя канцэнтрацыі. Але тут патрэбна навуковае даследаванне. Вось хоць бы высветліць уплыў атмасферных забруджванняў Магілёва на якасць прадуктаў, што пастаўляюцца на стол магіляўчан прыгараднымі гаспадаркамі. Абласны Аграпрам, калі яму прапанавалі вывучыць гэтую праблему, адмовіўся. Яшчэ ў 1983 годзе ўрачэбнае таварыства звярнулася ў Інстытут геахіміі і геафізікі АН БССР з просьбай вывучыць, як пад уплывам антрапагеннай дзейнасці мяняецца якасць глебы і вады і як гэтыя змены ўплываюць на рост анкалагічных захворванняў. Інстытут нават не адказаў. Медыцынская грамадскасць Магілёва неаднойчы ставіла пытанне перад Міністэрствам аховы здароўя наконт стварэння рэспубліканскага цэнтра па вывучэнню паталогій, абумоўленых хімічнымі рэчывамі мясцовых вытворчасцей. Але міністэрства не вышуквае сродкаў і не выказвае асаблівага жадання на ўтварэнне гэтага вельмі патрэбнага для ўсёй рэспублікі цэнтра.

Адно суцяшэнне ў сітуацыі далёка несуцяшальнай—яўнае старанне кіраўнікоў вобласці і горада аздаравіць магілёўскую атмасферу. Пад іх моцным націскам адступілі за горад некаторыя дробныя прадпрыемствы-шкоднікі, зачыняюцца невялікія кацельні. Паводле шматгадовых назіранняў санэпідэмстанцыі, экалагічная абстаноўка стабілізавалася. Ёсць надзея палепшыць яе.

І тут, як нідзе, патрэбна шырокая грамадская актыўнасць. Пакуль жыхары Магілёва, у тым ліку і моладзь, знаходзяцца ў баку ад барацьбы за чысціню свайго наваколля. Не існуе ніводнай групы, фармальнай ці нефармальнай, з экалагічнай праграмай.

Вось толькі зусім нядаўна адбыўся невялікі зрух на камбінаце сінтэтычнага валакна. Тут вырашана арганізаваць экалагічны клуб. Ініцыятыва належыць журналістцы Валянціне Вераб'ёвай. Яе падтрымлівае партком і камітэт камсамола. Гэта акалічнасць крыху здзіўляе, бо клуб узнікае ў самым сэрцы «Хімвалакна», але і абнадзейвае: калі **тут** зразумелі неабходнасць існавання **такой** арганізацыі, то трэба чакаць масавага абуджэння грамадскай актыўнасці магіляўчан. Дужа небяспечную і хранічную хваробу горада можна вылечыць толькі агульнымі намаганнямі. І толькі такім чынам можна забараніць зайцу рабіць свае скідкі.

**ВАЛЯНЦІН ЖДАНОВІЧ**

Фотакалаж **аўтара**

*Штрыхі да партрэта*

# ЧАМУ ЛЮДЗЯМ СНЯЦЦА КРЫЛЫ?



Н. Тулупава.

...Скажыце мне праўду.
Скажыце.
Скажы.
Адзіную. Дзвюх не бывае.
Відаць, чалавецтву без праўды не жыць.
Глынеш яе—зноў ажываеш.

**Прага свабоды і праўды. Праз стагоддзі яна прарываецца, бо выспела. А сёння самы час. Розны ён. Нясе свае перамены. Учора маўчалі. Сёння гаворым услых, учора толькі шэптам, адно самім сабе задавалі пытанні, а сёння ўголас пытаемся і на свае пытанні патрабуем адказу. І месца літаратуры—наперадзе. Яе задача разабрацца ва ўсіх складанасцях і супярэчлівасцях, бо пісьменнік, так павялося спрадвек, і настаўнік, і прарок.**

Якім законам
Сэрцы навучыць,
Каб надарыла доля
Зорным лёсам?
Як жыць далей,
Хто будзе нас вучыць:
Паэт,
Гісторык,
Фізік
Ці філосаф?
Як жыць,
Як жыць?..

...Ёю з маленства валодала жаданне адкрыццяў. Бабуля называла светлавалосую непаседу Анэлькай, аднагодкі ўдакладнялі яе характарыстыку мянушкай—«Зямелька». Яна заўсёды нешта шукала: то карысныя выкапні, то старажытныя паселішчы; хацела дакапацца, што там, у глыбінях зямлі, прасявала яе, спрабавала на смак. Нарэшце знайшла! Чэрап маманта. Спазнілася на ўрок (яна часта спазнялася праз свае даследаванні), але настаўнік не дакараў, відаць, верыў у яе адкрыцці. Больш таго, на гэты раз ён павёў дзяцей на месца Анэльчыных раскопак. І яны дазналіся, што Зямелька знайшла прабіты куляй чэрап баявога каня.

След вайны грамадзянскай. Ён ужо быў глыбока. А сляды Айчыннай яшчэ палымнелі зусім побач. Запомніць іх малая Анэлька і крывавымі плямамі на сценах школы ў Сүткове, што на Лоеўшчыне, і тым, як беларуская вёска хавала ад фашыстаў нашага лётчыка, як страшна дрыжала зямля, калі вызвалялі Рэчыцу.

Не пыталіся ў нас снарады,
Хто чужыя, а хто свае.

Запомніць першакласніца Анэлька, як разбіралі завалы, хавалі салдат у брацкіх магілах, працу ў полі, першы заём, на які падпісалася ў школе,—маці мусіла аднесці апошнія грошы, што былі ў хаце; і рачных малюскаў, што елі замест мяса, і аладкі з сушанага ліпавага лісця (сапраўдныя «ліпавыя» аладкі)—усё гэта застанецца ў Анэльцы і на нейкі час нібы забудзецца, прыцярушыцца часам, каб потым вярнуцца сённяшнім днём да паэтэсы Нэлі Тулупавай.

Палявалі фашысты на тату,
Ачаплялі звечара хату,
Днём цкавалі сабакамі
Нас, дзяцей, каб мы плакалі.
— Дзе твой тата?
Скажы, дзе тата?
На калодку кідалі шурпатую,
Каб ад страху, болю, адчаю
Я, старэйшая, закрычала,
Каб гукала бацьку дадому,
Білі дротам мяне па каленях.

Нягледзячы на спакойную апавядальнасць верша і ягоную прастату, кожны радок вельмі драматычны—быццам крычыць крыкам малой Анэлькі.

...Галава дачкі трохгадовай
На крывавым палене.
Толькі што на ім секлі пеўня.
— Ну, крычы! Няхай бацька чуе.
Упершыню я тады, напэўна,
Сэрца ў сэрцы адчула.

Тон верша стрыманы, няма ў ім ні жалю да сябе, ні самалюбавання, ёсць нейкая сцішанасць душы, мужнасць стану. Дый гаворка ідзе не пра сябе...

Не заплакала я і не плачу
З той пары нідзе і ніколі.
Але зоїдзецца ўсё ад болю,
Як дзяцей заплаканых бачу.

**Боль сэрца. Калі ён ёсць—значыць, ёсць. А калі не? Адкуль узяцца зараджальнай сіле вершаванага радка? Боль прарвецца праз мінулае, сучаснае і наступнае, але дзеля гэтага ён павінен быць. «Сацыяльнасць, сацыяльнасць—альбо смерць!» Гэтыя словы-заклік В. Р. Бялінскага да сучаснікаў, напісаныя амаль паўтара стагоддзя назад, успрымаюцца як сённяшнія. Вельмі часта на староннах перыёдыкі гаворыцца пра тое, што паэты многа пішуць пра «я» і мала пра «мы», што лірыка пацясніла старэйшую сястру паэму, а якраз у яе найбольш магчымасцей быць сацыяльнай. Бялінскі называе паэму «эпічнай аб'ектыўнасцю» ў параўнанні з «лірычнай суб'ектыўнасцю» вершаў. Зразумела, нараджэнне, росквіт і заняпад літаратурных жанраў звязаны з перабудовай жыцця, зменамі гістарычных фармацый, пераменамі ў чалавечай свядомасці. Але ці толькі час вінаваты, што няма сацыяльнасці ў літаратуры? А мо яна, літаратура, толькі сродак для самавыяўлення? Бо іншы раз здаецца, што ў ёй нешта недагаворваецца, застаецца па-за радкамі. Звычайна ёсць ва ўсім агульная прычына, але ў кожнага—і свая варыяцыя.**

А што, калі праўда, як беркут,
прыручана?
А што, калі праўда вельмі
балючая?..

**Атмасфера дэмагогіі, лянота думкі, адсутнасць асабістай адказнасці штурхаюць на пошукі лёгкіх шляхоў, і многія паэты, абыходзячы «праклятыя пытанні», пяюць пра тую адзіную сасну (а ў кагосьці—бяроза, дуб, асіна) каля роднай хаты, пра родную вёску, з маленства мілую, з яе лугам (лесам, полем...). І паспрабуй скажы, што гэта не паэзія! Дый як скажаш, калі ёсць майстэрства і вечная тэма: любоў да роднага краю! Усё гэта знаёма, ужо было, не з намі, да нас, на іншым вітку спіралі, як гавораць філосафы. Вось Дж. Мацыні заклікае сваіх сучаснікаў: «Вызваляйце дух, дзейнічайце!» І нам таксама прыслухацца б да гэтага закліку... Але Мацыні—рамантык з дзевятнаццатага стагоддзя, а мы—рэалісты і даўно з асцярожнасцю адносімся да клічнікаў. І ўсё ж. Умовы дэмакратыі патрабуюць ад кожнага адказнасці і працы канкрэтнай. Гэтае патрабаванне выражаецца клічнікам, толькі не з эйфарычным адценнем, а з адценнем цвёрдасці, перакананасці, рашучасці. Вось чаму сёння асабліва востра паўстае праблема сацыяльнага мыслення самога пісьменніка, ягонай здольнасці пранікаць у прычынна-выніковыя сувязі з'яў, якія ён адлюстроўвае. І ці не таму сёння чытача больш цікавіць газета, а не кніжка вершаў? Не да лірыкі яму?**

Калі жыта не ўсходзіць,
Калі поле не родзіць,
Калі хтосьці без хлеба,
Мне нічога не трэба.

**Паэтам таксама, відаць, не пашкодзіла б задумацца: а што і як робіцца пад «роднай сасной» (бярозай, дубам, рабінай), у «роднай вёсцы», «родным лесе»?! Складана. Але прыйшоў час знішчаць у сабе рэдактара, як гаварыў на пленуме СП БССР Ніл Гілевіч, перагледзець свае адносіны да змен у нашым жыцці. І зусім не абавязкова зараз крычаць, шукаць «ворагаў», калі дагэтуль моўчкі сядзелася, іначай чытач можа спытаць: а дзе ж ты, сябра, быў раней? Ёсць час спакойна, шчыра, сумленна разабрацца, што было з намі, чаму мы ўсе праваронілі той момант, калі звярнулі з дарогі на бездарожжа.**

І няма гарантый
Ад згрызот сумнення,
Ўсе мы кватаранты
У свайго сумлення.
Грэшныя, святыя,
Маскі пазрываны,
Гэтыя і тыя
Ноччу параўнаны.
. . . . . . . . . . . . . . .

За акном ясніцца—
Што са мной было?..
Як не памыліцца,
Дзе дабро, дзе зло?

Тэма духоўнага ўзвышэння, пераадолення сябе, з'яўляецца ў паэзіі Н. Тулупавай, пачынаючы, здавалася б, з вельмі асабістай паэмы «Марэна». Невыпадкова аўтар для эпіграфа выбірае словы Сакрата: «Мілы пан і другія тутэйшыя багі, дайце мне стаць унутрана прыгожым»...

«Марэна» напісана ў форме маналога. Тут канфлікт унутраны. Розум сутыкаецца з пачуццём, абавязак з жаданнем, годнасць з абставінамі—у выніку адбываецца станаўленне чалавечага «я», узвышэнне над сабой. Барацьба нялёгкая. З пераменным поспехам. Таму рытм жорсткі, слова насычанае, вобраз нечаканы, пачуццё дынамічнае. Вельмі шырока выкарыстоўваецца кароткі дзеяслоўны сказ, усечаны радок.

Думала—
забыла,
Думала—
з карэннямі,
І пад плот,
пад плот,
Прарасло,
прабілася,
як асот...

У перадачы розных станаў героя, у стварэнні атмасферы, у манеры верша паэзія Н. Тулупавай набліжаецца да імпрэсіянізму. Гэта відаць не толькі ў «Марэне», але і ў многіх замалёўках-мініяцюрах з кніжкі «Босая цішыня» («Крыло абудзіла ластаўку», «Калі памірае зорка», «Ты» і г. д.), дзе шырока выкарыстоўваецца алітэрацыйная рыфма і чаргаванне праз кожны радок двухскладовага і трохскладовага памераў. Гукавое танальнае і рытмічнае адчуванне верша дазваляе Н. Тулупавай ствараць нечаканыя паэтычныя мініяцюры. А рысы гэтыя бяруць свой пачатак у паэме «Марэна».

— Чый ты? Чый?
Адрачыся. Не позна.
— Не. Не трэба. Маўчы...
Зараўняю барозны.

Мы жывём у век урбанізацыі. Вядома, інтэлектуальная паэзія, параджэнне гэтага веку, не абмінула творчасці Н. Тулупавай. Але выхаваная на фальклорнай эстэтыцы паэтэса па-свойму асэнсавала гэтую з'яву. У імклівай лаканічнай фразе, ломаным рытме, алітэрацыях, кароткіх дзеяслоўных сказах—ва ўсім гэтым яе ўспрыманне вуглаватасці цывілізацыі, парушэння гармоніі. Індустрыяльнае адчужэнне нараджае грамадства спажывання. Радасць ад зробленага сваімі рукамі змяняецца радасцю прыдбання. Свет запаланяе сытасць, пагібельная душэўная камфортнасць, якая выліваецца ў бездухоўнасць. У такім асяроддзі прага гармоніі, чалавечнасці заканчваецца крызісам веры. У чалавека, здольнага мысліць, дысгармонія нараджае трывогу, непрыняцце яе. Становіцца прычынай творчага маўчання.

Прайшла зіма, а песні ўсё няма...
. . . . . . . . . . . . .
Ды страшнейшая ёсць балючасць
Нематою душу караць.

Пачынаецца пошук, які натуральна прыводзіць да вытокаў, да вопыту старэйшых пакаленняў. Так з'явілася паэма «Дабрадзея». Усё, па чым трывожылася сэрца, чаго шукала яно, само сабой стала на месца, калі чалавек звярнуўся да вопыту бацькоў і прадзедаў, да памяці. Некамунікабельнасць, адарванасць ад маці-прыроды, дабрыня і чуласць, фальшывыя і сапраўдныя сувязі, якія з'ядноўваюць людзей,—і трагічны разлад, калі яны рвуцца; сутнасць чалавечая... Гэтая сацыялагічная інфармацыя асэнсавалася і рэалізавалася ў паэме праз цудоўны вобраз бабкі Даніліхі. Яна глыбокі сімвал сувязі часу і пакаленняў, разам з тым рэальны чалавек.

— З бедных была Дабрадзея людзей.
Таму дабро дзеяла.
Ад яе пайшоў наш род.
Па матулі я Дабрадзеева,
А па бацьку я—Пугачова.
. . . . . . . . . . . . .
Адпускаю боль
людзям нялюдскі.
Людзі мне мой цяжар
адпускаюць.

Што з намі, людзьмі, сёння дзеецца? Вось тое вострае пытанне, якое мучыць і ўнучку-гараджанку, і старую бабку Даніліху, каранямі ўрослую ў свой «буслінны востраў».

Маем вушы. Але ці чуем?
Можа, радасці ў нас замнога?
Мо заняты сабой, сваімі...
Маем вочы. Ці бачым імі?

І не выпадкова ўсплывае вобраз Дабрадзеі, унучкі Манамаха, якая людзям дабро дзеяла. Ненадакучліва, паволі з маленькіх крупінак-існцін, якія збіраліся тысячагоддзямі ў вопыце продкаў, узнікае мудрае вызначэнне вышэйшага сэнсу жыцця—шчасця.

— Дзякуй богу, што сонца ўстала,
Што рака ў берагах і лугі ў стагах.
Згіньце, ўсе людскія хваробы,
І пакуты, і войны.





Н. Тулупава—удзельніца мастацкай самадзейнасці. 1958 г.

Няхай дзеткі будуць здаровымі,
Няхай хлеба будзе даволі...

Гэта малітва Даніліхі. Якою пяшчотай і ўсяленскім клопатам дыхае кожны вобраз у паэме! У ёй адчуваецца як рэальнасць прастора беларускай прыроды, водар яе лясоў, сутнасць нацыі. Аўтар купаецца ў стыхіі беларускага фальклорнага слова: «спяць на горы. Горам абедаюць», «сыплем перцу пад пяты», «словы рэпаюцца ад нематы», «ноч бяднее—у сэрцы віднее. Узыходзяць рукі Даніліхі. Днеюць». Такое ж багацце народнага слова мы сустракаем у трыпціху «Зімародак», але ён саступае паэме «Дабрадзея» ў важкасці тэмы. Ёсць у «Дабрадзеі» бяда яшчэ ад вайны, ёсць смерць і «туга—асакою вострай», але ўсё ж яна—светлая паэма. Яе азарае сваёй чысцінёй вобраз ціхай падзвіжніцы Даніліхі. Гармонія быцця, якую знайшла і адлюстравала паэтэса ў «Дабрадзеі», праяўляецца і ў самой пабудове паэмы—у шчаслівым спалучэнні фальклорнага і сучаснага. Апавядальная інтанацыя верлібра чаргуецца з пявучасцю лірычнага радка, каранёвая рыфма замяняе традыцыйную, плаўнасць класічнага верша напаўняецца сінкопамі інтэлектуальнага. Ява і сімвал—вяртанне лірычнай гераіні на востраў свайго дзяцінства. Спатрэбілася жывое слова, чыстае, празрыстае, з родных крыніц, каб напіцца «з азёрных гарлачыкаў». Пазней Н. Тулупава напіша ў вершы «Буснежжа»:

Далёкім, як да неба, быў мой шлях
Назад да роднага бацькоўскага парога.

Трэба было адарвацца ад родных мясцін, каб потым неадольна адчуць, як патрэбна бацькоўская зямля, яе духоўныя набыткі, яе радасці і нягоды, зразумець, што толькі яна можа даць натхненне і сілу паэтычнаму слову.

Ніводная з кніжак Н. Тулупавай не паўтарае папярэднюю. Кожная з іх нават у манеры пісьма паўстае зусім у новай якасці. Калі першая—рамантычнае прадчуванне нясказанага і абавязкова прыгожага, другая кніжка—гэта ўжо новы

 

круг, які прайшоў чалавек па дарогах спасціжэння, вопыт, у чымсьці ўжо і горкі. Упала вясёлкавая заслона—і вачам адкрылася дысгармонія свету. А калі няма ладу—як гучаць музыцы жыцця? І паэтычнае пачуццё шукае гармонію ў вытоках. Інтэлект і творчая падсвядомасць прыводзяць яе ў трэцяй кнізе да гармоніі барацьбы. Таму яе чалавечае пытанне да Песцеля: ці так усё гэта? Ты, што прысвяціў сябе да канца служыць праўдзе і справядлівасці, дзеля гэтага адмовіўся ад самага натуральнага: права на жыццё, асабістае шчасце, расціць дзяцей і абдымаць каханую,—ты знайшоў гэтую гармонію?

— Хто ты?<br>
— Песцель. На, прымерай мой персцень.<br>
Надзявае пярсцёнак на палец,<br>
Быццам полымем, палец мне паляць<br>
Звеньчакі з тых цяжкіх кайданоў<br>
За градою гадоў.<br>
— Я трываць не магу!<br>
— Будзеш ведаць свабоды вагу.

Трывожнымі запытаннямі жыве паэма «Быццам страла, быстрая ластаўка». У чым праўда, сэнс, гонар, як жыць, па якіх законах, каб зберагчы ў сабе духоўны голад і смеласць, каб вусны не скоўвала «нематы пячаць»? У паэме—пакланенне перад чалавекам-барацьбітом і няўтольны боль страты. Песцель паміраe з ясным светаадчуваннем, разладу ў яго- най душы няма—і гэта лепшы адказ на пытанне, якое драматычнай нотай пранізвае паэму: як жыць?

Ільняная вопратка смерці,<br>
Нібы парус на сонечных водах.<br>
А ты шэпчаш нам, Павел:<br>
— Не верце,<br>
Немагчыма павесіць свабоду.

Скрозь усю паэзію Н. Тулупавай праходзіць матыў палёту, вобраз крыла. «Крыло абудзіла ластаўку», «прытамілася крыло», «крылы маім летуценням і снам», «зелянее крыло», «здзічэлы ліст ля рук складае крылы».

Свет вялікі такі!<br>
Былі б у нас крылы!—

усклікае паэтэса ў вершы «Буснежжа». Адкуль такое жаданне вышыні, чаму хочацца быць крылатай? Можа, у гэтым агульначалавечая прага даляцець да зорак? А можа, імкненне да прыгажосці, пошук усё той жа самай гармоніі, ладу? Наогул, матыў «крыла» і яшчэ «вясла» вельмі часта вар'іруецца ў беларускай паэзіі.

Верш Н. Тулупавай музычны. Не дзіўна, што яна аўтар многіх песень. Але музыка ў паэме «Быццам страла, быстрая ластаўка» нагадвае складаную структуру сімфоніі. Музычнасць дазваляе паэтэсе не трымацца аднойчы ўзятага памеру, рытму, страфы. Яна выкарыстоўвае розныя формы рыфмавання і гукапісу. Эмацыянальнасць і імпульсіўнасць спалучаюцца з парадаксальнасцю вобразаў, што надае вершам адчуванне нечаканасці і арыгінальнасці. Шматвобразнасць таксама вельмі характэрная рыса яе паэзіі (праўда, іншы раз вобразны рад бывае вельмі перанаселены). Гэтыя паэтычныя рысы пачалі праяўляцца яшчэ ў першай кнізе «Станцыя надзей». У апісанні восеньскай прыроды: хмары плывуць «калматыя... Зачапіліся за буслі- ную дзюбу ля хаты». Вачам завідушчым, ліхім у другім вершы аўтар пагражае: «А то шчасцем засыплем вочы!» Хітрынка, вастраслоўе, народны гумар праяўляюцца ў паэтычным радку—як ужыванне простанароднага, бытавога слова. Тое, што слова-вобраз адначасова і рыфмуецца, яшчэ больш узмацняе яго асацыятыўнасць. Акрамя гэтага паэтэса выкарыстоўвае каранёвую рыфму, багатую рознымі адценнямі, і засноўвае яе на асанансе (крэкчуць—плечы, Хатыні—астылі) альбо на контуры, акустыцы (аканіцы—чужынцаў, барыкад—у руках). Крытыка сямідзесятых гадоў дакарае Н. Тулупаву за такі характар рыфмавання, але ў наступных працах, калі каранёвая рыфма становіцца ўпадабанай, гэта ўжо адзначаецца як своеасаблівасць яе паэзіі.

Пра што пісала паэтэса ў першай сваёй кнізе? Пра радасць быцця, якая напаўняе сэрца, пра альтруізм паміраючага чалавека, пра выпрабаванне сябе на мужнасць («Сэрца»), пра нараджэнне новага жыцця, пра чалавечнасць і спачуванне, дапамогу ў бядзе («Рукі хірурга»). Незабытыя раны вайны, пераемнасць духу камунараў, любоў да Радзімы і бацькоўскага дома, пейзажы, вершы пра любоў, дакладней, праз любоўную лірыку—станаўленне і выхаванне асобы,—вось круг тэм першага зборніка маладой паэтэсы. Першая кніжка звычайна гаворыць пра маладосць і творчую, і чалавечую, таму, зразумела, не ўсё ў «Станцыі надзей» аднолькавае па якасці. Але ёсць нямала вершаў, якія можна назваць праграмнымі для наступнай паэзіі Н. Тулупавай, дзе больш-менш спакойнае, яснае светаадчуванне маладосці змяніцца нервова-трывожным адчуваннем сталасці.

Наогул, творчасць Н. Тулупавай нагадвае паэтычную майстэрню, дзе спрабуюць пісаць розныя палотны і па тэматыцы, і па тэхніцы вершавання. Адкрываем трэцюю кніжку «Босая цішыня». Невялічкая замалёўка паэтычнага імпрэсіянізму.

Каб даспявалі зоры—<br>
Іду басанож разораю.<br>
Усцешна<br>
душу расхрыстаць на мурог.<br>
Усцешна<br>
зямлі дакранацца да ног...

Такія эцюды знаходзім і ў другой кнізе «Дабрадзея».

Засушлівым летам<br>
Баюся ступіць<br>
На зямлю парэпаную.<br>
Трэшчыны,<br>
Нібы вены,<br>
Ускрытыя лязом бяды...<br>
Нямым захлынаюся крыкам:<br>
— Вады!

А вось пейзаж. Кожны радок—новая фарба. У выніку ў чатырох радках—і атмасфера, і пластычная карціна, і настрой.

На жоўтым палатне заходзячага сонца<br>
Ліловай фарбай намаляваны вяршыні дрэў.<br>
Плывуць над імі парасоны ружовых хмар.<br>
Прамень пацалаваў іх. Успыхнулі, згарэлі.<br>
Апалі мне на вочы. Ноч.

Ёсць у палітры Н. Тулупавай сюжэтныя вершы («Дабрата», «Апошні певень»), якія захапляюць сталай насычанасцю жыццёвых з'яў. Сустракаюцца традыцыйныя па форме, але на дзіва свежыя эмацыянальна, поўныя шчырага захаплення і любові да роднага краю вершы («Буснежжа»).

За той мяжой, дзе не кранута свежасць<br>
І першароднасць неба і зямлі,<br>
Пляскоча плоткай возера Буснежжа,<br>
Над чаратамі зоры, як чмялі.<br>
— Жыві!<br>
— Бяры!<br>
Ніколі не спатоліш<br>
Жыццёвай смагі<br>
Па табе, мой край.

Верш «Буснежжа»—прызнанне ў любові да роднага краю. Ні сентыментальнасці, ні ялейнасці тут няма. Ёсць годнасць пачуцця, гордае спасціжэнне сябе як часткі цэлага, гармонія еднасці з прыродай, дзе возера Буснежжа з яго наваколлем вырастае да вобраза Радзімы.

Для многіх паэтаў пераход ад вясковай цывілізацыі да сучаснай індустрыяльнай—працэс нялёгкі і балючы. Яны цяжка прырастаюць да горада. Адсюль—настальгія па вясковых рэаліях. У паэзіі Н. Тулупавай адносна мала гэтай тугі, яна адразу прыняла горад, хаця ён і паказаў ёй свае, на першы погляд нябачныя недахопы: адчужанасць, раўнадушша, чэрствасць.

**Памяць. Яшчэ ляжаць «пахаванкі» ў сталах і куфрах, а для сённяшняга пакалення маладых—гэта ўжо гісторыя. Але і яны, якія не ведалі, не бачылі вайны, пішуць пра яе. Што шукаюць маладыя ў мінулым, што шукаем мы? Захапленне славай ці адказу на пытанне: чаму так цяжка дасталася нам Перамога?! Можа, у гэтым «чаму» тояцца цяжкасці і сённяшняга дня?!**

«ПОМНЮ

Яшчэ грымела вайна, яшчэ ваяваў тата, а ў нас адкрылася школа. Мне пайшоў шосты год, я ўмела чытаць і пісаць. Пачала прасіцца ў школу. Прынялі. Пасля першага ўрока пра зямлю і неба—подбегам да хаты, пазнімала бабуліны іконы... Бога ж няма! Бацькава маці Кацярына Дуброўская пяшчотна гладзіла спрацаванай рукой аклады, сварылася: «Во, нехрысць бяспамятная! Ты ж не бога, памяць маю хочаш знішчыць...»

...Жаліцца я пабегла да сваёй Даніліхі, матулінай маці.

— Баб, бяспамятны—хто гэта?

— Ні травіна, ні сянніна, бо яна луг помніць, дзе расла. Размыслі. Агурэчнік, перш чым у гурок закруціцца, памяць сваю спытае: хто я? Хто расціў мяне? Нашто нарадзіўся?

Успомніць і пачынае даўгі свае зямныя аддаваць: сонейку—кветкі, чалавеку—дзеткі, зямельцы—семкі. А ў гэтых семках—памяць, што ён гурок, а не качан.

— А чалавек нашто нарадзіўся?

— Для чалавека.

— А людзі ўсе?

— Мінулае ўспомніць, пераварушыць, благога не паўтарыць, сваю работу зробіць».

Пытанне паэтэсы, накіраванае да мінулага, бумерангам вяртаецца ў сённяшні дзень да чытача. Жывою крыніцаю б'ецца тэма памяці ў «Гарывадзе». І гэтым трывожным пульсам твор пераклікаецца з публіцыстыкай А. Адамовіча, з аповесцямі В. Быкава. У аснове паэмы—казка пра любоў, якую людзі калісьці прагналі з зямлі. Масток-памяць пракладваецца ў сённяшні дзень, што стварае вострае адчуванне сучаснасці. Паэтызаваны вобраз Гарывады. Яе сутнасць—ахвярнасць і любоў. Страшнымі

 

 

эгаістычнымі ўладалюбівымі істотамі заселена Прадонне. Натуральна і асацыятыўна ўспрымаюцца характары ўсялякай «набрыдзі»—мярзотныя, баязлівыя, крывадушныя, жорсткія і нават камічныя «Прымхі». Ёсць сюжэт, імклівае дзеянне, канфлікт—адным словам, усё, што вызначае драматычны твор. Слова сцэнічнае. Але ёсць яшчэ адна дзеючая асоба—лірычны герой, ці аўтар. Ён галоўнае звяно, якое спалучае казачную дзею з сучаснасцю. Лірыка-паэтычныя адступленні «Помню» пераклікаюцца з сюжэтам драматычнай часткі. Аб чым бы ні ішла размова, куды б ні паварочвала жыццё—«помню».

Прадонне—дзяржава Жорты, якая патушыла сонца. Яна ўладарка цемры. Стыне зямля, гібее. Выкаваць сонца бярэцца каваль Горан. Ён ідзе ў Прадонне за сакрэтам стварэння новага сонца. Каханая дзяўчына Светуніца надзяляе яго жменяй роднай зямлі.

— Вышыла табе лядунку я,
Зашыла ў ёй драбiначку зямлі.
Веры і любові напамiнак.
(Вешае на шыю Горану лядунку.)
Няхай яна
Цябе аберагае.
Каб не забыў ты
Ні зямлю,
Ні нас.

Дачка ўладаркі Прадоння Агнявіца зачароўвае Горана сваім хараством і адбірае памяць. Ён пачынае працаваць на яе ўладалюбівыя задумкі. У царстве цемры сваркі паміж дачкой і маці: яны не могуць саступіць адна адной уладу. Гарывада вяртае Горану памяць, а пасля на зямлі, ахвяруючы жыццём, запальвае сонца. Ідэйную моц аўтарскай думкі высвечвае і сама сюжэтная пабудова. Немагчыма стварыць новае сонца. Толькі любоў і еднасць дапамогуць людзям зберагчы адзінае і непаўторнае: жыццё планеты Зямля.

«Гарывада»—сталасць светапогляду паэтэсы, яе грамадзянская несупакоенасць, яе трывога і боль. Паэма драматычная, наколькі можа быць драматычным пытанне: быць ці не быць чалавецтву? Мінорны тон лірычных адступленняў яшчэ больш падкрэслівае трывожнасць падзей, якія раскрываюцца ў паэме. Пошук дзейснага слова тут атрымлівае сваё лагічнае прадаўжэнне. З аднаго боку—фальклорная стыхія і сучасная форма вершавання, з другога—паэзія і драматургія. Усё гэта жыве ў зладжаным адзінстве. Крытыка адзначае вопыт Н. Тулупавай як удачу, якая адкрывае выяўленчыя магчымасці, падкрэслівае ўплыў творчасці А. Куляшова на паэму «Гарывада». Гэта вельмі натуральна. Бо з маленства паэтэса ў стыхіі роднага слова: Я. Купала, Я. Колас, М. Багдановіч, А. Цётка—любімыя пісьменнікі. Бацька—настаўнік, сам піша вершы, збірае фальклор, маці—цудоўная апавядальніца, вельмі добра ведае класіку. Такое асяроддзе—шчаслівая глеба, якая спрыяе развіццю здольнай натуры.

Як пісаць сёння, каб пазбегнуць няшчырасці, не схлусіць сабе і чытачу? Напэўна, падобныя пытанні мучаць не толькі паэтэсу Н. Тулупаву. Пазіцыя ўсіх і кожнага паасобку была і ёсць, зараз асабліва, адным з галоўных пытанняў творчасці.

Алаіза,
Сястрыца,
Цётка—
Акравак маланкі
І—дабраты.
Песцель ва мне прарастае,
Не ты...

Нездарма паэтэса выбрала ў духоўныя настаўнікі А. Цётку, нездарма задуманая паэма пра рэвалюцыянерку вылілася ў паэму пра дзекабрыста Песцеля. Вернасць грамадзянскаму абавязку ў паэзіі гаворыць пра сталасць паэтэсы.

**Паэт, паэзія, паэтычнасць... Вяртаючыся да першапачатковага сэнсу гэтых паняццяў, задумваешся над іх значнасцю. «Мастацтва вобразнага выражэння ў слове». «Вершы, рытмічная мова». «Штосьці прыгожае, узвышанае; глыбока ўздзейнічае на пачуцці і ўяўленне»—гэта ўсё паэзія. Але ўсё ж не зусім паэзія. Не паэзія, пакуль сутнасць, сэнс выказанага, не набудзе грамадскай значнасці. Сацыяльнасць адмяжоўвае ўласна паэзію ад простага вершаскладання. Сёння гэта галоўнае з патрабаванняў, якія прад'яўляе паэту чытач.**

З праўдай
Прыйду да цябе,
Чалавек,
Мой брат
І суддзя
Мой строгі.

**Менавіта яна і патрэбна сёння. Праўда—слова майстэрскае, творчае, па-грамадзянску мужнае.**

Скажыце мне праўду.
Скажыце.
Скажы.
Адзіную. Дзвюх не бывае.
Вiдаць, чалавецтву без праўды не жыць.
Глынеш яе—зноў
ажываеш.

**ЛЮДМІЛА ФЁДАРАВА**

**Фота У. Крука**



*Кнігі і час*




# «КАЛІ МАЎЧЫЦЬ ДУША...»

## СУБ'ЕКТЫЎНАЯ РЭЦЭНЗІЯ

«А як жа славутая крытычная аб'ектыўнасць?»—спытаеце вы. Але ж бываюць выпадкі, калі суб'ектыўнае і аб'ектыўнае, нібы агонь і вада, трава і камень, ніяк не пагаджаюцца між сабою. Успрыняцце ж паэзіі—увогуле з'ява суб'ектыўная: тут «зорка зорцы голас падае...». Зорка—зорцы, душа—душы, і калі не адбываецца таемнага духоўнага ўзаемадзеяння, пранікнення магіяй паэтычнага слова, калі верш не выклікае водгуку ў душы, то што мне ад разумовага, крытычна-аб'ектыўнага ўсведамлення яго мастацкіх вартасцей, наватарскіх паэтычных прыёмаў і г. д.? Як кажуць, ні горача ні холадна.

А можа, і не паэт вінаваты ў тым, што яго верш не знаходзіць водгуку ў тваёй душы, а ты сама, звыклая да пэўнай традыцыі, не ў змозе ўспрыняць новыя кірункі мастацкіх пошукаў, форму мастацкай умоўнасці, настроіцца на новую паэтычную хвалю? Магчыма і такое. Таму і будзе суб'ектыўная рэцэнзія. А ці ёсць у ёй доля аб'ектыўнасці, няхай мяркуе чытач.

### «ДАВАЙ НЕ БУДЗЕМ ГАВАРЫЦЬ...»

Пакаленне, да якога належыць Адам Глобус (Уладзімір Адамчык) прыйшло ў літаратуру ў той час, калі дэвальвацыя слова, пачуцця, якое яно павінна абазначаць, дайшло да апошняй мяжы, калі так званыя шчырыя лірычныя споведзі перанасыціліся дваістасцю, фальшам і натужнасцю, калі разрыў паміж словам і справай, словам і жыццём стаў прорвай.

Таму зразумелае свядомае імкненне аўтара зборніка «Парк» і ў паэзіі, і ў прозе адмежавацца ад лірычнай споведзі, прамога, непасрэднага выяўлення эмоцый, перажыванняў, душэўных зрухаў, шукаць іншых, апасродкаваных форм самавыяўлення. Нават у самых, здавалася б, «задушэўных» момантах ён пазбягае шчырых размоў, баючыся іх фальшу, банальнасці. «Адно што добра—шчыра не гаворым»,—зазначае яго лірычны герой у час развітання з каханай. «Ты не ў гуморы, я не ў гуморы, сядай за стол, мы пагаворым»,—запрашае ён сябра і тут жа схамянецца раптам: а ці патрэбны словы, якія нічога не зменяць і могуць застацца пустымі гукамі?

Не будзе лепей, не будзе горай.
Нязменна белы не стане чорным.
Не знікнуць горы. Не згаснуць зоры.
Дык што мы творым? Нашто гаворым?

У адным з вершаў А. Глобус тлумачыць гэты недавер да слоў як спробу «перамаўчаць зацьменне», зберагчы высціню і некранутасць слова да тых лепшых часоў, таго «зорнага імгнення», калі яно напоўніцца сапраўдным сэнсам: «Давай не будзем гаварыць ні добрага і ні благога, каб не пазбавіцца святога, давай маўчаць і доўга жыць».

Наракання на недасканаласць слова, якое не ў стане выявіць усю паўнату душэўных зрухаў, шматстайнасць і таемнасць быцця, маюць даўнюю літаратурную традыцыю: «Мысль изреченная есть ложь», «О, если б без слова сказаться душой было можно!» Але калі дагэтуль гэта была праблема ў асноўным мастацкая, уласна літаратурная, то цяпер становіцца найперш праблемай сацыяльнай, быційнай. У літаратуры, асабліва ў прозе, распрацавана і цікавая традыцыя «замоўчванняў», апасродкаванага выяўлення пачуццяў герояў ва ўсёй іх стрыманасці, адчужанасці, ізаляванасці—праз падтэкст, «неабавязковыя» дыялогі, побытавыя рэчы і дэталі, пейзаж і г. д. Як празаік А. Глобус даволі плённа наследуе і распрацоўвае гэты вопыт.

Але ж паэзія—якасна іншая сфера. Асоба, яе духоўны вопыт, пачуцці, перажыванні—цэнтр паэтычнага сусвету, і калі яе няма, не дапамогуць ніякія мастацкія сродкі і прыёмы. Як выявіць сябе ў паэзіі, пазбягаючы лірычнай споведзі, прамога самавыяўлення? Як сказаць, «не гаворачы»?

## МОВАЙ ФАРБАЎ

Прафесійны мастак, А. Глобус найперш звяртаецца да жывапісу. Яго першы водгук на любы душэўны зрух, уражлівую падзею ці з'яву—намаляваць. Таму «Эпітафія каханню»—гэта не прачулыя ці балючыя словы, а чорна-белы малюнак, у якім, па задуме, павінна ўвасобіцца пачуццё: «На чорным небе звар'яцелым накрэслю крэйдай месяц белы». Не словам, а менавіта малюнкам ён імкнецца спыніць і занатаваць няспыннае і зменлівае—рух аблокаў, палёт ластаўкі: «Няспынна зменлівасць аблокаў—малюю белым на блакітным шоўку»; «Начыкрыжу цвіком ці фламастэрам у салоне начнога аўтобуса на блакітна-падрапаным пластыку, падпісаўшы—малюнак Глобуса». Несумненна, ён адчувае неадпаведнасць памкнення і ўвасаблення яго, адсюль і ноткі самаіроніі. Аднак шлях да паэзіі праз жывапіс, праз мастакоўскае бачанне і светаадчуванне можа быць і цікавы і плённы. Назіральнасць і вастрыня зроку жывапісца дапамагае заўважаць цікавыя дэталі, па-новаму высвечвае знаёмыя прадметы (вершы «Парк», «На станцыі Койданава» і інш.). Малюючы не так лініяй, абрысам, як колерам, паэт стварае ў пейзажных замалёўках гарманічную каляровую гаму, каларыт, адпаведны настрой. Так, у вершы «Холад» насычэннем і пераліваміі чырвона-чорна-жоўтых колераў паэт перадае адчуванне халоднага агню, у якім згарае асенняя лістота. Светла-журботны лірычны настрой у вершы «Вечар» таксама ствараецца фарбамі.

Мне даспадобы шарая гадзіна
І мацiцовыя туманы,
Калі санліва і гасцінна
Гараць вяргінямі парканы,
Калі за сінія фіранкі
Схавана хатняе цяпло,
А жоўта-белае святло
Чаканнем саграваe ганкі.

Прычым увесь каляровы спектр—ружавата-чырванаватыя агеньчыкі вяргінь, жоўта-белае святло праз сінія фіранкі — як бы сфакусіраваны ў адным «каляровым» эпітэце—«мацiцовыя туманы». Дарэчы, вельмі ёмістае старадаўняе беларускае слова, якое часта ўжываў Караткевіч,—маціца, мацiцовы... Сінонім «перламутравы» гучыць у параўнанні з ім неяк банальна і «галантэрэйна». Калі глядзіш на мацiцовую ракавіну, бачыш, як яна пераліваецца, нібы праз туман, ружавата-сінявата-жоўта-белымі адценнямі. А вось каляровы ўспамін маленства, якое засталося ў душы «зялёным днём у шатах сосен, расой чырвонай у калін... І фіялетавай галінай, і сіняй і халоднай слівай». Фарбы, становячыся сімваламі, перадаюць, дазваляючы адчуць асязальна-зрокава, рух часу, яго няўлоўныя штрыхі і змены ў вершах «Рух», «Змены».

І я крану чырвоны лоб каровы,
А можа, захад цёплы і барвовы,
А можа, чорны аксаміт чмяля,
А можа, колкі, востры дрот галля,
А можа, дух ледзь чутны, палыновы.

Адчуванне часу «на колер і на дотык», вядома, суб'ектыўнае, але тым і цікавае. Часам паэт і злоўжывае жывапісным бачаннем, перанасычае верш кідкімі фарбамі дзеля ўпрыгожання: «На пурпуровым аксаміце ў блакітнай вазе на сталетры кветкі пад зялёным лісцем хавалі пах у сінім сне». І,—калі ўжо здраджвае густ, то да канца,—увенчвае гэты нацюрморт найбанальным рамантычным штампам: «зорны холад адзіноты...»

## КАРЦІНА ЦІ МАСТАК?

У чым прычына таго, што многія вершы зборніка «Парк» так і застаюцца пейзажнымі замалёўкамі, эскізамі, нацюрмортамі, якія часам цешаць і дзівяць вока, але амаль нічога не гавораць душы? Ці не ў тым, што ў спасціжэнні свету мастак-жывапісец апярэджвае і засланяе паэта? Такое ўражанне, што тое, што ён бачыць і адчувае, ён ужо рэалізаваў як мастак, а як паэту яму застаецца толькі пераказваць змест карціны, адчуванні, апасродкаваныя ў колеры,—«неба злоўленае...». Але ж словамі не перакажаш карціну, як і верш—фарбамі—застаецца прысмак другаснасці, штучнасці, эмацыянальнай збедненасці.

Паэзію цікавіць не столькі карціна, колькі сам мастак, прытым не ўласна мастакоўскія яго якасці, а найперш чалавечыя. А што мы даведваемся са зборніка пра чалавека, лірычнага героя, пра яго духоўны свет? Што ён умее добра бачыць «натуру» і змешваць фарбы? Мы ўжо гаварылі, што аб'ектыўнасць погляду, апасродкаванасць і «прыхаванасць» пачуццяў, відаць, свядомая пазіцыя аўтара «Парку». «Мой свет—фотастудыя аналітычная, аб'ектывам гартаю раскадроўку абліччаў». Аднак, каб выявіць пачуцці, неабавязкова крычаць аб іх і біць сябе ў грудзі. Як бы глыбока ні былі схаваныя, але калі яны ёсць, то абавязкова выявяцца і ў фарбах, і ў лініях, і ў музыцы радка, і ва ўсіх прадметах і з'явах, пра якія піша паэт, укладваючы ў іх сваю душу. «Калі хочаш напісаць мост, стань мостам, і няхай па табе прагрукоча цягнік»,—раіла М. Цвятаева аднаму з пачынаючых паэтаў. А. Глобус пакуль што, як дакладна заўважыў у прадмове да паэтавай кнігі М. Стральцоў, «часам нібы баіцца даверыцца душэўнаму, біяграфічнаму вопыту і больш пакладаецца на паэтычны прыём, больш націскае на лінію, на прыкмету, на абрыс, на канструкцыю...». Варта прыслухацца і да вось гэтай парады майстра, выказанай у вершы «Засцярога»: «Калі душа маўчыць—не гаварыце лепш». Бо няшмат у зборніку «Парк» вершаў, дзе зліваюцца, утвараючы адзінае мастацкае цэлае, музыка і колер, святло і рух, думка і пачуццё. І словы А. Глобуса «Дык няхай душа мая гарыць, брату выплаўляючы палёгку» пакуль што застаюцца дэкларацыяй, добрым намерам—не бачна ў вершах, што там «человек сгорел», бо тэмпература душы ў іх, выкарыстоўваючы назву аднаго з вершаў паэта,—«нуль градусаў». Хіба можа ўсхваляваць рацыянальна-адцягненая, натужная спроба філасафічнасці ў вершы «Зоры»? «Не ведаем, // што будзе... // Што было, //знікае... // Мы будуем сабор, // дзе, можа, будзе // будучае жыць // між сцен мінулага, // пад купалам прасторы, // і разам з ім // між часу, на мяжы // узнікне зараз // і ўбачыць зоры, // чыё святло // так доўга // да Зямлі // ляціць». Або гэтыя, напрыклад, трохрадкоўі: «Некалі ў мяне // Пластмасавы чалавек // У шкатулцы жыў»; «Не памылюся, // Назваўшы запальнічку // Любімай кветкай». Калі паэт усумніўся ў каштоўнасці сваіх пачуццяў і эмоцый, перастаў даваць ім, то абясцэньваецца, становячыся дэкарацыяй, дызайнам, і знешні, аб'ектыўны свет. Больш таго, сама асоба чалавека таксама становіцца антуражам, нечым старонніім і штучным поруч з вітрынамі, манекенамі.

Вітаю сваё аблічча
У дранай джынсовай куртцы.
Яно папяросу курыць
І лязгае запальнічкай.

Адчужанасць рэчаў і з'яў ад чалавека, адчужэнне яго ад самога сябе і ад іншых у свеце штучных матэрыялаў і каштоўнасцей магло б стаць драматычнай і балючай нотай у лірыцы паэта. Але пакуль не становіцца, бо ён часцей за ўсё абмяжоўваецца канстатацыяй гэтага факта як аб'ектыўнай наканаванасці.

Я там, дзе крышаць неба самалёты,
Дзе цягнікі руйнуюць рэшткі цішы,
Дзе чалавек пакутліва-самотны
І дзе не можа быць ніякі іншы.

## «МНЕ ПАДАБАЕЦЦА: МІКРАРАЁН...»

Самотны чалавек у горадзе—між жалезабетонных гмахаў, у люстры вітрын, пад ліхтаром, у чаканні трамвая... Яго ўнутраны свет раскрываецца скупа, апасродкавана, стрымана—сама атмасфера горада да таго змушае. Аднак часам свае пачуцці і схільнасці ён выяўляе нечакана прама і катэгарычна:

Мне падабаецца: мікрараён—
Жалезны дух у канструктыўным целе,
Дзіцячы пляц і школьны стадыён...
Мне падабаюцца шурпатыя панелі.

...Мне па душы падмуркі ў катлаване,
Абмазаныя ў чорную смалу.
Мне да душы ісці па рыштаваннях

На самы найвышэйшы дах. Люблю
Убачыць на дарожным скрыжаванні
Рассыпаную з кузава зямлю.

Гэта, відаць, і азначае, як сказана ў анатацыі, што паэт «свядома адмаўляецца ад устойлівых паэтычных вобразаў і паэтызуе нязвыклыя прадметы». Аднак, імкнучыся да наватарства, ён упадае ў безнадзейны анахранізм: «жалезны дух у канструктыўным целе»... Руская паэзія, да прыкладу, дзіцячую хваробу захаплення канструктывізмам, жалезабетоннымі, блочнымі збудаваннямі, скразнякамі мікрараёнаў і катлаванамі новабудоўляў перажыла яшчэ на пачатку 60-х гадоў. У рэшце рэшт, падабаецца, дык падабаецца, адзін піша санеты пра аселіцы, росы і крыніцы, другі—пра падмуркі, рыштаванні, а ў выніку—адна і тая ж апісальнасць, толькі змяняецца яе атрыбутыка.

Так, у нашай паэзіі небагатая урбаністычная традыцыя, аднак жа ёсць «Места» М. Багдановіча, дзе горад паказаны як увасабленне культуры і духоўнасці, як асяродак гістарычнай памяці народа. Інакш навошта ён—горад?

У назве ж апісальна-апавядальнага верша пра мікрараён—«Сталіца»—мне чуецца хіба што горкая іронія. Няхай сапраўды наша сталіца становіцца зборам мікрараёнаў, аднак яшчэ жывуць рэшткі старога горада, цячэ пад зямлёю і ў нашай памяці Няміга, а падмуркам у катлаванах новабудоўляў становяцца стагоддзі нашай гісторыі, косці продкаў. Не адчуўшы гэтага, не заклаўшы ў падтэкст, у «фундамент», верша, хіба можна адкрыць і духоўна абжыць горад?

## «НА МЯЖЫ НАВУКІ І ПРЫРОДЫ»

А вось верш іншага плану, хоць, здаецца, у ім тая ж сучасна-урбаністычная атрыбутыка:

Ідуць каменныя гіганты
На эбанітавых руках,
Пенабетонныя атланты
Нясуць урбаністычны гмах.
Над нерухомасцямі блокаў,
Над пенапластавай гарой,
У паралонавых аблоках
Стракоча верталётны рой.



Гэтае шэсце, «шпацыр» уражвае не толькі сваёй гіганцкасцю, але і ўнутраным драматызмам. Нерухомы, але грозны рух каменных гігантаў, паміж якімі «мой цень, акрылены трымценнем, то падае, то зноў ідзе...». Паралонавыя аблокі—і верталётны рой... Прымхлівыя і нечаканыя сумяшчэнні, пераўтварэнні прыроднага і механічнага, арганічнага і штучнага—«паралонавыя аблокі», «дзюралевае неба», «кафельная чайка». Гэты паэтычны прыём, асабліва распаўсюджаны ў маладой рускай паэзіі (у Яроменкі, Паршчыкава), крытыкі назвалі метаметафарай.

Несумненна, А. Глобус знаёмы з гэтым вопытам рускай (і не толькі рускай) маладой паэзіі. Аднак не паўтарае механічна яе прыёмы, бо яго вобразы «на мяжы навукі і прыроды», цывілізацыі і прыроды, ствараe не толькі прыём, а менавіта светаадчуванне, якое сваім пачаткам мае міфалагічную веру продкаў у адзінства ўсяго жывога і нежывога свету, у яго адухоўленасць, у магчымасць пераўтварэнняў. На другім канцы гэтага ланцужка—навуковыя адкрыцці геннай інжынерыі, робататэхнікі і г. д., якія не толькі захапляюць, але і трывожаць рэальнай магчымасцю міфалагічных пераўтварэнняў. А недзе пасярэдзіне—паэзія з яе верай у таямніцу жывога, адухоўленага, заклапочанасцю ўсё большай механістычнасцю і штучнасцю жыцця, з яе трывогай, як бы ў азарце пераўтварэнняў не замяніць нечым штучным і «сапраўдную душу» (верш «Прагрэс»). І добра, што трывога гэта ў асноўным не дэкларуецца, а ўвасабляецца ў вобразахметамарфозах. Так, і стрыжы, апетыя паэзіяй як увасабленне вольнасці і палёту, у горадзе, «разгортваючы віражы над сметніцай і гаражамі», здаюцца штучнымі, «гумовакрылымі». З другога боку, цывілізацыя, тэхніка, наступаючы на прыроду, «эксперыментальнымі зменамі» парушае сам лад жывога жыцця, пераўтвараючы яго ў бязладдзе, хаос, прыўносячы непрадбачаныя і трагічныя «мутацыі».

Шчупакі плаўнікамі спілуюць чырвоныя сосны,
Мёд жывіцы ў цыстэрны збяруць меднавокія восы,
Цягнікі, як вужакі, цяжкія галовы падымуць,
Закіпіць небасхіл і зацягнецца вугальным дымам,
Страказа-верталёт праміне сваю цёплую зорку,
Прыгадае Зямля—час Адама ад яблыка горкі...

Менш удалыя ў зборніку вершы «ўласна» міфалагічныя, дзе паэт імкнецца ўзнавіць адзнакі непасрэдна-наіўнага светаадчування,—«Кветка», «Варона», «Свіслач-рэчка», «Бронік», «Казік»... Яны здаюцца данінай модзе, імітацыяй непасрэднасці, наіўнасці, язычніцкай раскаванасці. Прынамсі, прайграюць у параўнанні з пошукамі ў гэтым кірунку іншых маладых паэтаў, бо ім не стае, да прыкладу, нязмушанасці і ўсмешлівага артыстызму «міфалагічнасці» Л. Дранько-Майсюка, арганічнай непасрэднасці светаўспрыняцця В. Шніпа, стыхійнага язычніцкага адчування першаасноў быцця А. Сыса. Так, верш «Нацюрморт» А. Глобуса нагадвае «Гарышча» Л. Дранько-Майсюка. Яны падобныя не толькі тым, што там ідзе размова пра гарышча, але і самім мастацкім падыходам—па сутнасці, там і там «нацюрморт», рэестр розных старых, непатрэбных і цікавых рэчаў, якія хавае гарышча, у абодвух вершах імкненне перадаць «міфалагічную» значнасць і таемнасць гэтага схованшча часу, памяці, чалавечых жыццяў. Але калі ў Дранько-Майсюка ў «нацюрморце» выпадковых рэчаў убачана іх «невыпадковасць», перададзена адчуванне часу, дакладней, бясчасся, часу, якія марна сыходзіць у нябыт («Стары гадзіннік з-пад страхі худымі гірамі варушыць і калыхае павуту...»), то ў А. Глобуса, на маю думку, пры ўсёй трапнасці ўбачаных прадметаў і нават палёце «чартаўшчынкі» («Там ноччу ходзіць шэры чорт»), нацюрморт усё ж застаецца нацюрмортам.

## ПАРК І ШЛЯХ

Безумоўна, нельга патрабаваць ад аўтара з першай жа кнігі закончанай і цэласнай паэтычнай канцэпцыі свету, і ўсё ж нельга не заўважыць са шкадаваннем, што, не сцэментаваныя агульнай ідэяй, распадаюцца мазаікай асобныя цікавыя, смелыя вобразы і метафары, назіранні, думкі, замалёўкі. Часта яны не ўтвараюць адзінства нават у межах аднаго верша, ужо не кажучы пра цэласнасць кнігі.

Вось верш «Лірыка», дзе паэт імкнуўся адчуць і перадаць сваё разуменне паэзіі.

Лірыка—гэта касмічная станцыя,
Здатная ажыццявіць узнясенне,
Вылепленая з пялёсткаў акацыя,
Клямка, намацаная ў цёмных сенях,

Рытмамі створаная дэкарацыя
Для азарэння і ўваскрасення,
Дадзеныя на хвіліну вакацыі,
Ліпеньскі водар асфальту і сена...

...І гэтак далей—«формула, утвораная асалодаю, хлопчыкам выштукаваная лодачка...». Параўнанні, сярод якіх ёсць арыгінальныя і банальныя, арганічныя і штучныя... Але калі задумацца, прачытаўшы гэты верш, што ж такое лірыка, то ўзнікае ўражанне, што лірыка—гэта проста эфектныя, незвычайныя метафары і параўнанні. «Ліпеньскі водар асфальту і сена» прымушае згадаць вобразы паэзіі і прозы М. Стральцова, яго «Сена на асфальце». Увогуле такіх «стральцоўскіх» вобразаў-знакаў, напамінкаў шмат у А. Глобуса, напрыклад, часта сустракаецца «ядлоўцавы куст», часам у вершах прабіваецца характэрная, журботнасветлая інтанацыя паэзіі Стральцова. Традыцыя абавязвае, таму. не з мэтай дакору, хачу звярнуцца да аднаго верша майстра—таксама пра лірыку. І таксама, здавалася б, «выпадковыя», нечаканыя азначэнні-параўнанні паэзіі:

Але ж то і сіратлівы дом,
Нота, што адлучана ад спеву,
Плынь ракі, што сталася ільдом,
Контур голля на бязлістым дрэве...

Можа, паміж нотай і плынню ракі не больш агульнага, чым паміж касмічнай станцыяй і акацыяй? Але ў стральцоўскіх азначэннях ёсць агульнае—растворааая ў падтэксце балючая думка-адчуванне «неўвасобленасці» ў паэзію ўсяго багацця, цэласнасці жывога жыцця, яго непаўторных хвілін «з іх быццём даступна-недаступным». У адным выпадку—«жыццё, адчутае прыкметай», у другім, у А. Глобуса, проста прыкметы. Тое ж можна сказаць і пра верш «Квадры», дзе да мноства параўнанняў месяца ў розных яго квадрах, якія існуюць у паэзіі, аўтар дадае мноства сваіх,—«камень», «магніт астранома», «навагодняя цацка», «гузік салдацкі»... Вучэбнае практыкаванне для літінстытута, што з чым можна параўнаць. У паэтаў павінны быць вершаваныя практыкаванні, як у мастакоў—вучэбныя малюнкі, эскізы. Але ж нікому не прыходзіць у галаву экспанаваць іх на персанальнай выстаўцы. Чаму ж у паэтычным зборніку—можна? Упэўнена, пры больш строгім адборы аўтара і рэдактара, без паэтычных практыкаванняў, эскізаў, замалёвак, кніга толькі выйграла б.

У кнізе ёсць своеасаблівая цэласнасць, дакладней, сістэмнасць, рэгулярнасць. Нездарма яна названа «Парк». Вось алеі санетаў, трохрадкоўяў, пяцірадкоўяў, класічных ямбаў і харэяў... Кніга, пабудаваная на чаргаванні формаў і мастацкіх прыёмаў. Узбагачэнне формамі і прыёмамі—справа, вядома, добрая. Праўда, пры агульнай добрай мастацкай культуры амаль шакіруе няўвага паэта да рыфмаў. Рыфмуе ён нібы праз сілу, абы збыць, як казала адна чэхаўская гераіня, «без всякого удовольствия». Нейкую парадыйнасць надаюць вершам рыфмы «дзень—цень», «лісты—кусты», «ляціць—стаіць», «вісіць—сядзіць»... Можа, у гэтым выпадку лепей было б пісаць белым і вольным вершам?

Але асноўнае пажаданне аўтару—з «парку» мастацкіх вобразаў, форм і прыёмаў выйсці на шлях жыцця, унутраны, духоўны шлях, бо толькі адчуванне шляху, як адзначаў А. Блок, сведчыць пра тое, што паэт адбыўся.

Тамара ЧАБАН

*З рэдакцыйнай пошты*



## НЕ, НЕ ЦІКАВА...

**Неяк сустрэў суседскага хлапчука, які бадзяўся па вуліцы без справы. Спытаў:**

**— А што, практыка ў школе скончылася?**

**— Ды не,—адказаў ён,—увогуле ў нас не практыка, а вытворчая праца.**

**— І што вы робіце?**

**— Ды так, падмятаем, пераносім, фарбуем.**

**— І цікава?**

**— Не жартуйце, хіба гэта можа быць цікавым?..**

**Што ж такое вытворчая праца? Чаму Андрэй кажа, што яму нецікава?**

**У гарана даведваюся, што адным з карэнных пытанняў перабудовы школы з'яўляецца працэс злучэння навучання з вытворчай працай. Ужо два гады па ўсёй краіне ўведзена грамадска карысная вытворчая праца. Вытворчая праца трывала ўвайшла ў жыццё і школ Барысава. Наўздагад выбіраю школы №№ 2, 15 і 18.**

**У другой сярэдняй школе з дэталяў, якія пастаўляе завод АТЭ, вучні збіраюць магнітныя зашчапкі для мэблі. За імі завод замацаваў дваіх рабочых, якія правяраюць гатовую прадукцыю, вядуць яе ўлік. Так адбываецца на працягу года. Вучні 6—9-х класаў збіраюць зашчапкі на ўроках працы пад кіраўніцтвам выкладчыка. Норма на аднаго вучня летам—500—600 вырабаў у дзень, гэта для 8—9-х класаў, і 300—400—для шасці-, сямікласнікаў. За сто вырабаў зарабляюць 16 капеек. Грошы, зробленыя летам, размяркоўваюцца наступным чынам: палову вучні атрымліваюць як зарплату, на другую палову купляюць касцюмы для мастацкай самадзейнасці, радыёапаратуру. Сума для школы немалая—4—5 тысяч рублёў.**

**Паглядзім, што стаіць за гэтымі лічбамі. Алег Сайко, Саша Карнюшка, Сяргей Грышкевіч, Алёша Рассохаў з шаснаццаці дзён рабілі па пятнаццаць.**

**— Нецікава,—чую адказ,—увесь час адно і тое ж. Ды і расцэнкі. За дзень 60—70 капеек заробіш, і то не заўсёды. Пастаянна не хапае дэталяў. У мінулым годзе, напрыклад, васьмікласнікі зарабілі каля 10 рублёў, але атрымалі іх праз паўгода.**

**— А калі б у вас была магчымасць рабіць цэлы дзень, калі б вы маглі добра атрымаць?—пытаю.**

**— Ды на гэтым не заробіш, адбываеш, як кажуць, час. Было б толькі цікава. Былі б грошы, можна было б бацькам аддаць, з'ездзіць, напрыклад, у Мінск, схадзіць у тэатр, кіно, на экскурсію. А ў Барысаве...**

**Так, гэта хлопцы. А дзяўчаты? Адказваюць Святлана Вронская і Оля Астахава.**

**— Нам таксама не вельмі падабаецца. Трэці год робім адно і тое ж. Ведаем, што ў іншых школах занятак мяняюць. Пытаеце, а калі б больш плацілі? Мабыць, працавалі б, хочацца самім зарабляць грошы. А наогул, за такія грошы лепш вуліцу падмятаць...**

**А вось меркаванне арганізатара вытворчай працы выкладчыка Валерыя Леанідавіча Міхалкевіча.**

**— Праблем шмат. Завод можа, але не хоча арганізаваць цікавую працу. Спрабавалі мы, як кажуць, стукаліся, але... Дэталі пастаўляюць нясвоечасова, з-за гэтага няма**

дакладнай пастаяннай нормы. Гэта робіць дзяцей абыякавымі.

— Няўжо на працягу навучальнага года нельга прыдумаць што іншае? У школе ж ёсць станкі.

— А дзе ўзяць метал? А ўвогуле, настаўнік працы ў школе—гэта як хлапчук... Замест урокаў працы—падмятаць парк, вуліцы.

— Дык дзе ж выйсце?

— Не ведаю, ці ёсць яно сёння...

18-я сярэдняя школа. Базавае прадпрыемства тое ж, завод АТЭ. Тут робяць мэблевую пятлю вучні 7—8 класаў. Ад завода таксама замацавана два чалавекі. Яны кантралююць, а таксама выпраўляюць... брак, дапушчаны вучнямі. Яго шмат. Дзяўчынкі працуюць з малаткамі.

Гаворыць выкладчык Дзмітрый Парфір'евіч Радзенка:

— У лагеры працы і адпачынку дзеці нарыхтоўваюць сена, у школе рамантуюць сталы, крэслы, робяць тую ж мэблевую пятлю. За год на ўроках працы зарабляюць каля 20 рублёў кожны. Грошы застаюцца на школьныя патрэбы, гэта недзе каля трох тысяч. За летнюю практыку за 24 дні зарабляюць ад 8 да 24 рублёў. Грошы вучні атрымліваюць двойчы на год... Наогул, цяжка з вытворчай працай. Настаўнікі шукаюць работу дзецям. Пастаўкі нерытмічныя, але месячны план, 75 тысяч петляў, робім. За тысячу штук 6 рублёў.

Першае, пра што я падумаў, дык гэта тое, што вучні не баяцца, скажам так, цяжкай працы. Яны жадаюць працы цікавай. Але ў іх няма выбару. І ад таго, што мы, дарослыя, ім прапаноўваем, як арганізуем для іх вытворчы працэс, вядома, залежаць іх адносіны да жыцця наогул. Вельмі многае залежыць ад базавых прадпрыемстваў. Шкада, вельмі шкада, што кіраўнікі прадпрыемстваў сёння не думаюць аб тым, што ў школах у асноўным вучацца дзеці рабочых іх заводаў, што праз некаторы час яны прыйдуць на гэтыя прадпрыемствы. Але як яны падрыхтаваны?

Цяпер аб заробку. Яшчэ нядаўна мы нібы «аберагалі» дзяцей ад грошай. Сёння ж сцвярджаем, што яны павінны ведаць кошт заробленаму рублю. Тады што гэта за зарплата—3 рублі за паўгода? Я зразумеў, вытворчая праца ў гэтых дзвюх школах не дае ні выхаваўчага, ні эканамічнага эфекту. Простая, выпадковая, ручная праца не фарміруе ў вучняў умення і звычак, якія будуць патрэбны ім у дарослым жыцці. Не садзейнічае яна і ўсебаковаму развіццю вучняў, бо іх інтэлектуальныя і фізічныя сілы не накіраваны на тэхнічны прагрэс. Наадварот, нібы знарок усё робіцца, каб адбіць у вучняў цікаўнасць надалей працаваць. Лічу, што на ўроках вытворчай працы абавязкова павінна «працаваць» эканоміка. Трэба сёння ўсім нам думаць пра тое, што будзе неабходна заўтра. Трэба, каб школьнікі ведалі: колькі вырабаў зрабіць за пэўны час, якія нормы, колькі могуць зарабіць. І яшчэ, а што, калі ў вучняў складзецца ўражанне, што і дарослыя працуюць гэтак жа сама? Школьнікам, перакананы, трэба даручаць сур'ёзную справу, як гэта робяць у 15-й школе. Тут у лагеры працы і адпачынку, напрыклад, мінулым летам вучні працавалі на ўборцы шчаўя, частка была занята на крыштальным заводзе: школьнікі прыбіралі двор, насілі тару, рабілі на будоўлі. Не спяшайцеся казаць: дык гэта ж, як і ў папярэдніх! Тут я ўбачыў, як арганізавана сапраўдная вытворчая праца. У майстэрні па-сапраўднаму кіпела работа. На так званым табельным, г. зн. тыповым, школьным абсталяванні, якое лічыцца дэманстрацыйным і на якім у іншых школах ніхто не працуе, тут працавалі сямікласнікі. Тут брыгадная форма арганізацыі працы, тут калектыў з шасці чалавек, які мае адну канчатковую мэту. Усе працуюць на адзіны нарад. Але кожны ў залежнасці ад аперацыі, якую выконвае, мае нарміраванае заданне. Ёсць нормы выпрацоўкі, ёсць і расцэнкі. Яны такія ж, як і для рамонтна-механічнага цэха крыштальнага завода, які раней вырабляў гэтыя дэталі. Асвоены выпуск пяці вырабаў, прычым толькі на адным з іх выкарыстоўваюцца слясарныя ціскі, астатнія ж робяць на свідравальных, фрэзерных, такарных станках, у тым ліку і па дрэву. Тут выкарыстоўваюцца розныя матэрыялы: метал, вініпласт, поліэтылен, дрэва. Працуюць па трэцяму разраду. На працягу года вучні займаюцца толькі карыснай працай. У школе я бачыў маленькі цэх, бачыў добра наладжаны канвеер, калі дэталь ад аднаго вучня пераходзіла да другога і г. д.

М. У. Сцепанкоў гаворыць:

— У нас у школе хапае станкоў, ёсць неабходная тэхналагічная аснастка, тэхналагічны працэс у нас распрацаваны з улікам узроставых асаблівасцей вучняў і абсталявання, праца розная, добрая вытворчая дысцыпліна, улічаны інтарэсы кожнага. У нас добрая сувязь з заводам. Нам дапамагаюць вопытныя майстры.

— Ну а па колькі зарабляюць?—пытаю.

— Па 150 і больш. Дарэчы, атрымліваюць усё да капейкі ў дні зарплаты на заводзе.

Размаўляю з Валодзем Новікам, Сяргеем Арцёмавым, Ігарам Кунцэвічам, Андрэем Лютаровічам, Юрам Гантманам, Дзімам Галузам. Пытаю, а калі б, скажам, за ўборку вуліцы плацілі больш, ці пайшлі б?

— Не,—у адзін голас,—на станках працаваць цікава, тэхніка ж.

— А як распараджаецеся грашыма?

— Бацькам аддаём. Яны ведаюць, куды трэба іх патраціць.

Цікаўлюся, а чаму толькі шэсць хлопчыкаў, а не ўвесь клас?

— Пакуль яшчэ ўсё застаецца па-старому,—прызнаецца выкладчык.—Вучні разупэўніліся, што сёння ўжо можна за сапраўдную работу добра зарабляць. Прыйшлі тыя, хто паверыў, але ўпэўнены, іх прыклад хутка зацікавіць астатніх.

Падумалася, а ці не самі мы вінаваты, што адвучылі дзяцей ад сапраўднай працы? А гарана, прадпрыемствы? Ці ўсё магчымае зроблена? Ды і ці толькі трэба працаваць у школах і на прадпрыемствах? Падумалася: а чаму б, калі няма магчымасці, не даць работу вучням у школах, не стварыць дзіцячыя кааператывы хаця б на лета? У горадзе шмат людзей, якім патрэбна штодзённая дапамога. І тут цікавасць не толькі матэрыяльная, але і чалавечая.

Я паспрабаваў узняць толькі некалькі праблем, звязаных са школьнай рэформай. Хацелася б пачуць: а што наконт гэтага думаюць настаўнікі, бацькі, рабочыя, кіраўнікі прадпрыемстваў?

**Давід ШУЛЬМАН**, інжынер

# *Нашы аўтары*

**ЖЫГУНОЎ Алесь** нарадзіўся ў 1954 г. у вёсцы Тройца Шклоўскага раёна. Скончыў філфак БДУ імя У. І. Леніна. Працаваў настаўнікам. Цяпер—у рэдакцыі глыбоцкай раённай газеты.

**БАРАДУЛІН Рыгор** нарадзіўся ў 1935 г. на Ушаччыне. Скончыў філфак БДУ імя У. І. Леніна. Працаваў у рэдакцыях рэспубліканскіх газет і часопісаў. Цяпер—у выдавецтве «Мастацкая літаратура».
Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы і прэміі Ленінскага камсамола Беларусі.
Аўтар кніг паэзіі «Маладзік над стэпам», «Рунець, красавань, налівацца», «Нагбом», «Неруш», «Лінія перамены дат», «Вяртанне ў першы снег», «Адам і Ева», «Свята пчалы», «Абсяг», «Вечалле», «Амплітуда смеласці», «Маўчанне перуна».

**БЕЛЬСКІ Уладзімір** нарадзіўся ў 1955 г. у вёсцы Слабодка Калінкавіцкага раёна. Скончыў журфак БДУ імя У. І. Леніна. Служыў у Савецкай Арміі. Працаваў у раённай газеце і ў рэдакцыі газеты «Советская Белоруссия», у Прэзідыуме Вярхоўнага Савета БССР. Цяпер—галоўны рэдактар газеты «Чырвоная змена».
У «Маладосці» друкуецца ўпершыню.

**РУБІН Іван** нарадзіўся ў 1954 г. у вёсцы Ячонка на Стаўбцоўшчыне. Скончыў філфак БДУ імя У. І. Леніна. Працаваў на Беларускім радыё, у школе, у шматтыражнай газеце, у рэдакцыі «Мінскай праўды».
Аўтар кнігі паэзіі «Над вечнасцю гнязда».

**ПРАНЧАК Леанід** нарадзіўся ў 1958 г. у вёсцы Пранчакі Ляхавіцкага раёна. Скончыў факультэт журналістыкі БДУ імя У. І. Леніна. Працаваў на Магілёўскім абласным радыё, у апараце ЦК ЛКСМБ.
Аўтар кнігі «Першапутак».

**ДЗЮБА Уладзімір** нарадзіўся ў 1946 г. у Палтаве. Скончыў філфак БДУ імя У. І. Леніна. Служыў у Савецкай Арміі. Працаваў настаўнікам, у раённай і абласной газетах, у рэспубліканскай газеце «На страже Октября». Цяпер—старшы рэдактар Беларускага радыё. Аўтар кніг паэзіі «Вуліцы без назваў», «Кругазварот», «Карані бліскавіцы».

**АРЛОЎ Уладзімір** нарадзіўся ў 1953 г. у Полацку. Скончыў гістарычны факультэт БДУ імя У. І. Леніна. Працаваў настаўнікам, у рэдакцыі наваполацкай газеты «Химик», цяпер—у выдавецтве «Мастацкая літаратура».
Аўтар зборнікаў прозы «Добры дзень, мая шыпшына», «Дзень, калі ўпала страла», лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі.

**ТКАЧОЎ Павел** нарадзіўся ў 1930 г. у вёсцы Скадаінаўка Шахцінскага раёна Растоўскай вобласці. Скончыў аддзяленне журналістыкі філалагічнага факультэта БДУ імя У. І. Леніна. Працаваў на радыё, у рэдакцыях газет «Зорька», «Піянер Беларусі», часопіса «Бярозка». Зараз працуе ў БДУ імя У. І. Леніна. Доктар філалагічных навук. Аўтар шматлікіх кніг для дзяцей і навуковых манаграфій.

**«МОЛОДОСТЬ» № 4 (1—176), 1989 г.**
**Ежемесячный литературно-художественный**
**и общественно-политический иллюстрированный журнал**
(на белорусском языке)

Мастацкі рэдактар Віктар Казлоў. Тэхнічны рэдактар Яніна Важнік.
Карэктары Валянціна Башак, Мая Вінаградава.

Рукапісы аб'ёмам да аркуша не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: 220041, Мінск 41, Ленінскі праспект, 79, выдавецтва ЦК КПБ. Тэлефоны: 31-85-43—галоўны рэдактар і намеснік галоўнага рэдактара, 32-82-29—сакратарыят, аддзелы паэзіі, прозы, крытыкі, 31-76-14—аддзелы публіцыстыкі і мастацкага афармлення, 39-87-70—фотакарэспандэнт.

Здадзена ў набор 20.02.89. Падпісана да друку 23.03.89. АТ 06746. Фармат 70×90¹/₁₆. Друк высокі. Умоўн. фарбаадб. 14,77. Умоўн. друк. арк. 12,87. Ул.-выд. арк. 15,57. Тыраж 11208 экз. Зак. 84.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
220041, Мінск, Ленінскі пр., 79.



## У ДРУГІМ ПАЎГОДДЗІ ЧАСОПІС МЯРКУЕ НАДРУКАВАЦЬ:

аповесць Міколы Аўрамчыка «Палон»,

раман Уладзіміра Дамашэвіча «Дарога да небакраю»,

запіскі Адама Мальдзіса «З жыцця Уладзіміра Караткевіча»,

працяг гістарычнага нарыса Міколы Ермаловіча «Старажытная Беларусь», нарыс Міколы Сташкевіча «Першы прэзідэнт» (пра Усевалада Ігнатоўскага).

## ВЫЙШЛІ, У БЛІЖЭЙШЫ ЧАС ВЫХОДЗЯЦЬ НОВЫЯ КНІГІ «БІБЛІЯТЭКІ «МАЛАДОСЦІ»:

«Ноч пацалункаў незалежнасці» Алеся Наварыча,

«Гісторыя хваробы» Андрэя Федарэнкі,

«Сталін цэліцца...» Алеся Лукашука,

зборнік прыгод і фантастыкі.